16+

# МАЛАДОСЦЬ

падпісныя індэксы
індывідуальны — 74957
ведамасны — 749572
льготны — 00731
льготны
для настаўнікаў — 00592

ISSN 0131 2308
10/2017

10

Маладосць 10/2017 Таму, хто думае

у нумары:

**Сяргей Слюсарэнка пра фантастычныя светы**
і Гары Гарысана на ўласнай кухні

**Лоеўскі прарыў 6 ліпеня 1651 года**
вачыма беларускага гісторыка і галандскага мастака

**Быў час, быў век, была загадка**
Гісторыя рассакрэчвання лысагорскага «Сказа...»

**Легенды па адрасе К. Маркса, 40**
Ад лепшай фотастудыі да лепшага рэстарана

ISSN 0131-2308
9 770131 230003 17010



Кадр з мастацкага фільма «Дзікае паляванне караля Стаха», знятага паводле аповесці Уладзіміра Караткевіча, надрукаванай у №№ 9—12 часопіса «Маладосць» за 1964 год.

←

**«Ідэя і рэалізацыя»**

Ідэя: Надзея Савельева

Рэалізацыя: Яніна Ваховіч

У «ролях»:
Ігнась Берман-Гацэвіч — Дзмітрый Шулюк,

Грынь Дубатоўк — Глеб Ганчароў,

Надзея Яноўская — Яна Мусвідас.

## За рамай люстэрка

Мастацтва. Гэта люстэрка, у якім мы бачым сябе. Адбіткі рэальнасці — лёгкае скажэнне рэальнасці. Правая рука робіцца левай, а левая — правай. Акрамя таго, сонечныя блікі і плямы на гладкім шкле. Амаль незаўважна адлюстраванне прайграе ў хуткасці, у часе дакладным законам сапраўднасці. Але ў гэтай недакладнасці і нараджаецца мастацтва.

Мастацтва. Мы бачым аўтара. Мы слухаем аўтара. Гэта ён паказвае нам люстэрка. Ён выбірае вуглы, ракурсы. Ён вышуквае і вывучае сонечныя прамяні, каб атрымаць свае блікі. Ён свядома ці падсвядома пакідае гэтыя плямы, якія кідаюцца ў вочы ці застаюцца па-за межамі нашага ўспрымання, ператварыўшыся ў абавязковы інгрэдыент псеўдарэалістычнай салаты, бездакорную фальшывую ноту геніяльна штучнай сімфоніі. Так у штодзённай працы хранічнага творцы нараджаецца мастацтва.

Мастацтва. Люстэрка. Аўтар. І ўсё. Ці насамрэч мы памыляемся? На якой фабрыцы зрабілі гэта люстэрка? Як яно выглядае з іншага боку? Якія дэманы ці анёлы прывялі аўтара ў гэта месца, далі яму ў рукі пэндзаль, фотаапарат, словы? Усё ж такі дзе і як нараджаецца мастацтва?

МАЛАДОСЦЬ 10

16+

Штомесячны літаратурна-мастацкі
і грамадска-палітычны ілюстраваны часопіс

**(767) КАСТРЫЧНІК, 2017**

**Выдаецца з 1953 года**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ**

Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013,
Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005,
Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Тэл.: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.
maladost@zviazda.by

**http://zviazda.by/be/edition/maladosc**
**Група VK: https://vk.com/club75787481**

**ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ**

*00592 — індывідуальны льготны для настаўнікаў*

*74957 — індывідуальны*

*749572 — ведамасны*

*00731 — ведамасны льготны*
*для ўстаноў Міністэрства культуры*
*і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 16 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец:

рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»

Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: *Н.І. САВЕЛЬЕВА*
Дызайн вокладкі: *Н.І. САВЕЛЬЕВА*
Стылістычны рэдактар: *Г.І. ВЕРАБЕЙ*

Падпісана да друку 18.10.2017. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера лёгкамелаваная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 15,12.
Ул.-выд. арк.16,40. Тыраж 1321 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП №02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск,
Рэспубліка Беларусь

Змест

## КАЛУМНІСТЫКА



## ПАЭЗІЯ



## ПРОЗА



На падставе Артыкула 1
Закона Рэспублікі Беларусь
«Аб асновах дзяржаўнай моладзевай палітыкі»
ад 7 снежня 2009 г. № 65-З,
згодна з якім маладымі грамадзянамі
з'яўляюцца асобы ва ўзросце ад 14 да 31 года,
а таксама з мэтай падтрымкі адоранай
моладзі, надання творчага імпульсу і
стымулявання прафесійнага патэнцыялу
для аўтараў раздзелаў «Паэзія» і «Проза»
часопіса «Маладосць», пачынаючы
з № 10 2017 года, ўводзіцца ўзроставы цэнз
з верхняй мяжой 35 гадоў.

## ПЕРАКЛАДЫ



## КРЫТЫКА



## ПУБЛІЦЫСТЫКА



## ПРАЕКТ «ВАРШТАТ» *Да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання*



## З БОГАМ



**Анхела Эспіноса Руіз**

# Пытанні

Загадзя прабачаюся, бо калонка будзе крыху незвычайная, але даволі даўно хачу нешта ўдакладніць у вас, дарагія чытачы. Магчыма, хтосьці з вас ведае, дзе раздаюць сцэнары са стандартнымі пытаннямі і адказамі па абавязковых пунктах чалавечага жыцця. Як гэта, вы не разумееце, пра што я пішу? Няма сцэнара? Ды няўжо!

Давайце пачнём спачатку. Што вы пра мяне ведаеце? А што вас цікавіць? Я нарадзілася ў зімовы дзень, у горадзе ля мора, дзе зімы не існуе. Нарадзілася дзіўным чалавечкам з сумнай песняй у душы, навучылася чытаць вершы на трэцім годзе жыцця, пісаць пачала на шостым. Да падлеткавага ўзросту чакала, калі прылятуць за мной з маёй планеты. Не пыляцеў нікто. Граю на піяніна, спяваю ў караоке. Люблю ўлетку глядзець на знічкі. Я нязграбная дзяўчына і падаю, не зусім як зорка. Не веру ў Бога, але я маральна прынцыповая. Люблю горкі шакалад, гарбату без цукру, ваду з цытрынай, шпацыры па пляжы, падарожжы і замежныя мовы. Я магістр беларускай філалогіі (хаця самой цяжкавата верыцца) і нядаўна паступіла ў літаратуразнаўчую аспірантуру, бо люблю кнігі трохі мацней, чым людзей. Сваіх сяброў затое люблю бязмерна.

> Да падлеткавага ўзросту чакала, калі прылятуць за мной з маёй планеты. Не прыляцеў ніхто. Граю на піяніна, спяваю ў караоке. Люблю ўлетку глядзець на знічкі. Я нязграбная дзяўчына і падаю, не зусім як зорка

Але гэты аповед не па пытаннях, якія ўваходзяць у сцэнар. Паводле сцэнара, мне 24 гады, ніколі не была ў шлюбе і нядаўна кінула ў меру перспектыўнага жаніха, які мяне нават не біў. Вось і дура. Я нарадзілася ў краіне, дзе пануе... Не скажу, што талерантнасць, хаця і гэтага хапае (Іспанія ж гэта зусім Захад, далей акіян пачынаецца!). Дакладней будзе, калі напішу слова «абыякавасць». Людзям усё адно, як хто жыве, калі і чаму. Асабістыя пытанні, адказы на якія нас не абыходзяць, лічацца не вельмі разумнымі. Асабліва тады, калі чалавек не можа ведаць адказу, бо ён залежыць не толькі ад яго самога. Напрыклад: «А калі ты знойдзеш хлопца/дзяўчыну?» Ну, гэта не мне вырашаць, праўда? Хлопцаў не шукаюць. Ці шукаюць? Прабачце, я буду далей пісаць зыходзячы з перспектывы гетэрасексуальнай жанчыны, бо я яна і ёсць. Калі ў мяне пачалося дадатковае беларускае жыццё, акрамя сваіх папярэдніх, я ўвайшла ў кантакт са спісам стандартных пытанняў, якія моцна хвалююць некаторых маіх сяброўак (і напэўна, нямала чытачак). Яны прыкладна наступныя (для жанчыны каля 25 гадоў; выбірайце ў кожным пункце найлепш падыходзячы варыянт):

1. А калі хлопца знойдзеш? / А хлопец ёсць? / А твой хлопец дзе? / Ты што — моцная, незалежная жанчына з трыма катамі? Ха-ха!
2. А, напэўна, ужо замужам? / Калі вяселле? / Чаму хлопец замуж не кліча?
3. Колькі ў цябе дзяцей? / Калі свае дзетачкі будуць? / Чаму яшчэ няма дзяцей? / Калі другое (трэцяе, наступнае) дзіця? / А дзе муж? Як будзе расці тваё дзіця без бацькі?

4. А чаму такая тоўстая? / Ты хворая? Нешта вельмі худая. / Макіяж не носіш? / Чаму так шмат макіяжу, ты была б прыгажэйшая *au naturel*. / ...

5. Вышэйшая адукацыя якая? / А працуеш? / Яшчэ працуеш? / Плануеш працаваць пасля нараджэння дзяцей? / Не адчуваеш, што ты дрэнная маці, калі працуеш, а пакідаеш дзяцей дома? / Не пачуваеш сябе вінаватай, што зусім не працуеш, а лянуешся дома, а муж паўмёртвы?

Іх яшчэ болей, але, шчыра кажучы, мне стала кепска ад таго, што такія словы выходзяць з-пад майго пяра (з-пад маёй клавіятуры, праўда), і не хачу пісаць больш. Вы і так разумееце сутнасць, спадзяюся.

Цікава яшчэ тое, што я некалькі гадоў была, так бы мовіць, па-за «законам». Я замежніца, я з Захаду, я яшчэ маладая і «адумаюся». Адзінае пытанне, якое справакавала скандал вакол мяне, — пытанне наконт дзяцей. Колькі іх планую і калі. Справа ў тым, што я выбрала шлях, адрозны ад мацярынства. Я заўжды ведала, што не жадаю мець сваіх дзяцей, і што стаць маці была б вельмі дрэнная думка ў маім выпадку (калі-небудзь магу распавесці, чаму). А ведаеце, гэты варыянт адказу не ўваходзіць, відаць, у сцэнар. І людзям вельмі непрыемна атрымаць не той адказ, які яны чакаюць ад чалавека. Сама згубіла сяброў (ну, знаёмых, але ўсё ж) праз такое прызнанне. Не падумайце, я не асуджаю тых, хто выдаліў бяздзетную вядзьмарку (мяне) у сацсетках. Я цікаўлюся чалавечай псіхалогіяй і разумею, што людзі любяць пацвярджэнне сваіх жыццёвых рашэнняў. З-за таго, што варыянт «не мець дзяцей» не разглядаецца, некаторыя не думаюць пра тое, трэба ім стаць бацькамі ці не (мне здаецца, варта было б падумаць над гэтым, бо такі выбар змяняе тваё жыццё і стварае новае для чалавека, які сюды ўвогуле не прасіўся, але гэта іншая тэма для іншай калонкі). Дык таму ім і непрыемна, калі даведваюцца, што ўвогуле магчыма выбраць іншы шлях. Для некаторых адназначна горшы, а для іншых нашмат лепшы. Але адрозны ў любым выпадку.

Тут, скажу шчыра, мяне не прынялі занадта ўсур'ёз. «Маладая, адумаецца». А я засталася такой, як была, і не разумею да сёння, чаму малады чалавек (асабліва, калі дарослы) не можа ведаць, што хоча, і прымаць правільныя рашэнні.

> Я нарадзілася ў краіне, дзе пануе... Не скажу, што талерантнасць, хаця і гэтага хапае (Іспанія ж гэта зусім Захад, далей акіян пачынаецца!). Дакладней будзе, калі напішу слова «абыякавасць»

Яшчэ адно рашэнне, прынятае мной, — кінула хлопца, з якім сустракалася паўтара года. А кінула з важкіх прычын. Не буду пісаць дрэннае ні пра яго, ні (не хапала яшчэ!) пра сябе, але было вельмі ясна, што гэта не мой чалавек. І нават не чалавек, з якім я магу жыць спакойна і шчасліва, будучы сабою. Рашэнне было адназначна правільнае, або, прынамсі, мне так падалося. Здзівіла рэакцыя польскіх і беларускіх сяброў. Канешне, была патрэбна падтрымка, якая мне дапамагла б жыць далей і захапляцца новай свабодай, але... Першы раз у жыцці мне намякалі ў твар, што я старая! Дакладная цытата: «Не хвалюйся, хай табе ўжо і дваццаць чатыры гады, можа, ты знойдзеш яшчэ чалавека і не застанешся адна назаўсёды». Мой адказ? Па-першае, мне не «ўжо дваццаць чатыры гады», а «яшчэ дваццаць чатыры гады». Розніца істотная! Па-другое, калі захачу, то знайду! Так шмат людзей на свеце, а я такая свая. А па-трэцяе... Сяброўка, а што калі не знайду? Будзе вялікі выбух у маёй хаце, і я памру? Не, праўда? Чытачы, здагадаецеся, што будзе?

Я дзіўнаваты чалавечак са светла-сумнай песняй у душы. Люблю чытаць у самоце з кубкам гарачай гарбаты ўзімку і глядзець на знічкі ўлетку. Я поўная энергіі тады, калі пішу свае радкі і хаджу па беразе мора. Люблю горкі шакалад, марозіва і кнігі мацней, чым большасць людзей. Спяваю ў караоке без сораму, граю на піяніна лепш за ўсё, калі мне вельмі радасна або вельмі цяжка. П'ю халодную ваду з цытрынай зранку і кінула алкаголь цалкам некалькі месяцаў таму. Калі буду адна, чытайце «без хлопца», мае сябры нікуды не знікнуць. Іх няшмат, але я люблю іх да смерці і назад. Будзе мой універ, мая літаратура і чужая, знічкі будуць падаць з неба кожнае лета, і гарбата будзе аднолькава гарачая, калі звару яе сама для сябе. Нічога не здарыцца, і я буду шчаслівая. Але дзякуй за хваляванне. Я гэта цаню.



**Канстанцін Касяк**

# VKL3D: людзі і руіны

У школьныя гады мяне вельмі забаўляла, калі на ўроках гісторыі нам казалі пра Беларусь як пра «краіну замкаў». Краіна была — я ў ёй жыў, быў яе грамадзянінам, хай сабе і няпоўнагадовым, а вось замкі дзе?

У Мірскі ездзілі класе ў першым, ён тады быў не такі модны, як цяпер. Потым у Нясвіжскі — той тады яшчэ наогул або быў санаторыем, або рыхтаваўся да рэстаўрацыі — шчыра кажучы, слаба памятаю. Дакладна адклалася ў памяці адно: унутр будынкаў не пускалі. Толькі калі пагуляць па тэрыторыі, каб паслухаць экскурсавода — яе страшныя апавяданні. Але ў Дзеда Мароза я ўжо тады не верыў, то чаму мне трэба было верыць ва ўсе гэтыя страшылкі? Кожнае лета прыкладна такое ж распавядалі старэйшыя ў летніку ля вогнішча. Мяне больш цікавілі замкі, якіх не было…

Потым я вырас, пачаў цікавіцца гісторыяй, паступіў на гістарычны факультэт. Разам з вывучэннем айчыннай і замежнай гісторыі — мая спецыяльнасць — прыйшло разуменне таго, што ў нас вельмі няпростая і вельмі закручаная мінуўшчына. Канешне ж, не самая драматычная ў свеце, як часам яе спрабуюць выставіць некаторыя, але і не самая простая. Я ўвесь час здзіўляюся, чаму Галівуд там, а не тут? Гатовыя сцэнары літаральна пад нагамі валяюцца. Бяры — пішы — здымай. Можна нават нічога не прыдумляць, і так нармальна пойдзе. Прычым і з жанрамі праблем няма: баевікі, фэнтэзі, жахліўцы, трылеры, дэтэктывы. На любы густ!

Але ж пакручастая мінуўшчына патрабуе і ахвяр. За ўсё, як вядома, трэба плаціць. У тым ліку і за драматызм. Шматлікія нашы замкі ды палацы, а таксама іншыя старасвецкія будынкі не перажылі ўсіх тых катаклізмаў, якія не раз прайшліся па нашай зямлі. Да пачатку XX стагоддзя, калі пачалося беларускае Адраджэнне, яны дайшлі ў выглядзе руін. Каб пераканацца ў тым, дастаткова пагартаць хаця б «Кароткую гісторыю Беларусі» Вацлава Ластоўскага, што пабачыла свет у легендарнай віленскай друкарні Марціна Кухты ў 1910 годзе. Значны даробак унеслі таксама дзве сусветныя вайны і рэвалюцыя.

Памятаю, як на першым уроку інфарматыкі настаўніца накрэсліла на дошцы фразу: «Хто валодае інфармацыяй — той валодае светам». Далей ішоў расповед пра тое, што мы пакрысе ўваходзім у эпоху постіндустрыяльнага грамадства, дзе асноўная каштоўнасць — гэта інфармацыя. То бок, камп'ютарныя тэхналогіі. Выглядала гэта тады, як сапраўдная фантастыка.

Па вялікім рахунку, зараз ужо няма сэнсу высвятляць, як так сталася, што нашы замкі ды палацы апынуліся ў руінах. Бо спрэчкі на гістарычныя тэмы ні да чаго, як правіла, не прыводзяць. Лепш зрабіць нешта важнае пры дапамозе сучасных тэхналогій, якія дазваляюць, напрыклад, аднаўляць замкі.

Гэтым і заняўся мой даўні знаёмы Ахрэм Белабровік прыкладна пяць гадоў таму, калі ў адзіночку распачаў культурна-асветніцкі і навукова-папулярны арт-праект «VKL3D.com». Асноўная яго мэта — аднавіць знешні выгляд


Гальшанскі замак.

значных гістарычных мясцін, каб можна было пабачыць на ўласныя вочы, як выглядала наша Радзіма стагоддзі таму. Ахрэм мяркуе, што «адзін вобраз лепш за тысячы слоў распавядзе і здолее давесці атмасферу магутнай краіны замкаў і палацаў». Сваё прызванне ён бачыць у тым, каб «адрадзіць веліч і дух той эпохі праз яе архітэктуру». Прасцей кажучы, каб мы наглядна ўяўлялі тое, чым нам варта ганарыцца.

Першым быў «рэканструяваны» Крэўскі замак, вядомы любому школьніку найперш як месца смерці Вялікага літоўскага князя Кейстута і падпісання знакамітай Крэўскай уніі. Падчас Першай сусветнай вайны замак трапіў пад моцны абстрэл, паколькі тут знаходзіліся нямецкія пазіцыі. Гэта яго «дабіла»…

Мне асабіста даводзілася бачыць тое, што засталося ад замка, але, па праўдзе кажучы, ніякіх станоўчых эмоцый не выклікала — сцены, трава, дошкі. Цяжка ўявіць, што некалі тут было жыццё. Але дзякуючы праекту VKL3D можна цяпер без праблем убачыць 360-градусную панараму замка і агледзець яго з усіх бакоў.

Невясёлыя эмоцыі выклікаў у мяне і Гальшанскі замак, калі я ўбачыў яго ўпершыню. Захаваўся ён, безумоўна, значна лепш, чым Крэўскі, але ўсё адно гэта ўжо руіны. Замак у Гальшанах быў другім ў планах Ахрэма па 3D-рэканструкцыі. З прычыны выкарыстання больш дасканалых тэхналогій ён атрымаўся нашмат лепшым за Крэўскі. Тут была выпрабавана магчымасць большага «эфекту прысутнасці» за кошт аб'ёмнага стэрэапрагляду, які стаў магчымым з дапамогай тэхналогіі SAMSUNG Gear VR.

Крэўскі замак.



«Сцэны з замкамі адбудоўваюцца ў некалькіх трохмерных праграмах і пралічваюцца на трох камп'ютарах. Сёння разам з засваеннем тэхналогій віртуальнай рэальнасці шмат што прыходзіцца вывучаць дадаткова, у некаторых выпадках — нават дыяметральна супрацьлеглае папярэднім ведам і навыкам. А з-за таго, што тэхналогія дастаткова новая, яна мае даволі мала інструкцый і навучальных матэрыялаў — даводзіцца перыядычна вучыцца метадам спроб і памылак», — кажа Ахрэм пра сваю працу.

Дзеля ажыццяўлення гэтага праекта ён нават кінуў ранейшую працу ў IT-індустрыі, каб цалкам прысвяціць сябе аднаўленню нашай мінуўшчыны. Хай сабе і ў лічбе, але нашай спадчыне, дзякуючы дбанням Ахрэма, даецца другое, гэтым разам ужо вечнае жыццё. Ніхто яе не здолее ўжо зваяваць або разбурыць.

«Шмат часу пайшло на пошук спецыялістаў па гісторыі і архітэктуры, гатовых таксама бескарысліва ахвяраваць сваім часам, апрацоўку інфармацыі, падбор кампанентаў рабочых станцый ды прыцірку праграмнага забеспячэння. У 2014 годзе пабачыў свет Крэўскі замак, а цяпер нарэшце скончана карпатлівая праца над Гальшанскім», — гаворыць Ахрэм пра складанасці, з якімі сутыкнуўся падчас працы.

Вынікі працы Ахрэма Белабровіка можна пабачыць на адмысловай выставе «Апыніцеся ў сэрцы гісторыі», якая пачала працу 29 жніўня ў Нацыянальным гістарычным музеі. Акуляры віртуальнай рэальнасці Samsung Gear VR даюць мажлівасць наведнікам убачыць усё былое хараство двух амаль цалкам разбураных замкаў. Прычым так, што рэальна дух захоплівае. А найбольш зацікаўленыя і неабыякавыя могуць яшчэ і далучыцца да каманды Ахрэма праз аднайменны сайт або скантактаваўшыся з аўтарам праз паблікі праекта ў сацыяльных сетках «УКантакце» і Facebook.



Ігар Палынскі

## са школы ж усё пачынаецца?..

**ёсць жа людзі, якія свой школьны час не згадваюць амаль. для мяне загадка, як так. нельга ж проста выкінуць з памяці месца, куды столькі год кіраваўся штодня. каб атрымаць крыху ведаў, ці вымушана правесці час, ці патусавацца з сябрамі — у кожнага школьніка свой настрой. успаміны застаюцца або цёплымі, або не дужа прыемнымі, але — застаюцца. каб проста сказаць: было і было — не, не паверу.**

...зайшоў я ў школу днямі. родную першую полацкую гімназію, што носіць цяпер імя Францыска Скарыны. зайшоў, а там нешта не так. старыя, але трывалыя драўляныя парты замянілі на новенькія бліскучыя сталы. усе калідоры — у прыгожай тынкоўцы, дзверы новыя, вокны пластыкавыя... усё блішчыць і радуе вока. але неяк халодна. таму, відаць, што адчуваеш: гэта ўсё ўжо не тваё.

і ў калідорах сустракаеш усё менней знаёмых асоб. добрай палловы настаўніцкага саставу, тых, хто гіганцкія намаганні прыкладаў, каб убіць у па-юнацку дурнаватую галаву хоць нешта, ужо няма ў школе. завітваеш у бібліятэку да Людмілы Іванаўны — і яна распавядае: хтосьці з'ехаў, хтось пайшоў на пенсію, камусьці прапанавалі пасаду ў іншай школе, а некага ўжо няма на гэтым свеце... а тут раз — і бясцэнная крыніца ўсіх школьных навін, ды і наогул любой інфармацыі Людміла Іванаўна сама ўжо на пенсіі. разгублены стаіш ля школьнай бібліятэкі і глытаеш паветра, якое пахне зусім не так, як сем гадоў таму, і спрабуеш уцяміць, што твой час мінуў.

і пачынаеш лавіць нейкія аскепкі мінулага. сустракаеш Наталлю Ігнацьеўну, якая дагэтуль не верыць, што размаўляю па-беларуску («ты ж сабак ганяў на ўроках!»). вітаешся з Міхаілам Мар'янавічам, які ўляпіў нават не буду казаць якую кепскую адзнаку за фізру ў атэстат (але цяпер прыгадваецца толькі, як цудоўна граў ён Францыска Скарыну на штогадовым пасвячэнні ў гімназісты). ляціш у сталоўку, а там Надзея Міхайлаўна паварочваецца і радасна: «о, Палынскі!»... і частуе цябе, як і ў шостым класе, бутэрбродам з павідлам. заплюшчваеш вочы — і тут званок! і проста зрываешся, разумеючы, што забыў паглядзець нумар кабінета ў раскладзе... і стаў, як укопаны...

...школа была хутчэй месцам сустрэчы з цікавымі людзьмі, прынамсі, апошнія гады два-тры вучобы. і ведаеце, ёсць чалавек, якому я хачу неверагодна падзякаваць за тое, што школа ў выхаваўчым плане не стала пустым месцам.

гэта Лілія Канстанцінаўна Раткевіч. не тое, каб яна навучыла мяне любіць свой прадмет — рускую мову (хоць быў алімпіяднікам і падаваў надзеі, нават 100 балаў на ЦТ меў, ды здаваць беларускую пайшоў знянацку). яна навучыла мяне любіць любую мову як з'яву, а яшчэ — яна дазваляла думаць і аналізаваць, прымаць рашэнні і несці за іх адказнасць. я мог працытаваць на памяць Бродскага замест Ясеніна або Сурганаву замест Ахматавай — пры ўмове, што патлумачу, чаму так зрабіў, чаму абраў пэўнага аўтара і пэўны твор. але калі не падрыхтаваўся да ўрока — ставіла шчырую двойку. у адзінаццатым класе Лілія Канстанцінаўна шматкроць даравала, калі я раптам сыходзіў у прастрацыю, пераставаў рэагаваць на рэчаіснасць і лавіў вершаваныя радкі, — бо разумела, што гэта важна не для адзнакі, але для асобы.

Наогул, я лічу, што стаў такім, якім стаў, у вялікай ступені дзякуючы Ліліі Канстанцінаўне. ужо пасля заканчэння школы, бывала, завітваў да яе ў кабінет — яна была намеснікам дырэктара па навучальнай рабоце — і мы пілі каву, слухалі мае свежыя запісы, абмяркоўвалі што заўгодна і згадвалі школу.

а цяпер і Лілія Канстанцінаўна на пенсіі — пакінула сабе толькі паралель, якую вяла. мінус яшчэ адна нагода наведваць родную школу.

але ведаеце?.. гэта і без нагоды трэба рабіць.

бо са школы ж усё пачыналася, ці не так?..



Кацярына Захарэвіч

## Дом

Маленькая Касечка пераязджае. Учора яна ўвесь дзень абгортвала посуд паперай і глядзела «Пітэра Пэна». Вэндзі разам з братамі таксама пакінулі сваю хату. Вэндзі не загортвала посуд у паперу, не збірала свае рэчы, не пераглядала старанна цацкі, каб нічога не забыцца. Вэндзі не збіралася пераязджаць у новую двухпакаёвую кватэру з велізарным балконам самага высокага ў Маленькім Гарадку будынка — пяціпавярховіка, у якім даўно марыла жыць. Вэндзі з двумя братамі проста — раз — і вылецела ў акно. Кася так не можа. І не толькі таму, што не мае чароўнага пылку. А яшчэ і таму, што за ёй пацягнецца велізарны шлейф з вопраткі, цацак, сшыткаў, кніг, посуду, успамінаў. Калі насіць усё з сабой немагчыма, значыць, трэба сядзець каля рэчаў.

Без пяці хвілін першакурсніца Кацярынка з'язджае з Маленькага Гарадка ў Вялікі Горад Мары. Самыя вялікія і важкія рэчы завезлі загадзя, Касі застаецца сабраць «дробязі»: вопратку і посуд, на што маецца адна валізка — не такая ўжо і складаная задача, асабліва калі ўлічваць здольнасці Касінай мамы да ўтрамбоўвання рэчаў. Звыш складзенага Спіса-Ад-Якога-Нельга-Адысціся Касі хочацца ўзяць усе свае кнігі і дзённікі, усе цацкі, а таксама маму, лепшую сяброўку, кватэру і Маленькі Гарадок. Хочацца, каб цікава і захапляльна было, як у Вялікім Горадзе Мары, і спакойна і ўтульна, як дома. Кацярынка яшчэ не ведае, што з гэтага моманту «дому» ў яе няма. Называць гэтым словам кватэру, у якой ты жывеш два дні раз у два тыдні, — падман, а пакой, зняты на год у чужой кватэры, — падман яшчэ большы. Але Кася пра гэта не думае і пхае ў валізку ўсё больш і больш рэчаў.

«Ну, хопіць, праз тыдзень жа на выходныя прыедзеш», — кажа мама.

«А што я буду цэлы тыдзень без усяго гэтага рабіць?» — думае Кася.

Год за годам Кацярынка нанізвае на сваё жыццё раёны Вялікага Горада Мары, праходзячы шлях ад захаплення навізной праз абыякавасць да прывязанасці. Захапленне і прывязанасць пачалі слабець пасля трэцяга пераезду — абыякавасць расце: няма нічога сталага ў свеце, тым больш калі гаворка ідзе пра арэндаваны пакой — то навошта марнаваць нялішнюю энергію на лішнія пачуцці? Яна кажа: «Я паеду дадому», калі збіраецца ў сваё жытло ў Горадзе. І «я паеду дадому-дадому», калі гаворка ідзе пра Гарадок. Не дапытвае сябе старанна: «Ці будзе мне тут утульна? Ці змагу я назваць гэта месца домам?» пасля кожнага пераезду. І не прызнаецца сабе, што спадзяецца: адказ «так» з'явіцца аднойчы, яшчэ да таго, як яна ўспомніць пра пытанне.

Кацярынка пераехала ў новую кватэру. За шэсць гадоў жыцця ў Вялікім Горадзе Мары гэта шосты пераезд. Праз дзень у Касі знікла адчуванне, што яна пасля працы павінна ехаць на папярэдняе месца. Праз тры раніцы не з'явілася захаплення ад таго, як сонца, адбіваючыся ад дзясяткаў шыбаў, залівае вуліцу. Праз пяць дзён цалкам знікла настальгія па папярэдняй кватэры. Праз тыдзень пачаўся сезон дажджоў, які афарбаваў наваколле ў ніякія колеры. Кацярынка сядзіць сярод напаўразабраных рэчаў і думае: «Я дома».



**Дзмітрый Шулюк**

## Так мала мяне

Памятаеш кліп на песню Radiohead «Daydreaming», на другую песню з апошняга альбома? Там Том Ёрк выглядае зусім не так. Ён нейкі празмерна сціснуты, перастарэлы, стомлены. Ён ходзіць з пакоя ў пакой. У гэтых пакоях сярод гэтых сцен як бы жыццё, але толькі як бы. Гэта жыццё не прабівае яго. Не кранае. Гэта не яго жыццё. Гэта толькі нейкая мітусня і бессэнсоўнасць. Гэта толькі фон. А жыццё большае, чым фон. Жыццё большае, чым штодзённасць. Жыццё большае, чым дзеянні. Жыццё большае, чым ты ці я. Жыццё — гэта сукупнасць мар, шчасця і сапраўднасці, якая ўхутвае цябе дзіцячай коўдрай, любімымі рукамі, неўтаймаванасцю роднасці.

Як прыемна атрымліваць адзіноту ва ўмовах, калі гэта адзінота — вызваленне ад чужых людзей. Як балюча атрымліваць адзіноту ва ўмовах, калі гэта адзінота — хірургічнае ўмяшанне лёсу ў тваё жыццё

Калі гэтыя радкі з'явяцца на старонках, мы ўжо два месяцы будзем жыць разам. У аднапакаёвай кватэры. На дзявятым паверсе. Прачынацца. Класціся. Есці. Сустракаць адно аднаго. Развітвацца. Будзіць. Жыць. Пакуль што я тут адзін. І я ўпершыню настолькі адзін. Магчыма, паўплываў тыдзень, калі ты была са мной. Магчыма. Але я ніколі не адчуваў, што мяне так мала. Невыносна мала. Кожнае імгненне чакаючы, калі ўжо ты з'явішся, прыедзеш, застанешся, я бачу вакол пустэчу. Пустыя сцены. Пустая падлога. Пустая столь. Пусты ложак. Пусты пацук у пустой клетцы. Я губляюся. Пачынаю шукаць: а дзе я? Я памятаю, што быў тут. Дзе ж я падзеўся? Чаму так пуста? Чаму мяне настолькі мала, што я не магу запоўніць хоць кавалачак гэтага пустога сусвету, які ціснe на мой чэрап? Уцісквае яго ўсё глыбей у безвыходнасць, у немагчымасць, у адчай.

Том Ёрк адчыняе новыя дзверы. За імі ўсё тое ж. Усё тое ж. Нейкія людзі, нейкія рэчы, нешта адбываецца. І ў той жа момант пуста. Нічога няма. Бо калі няма цябе, калі ты маленькая згубленая пляма сярод пустэчы пустых сцен, людзей, рэчаў, абставін, то нічога няма. То ўсё ператвараецца ў «снег» на экране тэлевізара. Ты проста не можаш злавіць гэтыя хвалі. Бо ў цябе няма рук. А калі і ёсць, то ў іх няма мышцаў. Няма чаго напружыць, каб паварушыцца. Каб рукамі ўзяць сябе ў рукі. Рукі. Яны вісяць вяроўкамі ўздоўж неіснуючага цела. Вецер калыша іх. Але нават ветру няма.

Я так даўно марыў жыць адзін на адзін з сабой, са сваёй напаўняльнай адзінотай, са свабодай. Не атрымлівалася. Толькі на пэўныя адрэзкі часу, але такія кароткія. Кожны раз, калі гэты адрэзак завяршаўся, я кіпеў. Раздражняльнасць хапала мяне на рукі, і я не мог вылезці з ліпкага ўдушлівага палону. Таму такія салодкія былі гэтыя глыточкі вольнага паветра. Майго асабістага паветра, якое ніхто не перахопіць. Маёй асабістай цішыні. Маіх крокаў. Маіх слоў. Я прыходзіў з працы — і ніхто нічога ў мяне не пытаў, я прыходзіў з вучобы — і ніхто нічога мне не казаў. Як прыемна атрымліваць адзіноту ва ўмовах, калі гэта адзінота — вызваленне ад чужых людзей. Як балюча атрымліваць адзіноту ва ўмовах, калі гэта адзінота — хірургічнае ўмяшанне лёсу ў тваё жыццё.

Том Ёрк адчыняе новыя дзверы. За імі ўсё тое ж. Нейкія рухі, нейкія прадметы, нешта робіцца. І ў той жа час нічога. Ёсць толькі пустэча ўнутры, якая адбіваецца ўсімі сваімі ліпкімі шэрымі бакамі ў свеце вакол. Адбіткі пустэчы ствараюць выяву новай пустэчы. Гэтая выява прыветліва глядзіць у твае вочы. А твае вочы не адрываюцца ад гэтай выявы. Хоць так хочацца адарваць іх. Вырваць з вачніц босымі пальцамі. Вырваць і пакінуць замест іх хоць боль. Бо боль робіцца такім светлым і шчырым, калі акрамя яго няма нічога.

Зараз мае бацькі жывуць адны. І неяк змрочна ў іх у хаце. Змрочна, як быццам і не жыве тут ніхто. Як быццам жыццё рэзка ператварылася ў бессэнсоўную працягласць. Серыял, які яны вымушаны глядзець кожны дзень. Серыял, у якім нічога не адбываецца. Я быў здзіўлены, калі гэта ўбачыў, адчуў. Я не разумеў: як так атрымалася і чаму так атрымалася? Зараз я разумею. Мой брат Саша скончыў школу. Паехаў у Мінск вучыцца. А замест яго ў хаце не з'явілася нічога. Ён як быццам выразаў сябе з цёплага малюнка. Як раней выразаў я і Алена. Але кожны раз бацькі імгненна перабягалі вачыма з новай дзіркі на іншае месца. Толькі час ад часу касіліся туды, дзе штосьці было, а цяпер няма. Цяпер няма куды перабегчы. Былы малюнак жыцця разваліўся на дробныя кавалачкі паперы. Простай паперы, якую можна толькі змяць і кінуць у кут. Ніякіх малюнкаў. Толькі прагалы. Раніцай не трэба нікога будзіць, карміць, адпраўляць у школу. Сустракаць са школы, слухаць, падказваць. Быць побач. Так складана быць побач, калі вакол пустэча. Калі вакол толькі страчанае, бо ўсё жыццё выглядае, як страта.

Том Ёрк адчыняе новыя дзверы. Затым яшчэ, і яшчэ, і яшчэ, і яшчэ, і яшчэ. Вакол жыццё. Вакол няма жыцця. Вакол людзі. Вакол няма людзей. Вакол усё асэнсавана, матывавана, узважана. Вакол ніякага сэнсу, ніякіх матываў, ніякай вагі. Пакоі, кабінеты, калідоры — словы. Словы, якімі мы карыстаемся, каб замяніць слова «пустэча». Знаёмыя, калегі, родзічы — словы. Словы, якімі мы карыстаемся, каб замяніць слова «адзінота».

Дом, дзе я пражыў дзіцячых сем гадоў, прададзены, перабудаваны. Там жывуць чужыя людзі, якія не ведаюць, што жывуць у пустэчы, якая засталася на малюнку маіх успамінаў. Там, дзе была будка, няма нічога. Там, дзе былі яблыні, няма нічога. Там, дзе дзед вучыў нас катацца на санках, адштурхоўвацца кійкамі, няма нічога. Замест маёй школы няма нічога. Замест кабінетаў, калідораў, настаўнікаў, сталоўкі, спортзала, майстэрні, бібліятэкі, школьнікаў, маіх школьнікаў няма нічога. Час выразае кавалкі з майго жыцця, з твайго жыцця, з любога жыцця. А мы павінны вымусіць сваё цела рэгенерыраваць. Не мітусіцца вачыма ў пошуках цэлага кавалка на дзіцячым малюнку, а рэгенерыраваць. Маляваць на сцяне. Зноў і зноў маляваць сваё жыццё. За кожны страчаны момант ствараць два моманты. За кожны цень цеплыні ствараць матэрыю цеплыні. Ствараць агонь. Вогнішча. Каб іскры ляцелі да самага неба і зоркі чырванелі ад зайздрасці да нас.

Том Ёрк выйшаў за межы сцен, з'яў, людзей, рэчаў. Па калена ў снезе пад глыбокім небам ён крочыць наперад. Ён ведае, куды ён ідзе. Ён ідзе дадому. Ідзе ў тую ўтульнасць, якая непарушная, якая з намі, якую мы можам стварыць, будзем ствараць, створым. Да той мары, якая праглыне любую пустэчу.

Гэтыя радкі я пішу табе на працы. Сёння чацвер. Яшчэ тыдзень я буду жыць адзін. Буду чакаць цябе. Буду запаўняць гэтым чаканнем адсутнасць сцен, падлогі, столі. Буду чакаць цябе. І ўяўляць, што ты зараз адчыніш дзверы. Уяўляць, што ты ўжо падымаешся ў ліфце. Уяўляць, што тыдзень — гэта менш, чым секунда. Уяўляць, што мяне больш. Дастаткова, каб вытрымаць гэты бой з пустэчай.

No alarms and no surprises
(let me out of here)
No alarms and no surprises
(let me out of here)
No alarms and no surprises
(let me out of here)

*Radiohead — гэта культавы гурт, адзін з наймацнейшых гуртоў апошніх дваццаці гадоў. Гурт, які не перастае развівацца, ісці наперад. І робіць гэта так упэўнена і хутка, што заўсёды застаецца наперадзе. А быццам магчыма інакш увогуле рухацца? Музыка Radiohead — гэта тое, што немагчыма растлумачыць словамі, бо нават гукамі стварыць такое здольныя толькі яны.*



**Яна Мусвідас**

## Тое, аб чым…

У верасні я брала інтэрв'ю ў ветэрынара-анколага. Гутарка мяне ўразіла, і яшчэ некалькі дзён я эмацыйна распавядала ўсім стрэчным пра сваё адкрыццё. З адной са сваіх «слухачак» я ехала ў тралейбусе. Інфармавала яе пра хіміятэрапію, цуд хірургіі і чароўных дактароў. Але мяне перапыніла рэзкае: «Дзяўчыны, змяніце тэму». Я моцна здзівілася, але не пакрыўдзілася. Аднак цяпер мне цікава, дзе пралягае мяжа дазволенага, як сваёй размовай не закрануць пачуцці навакольных?

Я б, можа, і забылася на гэты выпадак, калі б праз некалькі дзён не «зачапілі» мяне. Мы з сябрам узялі напракат скутар — гэта быў наш першы вопыт. Пасля дзясяткаў кіламетраў нам нарэшце захацелася падсілкавацца. Мы павесілі шлемы на локці і зайшлі ў адно папулярнае мястэчка на самай людной вуліцы Мінска. У чарзе наш добры настрой ледзь не сапсавала размова кампаніі, якая стаяла побач. Яны заўважылі нашы шлемы і пачалі бурна абмяркоўваць нядаўнюю жорсткую аварыю, у якой загінуў матацыкліст. Я не прывыкла рабіць заўвагі ў непрынцыповых рэчах, таму «маладыя людзі, змяніце тэму» не было. Але мне было як мінімум дзіўна, дзе ў людзей пачуццё такту, далікатнасць?

Я вырашыла для сябе так:
не варта лезці ў чужое жыццё,
а ўсё астатняе — можна

Аб далікатнасці вакол даводзіцца думаць часта. Мне 19, таму я ўжо чула пытанні пра замужжа, зарплату і нават дзяцей. За той час, што я ад іх «пакутую», нават паспеў да іх выпрацавацца імунітэт. Але тут паўстала іншая праблема: як самой застацца далікатнай, адказваючы на некарэктныя пытанні? Думаю, крыўд не пазбегнуць.

Не так даўно, пасля чарговага пытання «пра вяселле», я шакіравала сваю бабулю. Сказала, што не бачу ніякага сэнсу ў «пячатцы» (пра шлюб), акрамя юрыдычных прычын. А потым яшчэ і дадумалася ляпнуць, што белая сукенка і натоўп шчаслівых сваякоў на вяселлі мне не патрэбны. Бабуля была, мякка кажучы, не задаволена. Атрымалася, я засмуціла блізкага мне чалавека, які не жадаў зла і не лічыў свае пытанні грубымі. Але не падумайце, у гэтым выпадку я не лічу сябе вінаватай. Можна сказаць, мы дамовіліся на беразе. Цяпер у яе не будзе лішніх чаканняў. А то часта, пазбягаючы прамых адказаў, мы толькі пагаршаем сітуацыю. Вось змаўчы я пра тое, што гучнага вяселля хутчэй за ўсё (ніколі не кажы ніколі) у мяне не будзе, — былі б слёзы, крыўды і неразуменне сваякоў напярэдадні даты Х. Яшчэ быў варыянт «прагнуцца» пад блізкіх, але мне не хочацца ахвяраваць сваімі інтарэсамі дзеля фармальнасцей. Так што замкнёнае кола: занадта прамыя (некарэктныя) пытанні спараджаюць прамыя адказы.

Я, канешне, не эксперт, але нешта мне падказвае, што тэмы, якія могуць аказацца нечымі страхамі, гучна абмяркоўваць не варта. З другога боку, трэба глядзець рэальнасці ў твар. Таму я вырашыла для сябе так: не варта лезці ў чужое жыццё, а ўсё астатняе — можна. Пытацца ў жанчыны пра дзяцей — нельга, у рэшце рэшт, можа, яна хоча, але не можа (хоць гэта проста не ваша/наша справа, і ўсё тут). Казаць пра анкалогію — можна, гэта нашы рэаліі (тым больш, калі прыклады пазітыўныя). Але мяжа тонкая: распавядаць цяжарным пра жахі родаў усё ж не трэба, хоць гэта і рэальнасць (але адкуль мне ведаць?).

## Ноч. Кусты. Раяль.



А днём сонейка свеціць. А ноччу яно не свеціць. А днём сіняе неба. А ноччу яно не сіняе. Днём пануе логіка і сіметрыя. Законам падпарадкоўваецца нават дождж з ветрам. Хтосьці збіраецца ісці на працу, хтосьці — на працы, хтосьці сядзіць седма дома, хоча «людзьмі звацца». Хтосьці пераходзіць дарогу на чырвоны, хтосьці — на зялёны, хтосьці — праз падземны пераход. Хтосьці ідзе наперад, хтосьці — назад, хтосьці — у народ. Усё лагічна, сіметрычна, бяззменліва. Днём горад — быццам вуліца Леніна з помнікам Леніну. А не музей Петруся Броўкі зусім не на вуліцы Броўкі. Днём у горадзе няма слядоў начоўкі. Бо ноч — гэта брудная пляма, якую змывае світанак, перад тым як запоўніць ранак сабой галовы, а не ўспамінамі. Ноч застаецца за спінамі сваёй алагічнасцю, асіметрычнасцю, зменлівасцю. Быццам замест вуліц леніных у нас завулкі гарэзлівасці.

Ноччу руйнуецца ўся літаратурнасць. Ноччу горад захопліваюць захапленнямі не марсіян плямёны і не тубыльцы без племені, а раялі ў кустах і богі з машын. Яны не вісяць, быццам ружжы дома ў Пятачка ці Курта Кабейна. Яны не стаяць на лесвічнай пляцоўцы, дзе грузчыкі іх пакінулі. Яны не існуюць днём. Яны з'яўляюцца з цемрай. Выпаўзаюць з крам а 23-й гадзіне з рукамі, поўнымі асалоды, спадзяванняў і алкагольных напояў. Альбо няпоўнымі, бо не хапіла. Бо не хапіла. Бо не хапіла. І рэха чуецца па ўсёй вуліцы. Пытаннямі і надзеяй. «Эй, брат». «Эй, друг». «Эй, таварыш». Кожны незнаёмец ноччу — знаёмец. Яго пабачыў бог з машыны, раяль з кустоў, чалавек, якому не хапіла. На поўныя рукі асалоды, спадзяванняў, алкагольных напояў.

Алкаголь, алкаголь, алкаголь, ты і бог, ты і цар, і кароль. А днём было сонечна. А ноччу не сонечна. А днём было проста. А ноччу складана. Ідзеш позна дадому і не бачыш, не ведаеш, не чуеш. Бо ноччу губляецца логіка. Губляюцца каштоўнасці, роўнасці, матывацыі. Ноччу ўсе коткі шэрыя, але не ўсё, што шэрае — котка. Ноччу ўсе шкарпэткі няпарныя. Усе роздумы марныя. Усе мары бяздумныя. Ноччу горад захоплівае страх. Раяль у кожных кустах. Бог у кожнай машыне. Няма вачэй на спіне. Няма вачэй столькі, колькі патрэбна. Цемра. Угледвацца дарэмна. Твой аўтар хаатычна цягне за карткай картку. Чытае. І піша. «Раптам галоўны герой не дыша». Альбо «Аднекуль з неба на галаву зваліліся лыжы». «Эй, брат». І ты бялееш. Ноч чорная, ты белы. «Эй, друг». Рукі мацаюць за кішэні. У кішэнях манеты. Ці іх няма. Ці ёсць. Ці няма. Што ты адкажаш? «Няма ў мяне». А далей? Далей усё лагічна, звычайна, прадказальна. Ён альбо кінецца на цябе, альбо не, альбо кінецца і не ён, альбо не на цябе, альбо ты памыліўся, і рукі яго ўжо поўныя. Рукі поўныя асалоды, спадзяванняў, алкагольных напояў. Ці раздзеліш ты з ім асалоду, спадзяванні, алкагольныя напоі. Ці працягнеш гульню ў жыццё. Без правіл. Без лагічнасці, матываў, каштоўнасцей, каб прачнуцца ў невядомасці.

Горад. Мінск. Вуліца Кісялёва. Два чалавекі сустрэлі адно аднаго і ствараюць боскі канцэрт на раялі. Яны адно аднаго не чакалі, не шукалі, не ведаюць. Яны проста выйшлі ў ноч. Адзін з крамы. Другі не з крамы. Заўтра адзін з іх застанецца тут ляжаць. Драма. А другі нічога не ўспомніць заўтра. А я нікому не раскажу: не паверац, бо вельмі шмат раяляў у кустах і багоў у машынах.

Ноч. Кусты. Раяль. ■

## Кацярына Масэ



**нарадзілася 19 лютага 1997 года ў Мінску. Паэтка, мастачка, перакладчык, студэнтка 4-га курса МДЛУ, аўтар трох кніг паэзіі, удзельнік і арганізатар літаратурных і мастацкіх імпрэз, лаўрэат беларускіх і міжнародных конкурсаў. Моцны духоўна-эстэтычны, амаль ініцыятычны вопыт — мэта яе вершаў. Гэта вопыт уласны, аўтарскі, які яна імкнецца перадаць чытачу.**

Прадстаўлена на конкурс «Першацвет»

# Кропка незвароту

### калінаў мост

буслы нам замест гнёздаў
звілі калінаў мост.
хадзем, пакуль не позна,
вунь месяц уваскрос!
ён будзе абаронцам
ды верным ваяром.
дай выпіць кроплю сонца
з тваіх вачэй нагбом.

хадзем жа — светлых духам
чакае светлы дом.
мы покліч цёмных духаў
адгонім палыном.
пакуль мы рушым поруч,
дух смерці рушыць прэч.
хай будзе нам у помач
твой светланосны меч!

хадзем, бо ўжо за намі
згарае крохкі мост.
хадзем, каб з свету Наві
паўстаць у поўны рост.
хадзем туды, дзе чутны
анёлаў срэбны хор,
дзе нас усемагутны
чакае Святагор.

хадзем, пакуль не позна!
там срэбныя буслы
віюць з аблокаў гнёзды
нябеснае красы.
над вогненнай ракою
хадзем з табой удвох.
і не шукай спакою,
як не шукае Бог.

## вераграднае віно

дажынаем агонь з вугалькоў чорных воч
і сярпом адсякаем засмаглыя дні.
вераградным віном б'е па роспачы дождж,
выкарчоўвае сэрцы — струхлелыя пні.

сярод жарстных плеяд пазалочаных цел
ты пазнаеш мяне ў белай лебедзі рэк,
што у вырай цякуць, дзе садзіцца на мель
састарэлае сонца і падае снег

вечнаградам з чыёйсьці сівой барады.
над астылым дыханнем жыццёвага тла
чыняць суд справядлівыя старцы-ільды,
і ў палонцы начы тоне лебедзь святла.

нашы птушкі ўзнясуцца увосень — дамоў,
мы загінем чарговаю смерцю-зімой
і замкнём колагод — тады выпадзе зноў
на сырую зямлю веснаградны напой.

## кропка незвароту

скарае тайнай незвароту
шторух да вострава Буяна
спрачацца з пенаю ля рота
умеюць толькі акіяны
а я ўсё б'юся хваляспевам
аб берагі тваёй нямоты
за кожным словакрокам смела
я стаўлю кропку незвароту
хто утапіўся ў даляглядзе
хто галаву аб безбярэжжа
разбіў у кім дрымота гладзі
расцерушыла дух мяцежны
а я вярхом на грэбнях хваляў
я павады вады сціскаю
мяне туды нішто не звала
але ужо не адпускае
настрэч лазуркавым варотам
за валам вал імчыцца п'яны
за кожнай кропкай незвароту
стаіць шматкроп'е акіяна

## трыдзевяць жыццяў

ты пойдзеш за трыдзевяць жыццяў
і трыдзевяць смерцяў,
пакуль здзірванелай хадой не натрапіш на сад.
лістота пачне шамацець ледзь трывожным прадвесцем
таго, што няма і не будзе дарогі назад.

ты ляжаш на цёплы хрыбет спарахнелае лавы,
і будзе зручнейшай яна за любую пасцель.
і больш не злічыць, колькі сноў ты ўжо тут прабавіў,
і больш не адрозніць стралка, яго стрэлы і цэль.

любáя дарога да гэтага йдзе раздарожжа.
нагамі, што збіты ў свабоду, і сэрцам — у кроў,
ты ляжаш за трыдзевяць земляў ў нябеснае ложа —
згубіць незваротна ўсё тое, што ты не знайшоў.

## алатыр

пустазвоннем званоў мы глушылі зарэберны плач,
выразалі тупым языком сэрцавіны малітваў.
ліхалетняе сонца адорвала плынню нястач
наш патухлы ачаг, пахаваны ў куродыме бітваў.
мы шматкроць гандлявалі у храмах уласнай душой,
ды ніхто не купляў — надта дарага, кажуць, каштуе.
на судзе у багоў нашы сэрцы стаяць галышом,
толькі душ чысціня болей нас ад сябе не ўратуе.
не згінайма калень у паклоне чужым абразам!
алатыр шчэ блішчыць запаветнай зямлёю на шыі.
хай ягоны цяжар прывядзе нас туды, дзе дух сам
здабывае сябе і ачаг аніколі не стыне.

## карэнне

я помню сваё карэнне
увязлым у пазалюстэр’е,
завязаным пазавузламі,
глыбокімі пазаснамі.

я помню сваё галінне
раскінутым чорным крыллем,
завітым змяінымі танцамі,
разблытаным белымі пальцамі.

я ведаю пра далёкае,
што сочыцца прапратокамі,
ўпадае у прапрадоннае,
у мора — у прапрароднае.

у праўдзе сваёй упартая,
я раем тваім праклятая!
паклікана божаю воляю
цябе спакушаць недазволеным.

я помню той плод багавейлівы,
намацаны пальцамі белымі.
і шоргат крыла па-за намі,
і рай, які знік пад нагамі…

## нявеста ненявесная

што мне свабода, з каторай не вырвацца?
воля-нявольніца, доля-нішчымніца.
веру — не верыцца. праўда гарбатая
скарб закапала пад юнаю хатаю.

доўга лятала над ім я сарокаю,
бляскам жывілася. выкалаў вока мне
трэцяе цемрай душы беспрасветнаю
служка-стралок стараны апраметнае.

што мне раскоша пад шатамі зайздрасці?
сіла-знясільніца — слодычам слабасці
моц я сваю памнажала шалёную,
ягады мудрасці ела калёныя.

што мне юнацтва, натхнёнае старасцю?
звёны кальчужныя сплецены памяццю.
любіць-не любіць, кахае-не вернецца —
хай замятае ўсё праўда-мяцеліца.

буду нявестай сабе ненявеснаю.
ягады белыя, ягады прэсныя
хай саспяваюць грымучымі вёснамі,
хай я ніколі не буду дарослаю

## купальская песня

запражэм удых
у вятроў самавольны рух,
зацугляем слых,
каб пачуць меднагрывы свіст
прамяністых пуг
па узгоркаў гарбатых спінах,
траваносных рук
адмыкальны да нівы дотык.

калясніц санцатканы звышлях
апярэзвае дых.
кветкі ў духаў вымольваюць знак,
што ім хуткую смерць
прадрачэ на уласным агні.
але перш у ваду
пусціць водар вянкоў карані
і адвадзіць самоту.

ўздыміся, паглядзі туды, дзе калышацца сонца
у марыве богаз’яўлення і сэрцастаяння.




## Арамаіс Міракян

**нарадзіўся 23 жніўня 1995 года ў Мінску. У 2017 годзе скончыў Інстытут журналістыкі БДУ. Піша апавяданні і вершы, перакладае з украінскай і польскай моў. Лаўрэат конкурсу перакладаў з украінскай мовы «Зразумець Украіну», двухкратны фіналіст конкурсу маладых літаратараў «БрамаМар».**

# Трэнас з 11-й лякарні

Поўны рот крыві. Цікава, якога д'ябла я пагадзіўся на гэты выступ? Канечне, як можна адмовіцца ад выступу ў кампаніі найлепшых сяброў — цікавых маладых паэтаў? Яшчэ тыдзень таму выступ здаваўся нечым неверагодным: аперацыя на сківіцы не надта спрыяе творчаму настрою, але я заўжды быў аптымістам і калі сапраўды нечага жадаў — ніякія перашкоды не маглі прымусіць мяне адмовіцца ад задуманага.

Нават з лякарні адпускаць мяне не спяшаліся: пасляаперацыйны перыяд ішоў горш, ніж планавалася, было вельмі балюча. Уначы рана крываточыла, і прачынаўся я ў невялічкіх малюначках, якія стварала кроў на пухаўках і коўдрах. Як на мой густ — было досыць прыгожа, такі сабе сучасны жыццёвы абстракцыянізм. Шкада, але санітаркі маю прагу да мастацтва не падзялялі, і кожны мой ранак пачынаўся не з кавы (гарачае пітво было забаронена), а з лаянкі чарговай цёці Клавы, якая казала:

— Как же надоело убирать эти чертовы простыни! Передерутся промеж собой, ироды проклятыя, а нам убирай!

І не мела ніякага значэння, што я ні з кім не біўся, а аперацыя была запланавана ледзь не паўгода таму. Калі цёця Клава сказала «Біўся», усё, гэта вырак, якога пазбегнуць немагчыма. Ты разумееш, што гэтая жанчына скардзіцца не на цябе як асобу, а на сваё цяжкае, невыноснае жыццё, што прымушае яе працаваць санітаркай за сто пяцьдзясят рублёў у месяц.

Не пазайздросціш. Няхай скардзіцца.

Кожны дзень пасля таго, як мой рот пачаў адкрывацца настолькі, каб я мог сказаць нешта больш складанае і доўгае, ніж «А-а-а-а, баю-ю-юча», я пытаў у лекара падчас перавязкі: «Калі дадому?» Неверагодна злавала, што ён, малады хлопец, які павінен разумець, наколькі мяне «задзяўбло» знаходжанне ў гэтай пячоры перыяду развітога сацыялізму, на ўсе мае пытанні няўпэўнена паціскаў плячыма і казаў:

— Давайте подождем еще пару дней. Скажем, до понедельника.

Панядзелка ты чакаеш, як дзіцёнак з беднай сям'і чакае Каляд. Зранку трыванне робіцца невыносным, перад заходам ў маніпуляцыйны кабінет — халера, які хвантазёр выдумаў гэтую назву? — сэрца пачынае біцца хутка-хутка…

І ўсе абрываецца, калі ты зноў бачыш гэты ненавісны поціск плячыма і чуеш:

— Мне кажется, надо подождать. Давайте поговорим об этом в среду.

Розум кажа табе: «Гэта дзеля таго, каб не было ніякіх сумневаў у тым, што ты сапраўды здаровы».

Але душой ты рвешся дадому, дзе пухнатая котка зранку так пяшчотна пазяхае, дзе паліцы з улюбёнымі кнігамі, смачная ежа… А, ну і ногі не вытыркаюцца з прыбіральні, бо, у адрозненне ад лякарні, дома прыбіральня разлічана не на гномікаў з хваробамі, а на людзей.

Атачэнне, дарэчы, таксама моцна здзіўляла. Мне, «дзіцёнку фэйсбука», істотна адарванаму ад рэальнасці, было адначасова цікава, забаўна і агідна слухаць размовы пра тое, што ад доўгага ліставання па мабільнаму я аслепну, страчу «главную мужскую функцию» і ўвогуле памру ў трыццаць гадоў ад раку мозга. А калі я апрануў цішотку з трызубам, мяне залічылі ў карнікі і бандэраўцы, аб'явіўшы байкот.

Байкот пратрываўся паўгадзіны, пасля чаго мужыкам спатрэбіўся сапернік для гульні ў карты — і я быў нечакана «памілаваны». Не магу сказаць, што вельмі радаваўся з гэтай нагоды.

Але нават самаму жахліваму і цяжкаму прыходзіць канец. Пасля чарговай перавязкі я уляцеў у палату з усмешкай настолькі шырокай, наколькі дазваляў мой істотна дэфармаваны ў выніку маніпуляцый твар. «Калегі» адразу зразумелі ўсё без слоў.

— Смотри, а Хомяка то нашего выписывают наконец! — з задавальненнем узняў угару палец адзін з мужыкоў, тварам вельмі падобны да Андрэя Таркоўскага.

Спадар Фёдар, што ляжаў побач, ухваляючы добрую навіну, нешта прамычаў. Ну а што можа сказаць чалавек, якому па медычных паказаннях выдалілі ўсе зубы? Крыху падобны да Алеся Разанава, вялікі, амаль пад два метры, ён нагадваў старое дрэва, ў свой час вельмі магутнае, а зараз прагнілае ўшчэнт…

Апошнія абдымкі, падзякі, пажаданні… Ты выходзіш нарэшце з гэтага будынка, удыхаючы на поўную моц лёгкіх сцюдзёнае зімовае паветра, і разумееш, што жывы, што навакольны свет, які праз фіранкі лякарні здаваўся нечым неверагодна далёкім, усе ж такі існуе. І не надта ён змяніўся за той час, пакуль ты лекаваўся. І цяпер трэба жыць далей, як і дагэтуль.

Ты выходзіш на сцэну з тэчкай уласных перакладаў вядомых паэтаў і адчуваеш сябе неверагодна жывым, неверагодна існым, неверагодна шчаслівым.

Нягледзячы на поўны рот крыві.

# Танчы са мною да скону кахання

*Памяці Леанарда Коэна*

Зміцер знайшоў яго праз тры дні. Ліст.

Прыгожы, акуратны почырк. Кожная літара была знаёмая. Без сумневаў, гэта напісана яе рукой. Колькі ж яны змарнавалі паперы на пачатку зносін? Інтэрнэт-перапіску не любілі абодва, таму заставаліся толькі лісты.

Штораніцы, прыходзячы на працу, ён знаходзіў на сваім стале канверт. Чакаючы абеду, адносіў зваротнае пасланне на яе працоўнае месца.

Рамантыка.

Так працягвалася некалькі месяцаў, пакуль аднойчы Зміцер не запрасіў Хрысціну ў кафэ. Некалькі месяцаў ліставання дазволілі ім нядрэнна пазнаць адно аднаго. Пасля гэтага лісты сталі рэдкімі, а сустрэчы — частымі. Праз некалькі месяцаў маладзёны вырашылі разам зняць кватэру. Першыя месяцы сумеснага жыцця былі выдатныя. Кожную пятніцу, стаміўшыся ад бессэнсоўна-аднастайнай офіснай працы, дома яны ўключалі музыку і танчылі гадзінамі, пакуль не валіліся — знясіленыя, але шчаслівыя.

Музыка была неад'емнай часткай іх існавання. Яна гучала заўсёды, была фонам усіх хатніх спраў — ад мыцця посуду да рамонту тэлевізара.

Час ішоў, паміж маладой парай з'яўляліся супярэчнасці, узнікалі сваркі, але здавалася, што ўсе праблемы вырашальныя.

Зміцер з'ехаў з горада на тры дні ў камандзіроўку, забыўшыся на тэлефон, а калі вярнуўся, яго ўвагу прыцягнуў ліст, што ляжаў на маленькім століку каля уваходных дзвярэй. Беласнежны канверт на чорнай паверхні не меў ніякіх шанцаў застацца незаўважаным.

Ліст быў горкі. Прачытаўшы яго, Зміцер нібы забыўся, як дыхаць. Яго свет, які раней гарэў, пераліваўся сотнямі розных колераў і адценняў, зноў стаў манахромным, як да знаёмства з Хрысцінай.

Чырвоны. Чорны. Сіні. Чырвоны. Чорны. Сіні. Гэтыя колеры зноў і зноў успыхвалі перад вачамі хлопца, прыносячы с сабой выблiскі болю. Ён разумеў, што застаўся адзін у гэтым жудасным і лютым свеце, яшчэ нядаўна такім прыгожым.

Агаломшаны новым ударам болю (хто б мог падумаць, што ад сыходу каханай пакута можа быць амаль фізічна вострая?) Зміцер падышоў да прайгравальніка, наўздагад паставіў у яго дыск, зачыніў вечка і націснуў «Play».

Голас Леанарда Коэна, які загучаў з дынамікаў, стаў апошняй кропляй. Хлопец абхапіў галаву рукамі і горка заплакаў. Музыка створана для таго, каб *дзяліць* яе з самымі дарагімі людзьмі. Танец створаны для таго, каб *дзяліць* яго з тым, каго ўпусціў у сваю душу.

Зайграла *Dance me to the end of love*.

Плач перайшоў у стогн.

Мала хто ўмее ісці па жыцці, танцуючы ў адзіноце.

Аляксей Арцёмаў



**нарадзіўся 27 сакавіка 1991 года ў Туле. Выпускнік Тульскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Друкаваўся ў часопісе «Маладосць», газеце «Літаратура і мастацтва» і іншых выданнях, аўтар кнігі «Скрозь кіламетры» (2016). Тройчы спрабаваў напісаць вялікую паэму, але нічога вялікага так і не напісаў.**




## Дарога ў цішыню

### Брызгліна

Да яроў, брызглінаю парослых,
Вабіць затуманены прасцяг…
Мой шалёны лёс саткаў на кроснах
Посцілку бязладнага жыцця:

Колераў і ліній куламеса,
Мітусня з хваробай напалам…
Я пакуль жывы. Займаю месца.
Толькі што я людзям перадам?

Што запомняць? І якія словы
Высеча на помніку гравёр?
«Нарадзіўся неабавязковым.
Неабавязковым і памёр»?

Не! Не трэба помнікаў. Як згіну,
Як растану ў промнях і траве,
Пасадзіце на двары брызгліну —
Хай яна, патрэбная, жыве.

Хай свабоднай вырасце, не скутай,
Хай чакае цёплую пару
І частуе ягаднай атрутай
Дробных птушак, звыклых да атрут.

***

Баян буркуе. У двары
Напаўразбуранага дома
Матыў прыцішаны, стары
Гучыць утульна і знаёма.

Калісьці сад ля дома цвіў,
Збіраліся ў нядзелю госці…
Жыццё кароткае наўздзіў,
Ніяк не вернеш маладосці.

Не знойдзеш згадак анідзе
Пра нараджэнні ці хаўтуры,
Ніхто не ўспомніць тых людзей
У дзень кастрычніцкі пануры.

Спусцелы дом… Якой бяды
Не бачыў ты? Якога ліха?
Цяпер дзівак прыйшоў сюды
І на баяне грае ціха.

І верыць ён, што людзі зноў
Прыедуць — і сабе не здрадзяць…
Як вы, сыны гаспадароў?
Ці добра жывяце ў Канадзе?

## Ціша

Ні святла наўкол, ні агню,
Толькі блякне над полем ветах.
Уплятаецца ў цішыню
Лёгкі водар далёкіх кветак.

Змоўкне вецер праз сем хвілін,
Апануе зямлю нямота.
Лёгка верыць, што ты адзін.
Прыйдзе міг — і не ўспомніш, хто ты,

І не скажаш, каторы год
Цішыня адступаць не хоча…
І апошні цягнік на ўсход
Засынае ў абдымках ночы.

Так, ты выйграла, цішыня,
Я знікаю ў нямым палоне.
Як малое багавяня,
Прыпаўзаю ў твае далоні.

Ноч нядоўгая. Будзе днець,
І адчыняцца ў прышласць дзверы…
Цішыня, забяры мяне!
Я не гукам — маўчанню веру.

***

Празрыстая, як ліпавыя шаты,
Далёкая, як жоўтыя агні,
Да шчасця даляціш… Але спярша ты
Смугой халоднай плечы ахіні.

Увойдзеш у смугу — і станеш жрыцай,
Здабудзеш сілу ў травах і вадзе.
Душа твая патрапіць адрадзіцца,
Дзе сонны бераг і разлівы, дзе

Начуе сонца між сцяблін чароту,
А ўдзень яно — напаленая ніць…
Там толькі час, туман і адзінота,
І цішыня бясконцая звініць.

Знайсці спакой і смерць сярод туману —
Адзіны лёс, табе наканаваны.

## Тэнесійскі вальс

Як хочацца — хоць плач, хоць галасі,
Каб вывела дарога ў Тэнесі,
Ці ў Джорджыю, дзе я не быў ніколі,
Ці ў Грузію… Цяпер усё адно.
«Еш персікі, пі лёгкае віно,
Глядзі на горы, пазбаўляйся болю», —

Сказаў бы я сабе, каб грошы меў,
Але даўно ў кішэнях ветрык дзьме.
На гэтым свеце не бывае цудаў:
Раз вандраваць без грошай не з рукі,
Хадзі, нябожа, палівай гуркі
Ды пасміхайся, як схуднелы Буда.

Нярадасныя думкі ў галаве,
Хацця... Навошта скардзіцца на свет?
Я сам ва ўсіх праблемах вінаваты.
Зноў на гурочнік жоўты лью ваду
І думаю: вось-вось збягу, сыду…
А нада мной — бялейшыя за вату

Лятуць аблокі. Ці не з Тэнесі,
Дзе сонны месяц над гарой вісіць,
Паказвае бурштынавыя рогі?
Аблокі пазіраюць на людзей,
А нас турбота па зямлі вядзе,
І мы пражыць не можам без трывогі.

***

Паўзе да сонца дзікі вінаград —
Зяленіць ён празрыстую прастору.
За агароджай — рэгулярны сад,
А па-над ім паветранае мора.

На дыбачках зайду за жываплот,
Убачу: ты малюеш сад і лета.
Няўжо пазбавіць можа ад турбот
Цябе занятак несучасны гэты?

Не ацаню я працу мастака,
Але малюй. Перашкаджаць не буду.
Няхай твая пяшчотная рука
Цяпер алоўку давярае цуды.

Вядзе мяне дарога ў цішыню.
Як добра, што трава прыглушыць крокі…
Я ўжо цябе ніколі не прысню:
Лаза чужою стала, сад — далёкім.

***

З балкона ўранку я глядзеў,
Як прачынаўся горад сонны:
Далёка ўнізе, на вадзе,
Чарнелі птушкі-парасоны.

Плылі па лужынах адны,
Другія лёталі зазвычай,
А трэція, як каршуны,
Шукалі лёгкую здабычу.

Навокал пазіраў я зноў,
Хацеў у валадарстве слоты
Між вераб'ёў і каршуноў
Знайсці дзівосную істоту.

Натоўп разліўся, як рака,
А я ўглядаўся ў змрочны шэраг:
Цудоўны парасон шукаў
Паміж звычайных чорна-шэрых.

Знайшоў! Панёсся наўздагон,
Дабег нарэшце — вось удача!
Я зазірнуў пад парасон
І... сам сябе пад ім убачыў.

***

Пажоўклае кастрычніцкае лісце
Пад тонкімі абцасамі пяе,
А мне б на пяць хвілін з кватэры выйсці,
І, быццам незнарок, сустрэць яе.

Пазабываў бы крыўды, злосць і пыху
І павітаўся проста, як заўжды,
Каб побач з ёю пастаяць, падыхаць
Парфумай лёгкай — водарам бяды.

Але сяджу ў абрыдлым доме гэтым,
За шыбінай плыве жаночы цень…
Што робіць адзінотніка паэтам?
Не, не каханне. Мыліцы ў куце.

***

Я засумаваў без дай прычыны
(Так заўжды маркоціцца бядак),
Хоць люблю звычайную жанчыну,
Простую, як ціхая вада.

Так, люблю — заспанай, у халаце...
Для мяне яна запарыць чай.
Добрая, падобная да маці,
Да майго прытуліцца пляча.

Я цяпер памалу прывыкаю,
Слухаю, як дыхае яна,
Вось ужо шапчу ёй: «Дарагая»,
І скажу калісьці: «Ты адна...»

Не кахаю, бо зусім не ўмею,
А любоў у сэрцы пранясу.
Толькі хто падорыць мне надзею,
Што аднойчы знікне горкі сум?

***

*…я кажу — цячы, рака!*
*і рака цячэ.*
Наста Кудасава

Ад шкарлятынавай лускі
На скуры дрэваў пачарнелых
Я збег — і выйшаў да ракі,
І на ваду гляджу нясмела.

Якая моц у глыбіні,
Як многа сонца ў крыгах першых!
Сівыя снежаньскія дні
Звіняць радкамі новых вершаў.

Але рака цяпер маўчыць.
На беразе паснулі вёскі,
І снежань на маім плячы
Сядзіць, як белы сокал свойскі.

Праз тыдзень прыйдуць халады —
Так і раней было заўсёды.
Загадкавы сусвет вады
Замрэ пад прасціною лёду.

Як на зіму ні наракай,
Яе парадкаў не аспрэчыш…
А я шапчу: «Цячы, рака!» —
І снег кладзецца мне на плечы.

Зараслава Камінская



**нарадзілася ў 1985 годзе ў Наваполацку. Скончыла журфак БДУ. Жыве і працуе ў Мінску. На фотаздымку — у сукенцы, якую набыла калісь у сэкандзе. З яе і пачалася гэтая гісторыя…**

# Сэканд

Гэтую сустрэчу пачнём з дзвярэй.

Дзверы белыя. Дзве створкі. Дзве круглыя ручкі. Вазьміце за адну ручку (у далоні — нібы халодная абабраная бульбіна), за другую (другая бульбіна), расчыняем і — о, дык гэта шафа! Хм.

— Не ведаю, што апрануць.

Швэдры, швэдры, швэдры; байкі, світшоты, цішоткі, джынсы; яшчэ блакітны выцягнуты швэдар; нешта скамечанае, зялёнае і бліскучае ляжыць каля сценкі; чырвоная куртка.

— Абрыдла ўсё гэта. І гэта. А блакітны ўвогуле час выкінуць.

Але з іншага боку, каб пазнаёміцца з новым чалавекам, няма нічога лепшага за тое, каб зазірнуць да яго ў шафу.

— І якая ўвогуле розніца, што апранаць.

Тым больш, што ў душу зазірнуць цяжэй. Пасуньцеся, каб не замінаць, — вы ж бачыце, дзяўчына выбірае вопратку.

— Ніхто, мама, даўно на мяне не глядзіць.

А мы паглядзім. Доўгія рудыя валасы, як у русалкі, белы твар, а вочы — грэцкі мёд, амаль чорныя. Яшчэ рабацінкі. Далей (ніжэй) глядзець не будзем, бо пакуль дзяўчына стаіць перад шафай у майтках і станіку. Не, не будзем.

— Ты сама ні на каго не глядзіш.

— Так, так, так, ва ўсім вінавата я сама. Для цябе я — красуня, канечне. Але ўсё ў гэтым свеце не такое, якім табе здаецца.

Гаворачы, яна пацягнула з паліцы чорныя джынсы — і ўся джынсавая кіпа абрынулася на падлогу.

Калісьці ў гэтай шафе быў парадак: кожная рэч — на сваім месцы. Роўна-роўна віселі спадніцы-спадніцы, кофтачкі-кофтачкі, сукенкі-сукенкі. Ляжалі шкарпэткі, хаваліся станікі, таіліся майточкі, і нават калготы не скручваліся ў косы. Парадак, заведзены маці.

Больш яго не прытрымліваліся.

— Сапраўды, усё ў тваім свеце такое, якім здаецца табе, дачушка.

Пасля зімы ўвогуле складана было ўціснуцца нават у чорныя джынсы. І гэтая акалічнасць таксама не спрыяла размове.

— Ты думала, што будзе лёгка. Адразу табе ў тэатры і ролі, і грошы. І падарожжы, і ўвесь свет, а не гэтая маленькая кватэра. І муж. Але жыццё ідзе, і нічога гэтага ў цябе няма. Прабач, мая дарагая актрыса, што не падрыхтавала для цябе дэкарацыі.

— Чаму ж не падрыхтавала? Падрыхтавала! Паважаныя гледачы, перад вамі — аднапакаёвая кватэра. Сцены, — яна павяла рукой, — абклеены шэрымі шпалерамі. Белая мэбля, а шторы — таксама шэрыя. І канапа — шэрая. Усё, як я хацела! Сапраўды, я так хацела! Дзякуй за ваш падарунак! Дзякуй за рамонт! Дзякуй!

Нарэшце зашпіліла гузік на джынсах і пакланілася.

— Аля, я не жадаю працягваць размову ў такім тоне.

Яна нацягнула блакітны швэдар і пляснула дзверцамі. Пасля адчыніла, схапіла чырвоную куртку, зноў пляснула:

— Я гуляць.

І прэч з шэрай кватэры.

Няёмка зрабілася, калі бегла па лесвіцы. Калі выйшла з пад'езда, стала зусім сорамна. Псіханула. Навошта? І куды зараз ісці?

Не вяртацца ж.

* * *

Побач з домам, дзе жыла Аля, некалькі месяцаў таму з'явіўся сэканд-хэнд: уначы прывезлі белы пласцікавы вагончык памерам з трохпакаёўку — у параўнанні са шматпавярхоўкамі ён здаваўся танным кітайскім куфэркам. Гандлявалі паношаным адзеннем. У дні распродажу ўнутр было не прабіцца, у дні завозу — таксама. Казалі, што менавіта тады (і толькі тады) можна выцягнуць з кучы брэндавую, дарагую, якасную рэч, якую яшчэ ніхто не апранаў. Канечне, кожны час мае свае легенды, але шукаць папарацьвопратку выпраўлялася шмат прыгожых жанчын.

Калі пакупнікоў не было, у дзвярах стаяла прадаўшчыца і глядзела на двор. Маладая, танклявая, з блакітнымі вачыма і кучаравымі чорнымі валасамі, нібыта растрапанымі ветрам. Заўсёды ў тым самым адзенні (хаця, здавалася, мае такія магчымасці дзеля пераапранання): кашуля ў чорную і чырвоную клетку, сінія джынсы. Дзяўчына была падобная да Элі, што толькі-толькі выйшла на ганак свайго вагончыка, занесенага ўраганам у невядомую краіну: «Toto, I've a feeling we're not in Kansas anymore». І яна глядзела навокал і разумела: так, яна больш не ў Канзасе. Але «Элі» гэта не палохала.

Аля не была знаёмая з прадаўшчыцай: толькі нядаўна пачала з ёй вітацца — ківала, калі праходзіла побач. Кіўнула і зараз: «Элі» стаяла ў дзвярах, з бутэлькай піва ў руцэ, абапёршыся аб вушак. Здалёк падавалася, быццам яна абапіраецца на цемру, якая шчыльна падступае да плячэй. У краме Аля ніколі не была і не ведала, што там, у цемры.

У адказ «Элі» завітальна махнула бутэлькай. Аля вырашыла зайсці.

— Яшчэ працуеце?

— Амаль зачыняемся. Але ты можаш стаць апошнім пакупніком. Я спадзяюся, што апошнім. Заходзь.

У нос шыбанула хімічным пахам: дэзінфекцыя павінна была не толькі сцерці бруд, але і памяць пра мінулае

жыццё сукенак, куртак, швэдраў. Калісьці яны пахлі чужым целам, чужой парфумай, чужой краінай — цяпер не засталося нічога, што нагадвала б пра чужых.

— Я — Жэня. Я цябе часта побач бачу. Ты ж у мяне ніколі не была, так? Ну, аглядайся.

«Гармідар», — падумала Аля невядома чаму, бо, па праўдзе кажучы, усё было ўпарадкавана. Рэчы віселі па класах: нагавіцы да нагавіц, курткі да куртак, камізэлькі да камізэлек. Ды гэты парадак не быў падобны да геаметрычнага парадку сапраўдных крам: там рэчы множыліся, дзесяцерыліся, паўтаралася шмат разоў — зноў, і зноў, і зноў, і зноў. Яны выстройваліся ў рады, камбінаваліся па колерах, рыфмаваліся па сезонах.

Тут ніводная рэч не паўтаралася двойчы — проза жыцця, адсутнасць рыфмы.

Аля ішла ўздоўж вешалак і асцярожна кранала касматыя шалікі, слізкія сінтэтычныя сукенкі, скураныя курткі, а на пальцах заставаўся той уедлівы хімічны пах. Чытала раздрукоўкі на сценах: «Калі ласка, не больш за пяць рэчаў на прымерку адначасова», «Адміністрацыя не прымае назад прададзеныя рэчы і не вяртае грошы», «Адміністрацыя не прымае рэчы ад мясцовага насельніцва і не гандлюе імі».

— Адміністрацыя — гэта я, — Жэня злавіла Альчын позірк. — Таму магу піць піва. Будзеш? Я тады зачыню дзверы.

Аля ўзяла шкляную бутэльку і зрабіла глыток:

— Добра гандлюецца?

— За пару тыдняў прадала палову партыі. А зараз чакаю завозу. Ты сядай, — запрасіла Жэня і сама села ў стары фатэль — залезла з нагамі. — Калі хочаш, можаш расказаць, чаму ў цябе няма настрою.

— Так, хатняя сварка. Звычайная.

— Мне здавалася, у тваёй сям'і не сварацца. Прабач, я не тое каб сачыла, але ж запомніла цябе з бацькамі — бачыла вас разам у двары.

— Прыязджаюць у госці. Раней жыла з імі, цяпер — адна.

— А яны так сумуюць, што прыязджаюць пасварыцца?

Аля ўсміхнулася і села на вузенькую канапу, якая стаяла ля сценкі.

— Ды не, гэта я так, сама зачапілася. На працы дасталі. Дарэчы, я актрыса.

— О, вось гэта праца! Я — максімум касцюмер.

— Якая там праца! Не той спектакль, не той тэатр, не тыя грошы. Калі вучылася, я ўсё інакш сабе ўяўляла. А цяпер гэта не жыццё, а так. І не будзе ў мяне іншых дэкарацый.

Жэня пра нешта задумалася, некалькі імгненняў павагалася, пасля — ускочыла і кінула Алі пакецік з чыпсамі:

— Ведаю, як табе настрой падняць. Выбірай сабе вопратку. Павер мне, старому касцюмеру, гэта працуе. Набывала што-небудзь у сэкандзе?

— Неяк не даводзілася. Ды я адзенне ўжо некалькі гадоў не купляла, не тое каб яно мне было патрэбна.

— Тым больш. Ты давай дапівай і прайдзіся.

Аля паставіла бутэльку ля канапы і нясмела накіравалася ў глыб крамы, бы ў гушчар лесу. Не зірнула на сукенкі, не заўважыла спадніцы — рыўком рассунула іх, як рассоўваюць кусты, і схапіла швэдар, памаранчавы і калматы.

Пайшла да люстэрка, што ззяла ў прымерачнай, бы лясное возера сярод дрэў-вешалак. І там таксама віселі раздрукоўкі «Абавязкова памыйце рэчы перад тым, як апранаць» і «Звяртаем вашу ўвагу, у кожнай рэчы ёсць свая цана (напісаная на цэтліку). На вагу не прадаём».

Аля зняла свой расцягнуты блакітны швэдар, апранула новы (ну, не новы, але вельмі добры на выгляд), памаранчавы. Нібы не абцягвае занадта і нічога не вытыркаецца. А на іншае глядзець няма чаго. Да таго ж мяккі швэдар так утульна абняў цела!

— Бяру!

— То і файна! Грошы ёсць?

— Хвілiначку, — Аля памацала кішэні курткі, — ура, ёсць!

Жэня нават расчаравалася — нібы хацела ёй гэты швэдар падарыць.

— Ды ты пашукай сабе яшчэ што-небудзь.

— Не, гэтага калматага мне дастаткова. — Аля паглядзела на цэтлік і аддала грошы. І, нешта ўспомніўшы, зноў абмацала куртку, пасля — papляскала па кішэнях джынсаў.

— Блін, забыла тэлефон і ключы. Нязвыкла без іх. Зараз зганяю.

— Пачакай!

Ды Аля ўжо накінула куртку на новы швэдар і выбегла з крамы. Пра сварку з маці згадала толькі перад кватэрай. Дзіўна, гэты памаранчавы хітрун насамрэч палепшыў настрой! Ці, падумала Аля, гэта зрабіла піва. І націснула на званок.

Адчыніла дзверы маленькая тоўстая жанчына ў махрыстым халаце:

— Нарэшце. Колькі можна цябе чакаць? Вячэра ў сем. Ужо восем!

— Вы хто?

Таўстуха пакрывілася:

— Што за жарты! Аляўціна, ты спазнілася, а знаходзіш час жартаваць.

— Гэта, здаецца, з мяне жартуюць. Вы сяброўка маці?

Аля асцярожна абмінула дзівачку і пайшла ў пакой:

— Мама, я…

Але маці не было. Больш за тое, пакоя не было. Дакладней, пакой быў, але гэта быў не яе пакой. Усё вакол ззяла памаранчавым: шпалеры, фіранкі, нават столь. Каля фатэля сядзеў вялізны заяц і глядзеў на яе безуважнымі вачыма. Да яго Аля і звярнулася:

— Калі вы паспелі пераклеіць шпалеры?

Махрыстахалатавая выйшла з-за яе спіны, панюхала паветра, войкнула і села на канапу (канапа была ў памаранчавыя ружы):

— Алкаголь! Я адчуваю алкаголь! Аляўціна, ты п’яная!

І ціха заплакала.

Аля адчыніла шафу — гэта не яе рэчы! Вось паркалёвая спадніца, нейкія вычварэнскія леапардавыя легінсы і нешта падобнае да баа.

— Ай-яй, дачушачка, што ты з сабой нарабіла! Такая заўжды прыгожанькая, а зараз як са сметніка апранутая, п’яная.

Таўстуха раптоўна скончыла енчыць, паднялася і сказала строга:

— Аляўціна, хадзем у кухню. Табе трэба заесці. Добра, што я сёння прыгатавала боршч. Пагаворым пра твой учынак ранкам. Зараз ты не ў сабе.

Аля зрабіла выгляд, што ідзе ў кухню, а сама выскачыла ў калідор і пабегла па лесвіцы. Прыслухалася — яе не праследавалі — і прыхінулася лбом да шурпатай сценкі, заплюшчыла вочы:

— Я не ў сабе, я не ў сабе, я не ў сабе.

І тут мільгнула здагадка — піва. Ёй нешта падмяшалі ў піва! Цяпер зразумела, хто вінаваты.

Жэня стаяла ў дзвярах, чакала:

— І навошта было так хутка ўцякаць?

— Што ты мне насыпала ў піва?

— Ціха-ціха, гэта не піва. Заходзь, я растлумачу.

— Нікуды я не пайду.

— Ну, добра, давай я буду тлумачыць усяму двару. Гэта закляты вагончык, а на цябе пачала дзейнічаць яго магія. Хочаш, адкацім твае галюцынацыі? Зайдзі і пераапраніся, як была.

Жэня ўсміхнулася і сышла з ганка, даючы дарогу. Аля замкнула за сабой дзверы, хутка нацягнула родны блакітны швэдар, памаранчавы кінула на канапу.

Моўчкі прайшла паўз Жэню, набрала код пад’езда і паднялася да сябе. Націснула на званок. З-за дзвярэй пачулася матчына:

— Хто там?

— Гэта я. Забыла ключы.

Ёй адчыніла сумная маці. Яе маці. Аля не ведала, што сказаць, а таму толькі моўчкі абняла яе. І адчула, як яе абдымаюць у адказ. Так яны і стаялі некалькі хвілін.

— Ты прабач мне.

— І ты мне.

Забрала ключы і тэлефон і зноў абняла, ужо на развітанне:

— Мне там трэба яшчэ схадзіць.

— Я без цябе не буду класціся, ведай. Таму вяртайся няпозна.

* * *

Жэня стаяла на тым самым месцы.

— І?

— Афігенна!

— Тады пайшлі, раскажу далей, піва яшчэ ёсць. Калі не баішся.

Зноў занялі свае месцы (Жэня — у фатэлі, Аля — на канапе):

— Як я і казала, гэта незвычайная крама. Дакладней, і крама, і не крама — калі яна вырашыць адкрыць табе сваю сутнасць. Я тут магу паспрыяць, але канчатковае рашэнне за ёй. Таму віншую — ты прайшла гэты ўзровень!

— І што гэта — тэлепорт? Партал? Пляцоўка для трансгрэсіі?

— Ты можаш нацягаць якіх хочаш слоў з фантастыкі, але я не ведаю, які тут тэрмін падыдзе. Расказваю, як працуе, а ты называй, як хочаш.

— І як працуе?

— Я ж расказваю. Ты апранаеш чужое адзенне — і быццам бы апранаеш на сябе чужое жыццё.

— Навошта гэта?

Жэня зрабіла глыток:

— Тут і я не да канца ведаю. Для разнастайнасці?

— Якая там разнастайнасць! Той жа пакой, толькі памаранчавы.

— Гэта таму, што ты выбрала адзенне, падобнае да таго, што сама носіш. І вось таму кватэра падобная да тваёй, але ты жывеш не адна, а з маці, я здагадалася? Ды і жыццё ў цябе такое, троху больш памаранчавае. Давай абмяняем швэдар хіба што на гэту панкаўскую цішотку — і ты пабачыш, як усё зменіцца.

— А мяне там ў гэтай цішотцы не заб'юць звар'яцелыя панкі? — Аля ўціснулася ў нешта чорна-чырвонае і падрапанае.

— Хіба толькі ты каго заб'еш! Калі пажадаеш, канечне. З майго ўласнага вопыту і ў каго з нашых пытала — заўсёды трапляеш у асяроддзе, дзе да цябе добра ставяцца. Смярцей у нас яшчэ не было — наадварот, некаторым жыццё так падабалася, што яны ў ім і заставаліся. Таму наперад, каралева панкаў!

Аля знікла ў прыцемках: на двары стала змрочна. У вокнах шматпавярховак загараліся люстры і лямпачкі, таму побач з імі маленькі вагончык здаваўся асабліва нежылым. Чорны бязлюдны востраў, які акружылі вясёлыя гмахі круізных лайнераў: там п'юць, ядуць, гамоняць, танчаць, грае музыка. Чорны востраў — маўчыць.

Жэня правяла рукою па пластыкавай сцяне — нібы пагладзіла яе — ласкава, развітальна. А пасля стукнула кулаком — руку працяў боль. Час запальваць святло: глядзіце, на востраве — маяк, тут таксама ёсць жывыя душы, хутчэй, хутчэй сюды!

Прыбегла Аля:

— Нічога сабе! Ніколі не магла б уявіць, што з маёй кватэры можна такое зрабіць: шпалер няма, з мэблі — толькі гірлянды пад столлю. Ну і дыван, ці матрас, ці што там на падлозе. Цёмна, мала што разгледзіш. Вечарына чалавек на дваццаць, я нікога не ведаю — але мяне, здаецца, усе ведаюць. Я сказала, што пайду ім яшчэ гарэлкі куплю, вось так і збегла.

Аля расчырванелася і цяжка дыхала. Жэня паднялася і працягнула ёй новую бутэльку піва:

— Ці мо табе гарэлкі?

— Дарослыя дзяўчынкі гарэлку з півам не мяшаюць. Я так і панкам сваім сказала. І што, ты таксама гэтак пераапранаешся?

— Не зусім. Але і твой шлях я прайшла. І па кватэрніках розных пабадзялася.

— І суседзі нічога не падазраюць? І сям'я? І ўсе так могуць?

Жэня адказвала стомлена — як зорка, якой задаюць адны і тыя ж пытанні.

— Не, суседзі нічога не падазраюць. І сям'я нічога не падазрае. І я казала ўжо, што не ўсе так могуць, не ўсе, а толькі абраныя, мной ці не толькі мной. Але ты задаеш такія нецікавыя пытанні! Ты трапіла ў новы свет ці зразумела, што твой свет — не такі, якім ты яго ведала. А пытаешся пра фігню, — і змяніла тон на бадзёра-трэнерскі: — Ну, давай прыдумвай добрае пытанне.

Аля пасядзела, памаўчала, але нічога лепшага не вынайшла, як спытаць:

— Жэня, што гэта?

— Ох, на гэта пытанне я не ведаю, як адказаць. Магу толькі сказаць, як гэта.

Для нас гэта — магчымасць падарожнічаць у іншыя, чужыя, вымярэнні, пераапранаючыся ў чужое адзенне. Патойбочнае жыццё сэкандаў. І не толькі майго — іх у краіне сотні. Але, як я ужо казала, падарожжы, змена асяроддзя — гэта толькі для нас з табой. Для астатніх — іншы эфект: рэчы змяняюць тых, хто іх апрануў.

Сэканды тут з'явіліся ў дзевяностыя. Тады, калі ў нас адчыніліся дзверы, рухнулі сцены, ляснулі заслоны — і засталіся мы голымі, сам-насам з усім светам. Ён — стары, з вялікім набыткам, майном, якое збіралася стагоддзямі, мы — зноў маленькія, зноў нам пачынаць спачатку. І галоўнае, мы — чужынцы, мы зусім іншыя, зусім, і як нам жыць было ў гэтым новым старым свеце? Тады і прыдумалі гэтую адаптацыю: перадаваць нам старое майно.

Калі ты, Аля, апранаеш чужую рэч, ты трапляеш у іншую рэальнасць. Калі, ну, да прыкладу, цёця Галя апране — гэтая рэч пачне пакрыху, вельмі-вельмі павольна, уплываць на яе характар. То бок, перадаваць энергію папярэдняга ўласніка. Яго характар, стаўленне да жыцця. І вось ужо Галя можа пяць хвілін у дзень паглядзець «Еўраньюс» без агіды, а Пеця, напрыклад, пашпацыраваўшы ў замежнай куртцы, якая раней належала ўласніку рэстарана, пачне свой бізнес і адчыніць кавярню з кавай навынас.

На нашых суайчыннікаў чужыя рэчы дзейнічаюць, ну, не ведаю, быццам прышчэпка еўрапейскіх каштоўнасцей, еўрапейскага характару, еўрапейскага ладу жыцця. Такі спосаб знешняй адаптацыі: нашы людзі даношваюць еўрапейскія рэчы, а рэчы напаўняюць іх еўрапейскай энергіяй. На сталых людзей дзейнічае горш, на маладых лепш — маладая энергія лягчэй паддаецца ўплыву, а старая такая задубелая, а дуб шалікам не падсячэш — так, галіначку падвязаць, каб хоць які вынік атрымаўся. Ну, вось. Зразумела што-небудзь?

— І ты дапамагаеш распаўсюджанню гэтых… каштоўнасцей ці насамрэч проста барахла?

— Калі спрошчана, то так.

— А калі няспрошчана, то хто гэта прыдумаў? Каму гэта патрэбна?

— Гэтага я не ведаю. Тое, што я распавяла, мне расказалі, калі бралі на працу. І крыху сама дадумала. А больш мне ведаць не трэба. Раз у месяц бывае завоз, я атрымліваю новыя рэчы, вяртаю тое, што зусім не прадаецца. Здаю грошы, пакідаючы сабе зарплату. Два выходных у тыдзень. Тады магу выпраўляцца ў падарожжы. Як ты разумееш, па Еўропе. Але спачатку вандравала так, як ты сёння, — у альтэрнатыўных рэальнасцях. Цяпер мне даступны іншы ўзровень — перамяшчэнне ў прасторы.

Некалькі хвілін у вагончыку была цішыня. Аля ўстала і зноў прайшлася паміж радоў. На гэты раз яны не нагадвалі лес — хутчэй лабірынт, у якім можна і згубіцца, і нечакана знайсці выйсце.

— Ведаеш, Жэня, калі ты толькі тут з'явілася са сваім вагончыкам, ты нагадала мне Элі, занесеную сюды з далёкай краіны. А зараз я бачу, што ты і ёсць Элі: у бясконцым падарожжы, сам-насам з сусветам.

— Так, гэтаму століку ўжо хопіць. Больш піва не атрымаеш.

— Раскажы, раскажы яшчэ. Дзе ты пабывала?

— Няўжо табе хочацца распытваць? Перад табой — столькі магчымасцей. Ты можаш не слухаць, а ўдзельнічаць! Гэта ж самае неверагоднае здарэнне ў тваім жыцці, а ты: «Раскажы, раскажы». Валі туды сама! Хопіць быць слухачом, цуды могуць адбывацца і з табою.

— Сёння позна.

— Дзевяць гадзін. Яшчэ адзін раз зганяць паспееш! Ну, давай! — Жэня амаль угаворвала.

— А давай! Што параіш?

— Эх, нікуды без інструкцый — завязвай з гэтым. Дам параду апошні раз, пасля — сама. Заўжды выбірай нешта нязвыклае. Памятаеш памаранчавы швэдар? Жыццё амаль не змянілася, бо ты апранула амаль тое, што і заўжды. Калі хочаш нязвыклага, не таго, што ўжо маеш, дык і рабі нязвыклае.

Аля ціха пайшла па лабірынце. Гэтак яна хадзіла ў кніжнай краме, шукаючы, што пачытаць. Тут замест кніг былі пінжакі і спадніцы, але кожная рэч таксама абяцала перанесці ў іншы свет: «У якое жыццё занясе гэты пярэсты кафтан? Мабыць, што-небудзь веганскае. А спартыўная байка? Буду фітаняшкай. А вось гэта?»

І тут Аля ўбачыла яе.

Сукенку-Якую-Няма-Куды-Насіць.

Яна і раней заўважала такія, але то былі сукенкі не з яе жыцця, а з паралельнага сусвету. І не таму, што занадта дарагія: у яе жыцці не адбывалася нічога, што дало б нагоду апрануць нешта прыгожае.

Апранула яе — блакітную, доўгую, неверагодную. Паглядзела ў люстэрка — русалка з рудымі валасамі. Аля ўжо і забылася, што падобная да русалкі. Забылася і пра тое, як ёй пасуе такое адзенне.

— Элі, я знайшла нязвыклае, — Аля адсунула фіранку. — Мне здаецца, мы з гэтай сукенкай былі знаёмыя ў мінулым жыцці.

— Выдатны выбар, — Жэня паглядзела нечакана сур'ёзна. — Ты адразу змянілася.

— То вырашана: бяру яе. І мы пайшлі. «Паваліліі», як ты і хацела.

— Пачакай. Ёсць адна праблема, — Жэня збянтэжылася. — Сукенка даражэйшая за той швэдар, таму я не магу яго на яе памяняць. «У кожнай рэчы ёсць свая цана», — гэта правіла крамы, якое я не магу парушыць. Выберы штосьці іншае.

— Не, хачу яе.

— Тады, калі не шкада, абмяняй яе на сваю куртку. Гэтага будзе якраз дастаткова.

Аля павагалася: можа, вярнуцца заўтра з грашыма? Але прыгоды, але сёння, але карціць. І зірнула на сябе ў люстэрка. Русалка ўсё вырашыла:

— Забірай.

Жэня схапіла куртку, бы злавіла ў абдымкі:

— Ведай, я раблю для цябе выключэнне.

— Нічога не хачу чуць. Мы пайшлі.

І нырнула ў вечаровыя прыцемкі, і паплыла дадому. Калі б яна азірнулася, то пабачыла б, што Жэня ўсё яшчэ стаіць і прытуляе куртку да сябе.

* * *

Аля ціха адамкнула дзверы: у калідоры было цёмна, моцна пахла кветкамі. Запаліла святло.

— І дзе ты хадзіла?

Панкаў няма, таўстух няма, голас з пакою — мужчынскі. А вось і мужчына. Пацалаваў.

— Вельмі прыгожая сукенка, вельмі табе пасуе. Бачу, ты гатова ехаць.

У галаве пачало тлуміцца. «Згадай, калі ласка, што ты актрыса. Ну, калі ласка. Ну, родненькая. Давай падыграй яму. Вельмі цябе прашу».

— І куды мы едзем? — так сабе фраза, але для пачатку лепей, чым самлець.

Пакой выглядаў гэтаксама, як і ў яе жыцці: тыя ж шпалеры, тая ж канапа. Толькі вось вялізны букет чырвоных руж. І высачэзны мужчына. А так усё такое ж.

— Разумею, што няма ў гэтым горадзе годнага месца, каб адзначыць такую падзею, але спадзяюся, мой выбар рэстарана табе спадабаецца, — мужчына (хоць бы імя сваё назваў, ці што) паглядзеў на гадзіннік. — Час ехаць. Аля, астатнія кветкі я паставіў у кухні, калі ты не супраць. Водар вельмі моцны — спаць будзе немагчыма.

«Астатнія?»

— Я вады хачу, — буркнула (знаходлівая, малайчына!) Аля і амаль што пабегла на кухню, а там — кветкі, кветкі, кветкі. Кветкі.

— У горадзе болей няма кветак: твае прыхільнікі знеслі ўсе да тваіх ног. Таму давай сёння адзначым тваю прэм'еру. У мяне ёсць план, як гэта зрабіць.

«І чаму ён не размаўляе, як у старыя добрыя часы? «У мяне ёсць план, як гэта зрабіць, не быў бы я Даніла!»

— Каханы (выдатны зварот!), я згодна ехаць з табой куды хочаш, нават у рэстаран.

— То я выклікаю таксі?

Стоп. А ці можна так? Ці можна пакідаць кватэру? А калі дванаццаць ночы? Сукенка знікне? Дрэнна, што не распытала ўсяго. Рызыкнуць? Але эфект Папялушкі і ўсё такое, а пасля сядзець у рэстаране голай? А калі ёй спадабаецца і яна вырашыць застацца ў гэтым, палепшаным, жыцці, ці будуць тут яе бацькі? Патрэбна яшчэ адна інструкцыя.

Аля схапіла букет:

— Каханы, ты пачакай крыху, я толькі занясу кветкі суседцы. Яна такія любіць.

І выслізнула з кватэры.

На двары была зусім ноч, але яе холаду Аля не адчувала. «Толькі б ён не знік, пакуль я хаджу туды-сюды».

— Элі, нарэшце я трапіла ў вартыя дэкарацыі, — крыкнула яна з парога і спынілася. «Элі» стаяла з сумкай у руцэ, апранутая ў яе куртку. Гэта было непрыемна.

Калі людзі апранаюць ваша адзенне, звычайна гэта смешна — глядзець, як ваша вопратка ходзіць побач, самастойна, без вас, размахвае рукавамі, штосьці гамоніць. А тут зрабілася чамусьці страшна.

— Я прыйшла спытацца, ці можам мы паехаць у рэстаран. А чаму на табе мая куртка?

— Бо мы памяняліся, памятаеш?

— Так. Але, можа, я лепей прынясу табе грошы?

— Мне не патрэбны грошы. Мне было патрэбна тваё адзенне. Шкада, канечне, я думала, што ты там даўжэй пабавішся. Ды атрымалася, як атрымалася. Ты больш туды не вернешся, Аля.

— Я не вярнуся да Данілы?

— Не, ты больш не вернешся ў свае жыццё. Ты аддала мне сваю куртку. Я аддала табе сваю працу. Мы памяняліся.

Калені падагнуліся, і Аля ўпала ў фатэль:

— Толькі вось мне неабходна іншая згода на абмен. І спадзяюся, гэтая згода будзе атрымана. Памятаеш, я расказвала пра сваіх знаёмых, што заставаліся ў тым жыцці, якое ім падабалася? Калі б ты засталася ў той кватэры, то жыла б адным і тым днём, зноў і зноў, ён бы паўтараўся бясконца. Каб жыццё пайшло сваім шляхам, павінен адбыцца абмен: хтосьці ідзе туды, хтосьці застаецца тут. Ты заставайся, а я пайду. Нічога, што я вазьму тваю піжаму?

Аля паспрабавала падняцца, але сукенка налілася такой вагой, што немагчыма было паварушыцца. У галаве ўсё паплыло. І ўжо праз сон пачула:

— Так і ведала, што згода будзе. Дабранач.

Сноў ніякіх не было. Ці гэта быў суцэльны сон?

* * *

Разбудзіў пах кавы. «Сон, так, гэта быў сон».

— Прачынайся!

Не.

— Хутчэй, я спяшаюся, а мне трэба табе шмат распавесці. Пра цябе клапачуся, між іншым.

Аля расплюшчыла вочы — «Элі».

— Ты пакуль што яшчэ не зможаш падняцца. У мяне ёсць такая перавага, ды хутка яна знікне. Пі, — «Элі» працягнула кубачак. — І слухай.

Аля зрабіла глыток. Зноў апоіць? Няхай.

— Гандаль — справа нескладаная. Табе прывозяць рэчы. Ты сама пішаш кошты на цэтліках, як прыдумаеш. Грошы аддаеш у дзень прывозу. Сабе пакідаеш зарплату. Гэта я табе казала, але паўтару. Праверкі сюды ніколі не прыходзяць, не хвалюйся. І галоўнае, — Жэня дастала з кішэні ключы і паперку з адрасам, — ты зможаш падарожнічаць. Па Еўропе. На жаль, толькі па суботах і нядзелях — такія туры выхаднога дня. Тут побач гатэль, нумар — за табой. Краму тады зачыняеш. Грошы — у цябе будуць, але там іх траціць можна толькі на ежу. І вось яшчэ: табе неабходна вярнуцца ў нядзелю да поўначы. Не вяртаешся — назаўжды губляешся недзе ў прасторы. Тут вельмі простыя правілы.

«Элі» паглядзела ў акно, быццам кагосьці чакала:

— Апранаеш рэч. Ідзеш у свой нумар — трапляеш туды. У якой краіне хочаш апынуцца, рэч з той краіны і апранаеш.

— Ты кудысьці спяшаешся? Карціць пачаць жыццё няўдалай акторкі?

— Мы з'язджаем на дачу.

І тут у вагончык увайшла маці. Альчына маці.

— Жэнька, ужо час ехаць. Ты казала, што хутка вернешся.

— Ма, мы ж вырашылі ехаць так раптоўна, у мяне засталіся справы.

— Добры дзень, — павіталася маці з Аляй. — У вас вельмі прыгожая сукенка.

— Дзякуй. Хутка ў нас завоз, — Аля сама не ведала, што гаворыць.

— О, нам «хутка» не падыдзе. Мы на дачу, на месяц. Дачцэ патрэбны адпачынак. Яна ў нас актрыса, — усміхнулася маці. — Ну, давай, бацька ўжо прыехаў. Мы чакаем, — сказала гэта той, іншай, і выйшла з вагончыка.

— Маці мяне забыла?

— І яна, і ўсе. Цябе ніхто больш не згадае.

— А калі я адмоўлюся гандляваць?

— Так, ты можаш адмовіцца. І вось хутка скончацца грошы. А ў цябе няма ні дакументаў, ні сяброў, і падзецца табе няма куда. Тады ты, напэўна, будзеш стаяць пад сваёй, ужо маёй, кватэрай, і сэрца тваё будзе абліваецца крывёю. І маё таксама, таму мне бачыць гэтага зусім не хочацца. І каб не бачыць, я вырашыла ўсім нам палегчыць перыяд адаптацыі — пакуль мы пабудзем на дачы. Час бегчы. Яшчэ пытанні?

— Адно. Чаму я?

«Элі» ўжо трымалася за ручку, але вярнулася і села на канапку.

— Ты не першая мая спроба. Але першая, каму атрымалася перадаць працу, — па нейкіх прычынах ты пасуеш да гэтага месца. Яно згадзілася цябе прыняць. Да таго ж, — памаўчала, — ты мне спадабалася. Я назірала за табой, за бацькамі. Мне спадабалася тваё жыццё.

— Ты яго не ведаеш!

— А ты? Дык вось, яшчэ крыху пра правілы. Спачатку ў цябе выпрабавальны тэрмін, але тут ён маленькі, з месяц. А пасля, калі праца табе надакучыць, ты павінна знайсці сабе новае жыццё. Так, як знайшла яго я. І парада на развітанне: гэта будзе лягчэй зрабіць, калі вагончык пераедзе ў іншае месца, — тут я ўжо некалькі разоў спрабавала, варыянты не спрацавалі. Ну, акрамя цябе, канечне. Бывай.

«Элі» зачыніла за сабой дзверы.

Аля сядзела ў фатэлі і трымала ў руках халодны кубак з кавай. Праз гадзіну яна змагла падняцца. І першае, што зрабіла, — зняла і выкінула сукенку. Замест яе апранула свае старыя джынсы і расцягнуты блакітны швэдар.

І тут зайшоў першы пакупнік. Пасля яшчэ адзін, і цэлая сям'я, і яшчэ, і яшчэ. Аля не глядзела на іх: добра, што ў яе нічога не пыталі і не звярталіся па дапамогу. Бралі рэчы, мералі, вярталі назад ці набывалі. І вось тут трэба было напружыць усю сваю моц: падлічыць грошы, каб даць рэшту. А гэта вельмі замінала думаць.

— Я вазьму гэтыя джынсы.

Трыццаць, без рэшты, цудоўна.

«У мяне ёсць ключы, я магу трапіць ў кватэру, каб… Каб проста трапіць. Можа, яна падманула, і там ёсць мае дакументы». Паляпала па кішэнях — пуста. «Сучка. Чаму я ўвогуле ёй веру? Так, у мяне ж ёсць мабільны! Каму патэлефанаваць? Калі бацькам, пэўна, слухаўку возьме яна».

— Куртка.

«Дае шэсцьдзясят. Куртка каштуе пяцьдзясят шэсць пяцьдзясят. Колькі рэшты? Мабільны, мабільны, калькулятар. Тры пяцьдзясят». Мабільны застаўся ў руках. Спярша Аля патэлефанавала лепшай сяброўцы, якую ведала з першага класа. Рыта сказала, што памыліліся нумарам, бо яна незнаёмая з ніякай Аляй. Пасля гэтага Аля вырашыла тэлефанаваць усім па чарзе. Магчыма, гэта жарт, вельмі жорсткі жарт, у якім згадзіліся ўдзельнічаць яе бацькі і сябры, іх падгаварылі, і Аля была згодна дараваць гэтую жорсткасць, каб толькі тое скончылася. Тады гэта змова, вядома, змова, але…

— Мне куртку і цішотку.

«Так, дванаццаць плюс сорак восем, шэсцьдзясят, усё дакладна, без рэшты. Калі гэта змова, то немагчыма, немагчыма падгаварыць усіх знаёмых». І Аля пачала тэлефанаваць. Усё жыццё прайшло перад яе вачыма: аднакласнікі, аднагрупнікі, калегі, парыкмахерка, стаматолаг, дырэктар яе тэатра, суседка. «Ваня кафэ», «Ларыса касцюм», «Ігар рыторыка». Ніхто не ведаў Алю. Залезла ў сацсеткі — яе акаўнты выдалілі. Набрала па памяці (так, на жаль, па памяці) нумар свайго былога каханага (нумар быў выдалены з кантактаў, яго забыліся намовіць) — і ён не ведаў Алю. Ніхто не ведаў.

— Гэтую сукенку.

Сукенка — плата. Усё дакладна, без рэшты.

Працоўны дзень скончыўся — Аля ўзяла ключы ад гатэля, паперку з адрасам і зачыніла краму. Калі праходзіла паўз свой пад'езд, з'явілася апошняя надзея. Канечне, у кватэру яна не трапіць, але гэта яе дом, ён павінен яе пусціць. Вельмі павольна, лічба за лічбай, набрала код. Не падышоў. Пасля яшчэ раз. І яшчэ, змяніўшы парадак лічбаў. Нічога. І гэтая апошняя няўдача так балюча кальнула сэрца, што Аля не вытрымала і заплакала. Адна, зусім адна ў цэлым свеце.

І так і пайшла, плачучы, да гатэля. І плакала ўсю ноч у сваім маленькім халодным нумары на маленькім ложку, плакала без суцяшэння і без надзеі. А пасля заснула. І як заўжды, калі прачыналася пасля «слёзных» начэй шкадавання, на раніцу з'явілася жорсткасць і абыякавасць да сябе.

У ванным пакоі — ўсё неабходнае: шампуні, рушнікі, нават касметыка. У шафе — новая бялізна.

«Клапатлівая сучка», — падумала Аля. І больш думаць пра яе сабе забараніла.

Па дарозе на працу зайшла ў гіпермаркет, купіла сэндвіч, каву і зарадку для мабільнага. Чацвер, гэта быў чацвер, да выходных засталося толькі два дні. Можна было патрываць. Галоўнае — рабіць усё механічна, паводле інструкцыі, дакладна лічыць грошы. І не глядзець у бок дома.

* * *

Пакупнікоў прыходзіла няшмат, з размовамі не чапляліся, толькі адна бабулька спытала: «А завоз у вас будзе ў наступны панядзелак, як заўсёды?» Ну, калі ў нас так заўсёды, то чаму б і не — Аля кіўнула. Больш размоў не было. Толькі перавешвала рэчы, пералічвала грошы, перапыняла непатрэбныя думкі.

Калі прыйшоў вечар пятніцы і краму пакінуў апошні пакупнік, Аля вельмі доўга вырашала, у што пераапрануцца: яна не ведала, якая рэч з якой краіны. Спачатку шукала, што спадабаецца ёй. На сукенкі не глядзела. Пасля кінула байкі і вырашыла знайсці тое, што ў мінулым жыцці не насіла. Цікава, трэба пераапранацца ў суботу раніцай? Ці з вечара пятніцы, каб больш часу засталося на падарожжа? Пэўна, з вечара пятніцы. Перамерала некалькі варыянтаў, стамілася, вырашыла, што ўсё адно, і схапіла першую байку, якая трапіла пад руку.

У нумары байку апранула — і нічога. Адчула сябе дурай — няўжо і тут падман, і будзе толькі дрэннае, а абяцанае добрае — не здзейсніцца? Распранулася. Зноў апранулася і залезла на ўсялякі выпадак ў шафу, зачыніла за сабой дзверы. Вылезла — нічога не змянілася. Дура і ёсць. Лягла спаць. На ўсялякі выпадак, у байцы.

Прачнулася — зноў нічога. А гэта ўжо не вечар пятніцы, гэта — субота. Лепш бы ёй не абяцалі казку — тады б яна яе не страціла.

Аля адчула, што вельмі галодная: ела толькі той раптоўны сэндвіч, а так піла каву — і, нацягнуўшы джынсы, выправілася ў краму.

Адчыніла дзверы — там быў не калідор. Лесвіца, вялізная каменная лесвіца. Аля падняла галаву — і вось яна, казка. На яе з дома насупраць глядзела гаргулья. Па вуліцы ішлі мніхі ў чорных расах, блазны ў стракатых касцюмах і гандляр з вялізнымі лялькамі. Пранеслася карэта, якой кіраваў кучар у джынсах. Здалёк пачулася музыка — той самы гадзіннік. Тая самая Прага.

Аля зачыніла дзверы. Зноў адчыніла — Прага нікуды не знікла. Прага! Схапіла грошы, якія ляжалі ў тумбачцы (дзякуй за еўра!), і пабегла ў горад.

Прага была для яе першым горадам па-за межамі. Па-за межамі ўяўнага, па-за межамі досведу, па-за межамі магчымага. То бок, першым горадам па-за межамі Беларусі і постсавецкага свету, куды яна трапіла. І тады таксама здалося, што апынулася ў казцы. Ці за кулісамі тэатра: міфічныя дамы, хімеры, статуі. Аля марыла, што стане знакамітай і прыедзе сюды з гастролямі, каб пажыць даўжэй.

І вось, прыехала. Аля ішла па знаёмых вуліцах і цешылася з таго, што яны знаёмыя, а калі стамілася, купіла глінтвейн і выправілася да сабора Святога Віта. Ужо зачынены, але і побач яна магла стаяць гадзінамі. Увасабленне прыгажосці, іншакраіннай, іншасветнай. Уначы яшчэ прыгажэйшы: здавалася, яго карункавыя вежы выразаны з цемры, ды гэтая цемра імкнецца да неба.

Вяртацца не хацелася, але сіл зусім не было. Аля адмыслова выбрала шлях цераз Карлаў мост — ніколі не бачыла яго пустым, а цяпер — толькі яна і статуі па баках. Паднялася па лесвіцы — а ўнутры ўсё тое ж: халодны нумар, маленькі ложак. У яго Аля ўпала, і больш нічога не было.

Раніцай Прага не знікла. Не знікла яна і пасля таго, як Аля прыняла душ. Страшэнна балелі ногі — як заўжды ў паездках. Таму ў нядзелю Аля ўсё больш сядзела: спачатку — у кавярні на Верхнім намесце, пасля — у трамваі: глядзела горад. Пад вечар — у рэстаране. Канечне, піўным. Піла няшмат: заўтра на працу.

* * *

Панядзелак пачаўся звычайна: пакупнікі, рэчы, грошы. Чэшскую байку Аля павесіла назад — яна не яе, для гандлю. І толькі калі пад вечар у дзверы ўваліўся высокі мужчына з клункамі, Аля згадала: сён-

ня завоз! Бамбіза не здзівіўся, калі пабачыў Алю, увогуле не выказаў ніякай рэакцыі: прынёс клункі — забраў грошы — пакінуў некалькі паперак еўра — сабраўся сыходзіць. Усё, як робат, ці хутчэй Жалезны Чалавек. Але на твар — Страшыдла.

— Ведаеце, я не гандлярка, я актрыса. І таму не маглі б вы перадаць там, што гэтая роля не для мяне?

Жалезны Чалавек моўчкі паглядзеў на яе і зрабіў тое, што і збіраўся — сышоў. Вось, сапраўды, сэрца яму бракавала.

І раптам — клункі былі падпісаны! Гэта значыць, яна магла выбіраць напрамак: Нідэрланды, Германія, Францыя, Фінляндыя, Бельгія. Вось, значыць, рысы якіх нацыянальных характараў завезлі да яе ў краму. Хто там палічыў, што менавіта іх не хапае беларусам? Але спытаць — няма ў каго, таму пагодзімся і будзем маўчаць.

Увесь тыдзень Аля жыла гэтымі клункамі: перабірала, падпісвала, прыдумвала кошты і пазначала «нацыянальнасць» рэчы, каб не пераблытаць маршруты. Што не паспела перабраць, пакінула ў вялізнай скрыні, якая стаяла каля акна. І увесь тыдзень Аля задыхалася ад густога хімічнага паху, якім былі насычаны рэчы: здавалася, ён насыціў і яе — валасы і скуру, і толькі гарачы душ мог яго змыць. І ўвесь тыдзень Аля выбірала, куды б ёй паехаць. Не. Паляцець? Патрапіць.

Выбрала Нідэрланды, бо хацела ў Амстэрдам. І там яна была (і шмат хто быў — гэты горад, як і Прага, быў адным з абавязковых маршрутаў для наведвання сярод яе сяброў). Цяпер, калі ўсё яе жыццё здавалася чужым і незнаёмым, яе вельмі цягнула да знаёмых месцаў.

У суботу апранула цішотку — адчыніла дзверы — і выйшла з хостэла каля плошчы Дам. Пашэнціла! Пашыбавала знаёмымі вузкімі вулкамі, чорнымі і рудымі, купіла смажаную бульбу ў кулёчку, пакаталася на кацеры па каналах, завітала на рынак цюльпанаў — і ўвесь час згадвала, як рабіла тое ж, але з сябрамі. Каб пазбавіцца думак, выправілася туды, куды ў мінулы раз не трапіла: рэшту дня правяла ў музеі Ван Гога. Але і там не магла пазбыцца ўспамінаў: гледзячы на карціну са спальняй, згадала ўласную кватэру, якую ў яе адабралі. Наступным разам трэба выпраўляцца туды, дзе не будзе напамінаў пра мінулае.

У дрэнным гуморы вярнулася да плошчы Дам. Яна абяцала сабе больш ніколі не катацца на «Чортавым коле», размешчаным побач з Боскім саборам, але зноў палезла. І там, наверсе, заплюшчыўшы вочы, зноў абяцала, што больш ніколі, абы толькі спусціцца на зямлю. Калі спусцілася, успомніла, што побач знаходзіцца кітайскі рэстаранчык, — і вырашыла апошні раз схадзіць у знаёмае месца.

Пакуль ела лапшу ў кісла-салодкім соусе (у Мінску такой няма), аглядала наведвальнікаў. Стыльныя прычоскі, стыльная вопратка, спартыўныя постаці. І ўсе прыгожыя. Асабліва мужчыны. Асабліва адзін. І чаму ў нас такіх няма? Добра, ёсць, але не столькі ж. І не такія.

Ён сядзеў адзін і таксама еў лапшу. А Аля тым часам прадстаўляла сабе яго жыццё. Будуе яхты. Тройчы на тыдзень ходзіць у трэнажорку. І гэта відаць нават праз кашулю. Дарэчы, сам сабе мые і прасуе кашулі — бо не чакае, што хтосьці іншы (іншая) павінен рабіць тое за яго. Стоп. Мые кашулі. «Абавязкова памыйце рэчы перад тым, як апранаць». Гэта правіла. Яно вісіць на сцяне. Таму гэта правіла. А яна ж ім ніколі не карысталася. А што будзе, калі скарыстаецца? Аля відавочна адчула хімічны пах ад сваёй цішоткі, які перабіваў нават пахі кітайскага рэстарана. Калі яе вымыць, мо яна пазбавіцца мораку?

Думкі ліхаманкава круціліся ў галаве, і Аля забылася, што ўсё яшчэ глядзіць на кашулю незнаёмца. Той перастаў есці і таксама паглядзеў на Алю. Яны сустрэліся позіркамі.

Аля ведала, дзе тут пральня. Тэрмінова трэба туды. Яна пакінула грошы і выскачыла з-за століка.

Незнаёмец таксама падняўся і накіраваўся насустрач. Ах, цудоўны горад, дзе ўсё проста, а чароўныя незнаёмцы самі падыходзяць знаёміцца, але не да часу, не да часу! Трываць немагчыма было ні секунды.

Аля бегла, абганяючы ровары, да памяшкання з вялізнымі пральнымі машынамі. Нейкая дзяўчына збіралася закідваць свае рэчы: яна ўсміхнулася, адмовілася ад грошай, а цішотку ўзяла. Аля засталася чакаць ў станіку, у пральні з акном ва ўсю сцену. Але гэта Амстэрдам — тут такім нікога не здзівіш.

Хацела апрануць мокрую цішотку, але дзяўчына настаяла на тым, што трэба пасушыць. Добра, пасушылі. Пасля — з усіх ног дадому. Перад самымі дзвярыма стала жудасна: а што, калі не адчыняцца і яна застанецца тут?

Не, пусцілі назад. Была ноч, і Аля не ведала, як праверыць, ці спрацаваў план. Мабільны. Каму патэлефанаваць? Маці. Першы званок — ёй.

Гудкі.

Ну, пазнай мяне, пазнай.

— Слухаю, мая родненькая.

Гэты голас.

— Я думала, ты адразу патэлефануеш. Чаму столькі чакала?

«Элі».

— З-за цябе я заўжды павінна быць побач з гэтым тэлефонам. Не трэба, каб ты турбавала маці.

Алю перасмыкнула:

— Гэта мая маці.

— Нарэшце! Падала голас. Паслухай мяне. Я дазволіла скарыстацца правам апошняга званка, каб яшчэ раз сказаць: цябе тут больш няма. Усё па-сапраўднаму. А зараз дадам твой нумар у блэк-ліст. І табе будзе лягчэй.

— Не трэба!

— Мне не трэба, каб ты ім званіла. Усё. Як сама? Падарожнічаеш?

— Падарожнічаю.

— Ну, падарожнічай.

Гудкі.

У чыстай цішотцы Алю ў Амстэрдам не пусцілі — дзверы адчыніліся ў калідор гатэля. Нікуды ісці не хацелася — усю нядзелю яна пракачалася ў ложку.

* * *

На наступным тыдні Аля не магла думаць пра тое, што адбываецца тут. Не хацела. Не хацела думаць пра краму, пакупнікоў, правілы. Тут — абрыдлая праца. Усімі думкамі — там. Бо там — мара. Увесь вольны час сядзела ў інтэрнэце: чытала пра краіны, іх ежу, славутасці, звычаі, адзенне, гарады, рэстараны, транспарт. Ці мала куды яна трапіць — трэба падрыхтавацца. Крыніц было шмат: гіды анлайн-часопісаў, парады мясцовых, водгукі суайчыннікаў — тых, хто адтуль вярнуўся. І тых, хто не вярнуўся.

У пятніцу яна выбрала кашулю з Бельгіі і яшчэ адну — з Фінляндыі. Трэба было праверыць, ці можна наведаць дзве розныя краіны за адны выходныя.

Дзверы адчыніліся на бельгійскі пляж: гатэль стаяў зусім побач з узбярэжжам. Паўночнае мора. Халоднае. Суворае. Шалёнае. Мора ёй не хапала больш за ўсё. Калі верыць гісторыкам, сацыёлагам і каму там яшчэ, мора не хапала ўсёй краіне. Для вольнага характару.

У турыстычным шапіку Аля прачытала: Ostende. Вецер мацнеў, надвор’е псавалася, людзі сыходзілі з пляжа. Аля накіравалася да вады: вось што ў нашым характары, дык гэта імкнуцца да мора, не звяртаючы ўвагу на абставіны, і купацца, нават калі холадна.

Вецер калмаціў валасы, кідаў у твар пясок і салёныя пырскі. Кашуля прамокла, марозіла скуру. Вялікая хваля дакацілася да яе кедаў: яны адразу набралі вады. Вяртацца дадому і тым больш пераапранацца не хацелася.

Аля павярнулая да горада: на узбярэжжы было шмат рэстаранчыкаў. Жоўтыя агеньчыкі пад шэрым навальнічным небам. І хоць нацыянальны характар настойваў на тым, што неабходна акунуцца (ат, якія там хвалі!), дзяўчына пайшла да гэтага святла.

Завярнулася ў плед і, і прытрымліваючыся парады невядомага падарожніка з інтэрнэту, замовіла пшанічнае піва. Яго, як і чакала, прынеслі з долькай апельсіна. І толькі Аля падумала пра тое, што неяк яна вандравала апошнія тыдні па піўных крамах і трэба наступным разам выбраць вінную, як пабачыла за суседнім столікам яго — будаўніка яхт з кітайскага рэстарана.

Добра, жыццё — суцэльная верагоднасць, і цалкам магчыма, што ён на мінулым тыдні быў у Амстэрдаме, а цяпер — трапіў у Астэндэ. Такі сабе «Лятучы галандзец».

Ён устаў і «падплыў» да Алі:

— Ну, сёння ты ў пледзе, і так хутка збегчы не атрымаецца. Вітаю!

— Чаму ж! Я чэмпіён Фрунзенскага раёна па бегу ў пледах.

Аля падумала, што гэта самая недарэчная фраза, вымаўленая на гэтым беразе Паўночнага мора, і толькі пасля пра тое, што не, гэта не супадзенне, бо ён яе суайчыннік.

«Галандзец» усміхнуўся і сеў насупраць:

— Дык вось каго яна выбрала замест сябе.

«Галандцу» прынеслі каву, і цяпер ён сядзеў і размешваў лыжачкай цукар — укінуў у вір маленечкі ладненькі кубік. Аля заўжды пачувала сябе няёмка, калі яна піла, а суразмоўца абыходзіўся чымсьці безалкагольным, але тут вырашыла, што так яно і лепей, — і зрабіла глыток, каб паказаць, што нічога не баіцца. Долька сарвалася з краю келіха і нырнула ў празрыстую глыбіню. «Галандзец» скончыў перамешваць.

— Так, яна выбрала мяне. На жаль, гэты выбар са мною не быў абмеркаваны.

— Так заўжды і бывае, — «Галандзец» паглядзеў на мора. Пачалася залева, і мяжа паміж вадою і небам сцёрлася. — Мяне завуць Антон. Ты ж не думала, што адна ў гэтым свеце таннай вопраткі? У нас сетка — па ўсёй краіне. Мабыць, ты заўважала, што ў апошнія гады адчынілася шмат сэкандаў. Дык вось, гэта мы.

— Мы — хто гэта?

— Гэта пытанне пакіну без адказу. У Мінску зможаш пазнаёміцца з іншымі, каб не адчуваць сябе самотнай.

— А калі я не хачу знаёміцца? Не хачу сядзець у смярдзючай краме? Не хачу несці разумнае, добрае, вечнае?

— Ты заключыла дамову. Як яе разарваць, табе расказалі. Расказалі ж?

— Але тады я не вярну сваё жыццё.

— На жаль. Але калі мяне дакладна праінфармавалі, ты не была ім задаволена, ці не так?

Аля зрабіла глыток. Апельсін так і застаўся на дне.

— Ці не здавалася табе, што ўсё навокал, — табе насуперак? І не для цябе. І што жыццё ёсць, канечне, але там, там. І калі б табе іншыя абставіны — усё было б па-іншаму. Дык вось, цяпер у цябе будзе шанец выбраць сабе абставіны. Мне казалі, што ты актрыса. Гэта і добра — будзеш проста прымерваць ролі.

За вокнамі біўся вецер — здавалася, ён хутка падгоніць мора пад вокны, а яно раздавіць шкло і ўцягне Алю да сябе. Зрэшты, яе называлі русалкай.

— А ты хто? Гандляр?

— Я пастаўшчык. Я фарміру партыі і размяркоўваю іх па гарадах. Сачу, што каму патрэбна і ў які момант.

— Антон, можа, ты мне адкажаш, навошта гэта ўсё?

— Попыт. На гэта ёсць попыт. Уяві, гадоў трыццаць таму ніхто і падумаць не мог, што можна будзе вось так на выходныя злятаць у Берлін, а квіток на самалёт будзе таннейшы, чым на цягнік да Масквы. Меж няма. Фізічных меж. Засталіся межы метафізічныя. Калі яны сатруцца, вам жа будзе лягчэй. А каб зразумець іншага чалавека, ёсць такая прымаўка: «Трэба пахадзіць у яго чаравіках». Put yourself in someone's shoes.

— У нас кажуць: «Свая кашуля бліжэйшая да цела».

— Казалі. А пасля з'явіліся сэканды.

Віхура за акном пачала супакойвацца. І пакрыху Алю апанавала стомленасць.

— Антон, а ты адкуль?

— З Мінска. Вучыўся ў Вільні. Там усё і пачалося.

Ён распавёў пра сваю вучобу, яна — пра сваю. Далей абмяркоўвалі новыя фільмы, старыя кнігі, іншыя гарады. Так за размовай прасядзелі да зорнай ночы, і калі Антон ужо разлічыўся і хацеў пайсці, Аля не вытрымала:

— Ты мне не дапаможаш вярнуць маё жыццё?

— А яно табе патрэбнае?

Памаўчаў.

— Некаторыя прадаўцы так, як ты, былі супраць. Яны спрабавалі парушаць правілы. Не выходзілі на працу ці выходзілі, але не гандлявалі, абражалі пакупнікоў. Нават гэта не вымушала нашу, не ведаю, як назваць, няхай «сістэму», адмовіцца ад іх. Нават у выпрабавальны тэрмін, калі ўвогуле ўсе дамовы парушыць лягчэй. У выніку ўсе рэвалюцыянеры ўцягваліся. Але такіх было мала. Больш — тых, хто цешыўся з магчымасці бясконцых падарожжаў.

— І апошняе пытанне. Ці нельга выбіраць для гэтай працы тых, хто згодны?

— Пэўна, нельга. Мяне самога так знайшлі. То бок, правілы прыдумваў не я. Я — пастаўшчык. За што

купіў, за тое і прадаю. І, Аля, вось яшчэ. Калі выпрабавальны тэрмін закончыцца, ты іх забудзеш. Знаёмых, сяброў, бацькоў. Усіх. Мінулага ў цябе не будзе. Толькі будучыня, а ў ёй — увесь сусвет. Павер мне, так трэба. Сваіх я не памятаю. Так лягчэй.

І пайшоў за дзверы, да мора, якое ўпадае ў сусветны акіян. Так трэба, так лягчэй.

* * *

Назаўтра яна апынулася ў Хельсінкі — значыць, за адны выхадныя можна патрапіць у дзве краіны. Тут таксама быў вецер, ды вельмі яркае сонца: белая скура хутка пачала гарэць. На гарадскім пляцы стаяла царква, высока, на прыступках. Калі Аля паднялася, пабачыла ўдалечыні Фінскі заліў: паромы адыходзілі ў Швецыю, Нарвегію, Латвію. Горад здаваўся пустым, зачыненым на ўсе замкі — нядзеля. На кірмашы ля самай вады Аля купіла і з'ела кавалак ласося. Выканала хаця б адну параду, якую давалі падарожнікі з інтэрнэту. І вярнулася дадому.

На наступным тыдні Аля ўпершыню паглядзела на пакупнікоў. Адны — хутка выбіраюць, прымерваюць, плацяць, збягаюць. Іншыя — доўга гуляюць паміж вешалкамі, зносяць ці не паўкрамы ў прымерачную, прымерваюць, ідуць па новае, зноў прымерваюць і купляюць цэлыя гурбы. Прыходзілі жанчыны, якія набывалі адзенне сваім дзецям і сваім мужчынам, і сяброўкі, якія дапамагалі адна адной вышукваць модную вопратку. Тут усе яе суайчыннікі дазвалялі сабе тое, чаго не маглі дазволіць сабе ў звычайных крамах, — прыдбаць шмат прыгожых сучасных рэчаў. З іншага пляча, канечне. Але тое, што састарэла для адных, яшчэ магло служыць іншым — больш таго, вельмі пасавала.

Зачыніўшы краму, Аля пайшла гуляць па мінскіх вуліцах: і гэтак жа, як упершыню паглядзела на пакупнікоў, падняла вочы на свой горад. Мінск больш не здаваўся стэрыльным, нудным, афіцыйна-дзелавым. Ён мяняўся: то там, то тут з'яўляліся месцы «не ад гэтага свету»: пра такія казалі, «як у Еўропе», бо калі апынаўся там, адчуваў сябе ў іншай, лепшай, рэальнасці. Але штосьці было ў іх мясцовае, сваё — і гэта лаялі, ды Алі гэтая «мясцовасць» падабалася. Узнікалі новыя прафесіі, цэлыя працоўныя класы найноўшых тэхналогій. І гэта не была падказка з «таго» боку: так прыдумалі свае. І было шмат людзей, апранутых па-новаму. Але хто можа з упэўненасцю сказаць, што яны пераймалі, а не стваралі свой стыль? Прастора навокал змянялася і рабілася прыдатнай для жыцця. Не, не змянялася — яе змянялі.

Узяць сэканды: з імі змянілася стаўленне да вопраткі ва ўсёй краіне, цяпер яны на кожным кроку. На кожным кроку. Аля згадала, што ёсць яшчэ невялічкі сэканд зусім побач, каля аўтобуснага прыпынку. Вось куды трэба было ісці ў першую чаргу — шукаць дапамогі, парады. Ці хаця б спачування.

Сэканд адчынены, але ў ім — нікога: працоўны дзень, амаль дзевяць гадзін вечара. Пах — той самы, што і ў яе краме, але да яго прымешваўся моцны пах добрай кавы і салодкай кветкавай парфумы. Ландышы?

— А вось і яна! Я ўжо думала, што не дачакаюся! То ты вельмі занята, каб праведаць суседку? Жартуюжартую, каву будзеш? — з-за вешалкі выйшла высокая белавалосая жанчына ў чорнай спадніцы і каралавай блузцы.

— Дзякуй, не трэба. А як ты мяне пазнала?

— А я не пазнала. Мне Жэнька твой здымак паказала, калі забегла на развітанне, — жанчына ўзяла кубак і цыгарэту і махнула рукой, запрашаючы з сабой на ганак. — Так спяшалася на «сваю дачу», усё паўтарала: «Надзя, калі Аля прыйдзе да цябе (дарэчы, я — Надзя), то ты ж дапамажы ёй па першым часе, слёзкі абатры, маршруцік парэкамендуй». А то ж Аля і не плача, і сама ўва ўсім разабралася. Дзе ўжо была?

— У Амстэрдаме, Празе, яшчэ ў Бельгіі.

— Нармалёва. Для пачатку, — Надзя зацягнулася. — Але толькі для пачатку. Запамінай: Францыя — але джынсы не бяры, а то занясе ў нейкі працоўны квартал Ліёна (там не файна, скажу я табе), выбірай сукенкі, як мага даражэйшыя, але тут ты не дура, разумееш, чаму. Цудоўна, калі завязуць Швейцарыю. Папярэджваю: гэта бывае вельмі рэдка, таму не вывешвай усе рэчы адразу на продаж, прытрымай што на ўсялякі выпадак, там краіна добрая. Ісландыю — ну, не ведаю, чакала я, чакала, так ні разу і не было. А як табе Ніца?

— Яшчэ не атрымалася трапіць.

— Ну, то будзеце ў нас на Калыме… — Надзя штурхнула яе локцем у бок і засмяялася, — запрашаю ў госці. Добра, што ты зайшла. Яшчэ б некалькі дзён і ўсё, прапаў бы мой шматгадовы досвед. Я, ведаеш,

пераязджаю. Хопіць мне тут мыкацца, а правілы гэтага не забараняюць, я так Антону і сказала. Між іншым, вы ўжо бачыліся? І як табе Антон? — яна шматзначна падняла брові. — Паразумеліся? Ці ты чырванееш? — і зноў штурханула.

— Расказваў, як жыць далей.

— Ат, шмат ён ведае, як жыць. Жэнька дурненькая. Яна мяне не слухала, ты паслухай: калі захочаш мяняцца, то мяняцца можна і на той бок. Канечне, гэта зашмат працы: горад падыходзячы адшукай, паматайся там, каб знайсці чалавека, якога можна будзе... Ну, з якім можна будзе памяняцца. Падрыхтуй там усё. А пасля, калі ўсё сарвецца, пачні зноўку. Ты мовы ведаеш? Я лінгвістычны скончыла, мне з гэтым прасцей.

— І ты зараз у Ніцу?

— На поўдзень Францыі, да Міжземнага морачка, — выкінула цыгарэту. — Аля, ведала б ты, колькі гадоў я над гэтым працавала! А цяпер — глядзі ты, расказваю і не баюся сурочыць. Бо там верная справа. Колькі мяхоў з вопраткай я перакапала-перацягала, каб знайсці гэту аднюткую рэч! Пінжак Шанель, канечне, пацяганы, але там гэта завецца «вінтаж». І вось у Ніцы ў кавярні да мяне падбягае жанчына: «Няўжо гэта тая самая мадэль? І у такім добрым стане? Прадайце за любыя грошы, я калекцыянер, мне жыцця не будзе без гэтага пінжака». Ага, думаю, а сама: «Не магу я прадаць, ведаеце, гэта тая самая мадэль, вінтаж, між іншым». Так мы і пазнаёміліся. Запрасіла да сябе: вялізны будынак, вокнамі да мора. Не замужам. Іду я па той хаце і думаю: «Божачка, і як мне так шчасціць, што і мужа сабе змагу выбраць, а не як тут, некаторыя, абы за каго, толькі б за мяжу». Некалькі тыдняў на выходныя толькі туды і «ездзіла». Усё даведалася пра яе: закупае вопратку для буцікоў. Амаль тое, што і я раблю. Ты паглядзі, як тут у мяне ўсё ўладкавана.

Яны вярнуліся з ганка ў краму: толькі сукенкі, спадніцы і блузкі, класічныя нагавіцы, строгія кашулі розных колераў. Некалькі з густам падабраных камплектаў з шалікамі і сумачкамі.

— Я люблю сваю працу, як бачыш. І мне падабаецца прыгожа апранаць нашых жанчын. А для некаторых толькі і магчымасці апрануцца, што ў сэкандзе. Таму я вельмі ўважліва выбіраю вопратку для сваёй крамы, шмат чаго вяртаю, адкуль прыйшло. І адразу бачу, што каму патрэбна. Вось цябе я б пераапранула ў штосьці больш «жаноцкае». Не, я не супраць нагавіц, калі толькі гэта не джынсы, але вось табе б я параіла…

— Дык што там Ніца?

— Ніца? Ніца неверагодная! Я ўжо люблю і той дом, і тую працу. Пытаешся, як я ўсё ажыццяўлю? Сказала, што я таксама калекцыянер і таму прадаць не прадам, але памяняюся на пінжак, апрануты на ёй у мінулы мой візіт, маўляў, яго мне не хапае ў маёй калекцыі. Яна там звар'яцела ад шчасця, але я зрабіла выгляд, што перадумала, каб памацней зачапіць, і вось узяла тыдзень на развагу. Насамрэч, на развітанне з Радзімай.

Надзя выключыла святло і зачыніла дзверы.

— Як жа ты памяняешся? Як яна тут зможа?

— А я як змагла? — Надзіны вочы прыжмурыліся, зрабіліся жорсткімі. — Я нічога не парушаю! І не трэба яе шкадаваць: тут усе былі супраць, калі пра мой план даведаліся, бо таксама «як адаптацыя, як мова». Як-як. Як-небудзь. Няхай хутчэй выпрабавальны тэрмін заканчваюць, няхай яна забывае ўсё хутчэй — за дзень, а не за месяц.

— І што, забываеш усё? І не памятаеш ні мясцін, ні сяброў, ні бацькоў? — вельмі ціха спытала Аля.

— Нічога, — жорсткасць знікла. — Мне сказалі пра лінгвістычны, бо высветліла: разумею некалькі моў. Больш нічога не засталося. Ведаю толькі, што маю звычку ўвечары выпіць кубак добрай кавы і люблю духі, якія пахнуць ландышамі. Але не ведаю, чаму люблю: ці мае яны, ці імі, напрыклад, карысталася маці. — І зноў усмешка: — Вось гляджу на цябе і думаю, не паспееш ты з майго досведу скарыстацца, пераробяць яны правілы, перакрыюць шлях на захад. Галоўнае, каб мне паспець. Не буду, пэўна, чакаць выходных. Бывай!

І пацалавала ў шчаку.

— Ты не чула, каб каму-небудзь вярталі яго жыццё?

— Ніколі. Я ж казала, тут усё па правілах. Іншая справа, калі абставіны добра складуцца. Вось як у мяне. Ды не, я свае абставіны сама па кавалачках, па шматочках складала. Але калі ты хочаш пажаліцца, ідзі да кіраўніцтва.

— І дзе мне яго знайсці?

— Там, дзе можна знайсці ўсё. На Жданах.

* * *

Назаўтра Аля паехала ў Ждановічы: добра, што будны дзень, таму аўтобус познім ранкам быў напаўпусты, не тое што ў суботу ці нядзелю — не ўціснуцца. Праязджала Надзін сэканд — зачынены: цалкам верагодна, што Надзя ўжо гойсае ў цёплых хвалях, а тут думаюць, як падрыхтаваць новенькую.

На рынку людзей было таксама няшмат: маленькі натоўп з аўтобуса расцёкся па тэрыторыі — адны накіраваліся за прадуктамі, другія — за шпалерамі. Аля і некалькі жанчын пайшлі ў напрамку адзення. Перад будынкам, дзе прадавалася звычайная, новая вопратка, раскінуліся рады сэканд-хэндаў: рэчы віселі ў палатках і ляжалі вялізнымі кучамі пад адкрытым небам. Пакупнікі, нахіліўшыся, корпаліся ў рознакаляровых пагорках, нібы выбіралі з зямлі бульбу. Дапамагала ім вясёлая немаладая жанчына з загарэлым тварам.

— Бярыце-бярыце, ладны кажух! Нямецкі, толькі прывезлі. Зараз не апранеш — не сезон, затое зімою як знойдзеш!

Мужчына яшчэ круціўся перад люстэркам, але па твары ўжо было відаць — пойдзе дамоў з набыткам.

Аля глядзела, як шукае рэчы старая пара: у мужа ўжо было некалькі маек і кашуль, карычневыя нагавіцы, і цяпер ён угаворваў жонку ўзяць спадніцу — ружовую, з белымі кветкамі і зялёнымі лістамі. Яна аднеквалася і казала, што няхай грошы лепей будуць дзецям.

— Калі возьмеце шэсць рэчаў, сёмая пойдзе бясплатна! — жанчына раптам апынулася зусім побач з Аляй. І звярнулася ўжо да яе:

— Ну, то будзем знаёмыя! Мяне клічуць Стэфай, а цябе — Аляй, і за табою замацавана крама нумар 44, — Стэфа развінціла тэрмас і наліла ў кубак мятнай гарбаты. — Трымай і бяры тут у мяшэчку цукеркі, зараз я да цябе далучуся.

Яна забрала грошы за кажух, запакавала рэчы для мужа з жонкай: спадніца пайшла «ў падарунак». Вярнулася да Алі з двума раскладнымі зэдлікамі, крыкнула: «Маша, падмяні мяне», — і, наліўшы сабе гарбаты, села насупраць.

— Ну што, родненькая, сумуеш?

— Сумую.

— Нічога, пабаліць і перастане. Такое жыццё. У мяне кожны раз, калі да мяне хто новенькі прыходзіць, сэрца крывёю абліваецца. Але нічога я зрабіць не магу, хаця б тут і галоўная. Таму нават не пытай: не, нічога вярнуць не магу.

— Вы тут галоўная?

— Што, не падобная да кіраўніцтва? — Стэфа ўсміхнулася, адкусіла кавалачак шакаладнай цукеркі, запіла гарбатай. — Але ж гэта я. З мяне тут усё пачалося. У 90-я шмат хто па рэчы ў іншыя краіны катаўся, толькі я ўсё на захад, а не на ўсход. І вось вярнулася аднойчы з партыяй сэканда: ён разышоўся хутка, хутчэй за новае адзенне. Год гандлявала, а пасля яны на мяне і выйшлі. Сказалі, што справу трэба пашыраць, ну і пра іншыя інструкцыі таксама.

— А вы раскажаце, хто «яны»?

— «Яны» — значыць, «не мы», і ўсё на гэтым. Адмаўляцца і не думала: калі б не мяне, ды знайшлі б іншую. А тое, што вось так з жыцця выдзіраюць — ну, чаго не бывае на свеце. Затое справу карысную робім. І старых апранаем, і малых. І не толькі апранаем.

— Вы пра характар?

— І пра яго. Не я адна вырашаю, што нам патрэбна. Абмяркоўваем, раімся, сочым за падзеямі. Я вось за тое, каб навучыцца жыццю радавацца, таму, што маем, а не сумаваць па таму, чаго няма. І вось замаўляю, а ты праз месяц выстаўляеш на акенца шыльдачку: «Італія, новы завоз!»

— Але ж у нас не Італія, ім там радавацца лёгка.

— Так, не Італія. Ды з чагосьці трэба пачынаць інтэгравацца ў сусвет, як тое кажуць. Ты ведаеш, колькі разоў я вяла такую размову? — Стэфа дастала з-пад кашуль і маек стары агульны сшытак у цыратавай вокладцы. — У мяне ўсё запісана, усе, хто працуе ў крамах па ўсёй краіне. Дык вось, калі толькі пачыналі, была адна крама і адна краіна, цяпер — зусім іншая. Змены ёсць, ды ты і сама гэтага не можаш не заўважыць. А тое, што дзеля гэтага табе неабходна ахвяраваць чымсьці сваім…

— Маім, — папраўіла Аля, ды Стэфа гэтага не заўважыла.

— То гэта, родненькая, у жыцці без ахвяр ніяк. Пакінь мне свой тэлефон, каб калі што былі на сувязі.

Стэфа акуратна запісала нумар і зноў схавала сшытак.

— А тое, што ные, хутка супакоіцца. Вось пі гарбату з мятай, дапамагае ад нерваў. Ці ты маеш што яшчэ запытаць?

* * *

Аля падлічыла, што гэта будуць апошнія выходныя выпрабавальнага тэрміну — ён заканчваўся ў наступную сераду. Ёй хацелася вярнуцца ў Астэндэ, паразмаўляць з Антонам, але тую кашулю яна пасушыла і павесіла да астатніх — і нават не заўважыла, як яе купілі. Таму пашукала падобную, з Нідэрландаў. Згадала сваё абяцанне трапіць у вінную краіну — і знайшла прыгожыю чырвоную сукенку з Францыі.

У Астэндэ трапіць не атрымалася — кашуля прывяла ў Гаагу. Паўночнае мора там здавалася бэжавым, бэжавым быў і пляж, і нават неба. Аля зняла кеды і адчула паміж пальцамі халодны пясок — у пятку ўтыркнулася ракавінка. Накіравалася да гмаху палаца, які высіўся над узбярэжжам: акурат перад ім было некалькі кавярняў — з драўлянымі тапчанамі і мяккімі падушкамі. Падавалі каву і кактэйлі. Доўга не магла патлумачыць, што замаўляе латэ (афіцыянт даводзіў, што ў іх «латэ» значыць «малако»). Пасля, лежачы ў адзіноце на падушках, глядзела на мора і думала, што ўсё не так ужо і дрэнна: яна дапамагае глабальнаму працэсу яднання, а на выходных можа рабіць тое, аб чым марыць тут усе, — падарожнічаць. Да яе падбеглі два сабакі — канечне ж, бэжавыя — і адзінота знікла зусім.

Перад тым, як трапіць у Францыю, хацелася стаць вельмі прыгожай — гэтага жадання не было ўжо даўно, таму першую палову дня Аля правяла ў цырульні — зрабіла прычоску і манікюр. Пафарбавалася дома пакінутай касметыкай.

«Ну што, віно, я іду да цябе! Святкуем разам развітальны вечар! Хутка я забуду сваё мінулае. І нічога не будзе мяне турбаваць — застанецца толькі асалода ад адкрыцця новых мясцін. Таму спачатку закрыем старое».

І — не, гэта быў не Парыж, дзе заўжды хацелася пабываць. Гэта былі Каны — горад, дзе пабываць хацелася невыносна. Аля ішла да Палаца фестываляў на бульвары Круазет, нехта крыкнуў ёй: «Magnifique!» (Цудоўная!). Яна згадвала, як, калі паступіла на тэатральны, расказвала маці, што абавязкова трапіць у Каны — на чырвоную дарожку.

У той раз яны з маці хадзілі па крамах і намералі для Алі вельмі прыгожую і вельмі дарагую сукенку — зялёную, з залатымі бліщчынкамі, што вельмі пасавала да яе рудых валасоў.

— Мама, калі я гляджуся ў люстэрка, то гляджу не на сукенку. Я бачу тое, што навокал: памятаеш магічнае люстэрка ў «Гары Потары»? Толькі тут магічная сукенка — і я. Вось я на сцэне, мой першы спектакль — поспех, мама! Я апранаю гэтую сукенку пасля для прэзентацыі — і да мяне падыходзіць знакаміты рэжысёр: калі мы з табой захапляліся яго фільмамі, то і не думалі, што давядзецца пазнаёміцца з ім. І вось ён прапаноўвае мне галоўную ролю! І мой фільм трапляе на Канскі фестываль. А калі мяне запросяць на прэм'еру, то я змагу выбіраць з тысяч сукенак — але апрану гэтую, няхай зноў, і ў ёй апынуся на чырвонай дарожцы. Вось што я бачу перад сабой. Купім?

Яны купілі гэтую прыгожую і дарагую сукенку. Пасля Аля яе так ні разу і не апранула — не было куды. І зразумела ўсю дарэмнасць сваіх мар. З тых часоў, калі глядзелася ў люстэрка, бачыла толькі сябе — і нічога больш.

Віна расхацелася. Калі гэта развітанне, то трэба развітацца і з традыцыямі. Яны з сябрамі мелі запазычаны з фільма звычай: піць на моры тэкілу. Знайшла невялікую краму, купіла соль і лайм і пайшла на пляж побач з палацам. Села на камяні спіной да Круазэт, тварам — да Міжземнага: гэта мора цёплае і ласкавае.

У яе будзе тое, аб чым марыць большасць сяброў, — падарожжы ў іншую рэальнасць, якія дапамагаюць забыць пра рэальнасць гэтую. Душой — там. Тут — целам. Але з-за таго, што душа недзе «там», «тут», то бок, цэлая краіна, здаецца другаснай, on the second place, you know. І другасным здаецца ўсё: думкі, падзеі, дасягненні. Людзі.

Вось каб адразу нарадзіцца «там» — там і магчымасці былі б іншыя. І можна было марыць аб фестывалях. А «тут» — тут не трэба і пачынаць было.

Аля лізнула салёнае, зморшчылася ад горкага, укусіла кіслае.

Дрэнна, канечне, што яе пазбавілі выбару, — не выслізнеш. Хіба толькі… Ды дзеля гэтага патрэбны належныя абставіны. І рызыка. Абставіны — перш. І рызыка.

Аля пагледзела на гадзіннік: так і ёсць, вось і абставіны — палова дванаццатай. Калі не паспяшацца, яна не паспее да поўначы — і, здаецца, знікне. Цікавы варыянт, чаму б і не? Канечне, бракуе барацьбы з лёсам, ну і к чорту барацьбу. Ці пазмагацца?

Аля бегла дадому. Абставіны. І рызыка.

* * *

Заставалася тры дні. Аля турбавалася, што не паспее. Не паспее паглядзець на бацькоў, пакуль яшчэ іх памятае.

«Калі ласка, калі ласка, калі ласка, няхай яны прыедуць — і я зірну на іх апошні раз. Калі ласка!»

І яе пачулі: Аля бачыла, як пад'ехала машына. Яны ўтрох увайшлі у пад'езд.

Ну што, паспрабуем?

У пад'езд удалося праслізнуць — апярэдзіла бабульку-суседку, якая толькі-толькі адчыніла дзверы.

Паднялася па лесвіцы, націснула на званок. Сэрца білася вельмі хутка, як…

— Вы, пэўна, да Жэні?

Адчыніла маці. Гэта добра.

— Я вас пазнала! Вы з той крамы, што ўнізе. У мяне добрая памяць на твары. Заходзьце. Дачушка, гэта да цябе.

Жэня выйшла з яе пакоя. Памаўчалі. Аля забыла ўсе словы. Чула толькі, што сэрца б'ецца вельмі хутка, як…

— Пэўна, ты прыйшла, каб паведаміць, што быў завоз?

Аля кіўнула.

— Дзякуй. Усё, можаш ісці.

— Жэня, можна цябе папрасіць дапамагчы з гарбатай? — маці глядзела незадаволена.

І зніклі на кухні: адразу пачуўся громкі шэпт— пэўна, маці выказвала, што нельга так паводзіць сябе з гасцямі. Значыць, ёсць колькі хвілін — хопіць, каб завітаць у свой пакой.

Там усё было па-старому: яе канапа, яе расчыненая шафа, яе старыя рэчы. Дзякуй, што нічога яшчэ не паспела выкінуць. Сэрца грукатала, перакрываючы нават далёкі громкі шэпт. Толькі некалькі імгненняў сам-насам, яшчэ некалькі імгненняў — і:

— Што ты тут робіш?

— Захацелася прысесці!

— Не вельмі прыемна, калі так заходзяць у чужыя пакоі.

— Жэня! — мама зноў перапыніла. — Запрасі на гарбату.

Гарбаты Алі не хацелася — хацелася збегчы з дому, які ў яе ўкралі. Вось толькі апошні раз зірнуць на маці — і:

— Дзякуй, не трэба. Я сапраўды зайшла толькі дзеля таго, каб паведаміць пра завоз. І запрасіць да нас Жэню. Ёсць шмат цікавых брэндавых рэчаў. А зараз — бывайце.

І — прэч з кватэры, не аглядваючыся.

Аддыхалася толькі ў краме: дзіўна, за некалькі тыдняў яна пачала лічыць яе сваім домам. Здавалася, дом супакойваў. Але якая яму была справа?

Аля нервова перакладвала рэчы ў вялізнай скрыні, калі за спіною расчыніліся дзверы, — «Элі». Зноў у яе куртцы.

— Навошта ты прыходзіла?

— Развітацца. Пэўна, ты ведаеш, што хутка скончыцца выпрабавальны тэрмін, — і я ўсё забуду.

— Табе расказалі? Хто?

— Антон.

— Ну, вось і пазнаёміліся. Я не хацела цябе гэтым турбаваць.

«Элі» праглядала сукенкі, акуратна развешаныя на самым выгодным месцы:

— Добра ты тут кіруеш. Што, сапраўды прывезлі штосьці добрае?

— Так, і нават шмат. Але я не паспела развесіць усё.

— У скрыні?

«Элі» нахілілася і пачала корпацца. Аля намагалася размаўляць спакойна, як заўсёды.

— Ведаеш, Алька, я так даўно не купляла нічога для сябе — так, брала напракат. Што і забыла, якая гэта асалода — валодаць рэччу.

«Элі» выцягнула са скрыні зялёную сукенку:

— Яшчэ з цэтлікам выробніка — не апраналі, значыць! Рэдка так шанцуе. І дарагога брэнда — пэўна, бірку забылі зрэзаць, каштавала ж шалёныя грошы. Бачыш, мы робім раскошу дасягальнай. Я памераю, калі ты не супраць.

Аля паматала галавой. Абставіны складваліся. Гэта добра.

— Мне здаецца, будзе сімвалічна, калі першую рэч для пачатку новага жыцця я здабуду на сваёй старой працы, — «Элі» пераапраналася за фіранкай. — Мне пасуе, як лічыш?

Сукенка сапраўды пасавала — дарагая вопратка ўвогуле пасуе ўсім.

— У цябе такіх будзе шмат. А гэтую — я куплю.

Аля напружылася — цяпер:

— Там яшчэ няма цаны. Я магу напісаць, якую хочаш. Я прадавец. І ў цябе не хопіць грошай.

— І што ты хочаш?

— Я згодна памяняцца. На сваю куртку.

«Элі» рассмяялася:

— Ты хочаш паймаць мяне на маіх жа метадах?

— Навошта табе маё жыццё? У мяне няма ніякіх залатых перспектыў, падарожнічаць я магу раз, ну два ў год — а ты ж звыклая да іншага.

— Таго, што ў цябе ёсць, мне больш чым дастаткова. І гэтая сукенка падабаецца мне не настолькі. Я не буду мяняцца, — «Элі» пачала распранацца.

— Пачакай!

— Не, я шмат чакала. Я тут ужо два дзесяцігоддзі — вось табе яшчэ адзін плюс, тут не старэеш. І я стамілася глядзець на чужое, быць чужынцам — і там, і тут. Мне патрэбна сваё.

«Элі» скінула сукенку.

— Прабач, Жэня. Гэта была апошняя спроба.

Аля ўзяла цэтлік і напісала на ім кошт:

— Вось, трымай. Няхай гэта будзе ад мяне падарунак.

— Дзякуй. Гэта насамрэч мала. У мяне нават ёсць з сабою.

«Элі» працягнула грошы.

— Віншую з набыццём!

Вагончык страсянула.

— Ты чула? — «Элі» выглянула ў акно.

— Мабыць, вецер.

Цяпер — рызыка.

— Жэня, я яшчэ хацела цябе спытаць. Вось гэтыя правілы, тыя, што на сценах, яны абавязковыя для выканання?

Аля пакрыху пасоўвалася па вагончыку.

— Так, яны асноўныя.

— Бо ведаеш, я памыла цішотку і думала, што ўсё скончыцца, а мяне проста не пусцілі ў Амстэрдам.

— Ну, гэта правіла для пакупнікоў, а ты прадавец. Таму правіла ты не парушыла.

— А калі б парушыла?

— Гэта немагчыма.

— Ну, а калі б?

Аля павольна, вельмі павольна рухалася да дзвярэй. «Элі» заўважыла гэта. Аля спынілася.

— Тады кантракт з табой быў бы скасаваны.

— То прабач яшчэ раз, я парушыла правіла. Сукенка, якую ты купіла, належыць мне. Я выцягнула яе толькі што са сваёй шафы, калі заходзіла дамоў.

Аля прамаўляла гэта не для яе — хацелася, каб гэта пачулі сцены. Няхай дапамагаюць.

— Зялёная сукенка з залацістымі пырскамі, якую некалькі гадоў таму мы набылі з матуляй. І так, маеш рацыю, яе ніводнага разу не апранalі.

«Элі» адкінула сукенку, нібы яна была атручана.

— У правілах напісана, што тут нельга гандляваць рэчамі, якія належаць мясцовым жыхарам. Я парушыла правіла для прадаўцоў і цябе ўцягнула. Баюся, я не вытрымала выпрабавальны тэрмін.

«Элі» збялела і кінулася да выхаду. Аля была хутчэйшая — яна зачыніла за сабой дзверы, саскочыла з ганка і пабегла прэч. Азірнулася — ручка тузалася, ды дзверы не адчыняліся, хаця Аля нічога замкнуць не паспела. «Элі» засталася ў сваім вагончыку. Гэта магло значыць адно: згода атрымана.

На двары пачало цямнець — не было ніводнага чалавека, хто бачыў гэтую пастаноўку, у якой Аля сыграла сваю лепшую ролю. Ды не, адзін быў. Там, на дзіцячай пляцоўцы, каля кучы немарскога пяску, стаяў Антон.

Аля ўсміхнулася.

— Шкада, — расчаравана пахітаў ён галавой.

Аля не сказала нічога і пайшла ў пад'езд. Там было адчынена. І кватэра — таксама.

— Ой, няўжо гэта я забылася зачыніць дзверы! — маці збянтэжана выглянула з пакоя. — Прабач, добра, што ты хутка вярнулася. Аля, што з тваім тварам?

— Нічога, я засумавала, — зноў абняла яна матулю.

— Нешта мы зашмат сёння абдымаемся. А калі ты сумуеш, то і не трэба нікуды хадзіць. Заставайся тут, са мною.

— Застаюся.

* * *

Раніцай вагончыка не было: ён знік гэтаксама уначы, як і з'явіўся.

Аля збіралася на працу ў тэатр:

— Ведаеш, роля ў мяне амаль што галоўная. Так, грошы маленькія. Нават не «смешныя» — з такога нельга смяяцца. Але вось што добра: мне прапанавалі ролю ў расійскім серыяле. Там і буду зарабляць, — яна расчыніла дзверцы шафы. — Так у нас амаль усе робяць: там зарабляюць, а тут — працуюць. Яны целам — там, а тут — душою. Вось такім чынам у нас у краіне тэатр і існуе. Затое існуе, затое наш. І прыемна, што я спрычыняюся да нечага такога, што, спадзяюся, змяняе гэтую прастору.

— Я ўвечары наведаюся на твой спектакль, для мяне, між іншым, гэта будзе прэм'ера, — маці стала побач з шафай і зазірнула ў неабсяжныя глыбіні.

— На жаль, апрануць мне на прэм'еру ўсё яшчэ няма чаго.

— Памятаеш, адмыслова для такога выпадку мы набывалі зялёную сукенку. Дзе падзелася?

— Хто ж зараз гэта можа ведаць! Давай мне пашыем новую? Ці лепей некалькі? А то адны толькі горы джынсаў, — выцягнула пару, але стос не паваліўся, утрымаўся.

Аля зачыніла дзверцы шафы — белыя, дзве створкі, дзве круглыя ручкі.

Здаецца, гэта канец.

Але — не.

Настасся Нарэйка

**нарадзілася 28 кастрычніка 1986 года ў Маладзечне. Працуе журналістам. Аўтар зборніка вершаў «Магдэбургскае права маёй душы» (2013). Заўсёды з асаблівым хваляваннем чакае восені (у прыватнасці — кастрычніка) з той прычыны, што гэты месяц, як ні дзіўна прагучыць, самы цёплы. Бо ў кастрычніку казка, расказаная на печы глыбокім, змрочным вечарам, сагравае так, як ніколі…**



# Гарачыя кветкі кастроў

* * *

Усё пачалося з сякеры,
Сякерай скончыцца сёння.
Вочы адвыклі ад сонца,
Рукам кайданоў не хапае.
Я помню доўгія ночы,
Што гарэлі ў пажары бяссоння,
Калі пад падушкай клубочкам
Згарнулася стома тупая.

Скачуць прывіды цемры,
Хрыпам заходзяцца коні.
Ніхто ў свеце не чуе
Глухога дыхання майго.
Ноч сон з мяне вырывае,
Як цвік з халоднай далоні,
Што за гады пакуты
Прызвычаілася да яго.

Грэх страшэнны, пякельны
Плавіцца воскам чырвоным,
Сцякае мне на сукенку,
Разлітую па падаконні.
Ноч выбірае пакуты.
Я выбіраю праклёны.
Усё пачалося з сякеры.
Сякерай скончыцца сёння.

## Кінжал памяці

— Я думала, сэрца не можа
Сыходзіць чужою крывёю.
Я думала, нельга ад болю
Чужога і чорнага выць.
Я думала так да таго,
Як сядзела з табою,
Чытала па вуснах гарачых
Бясконца: баліць!

Выла, спявала завея
Белай тваёй ліхаманкай.
Белых бінтоў павуцінне
Крэсліла чорная кроў.
Я занавешваю зноўку
Холад старэнькай фіранкай,
Я раскладаю ў каміне
Гарачыя кветкі кастроў.

Лязо кінжала тупога
З грудзей тваіх я дастала.
— Кіньце яго ў палонку,
У ледзяную ваду.
— Не. Я пакіну на памяць
Гэта маленькае джала,
Кнігу, што вам чытаю,
Сёння я ім закладу.

— Нашто?
— Я яму ўдзячна,
Яму і таму вар'яту,
Які вам зрабіў балюча
І да мяне прывёў.
Магчыма, яго сустрэну
І працягну адплату,
Кіну — пальецца долу
Густа-праклятая кроў.

Боль твой здаецца лёсам,
Ён робіць сінія вочы
Чорнымі, нібы ночы,
Чорнымі, нібы вуглі.
Не бойся. Я ўратую.
Мы тою сцежкай пакрочым,
Якою па двое вякамі
Да светлага шчасця ішлі.

Я думала, сэрца не можа
Плавіць каханне з адчаю,
Са шкадавання сляпога,
З болю, з якім не пражыць.
Я думала так дарэмна.
Цяпер я цябе кахаю.
І кроў твая з гэтай раны,
Бы з сэрца майго, бяжыць.

Я думала, сэрца не можа
Гаіць незагойныя раны.
Я думала, сэрца не зможа
Пераждыць камення абвал.
Не кахаеш мяне? Сыходзіш?
О, мой на вякі абраны!
Ты помні: ляжыць у кнізе
Тупы і халодны кінжал.

* * *

Як Рагнеда,
Аберуч
Нож
Упэўнена,
Моцна
І цвёрда,
Так трымаю цябе.
І ўсё ж
Усміхаешся
Вольна і горда.

Як Прадслава,
Аберуч
Крыж
Надзейна…
Спакойна…
Вечна…
Так трымаю цябе.
Маўчыш.
Пазіраеш.
Без страху? —
Бясспрэчна.

Як Барбара,
Аберуч
Яд
Непарушна!
Рашуча!
Прагна!
Так трымаю цябе.
Без крат.
Мой каханы!
Мой морак і багна…

Я трымаю цябе.
Кайданы,
Ланцугі
І вяроўкі
Ты носіш
Так, нібыта
Патрэбны яны,
І збавення
Ніколі не просіш.

Я ж пазбавіць цябе
Не змагу.
Лёс бяздумны
Садзіцца за кросны.
Я слабая, відаць,
На тугу.
Я кахаю цябе
Моцным.

Падначалены мне…
Не сагнуўся ты ў рог.
Плечы выпрастаў. Хай.
Не бяда.
Ты гаворыш:
З табою
Сумленне і Бог.
Што з таго?
А за мною — Арда.

Падначалены мне?
Не пазбегнеш суда!
Кроў тваю пралію
На мурог.
Толькі ў сэрцы маім
Прарастае жуда.
Любы мой!
Хто каго перамог?

* * *

*Победила ль?*
*Побеждена ль?*
***М. Цвятаева***

Падначалены мне,
Ты нічога не змог
Ні змяніць, ні аддаць.
Мне шкада.
Я — каханне тваё,
Твой палон і астрог.
Я — твая
Залатая Арда.

Падначалены мне,
Ты бяссілы ля ног,
Ты маўчыш,
Твае вочы — жуда.
Схіліш голаў сваю —
Пераступіш парог,
І цябе пашкадуе
Арда.

* * *

«Якая самота гатэльнай турмы!
Векавая якая туга!»
Нарэшце пад дахам! Дапяліся мы.
І боль замірае ў нагах.

І болей за шкірку нам зліва не лье,
І холад не лічыць касцей.
Наблізку да полымя рукі твае.
Мы разам. Нам сёння прасцей.

Мы разам ішлі праз імжу, і скажу,
Што лёгкай дарога была.
Не верыш? Дарма. Я ні ў чым не хлушу,
Не буду, калі б і магла.

Ніякай самоты, ніякай тугі.
Стагоддзі сплылі — што з таго?
Ты спі, ты не слухай мяне, дарагі.
Я — варта ля дома твайго.

Дзе б дом твой ні быў,
Пры парозе стаю.
І службу ніколі не кіну сваю.

Алёна Беланожка



**нарадзілася 17 студзеня 1985 года ў Магілёве. Скончыла Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў, атрымаўшы спецыяльнасць «Рэжысёр абрадаў і свят, выкладчык». Рэжысёр, сцэнарыст, празаік, паэтэса. Пераможца конкурсу маладых літаратараў Саюзнай дзяржавы «Мост дружбы» (2013), уладальніца прэміі «Дасягненне» Магілёўскага аблвыканкама ў намінацыі «Літаратурная дзейнасць» (2016). Аўтар аповесці «Чамадан з кракадзілавай скуры», апавяданняў для моладзі і падлеткаў, тэкстаў песень для эстрадных выканаўцаў. Працуе ў Магілёўскай абласной філармоніі мастацкім кіраўніком групы абанементнага абслугоўвання дзяцей і юнацтва.**

# Зорка Ракхігархі

*Аповесць*

*Любыя супадзенні з рэальнымі падзеямі і персанажамі — выпадковыя.*

Аліна сядзела ў сваім любімым чырвоным дырэктарскім крэсле і далучалася да багатай культурна-міфалагічнай спадчыны жыхароў паўвострава Індастан. На стале па правы бок ад Аліны ўзвышаўся груд скамечаных папяровых сурвэтак, па левы стаяла адкрытая бутэлечка з настойкай глогу. Знаёмства з культурай Індыі суправаджалася горкімі слязьмі, якія час ад часу пераходзілі ў неўтаймаваныя рыданні.

На экране вялікага тэлевізара, злучанага з ноўтбукам пры дапамозе кабелю, ішла дзвесце дваццаць пятая серыя свежай экранізацыі славутага эпасу «Махабхарата».

Трыццаць серый таму дынастыі Каўраваў і Пандаваў сышліся ў вялікай бітве пры Курукшэтры. Цяпер нарэшце ў бітве настаў пераломны момант. Шыкхандзіні, дачка цара Драўпады, — у мінулым жыцці прынцэса Амба, пакрыўджаная магутным Бхішмам, — праз вялікія выпрабаванні атрымала права на адзін дзень зрабіцца мужчынам і выйсці на поле бою. Калі сонца кранулася чырвоным бокам лініі далягляду, Шыкхандзіні, параненая, але нязломленая, выканала абяцанне, дадзенае ў мінулым жыцці, — стаць прычынай смерці свайго крыўдзіцеля. Яна пусціла ў Бхішму вырашальную стралу. Высакародны Бхішма прыняў пакаранне і не супраціўляўся.

Следам за Шыкхандзіні, абліваючыся слязьмі, свае лукі паднялі ўнукі Бхішмы, якія, па волі кармы, змагаліся супраць яго. Яны нацягвалі цяцівы і стралялі, не гледзячы, куды цэляць, але чароўныя стрэлы траплялі Бхішму проста ў грудзі і часткова — у плечы. Нарэшце Бхішма, сын Гангі, увесь утыканы стрэламі, з салодкай усмешкай вызвалення ўпаў на акрываўлены пясок. Але яшчэ ў маладосці ён атрымаў блаславенне самастойна выбраць дзень сваёй смерці. Таму паміраць ад ран яму належала, мяркуючы па ўсім, яшчэ на працягу сарака серый.

Між тым у акцёра паціху адклейвалася барада. Было заўважна, што грымёры, як і ўсе ўдзельнікі здымачнай групы, перажывалі вялікі стрэс ад такіх крывавых падзей.

Аліна добра падрыхтавалася да прагляду серыяла, спампавала ўсе серыі, запаслася цукеркамі, сурвэткамі і глогам, але калі персанажы адно за адным пачалі паміраць у жудасных пакутах, запасы растаялі, як снег увесну.

Калі серыя скончылася, Аліна высмаркалася, націснула на кнопачку на апараце ўнутранай сувязі і ўсхліпнула:

— Наташа!

— Вадзічкі, Аліна Мікалаеўна? — клапатліва спыталася сакратарка.

— Ага… і сурвэтак яшчэ…

— Бягу, Аліна Мікалаеўна! Толькі дзверы адчыніце мне!

Аліна накіравала пульт на дзверы. Аўтаматычны замок шчоўкнуў — і дзверы адчыніліся.

Наташа, трымаючы паднос, увайшла ў кабінет сваёй начальніцы. Перад ёй паўстала кранальная карціна: заплаканая Аліна сядзела ў крэсле, падабраўшы пад сябе ногі, і размазвала маленькімі далонькамі слёзы па пунсовым твары.

Наташа сумна паківала галавою. Яна паставіла на стол графін з вадой, акуратна дастала з пачка свежую сурвэтку, выцерла Аліне нос і прашаптала:

— Там Мікіта Алегавіч у прыёмнай чакае. Ужо шостую гадзіну.

— А чаго ж ён не ўваходзіць? — Аліна шморгнула носам.

— Дык вы ж зачыніліся знутры! — адказала Наташа ды працягнула начальніцы яшчэ адну сурвэтку.

— А тэлефон нашто?

— Мы спрабавалі, але вы не адказвалі.

Аліна прытуліла да сэрца пульт ад тэлевізара і пачала шукаць мабілку.

— На стале няма. І ў стале няма. І пад сталом няма, — дырэктарка апусцілася на падлогу і папаўзла па ёй, раз-пораз зазіраючы пад пухнаты дыван. — Наташа, пагля дзі ў шафе!

Наташа адчыніла шафу, але мабілкі не было і там. Тады Наташа на ўсялякі выпадак зазірнула ў сметніцу і радасна закрычала:

— Знайшла, Аліначка Мікалаеўна!

Аліна падпаўзла бліжэй, выцягнула тэлефон і паглядзела на дысплей.

— Ого, нічога сабе, трыццаць прапушчаных! Як вы яшчэ ў акно не ўлезлі!

— Трэці паверх. Небяспечна… — адказала Наташа. У іх з Мікітам была ідэя выклікаць МНС або рамонтную брыгаду з лябёдкай, але яны вырашылі пачакаць — у надзеі, што ўсё вырашыцца шчасліва і Аліна ўсё-ткі ўпусціць іх у кабінет.

— Ясна. Закажы нам піцу, будзь ласкавая. Мікіта! Ну чаго ты там топчашся, уваходзь! — крыкнула Аліна і разгарнула шакаладную цукерачку. — Тут такое адбываецца! Я зараз табе хуценька, у двух словах…

Ускудлачаны Мікіта ў тры скокі, як малады гепард, падляцеў да Аліны, выхапіў пульт і некалькі разоў пстрыкнуў пальцамі перад яе вачыма.

— Так… факусіруемся… Рэфлексы як быццам у норме!

— Аддай пульт! — крыкнула Аліна, але Мікіта падбег да акна і выкінуў пульт на вуліцу.

— Ты што робіш? — абурылася Аліна. Яна падпаўзла да Мікіты і кусанула яго за галёнку.

— А ну, кыш! — крыкнуў Мікіта. — А то я сам цябе зараз кусну! Ты сядзіш тут ужо цэлы тыдзень і харчуешся толькі піцай! Табе трэба свежае паветра, здаровы сон, і, каб ты ведала, у Наташы назбіраўся мільён папер, якія ты павінна падпісаць!

— Я не хачу нічога падпісваць, я хачу сары і на Гоа! — заенчыла Аліна. Яна папаўзла назад да свайго крэсла, але Мікіта прадугледзеў гэткі хітры манеўр і схапіў яе за нагу: — Усе хочуць на Гоа, і дзеля таго многія б згадзіліся падпісаць гэтыя паперы, але, на жаль, наша дырэктарка — ты! І пакуль ты іх не падпішаш, нікуды не паедзеш. Калектыў цябе не адпускае. У нашым прадзюсарскім цэнтры ўся праца спынілася! У нас нават плана на наступны месяц няма!

— Як жа няма? — здзівілася Аліна. — Мы едзем у Балівуд здымаць індыйскае кіно!

— Якое кіно?! — жахнуўся Мікіта.

— Індыйскае! — крыкнула Аліна. — Наташа, пішы загад: галоўным рэжысёрам стужкі назначыць Мікіту Алегавіча!

— Лепш забі мяне! — крыкнуў у адказ Мікіта.

— Каб цэнтр застаўся без рэжысёра? А хто нам будзе грошы зарабляць? Кліпы, рэклама, карпаратывы — я ці хто, будзе гэта ўсё… Пусці мяне! — брыкнулася Аліна.

— Падпішы паперы! — загадаў Мікіта і адпусціў яе нагу.

Аліна цяжка, гаротна ўздыхнула:

— А я ж яшчэ падумала: трэба зрабіць сабе факсіміле… І чаго, дурніца, не замовіла? Справіліся б і без мяне. Ну… добра-а. Давайце сюды свае паперы. А можна, я замест подпісу намалюю лотасік?

Аліна какетліва стрэльнула вачыма, выняла з кішэні бутэлечку глогу, адкрыла яе зубамі і зрабіла вялікі глыток.

— Нельга! — закрычаўў Мікіта і адабраў у Аліны глог. — Наташа, хутчэй нясі дакументы: здаецца, мы яе губляем!

Наташа куляй вылецела ў прыёмную, схапіла цяжкі стос папер, прыбегла назад і з шумам пляснула паперы на падлогу перад Алінай. Аліна сумна паглядзела на дакументы. Наташа працокала абцасамі ў прыёмную і вярнулася з кіпай перыядычных выданняў.

— Прэса! — гучна абвясціла яна. — Газеты «Ранішняя праўда», «Палуднёвыя навіны», «Вячэрні экспрэс», агітлісток «Савецкая спадчына», інфармацыйны бюлетэнь «Час капіталізму», штотыднёвікі «Зямля», «Наша зямля», «Новая зямля», «Зямля і неба», даведнік «Жанчына-патрыётка», часопісы «Шыем разам», «Садавод і гароднік», «Паляванне і мясанарыхтоўка»…

Мікіта схапіўся за галаву:

— Ты ўсё гэта чытаеш?

— Не, — адказала Аліна. — Я проста падтрымліваю айчынных выдаўцоў.

— Карэспандэнцыя! — пракрычала з прыёмнай Наташа і ўкаціла ў кабінет сервіровачны столік, засыпаны канвертамі розных памераў і колераў.

— Божачкі! Што гэта? Лісты шчасця? — Аліна схапіла з груду выпадковы ліст, распячатала яго і прачытала:

— «Шаноўная»… тра-та-та… хм, хай будзе проста: шаноўная я! «Маем гонар запрасіць вас на Вялікі Калядны Баль, які пройдзе ў Новым Замку горада Гродна. Падчас балю адбудзецца ўрачыстае адкрыццё выставы «Спадчына Вітаўта»…» Ну, не! Няма ў мяне настрою баляваць, — Аліна кінула запрашэнне назад на столік.

Наташа села на падлогу побач з дырэктаркай і прашаптала:

— Ёсць яшчэ ліст. Строга канфідэнцыяльна, з рук у рукі.

— Ад каго? — з цікаўнасцю спытала Аліна. — Можа, ад тайнага прыхільніка?

— Хацеў бы я паглядзець на гэтага вар'ята! — хмыкнуў Мікіта.

Наташа дастала з кішэні і пакруціла ў руках абсалютна белы, наглуха запячатаны канверт.

— Ніякіх пазнак, — сказала яна. — Прынёс мужчына з такімі акулярамі на адно вока, назваўся — Ёзаф.

— Манокль. Акуляры на адно вока, Наташа, гэта манокль! — сказала дырэктарка. — Давай сюды хутчэй!

Аліна выхапіла канверт, адкрыла яго зубамі, прабеглася вачыма па тэксце, а потым імгненна падскочыла з падлогі.

— Наташа, каву. Двайную! І без цукру. І таблетку кафеіну. Жвава, жвава! Мікіта, дай маё паліто — там, у шафе!

Аліна забегала па кабінеце, шукаючы боцікі і сумку.

— О! Заварушылася, Мата Хары! Ты куды гэты сабралася? — пацікавіўся Мікіта, працягнуўшы сяброўцы паліто і парасон. — У рэстаран, нармальна пад'есці?

— Сядлаць майго «Буцэфала»! — Аліна абматала шыю шалікам. — У мяне неадкладная справа!

Мікіта стаў упоперак дзвярэй і раскінуў рукі ўбакі, як аэраплан:

— Я цябе не пушчу!

— Хопіць паказваць мне Гаруду, ты зусім да яго не падобны! Прапусці! — загадала Аліна.

— Не пушчу!

— Тады я зачыню цябе ў кабінеце і ўключу «Махабхарату»! — прыгразіла сяброўка.

— Ну, добра, добра. — Мікіта апусціў рукі і кінуўся наўздагон за Алінай, якая на бягу запівала таблетку кавай. — Я з табой паеду!

— Як сабе хочаш, толькі каб не енчыў, а то высаджу проста на дарозе! — крыкнула Аліна, збягаючы ўніз па лесвіцы.

Калі Аліна патрапіла на вуліцу і ўбачыла, што тратуары, дахі будынкаў і галінкі дрэў прыцерушыла снегам, яна вохнула ад здзіўлення:

— А-яй! Зіма прыйшла!

— Дык гэта… снежань на двары, — сказаў Мікіта і пачасаў патыліцу.

— А чаго ж вы мне не сказалі?

— Не паспелі…

— Вось так усё жыццё пройдзе, і ніхто не паспее папярэдзіць, што яно прайшло, будуць толькі сядзець пад дзвярыма і чакаць аўдыенцыі! Стоп. — Аліна азірнулася. — А дзе мой аўтамабіль?

— Я адагнаў «Буцэфала» на падземную паркоўку, каб ён не ржавеў пад дажджом. Тут недалёка, пойдзем! — сказаў Мікіта.

— Ты ўжо і маёй маёмасцю распараджаешся, хутка вось так вярнуся дадому — а там ты ў ванне качаешся, а на батарэі твае панчохі сушацца!

— А калі б і так, што за бяда: ты ўсё роўна дома не жывеш! — адказаў мужчына. Аліна замахнулася на яго парасонам і з усіх ног прыпусціла далей.

Яна ўбегла ў падземны паркінг і адразу ж кінулася да свайго жалезнага сябра.

— Вітаначкі, міленькі, саладзенькі! — павіталася Аліна з аўтамабілем. Перад тым, як трапіць у паркінг, ён цэлыя суткі правеў на паркоўцы каля прадзюсарскага цэнтра. Некалькі птушак паставілі на ім «пячаткі» розных калібраў, а чыясьці невядомая рука намалявала на заднім шкле сумны смайлік і падпісала: «Памый мяне!»

Мікіта закаціў вочы:

— Ты размаўляеш з машынай!

— Ну і што? Мяне з «Буцэфалам» многае звязвае. Іншым разам мне здаецца, што ў нас з ім нават

больш агульных успамінаў, чым у нас з табою. А я, заўваж, ведаю цябе з самага нараджэння!

Аліна села за руль і звыкла завяла матор.

— Паехалі! — сказала яна Мікіту, але той не спяшаўся садзіцца ў машыну, таптаўся на месцы, як стрыножаны конь, і паглядаў па баках з надзеяй, што, можа быць, зараз з'явіцца добрая фея або, на крайні выпадак, міліцыянер, які арыштуе Аліну і вызваліць яго ад неабходнасці ехаць невядома куды.

— Ну, што ты мнешся, як маладуха! — Аліна пасігналіла. — Эх, пракачу! З ветрыкам!

— Ведаеш… не дужа мне і хочацца, — прызнаўся Мікіта. — Паездкі з табою заканчваюцца вельмі непрадказальна!

— Не хочаш — як хочаш. Паеду адна.

Аліна накінула рэмень бяспекі. Мікіта некалькі разоў ударыў нагой па коле, вылаяўся і сеў побач.

— Не адпушчу цябе адну. А то цябе чэрці завядуць так далёка, што, баюся, і не вернешся!

— Вось і добра. Дарэчы, там, куды мы едзем, табе дужа спадабаецца! Ты любіш розныя змрочныя, загадкавыя месцы, — сказала Аліна і ўставіла ў аўдыёсістэму флэшку з залатымі індыйскімі хітамі.

«Буцэфал» спачатку шпарка бег па шырокай трасе, пасля спрытна каціўся па гравійцы, затым павольна поўз па вясковай дарозе, а пасля пачаў асцярожна красціся праз лес па просецы. Аўтамабіль з усіх бакоў абступалі высокія елкі ў снежных футрах. Пейзаж быў, як на навагодніх паштоўках, — проста казачны!

Але Мікіта не атрымліваў асалоды ад падарожжа. Усю дарогу ён вельмі пакутаваў: па-першае, з-за таго, што не ведаў, куды яго вязуць, па-другое, з-за музыкі, якая гучала ў салоне. Тэмбр індыйскіх спевакоў і спявачак, блізкі да ультрагуку, выводзіў яго з сябе, але ж Аліна паводзіла сябе гэтак, нібыта яе продкамі былі або карэнныя індыйцы, або кажаны. Яна кайфавала!

Песня з кінастужкі «Танцуй, танцуй!» гучала ўжо восьмы раз запар. Аліна прытанцоўвала ў крэсле, патупвала нагамі па пядалях і пішчала: «Калі маё сэрца ў самоце — на вуснах з'яўляецца гэтая песня! Зу-зу-зубі-зубі-зубі!»

— Вось, Мікіта, калі «Модэрн Толкінг» напісала гэты сярэдненькі шлягерчык, яны нават і не думалі, як клёва ён будзе гучаць па хіндзі! Скажы, га? — радасна спыталася дзяўчына.

«Калі гэта ўсё пачнецца ў дзявяты раз — я добраахвотна выскачу з аўтамабіля!» — падумаў Мікіта, але тут, як выратавальны фарпост, з-за елак паказалася высокая каменная агароджа з ажурнымі каванымі варотамі. Мікіта з цікаўнасцю сунуў нос у акно, разглядаючы суровы архітэктурны элемент, і пачаў гадаць, што хаваецца за сцяной.

— Ты вязеш мяне ў логава бандзюкоў? — спытаўся ён.

— Не-а, — пакруціла галавой Аліна.

—А што там, за гэтым… хісткім плоцікам? Шпіталь ветэранаў?

— Не-а.

— Засакрэчаны Лядовы Палац? ВІП-могілкі?

— Не, ну што ты!

— Дамок егера?

— Зараз сам усё ўбачыш.

Аліна пад'ехала бліжэй, прыпаркавала «Буцэфала» пад прыгожай махнатай елачкай крыху воддаль ад варот і нарэшце выключыла музыку. Мікіта з задавальненнем пацягнуўся.

— Прыехалі, дружа. Выходзь! — сказала Аліна.

Мікіта выйшаў з аўто і ўбачыў за варотамі змрочны каменны дом з шэрымі сценамі, цёмнымі гатычнымі вокнамі і дзвюма маленькімі вежамі. У адным акне гарэла святло.

— Ого, нічога сабе! Зусім як сярэднявечны замак, толькі рва з вадой не хапае! — з захапленнем сказаў Мікіта.

— Ёсць і роў, — абрадавала сябра Аліна. Яна падышла да варот і націснула на кнопку званка.

Забрахалі сабакі.

— Ратвейлеры. Тры штукі. Злыя, як чэрці. Хуткія, як ракеты. Добра, што цяпер на ланцугах! — сказала Аліна.

Вароты адчыніліся. Аліна з Мікітам рушылі ў напрамку дома. Яны прайшлі па сцяжынцы паміж прыцярушаных снегам хмызоў, позніх хрызантэм, прыгожых ліхтароў. Але праз хвіліну на шляху сяброў сапраўды паўстала водная перашкода — дастаткова шырокая дзеля таго, каб звычайны чалавек, не супергерой і не алімпійскі чэмпіён па скоках у даўжыню, не змог яе пераадолець.

— Ух, ты! А кракадзілы тут ёсць? — спытаўся Мікіта.

— Летам, — адказала Аліна. — Зімой няма. Прастуджваюцца, кашляюць. Іх трымаюць у крытым басейне з падагрэвам.

— Хацеў бы я стаць тутэйшым кракадзілам! Усе ўмовы для жыцця! — сумна сказаў Мікіта.

— Не з кожнага кракадзіла атрымліваецца добры ахоўнік, — заўважыла сяброўка.

З процілеглага берага да ног сяброў апусціўся драўляны мосцік.

Аліна і Мікіта прайшлі па мосціку і падняліся на высокі ганак асабняка. Там іх сустрэў немалады лысаваты мужчына з маноклем на левым воку і невялікай бародкай. На шыі мужчыны вісеў залаты медальён на тонкім ланцужку.

— Хто гэта? — насцярожана спытаўся ён, убачыўшы Мікіту.

— Усё ў парадку, Ёзаф. Гэта мой чалавек, — адказала Аліна.

— Праходзьце, — запрасіў Ёзаф гасцей.

Сябры ўвайшлі ў дом, распрануліся ў фае і накіраваліся ў гасціную следам за гаспадаром.

У гасцінай мелася ўсё, што павінна быць у правільным памяшканні такога прызначэння: мяккая канапа, крэслы, часопісны столік, таршэр з кутасікамі, персідскі дыван на падлозе, выбітныя ўзоры класічнага жывапісу на сценах і вялікі камін — сапраўдны, а не яго электрычная сублімацыя.

Мікіта азіраўся, з захапленнем разглядаючы карціны.

— Прыгожая ў вас… хацінка, — нарэшце сказаў ён. — Напэўна, дужа дарага абышлася?

— Не без ахвяр, — адказаў Ёзаф.

— Ахвяр?

— Малады чалавек, вялікія грошы не даюцца ў рукі проста так. Даводзіцца нечым ахвяраваць. Сябрамі. Каханнем. Здароўем. Вольным часам. Маштаб ахвяры залежыць ад таго, ці вялікія ў вас апетыты.

«Нічога сабе ў вас апетыты, спадар Ёзаф! Я б столькі не праглынуў! Чым жа вы займаецеся?» — падумаў Мікіта, а ўслых сказаў:

— Вельмі прыемны інтэр’ер. Англійскі. Сур’ёзны, ладны.

— О, так! — сказаў Ёзаф. — Уся мэбля — антыкварная. І нават гадзіннік — вось гэты, напольны, з зязюляй і боем, прыехаў да мяне з Лондана.

З гадзінніка высунулася механічная зязюля, важна, па-англійску, кукукнула і з пачуццём уласнага гонару схавалася ўнутры. Гадзіннік прабіў пяць разоў.

— А што рабіць? — уздыхнуў Ёзаф. — Жывём адзін раз, няўжо не маем права пажыць добра? А ёй, жалезнай крычалцы, усё роўна, для каго кукаваць — дык хай кукуе для мяне, я не супраць!

Мікіта прысеў на канапу каля каміна і працягнуў рукі да агню. Аліна падышла да Ёзафа.

— Ёзаф Саламонавіч, — сказала яна. — Мяркую, вы б не сталі мне ліставаць, калі б справа не была вельмі сур’ёзная. Таму я адразу прыляцела да вас, як толькі ў мяне з’явілася акенца ў маім… шчыльным графіку. Распавядайце!

Гаспадар не спяшаўся. Ён моўчкі прайшоўся каля вокнаў, закрыў цяжкія парцьеры, а толькі пасля пачаў гаварыць. Ёзаф гаварыў узрушана, але вельмі ціха, раз-пораз пераходзячы на шэпт і азіраючыся на дзверы.

— Аліначка, у мяне для вас неверагодныя навіны! Я дасканала вывучыў усе пяць камянёў. Вельмі цікава атрымалася: чатыры з пяці — зусім не камяні, а кавалкі каляровага шкла. Каштуюць не болей, чым падвескі на тэатральнай люстры. Я іх вам адправіў з кур'ерам. Але ж пяты… О-о-о!

Ёзаф дастаў з медальёна на грудзях маленькі ключык і адчыніў патаемныя дзверкі ў століку. Адтуль, са схованкі, ён дастаў вялікі ружовы дыямент. Камень зазіхацеў, рассыпаючы па мэблі і сценах асляпляльныя вясёлкавыя прамяні.

Мікіта адкрыў рот ад здзіўлення і на некаторы час забыўся, як дыхаць.

Ёзаф з захапленнем паглядзеў на самацвет і працягнуў:

— Гэта проста шэдэўр! Дыямент вышэйшай якасці і фенаменальнай чысціні! Да таго ж ён проста велізарны: трыста дзевяноста чатыры караты! Ружовых дыяментаў такіх памераў няма ва ўсім свеце! Сапраўдны высакародны кшатрый!

— Як вы сказалі? — перапытала Аліна, для якой усе камяні падраздзяляліся на «з якіх будуюць» і «якія носяць на сабе». Сама ж яна ўпрыгожванні не насіла і ў самацветах не разбіралася.

— Кшатрый! — паўтарыў Ёзаф. — Індыйскія майстры лічаць, што ўсе дыяменты падзяляюцца на варны, зусім як людзі — на касты: празрыстыя камяні без колеру — брахманы, чырванаватыя — кшатрыі, жоўтыя або з зелянцой — вайш'і, а цёмныя або шэрыя — шудры…

— Ага… чырвоныя, жоўтыя, шэрыя. Займальна. Думаеце, гэты каменьчык мае індыйскі след? — спыталася Аліна і, прыжмурыўшыся, зірнула на дыямент.

— Маю ўсе нагоды так лічыць, — запэўніў Ёзаф.

Дыямент ззяў, нагадваючы вялікую ружовую зорку. Аліна крыху палюбавалася самацветам і сказала:

— Не ведала, што ў Індыі ёсць радовішчы дыяментаў!

— О-о, што вы, Аліначка! — усклікнуў Ёзаф. — Самыя першыя дыяменты былі знойдзены ў Індыі і ўжо адтуль прыйшлі ў Еўропу разам з Аляксандрам Македонскім! Амаль да пачатку мінулага стагоддзя Індыя заставалася адзінай краінай у свеце, дзе здабываліся дыяменты. Адзінае, што мяне бянтэжыць, — гэта якасць агранкі…

— Божачкі, а што ж з агранкай не так? — узяўся за сэрца Мікіта: нечакана для сябе ён пачаў шчыра перажываць за лёс дыямента.

— Малады чалавек! — Ёзаф нервова паправіў манокль. — З агранкай усё добра, але… незразумела. Яна ідэальная! Ні ў капальнях Галконды, ні на сучасных прадпрыемствах дасягнуць такой якасці майстры не могуць. Прычым, маю заўважыць, агранка зроблена дужа цікава — так, што святло праламляецца вельмі спецыфічным вобразам… І пры асаблівых абставінах збіраецца ў адзін прамень.

Ёзаф дастаў з кармана ліхтарык, уключыў яго і накіраваў на камень. Дыямент перастаў зіхацець — нібыта зорка згасла. Святло ліхтарыка прайшло праз камень і сабралася ў адзін, белы і густы, як малако, прамень. Ёзаф накіраваў прамень на сцяну, і на ёй успыхнула яркая белая кропка.

— Ого! Падобна да лазера! — захапіўся Мікіта.

— Шчыра кажучы, — прашаптаў Ёзаф, — я ніколі не бачыў, каб камень апрацоўвалі такім чынам. І нават не магу ўявіць, для чаго гэта патрэбна!

— Дзякуй за кансультацыю. Гэта было вельмі пазнавальна. Але нам трэба ісці! — сказала Аліна і працягнула руку да каменя.

Але Ёзаф схаваў дыямент у далоні.

— І вы… проста сыдзеце? — з вялікім здзіўленнем спытаўся ён.

— Так, — адказала дзяўчына. — Мы з вамі ўжо разлічыліся, калі мяне не падводзіць памяць.

— Так, але… Вы не разумееце! Кшатрыі — гэта рэдкі тавар, на сто тысяч усіх здабытых дыяментаў толькі адзін мае ружовы колер, а камень такога памеру і якасці — сапраўдны шэдэўр! Я знайду пакупніка, які дасць за яго велізарныя грошы!

— Дзякуй, Ёзаф, але не трэба. Калі ўжо мне пашчасціла завалодаць такой рэдкай каштоўнасцю, мяняць яе на паперкі я не буду. Давайце камень сюды, — сказала Аліна, і на гэты раз яе словы прагучалі бескампрамісна.

— Але… з такімі грашыма вы зможаце сабе дазволіць усё на свеце! — усклікнуў Ёзаф.

— У мяне не хопіць фантазіі, каб прыдумаць, куды столькі патраціць!

Аліна пашчоўкала пальчыкамі. Ёзаф неахвотна паклаў дыямент ёй на далонь.

— Так лепш! — сказала Аліна і схавала камень у кішэню. — Хай гэты кшатрый ляжыць у мяне на стале і радуе вока. Мікіта, нам трэба ісці!

Ашаломлены Мікіта паслухмяна падняўся і следам за дзяўчынай скіраваўся да выхаду.

— Аліна! — пракрычаў Ёзаф Саламонавіч. — Прапанова застаецца ў сіле! Калі вы перадумаеце — знайдзіце мяне, і мы вырашым лёс вашага кшатрыя лепшым чынам!

— Абавязкова, — сказала Аліна ў адказ і ўсміхнулася.

Яны з Мікітам зноў прайшлі па мастку праз роў, па сцяжынцы між ліхтароў і хрызантэм, і выйшлі да аўтамабіля.

Аліна завяла матор «Буцэфала» і чакала, пакуль ён прагрэецца, а сама ў гэты час, знайшоўшы ў сумачцы вафельку, весела хрумсцела ёю. Мікіта глядзеў на Аліну доўгім, пранізлівым, неадрыўным, асуджаючым позіркам. Яна выглядала спакойнай, нават раўнадушнай.

— Ну? — спытаўся ён, вытрымаўшы тэатральную паўзу, якой пазайздросціў бы сам Меерхольд.

— Што — «ну»? — спыталася Аліна. — Хочаш кавалачак?

— Дзе ты ўзяла гэты камень? Дзе ты толькі яго выкапала, га?

— А, ты пра гэта. Ды так, супадзенне абставін. Можа, усё-ткі хочаш вафельку?

— У тваіх штанах ляжаць шалёныя мільёны долараў, а ты проста ясі вафельку? — Мікіта схапіў Аліну за рукі. — Гавары, адкуль камень у цябе? Ты кагосьці абакрала? Атрымала яго ў спадчыну? Купіла шахту ў Южна-Афрыканскай Рэспубліцы? Чаму ты нічога мне не расказала?

— А што расказваць? — спакойна сказала Аліна. — Я не ведаю, як ён да мяне патрапіў. Я знайшла яго ў сваім чамадане! Думаю — аднясу эксперту, праверу, што ды як. Ну і вось — аказалася, прыгожы ўнікальны самацвет. І яго ніхто не шукае ўжо амаль месяц! З гэтага вынікае, што ён нікому не патрэбны. Калі нічый — значыць, мой!

Мікіта схапіўся за галаву.

— Знайшла ў чамадане! — прашаптаў ён. — Нічый — значыць, яе! Кукусікі, там, у тваёй галаве, забастоўка ў тараканаў, іх асляпіла прыгажосць дыямента, і калектыўны розум адмаўляецца думаць? Нас знойдуць і заб'юць!

— Вой, хопіць, хопіць ужо! Ніхто нас не будзе забіваць. Каму мы патрэбныя? Ты лепш прышпіліся — ідзём на ўзлёт!

Аліна націснула на газ. Аўтамабіль плаўна рушыў з месца.

— Ты зноў ублыталася ў нейкую гісторыю, адшукала прыгоды на сваю… галаву! — загаласіў Мікіта.

— Па-першае, гэта не я адшукала прыгоды, а яны мяне! — сурова сказала Аліна. — Значыцца, такі лёс. Будзем разбірацца з імі паступова. Па-другое, перастань панікаваць! Калі ўсяго баяцца загадзя, то можна памерці ад сардэчнага прыступу або язвы. А ці прыйдзе тая гіпатэтычная бяда, якой ты баяўся, — яшчэ невядома.

— А ты што, сапраўды пакінеш гэты камень у сябе? Пакладзеш на стол і будзеш ім кідацца ў сваіх работнікаў? — спытаўся Мікіта. Ён ледзьве не плакаў.

— Даруй, але я не вар'ятка — кідацца ў людзей камянямі. Нават каштоўнымі. Мы яго схаваем! — абвясціла Аліна, вырульваючы паміж елак.

— Схаваем, — кіўнуў Мікіта. — У матрац?

— У які матрац?

— У нас ёсць адзін — бутафорскі, паласаценькі!

— Мікіта! Ну што за шапіто? Адстаўце жартачкі. У мяне выспеў план! Мы нічога не ведаем пра гэты камень і пакуль не даведаемся, хай ён не раздражняе нашы вочы. Таму мы яго… закапаем.

— Божухна… — Мікіта закрыў твар рукамі. — Дзе?

— Там, дзе не ходзяць людзі.

Крыху ўбок ад трасы М4 паволі зарастала мохам вёска з вельмі непрадказальнай назвай. Яна называлася не Залессе, Забалоцце або Заполле, а надта незвычайна для тутэйшых мясцін — Кулакоўка.

Калісьці краязнаўцы ламалі коп'і ў дыспутах наконт паходжання гэтай назвы. Адны лічылі, што да рэвалюцыі людзі ў гэтай вёсцы жылі заможна, таму ў часы калектывізацыі новая ўлада разгледзела ў гэтым небяспеку для маладой дзяржавы і тэрмінова раскулачыла ўсіх, у каго на падвор'і нешта кудахтала, раўло, рохкала або брахала. Іншыя даследчыкі настойвалі на тым, што вёска ніколі не была багатая, таму што зямля, дзе яна стаяла, была гліністая і неўраджайная; затое мужыкі ў гэтай вёсцы былі задзірыстыя, як пеўні, і любілі памахаць кулакамі з нагоды і без яе.

Між тым, абедзве версіі ў савецкі час даказалі сваю абсалютную слушнасць. Даволі хутка жыхары раскулачанай вёскі, якая ўвайшла ў склад калгаса «Новы Шлях», асмялелі, завялі парсючкоў, кароў, гусей і куранятак, пачалі высяваць на сваіх участках жыта, саджаць бульбачку, морквачку, бурачкі і нават сартавы тытунь. Мужыкі, усе як адзін, сцвярджалі, што лепшыя самакруткі атрымліваюцца з газеты «Праўда». У вёсцы былі збудаваны крама з белай цэглы, школа, дзе вучыліся юныя кулакоўцы, і клуб, куды маладыя і сталыя вяскоўцы прыходзілі патанчыць ды памахаць кулакамі.

Жыццё ішло, вёска расла, але аднойчы раніцай кулакоўцы даведаліся, што Савецкага Саюза болей няма. Ад такой навіны вёска ачуцца не змагла. Моладзь спакавала чамаданы ды з'ехала ў горад у пошуках джынсаў і лепшай долі, што, на думку маладзёнаў, павінна была прыйсці разам з тымі джынсамі. Сталыя людзі адно за адным пачалі перасяляцца на той свет. Краязнаўцы таксама згубілі ўсялякі інтарэс да тапанімікі вёскі, далейшае існаванне якой аказалася пад сур'ёзным пытаннем.

— Зараз тут пяць жылых двароў, — сказала Аліна, калі «Буцэфал» звярнуў з гравійкі на вясковую вуліцу. — Крама не працуе. Школу па цаглінках разабралі, яшчэ калі я была дзяўчынкай і ездзіла на канікулы да бабулі. Клуб і ўвогуле быў драўляны, спярша пачаў развальвацца ад старасці і недагляду, а потым тое, што ад яго засталося, зімой пусцілі на дровы.

Па абодвух баках вуліцы стаялі чорныя, перакошаныя хаты з цёмнымі вокнамі і дзіравымі дахамі. Ад некаторых хат увогуле засталіся адны коміны. Дзе-нідзе сярод парослых асотам заснежаных агародаў тырчэлі распятыя на жэрдках пудзілы. Было цёмна, халодна, пуста і бязлюдна.

Мікіта павёў плячыма. Яму было няўтульна: ён неяк так уяўляў сабе жыццё пасля апакаліпсіса.

— А вось і дом маёй бабулі! — радасна абвясціла Аліна і спыніла аўтамабіль. Вуліца тут заканчвалася.

Аліна выйшла з машыны, уздыхнула на поўныя грудзі, але адразу расчаравана сказала:

— Не пахне. Не пахне вёскай… Жывая вёска пахне гноем і тытунём. А гэта — мёртвая: пахне снегам…

Мікіта неахвотна пакінуў салон «Буцэфала».

— Мне здаецца, што тут вакол ходзяць прывіды, — сказаў ён.

— Вядома! Людзі тут нараджаліся, жылі і паміралі, яны і пасля смерці не пакідаюць сваю радзіму, а жывых — тых, хто адсюль з'ехаў, — лічаць здраднікамі… Ат, няма чаго сумаваць — жыццё заўсёды перамагае! Любы дружа, каб толькі ты бачыў, якія тут лісы жывуць! Бегаюць, мышкуюць, зусім не баяцца людзей! І бабры! Хочаш, я табе бабровую хатку пакажу? Тут зусім недалёка! — Аліна махнула рукой у цемру.

— Давай як-небудзь іншым разам, добра? — папрасіў Мікіта. Яму дужа не хацелася прабірацца па снезе праз ноч і вербалоз, каб палюбавацца бабровай хаткай. — Я б зараз ад бабровай шапкі не адмовіўся: вушы мёрзнуць!

— Ой, ну тады пойдзем хутчэй у хату!

Аліна ўзбегла на ганак, пацягнула на сябе клямку — і дзверы адчыніліся.

— Не замкнута? — здзівіўся Мікіта.

— Чужыя тут не ходзяць, а свае не нашкодзяць, — адказала Аліна.

Яна ўвайшла ў сенцы, абтрэсла снег з боцікаў і, не распранаючыся, прайшла ў хату. Там Аліна навобмацак адшукала на стале «пробку» электралічыльніка і прыладзіла яе на месца, а пасля шчоўкнула пераключальнікам на сцяне. Пад нізкай столлю ўспыхнула лямпачка.

Мікіта ўбачыў маленькі пакой: печ каля ўвахода, рудая шафа, жалезны ложак, стол, пара зэдлікаў, шафачка з посудам, выключаны халадзільнік.

— Халодна… — сказала Аліна і пахукала на рукі. —Гэта не кватэра, тут усё цяпло вятрамі выдуваецца за некалькі гадзін: справа — поле, злева — поле, па прамой — кар'еры, на тым канцы — лес!

— Небагата тут у вас, — сумна сказаў хлопец.

— У гэтым пакойчыку выраслі сем вельмі добрых людзей: мае дзядзькі, матуля і цётка. Дзіўны быў час — у людзей нічога не было, а яны былі шчаслівыя! Багацце — яно ж не ў сценах. Яно за сценамі! Лес, поле, рэчка і возера, сады-гароды, вольнае паветра, вольны час і заўсёды ёсць чым сябе забавіць! Уяві сабе, Мікіта: чым у горадзе зацікавіць сямёра дзяцей? Гурткі, студыі — гэта ж можна разарыцца: аднаго ў футбол, другога ў хакей, трэці маляваць хоча, чацвёрты балетам займацца! А тут — дзверы перад імі адчыніў, а вакол — цэлы свет!

Маленькай дзяўчынкай Аліна кожнае лета праводзіла ў вёсцы. Зараз яна вельмі сумавала па тых незабыўных часах, калі можна было раніцай выйсці з хаты басанож, з пустымі рукамі, а вярнуцца позна вечарам — не галоднай, бо дзяцей падкармлівалі рознымі прысмакамі ў кожным двары, перапэцканай з ног да галавы, з новай самаробнай вудачкай у руцэ і нізкай малькоў на лазіне — пачастункам для котак, а ў кожнай кішэні — белы наліў. Яна любіла прачнуцца на світанні, выйсці за вароты і глядзець, як белая посцілка туману танчэе на сонцы, ападае на траву расой, а раса пачынае граць усімі колерамі, як тысячы дыяментаў! Любіла навальніцы, якія прыходзілі з усходу: яны прыносілі з сабой яркія шырокія вясёлкі! Любіла бегаць па цёплым пяску, забірацца на высокую грушу ў садку і адтуль назіраць, як каровы ідуць з поля. Любіла парное малако, працэджанае цераз марлю, і карасёў у смятане, толькі вынутых з печы, і праснакі, што гатавала бабуля. Любіла глядзець, як дзядуля голіцца: о, гэта быў цэлы рытуал! Дзядуля тонка стругаў гаспадарчае, «простае», мыла ў маленькую металічную місачку, узбіваў памазком густую пену, намазваў ёю шчокі і шыю, а пасля небяспечнай брытвай віртуозна зразаў шчацінне пад самы корань!

А яшчэ Аліна вельмі любіла сядзець побач з дзядулем на лаве і глядзець на захад сонца — кожны вечар новы, непаўторны — і думаць, што калі-небудзь, калі стане зусім дарослай, яна пабяжыць за гэтым ружовым сонцам, дагоніць яго і схавае ў кішэню, бы спелы яблык! І яно, сонца, будзе салодкім, сакавітым, і ўсю зіму можна будзе адкусваць ад яго па кавалачку, а сонца не скончыцца ажно да наступнага лета!

А па начах над вёскай разгортваў свае зорныя крылы бясконцы Сусвет… Можна было выйсці ў поле, легчы і лічыць знічкі, якімі, нібы лусту хлеба соллю, ноч ад усёй душы пасыпала небасхіл, і марыць — ажно пакуль мары не скончацца.

І гэта было тое самае глыбокае, інтымнае, вельмі светлае і пяшчотнае, пра што немагчыма расказаць нікому, бо ніхто і не зразумее, чаму яно так хвалюе і кранае, і сніцца ноччу: ружовае сонца, зялёны лес, белыя зоркі, на ўсіх аднолькавыя і ў кожнага — свае…

Дзяўчына ўздыхнула:

— Эх… бабулінага праснака захацелася… і наліву. Белага. Ведаеш, дружа, калі б у мяне спыталіся, ці хацела б я вярнуцца ў дзяцінства, я б адказала — так, толькі не ў гарадское, а ў вясковае. У гарадскім мне было душна: з яго я не помню нічога акрамя сцен кватэры… Ты вось што, пачакай тут, а я зазірну ў каморку, пашукаю, чым мы будзем капаць!

Аліна грукнула дзвярыма. За імі нешта ляснулася і зазвінела, пачуўся Алінін кашаль, а потым яна сама з'явілася на парозе з абразком і рыдлёўкай у руках.

— Знайшла! — радасна сказала яна. — Думала, што і яе ўкралі разам з граблямі ды швейнай машынкай. А не! Гэта ж трэба, усё павыносілі, а пакінулі Божую Маці і рыдлёўку!

— І яшчэ акардэон! — сказаў Мікіта. Пакуль Аліны не было, ён выцягнуў з-пад ложка зялёны акардэон з пазападалымі клавішамі і зараз уважліва абследаваў яго.

— Глядзі там асцярожней: гэта дзядулеў любімчык! Інструмент дваццаць гадоў не бралі ў рукі, у ім могуць быць мышы! — папярэдзіла Аліна.

— Якія мышы, яны тут усе змерзлі даўно! — сказаў хлопец і расцягнуў мяхі. Інструмент, абуджаны пасля доўгага сну, цяжка ўздыхнуў і вохнуў, з мяхоў пасыпаўся пыл. — Проста дзіва! Трэба забраць яго з сабой, дзе ж мы яшчэ знойдзем такі рэквізіт!

— Для каго — рэквізіт, а для каго — памяць… Забярэм! — пагадзілася Аліна. — Добра. Гэта ўсё лірыка, аднак мы сюды завіталі не за гэтым. Недзе ў мяне былі пальчаткі для тэхнічных і землякопных работ…

Аліна выбегла на двор і скіравалася да аўтамабіля. Яна крыху падумала, успамінаючы, куды засунула пальчаткі, а пасля рашуча падышла да багажніка і адчыніла яго.

І тут здарылася нешта неверагоднае: Аліна ўбачыла вялікія круглыя вочы!

З багажніка на яе перапуджана глядзеў смуглы чарнавокі хлопец.

Аліна з трэскам зачыніла крышку і падняла яе яшчэ разок. Хлопец нікуды не знік. Дзяўчына ўзняла рыдлёўку і пачасала ёю скроню. Хлопец закрычаў:

— Нахін! Нахін!

— Мікіта! — паклікала Аліна свайго сябра, які з захапленнем ціскаў клавішы на акардэоне.

Калі Мікіта падышоў і ўбачыў хлопца ў багажніку, то адразу ж пераможна сказаў:

— А я цябе папярэджваў! Твая прыгода — ты і разбірайся!

Затым ён склаў рукі на грудзях, зрабіўшы выгляд, што яму зусім не цікава, што будзе адбывацца далей.

Аліна замахнулася на хлопца рыдлёўкай:

— Ты хто такі? Што ты тут робіш?

Хлопец заплакаў — бязгучна, вельмі горка, і столькі пакуты было ў гэтых слязах, што Аліна разгубілася і апусціла рыдлёўку.

— Чаго гэта ён? — спыталася яна.

— Мяркую, што ён цябе баіцца, — адказаў Мікіта. — Можа, думае, што мы вырашылі яго пахаваць зажыва.

— Як цябе завуць? — спыталася Аліна ў хлопца, але той толькі плакаў і паўтараў:

— Нахін… нахін…

— Што ён кажа?

— Не ведаю, — паціснуў плячыма Мікіта. — Гэта не па-англійску, не па-нямецку… не па-французску… Быццам і не па-іспанску…

— Ён увогуле з нашай планеты? — Аліна нахілілася да хлопца і гучна спыталася: — What is your name?

— Арджун! Арджун! — прастагнаў той.

— Арджуна? Ты што, індус? — зноў разгубілася Аліна, на гэты раз канчаткова.

— Табе яго, напэўна, сам Індра даслаў для нейкай вельмі важнай місіі! — саркастычна прамовіў Мікіта. Аліна штурхнула сябра локцем.

— Піна… — прастагнаў хлопец, і яго вялікія вочы закрыліся.

— Святыя памідоркі! — вохнула Аліна, асцярожна дакрануўшыся да хлопца рыдлёўкай. — Што з ім? Ён жывы?

Мікіта асцярожна дакрануўся да шыі хлопца і канстатаваў:

— Жывы. Страціў прытомнасць.

— Так… Так… — Аліна пачала ліхаманкава думаць, што рабіць, — і прыдумала. — Нам патрэбны ўрач… і тлумач!

«Буцэфал» імчаўся па заснежанай начной трасе ў сталіцу. Мікіта, учапіўшыся ў крэсла абедзвюма рукамі, паўтараў, як мантру:

— Не гані так! Куды ты спяшаешся? Збаў хуткасць!

Спачатку Аліна не звяртала на просьбы сябра ніякай увагі, але калі гэты гугнёж ёй добра надакучыў, сказала:

— Я спяшаюся выратаваць нашага пасажыра, не хапала яшчэ, каб ён аддаў Богу душу ў маім аўтамабілі!

Мікіта азірнуўся і злосна паглядзеў назад, дзе на сядзенні беспрытомна ляжаў не прадугледжаны планам сяброўкі індус. Па ініцыятыве Аліны хлопца было вырашана перамясціць з багажніка ў больш камфортныя ўмовы, а перамяшчаў яго, зразумела, Мікіта, у выніку чаго ён пацягнуў спіну.

— Кажу табе: трэба адвезці яго ў міліцыю! — сказаў Мікіта. — І камень твой таксама! Здай іх разам, і паедзем сабе спакойна спаць, я стаміўся, знерваваўся, змёрз і прагаладаўся!

Аліна Мікітаў план не ўпадабала.

— Скажы мне, любы дружа, як ты сабе гэта ўяўляеш? — спыталася яна. — Прыязджаем такія ў аддзяленне і кажам: калі мы паехалі ў вёску закопваць вось гэты ўнікальны дыямент, то знайшлі ў багажніку вось гэтага небараку, які ляжаў там ужо невядома колькі часу і ўжо амаль памёр. У нас пытаюцца: а чый гэта аўтамабіль? А я кажу: мой! А потым у мяне пытаюцца: а дзе вы ўзялі гэты камень? А я такая кажу: у чамадане знайшла! Вось адкажы мне, дарагі мой сябар, што б ты зрабіў на месцы нашых служыцеляў закону?

— Я б… затрымаў нас усіх да высвятлення абставін.

— Вось. Баюся, тут пятнаццаці сутак не хопіць. І яшчэ невядома, што з намі зробяць у следчым ізалятары. І ці не здырдзіцца там наш… Як ён сябе назваў?

— Арджуна.

— Менавіта! Арджуна. Герой бессмяротнага эпасу «Махабхарата», вялікі воін Арджуна бясслаўна загіне ў следчым ізалятары! Ніколі сабе не дарую!

— Добра, добра. Што прапануеш рабіць?

— Пазвані Наташы, скажы, хай яна пакліча майго доктара!

— Куды пакліча?

— Да дошкі — чытаць верш на памяць. У цэнтр, Мікіта, у наш цэнтр! А яшчэ скажы, што нам патрэбны перакладчык, які ведае хіндзі, і пажадана — не па дыпламатычных каналах.

Мікіта ўзяў тэлефон, уздыхнуў і набраў нумар сакратаркі. Пасля кароткай размовы і Наташынага пераканаўчага «Будзе зроблена!» ён канстатаваў:

— Нам вельмі пашчасціла з Наташай. Яна ніколі нічому не здзіўляецца!

— Яна сакратар, — сказала Аліна. — Яе справа — выконваць даручэнні, а не здзіўляцца. Для эмацыйных рэакцый у нас ёсць творчыя работнікі.

— А яшчэ яна сімпатычная.

— Што маецца, тое маецца… А я — сімпатычная? — раптам спыталася Аліна.

— Цяпер або ў прынцыпе? — удакладніў Мікіта, крытычна акінуўшы позіркам сяброўку.

— Зразумела, — сказала Аліна.

Яна ўключыла індыйскую музыку і да канца паездкі больш не сказала ні слова.

Доктар стаяў каля канапы, на якой ляжаў Арджуна, і меланхалічна сцягваў з рук гумавыя пальчаткі.

— Ну, чым нас парадуе таварыш эскулап? — пацікавілася Аліна, грэючы рукі аб кубак гарбаты. Гэта быў вялікі небіткі кубак з надпісам «Лепшы начальнік у свеце»: Аліне яго падарылі калегі. Канечне, паўлітра гарбаты за адзін прыём яна адолець не магла, але грэць рукі аб гэты яркі ўзор манументальна-керамічнай вытворчасці вельмі любіла, ды й надпіс на кубку, шчыра кажучы, ёй дужа падабаўся. Хоць яна і разумела, што калегі крышку перастараліся, — але сэрца, як і далоні, ад гэтага ўсё роўна саграваласся.

— Прагноз добры, — паведаміў доктар. — Я паставіў яму глюкозу і фізраствор. Пацыент моцны — ачуняе. Не дазваляйце яму хвалявацца, а як прыйдзе ў сябе — пакарміце гарачым. Яму пашчасціла, што не загінуў ад холаду.

Аліна працягнула доктару канверт:

— Я спадзяюся, доктар, што ўсё гэта застанецца паміж намі, бо калі гэта не застанецца паміж намі, то вы болей не мой доктар!

— Пра што размова, Аліначка! Я — магіла! — паспяшаўся заверыць доктар. Пасля ён узяў свой выратавальны чамаданчык і знік, як фокуснік, не пакінуўшы ніякіх слядоў сваёй прысутнасці акрамя кропельніцы ў вене індуса.

Дзяўчына паглядзела на Арджуну, глытнула гарбаткі і ціха сказала:

— Як жа я хачу спаць...

— Я выклічу таксі і адвязу цябе дадому, — сказаў Мікіта.

— Якое таксі? Якое дадому? Я гэтага Арджуну аднаго не пакіну. — Аліна паставіла кубак на стол і выйшла ў прыёмную, дзе Наташа паслухмяна чакала новых загадаў.

Мікіта пайшоў за сяброўкай.

— Наташа, ці ёсць у нас які-небудзь паралонавы дыванок, або з чаго там іх сёння робяць? — спыталася Аліна.

— Само сабой, Аліна Мікалаеўна! — адказала Наташа. Яна пачасала лоб, стала на зэдлік, знайшла вялікую папку з дакументамі на верхняй паліцы шафы і пачала шаргацець старонкамі. — Вось, знайшла. Дыванкі поліўрэтанавыя, дваццаць штук.

— Ого! Навошта нам столькі?

— Аліна Мікалаеўна, вы ў межах акцыі «За здаровы лад жыцця» ўсіх супрацоўнікаў цэнтра запісалі на ёгу: у нас заняткі ў здымачным павільёне па серадах і суботах.

— Нічога сабе… — здзівілася Аліна. — І ўсе ходзяць?

— Так, усе, акрамя Мікіты Алегавіча…

Аліна сумна паглядзела на Мікіту і заявіла:

— Адбіваешся ад калектыву! Усе папраўляюць здароўе…

— А я і так здаровы! — адказаў Мікіта.

— Наташа! Раніцай запішы Мікіту Алегавіча на планавы медыцынскі агляд. Хай яго ўважліва абследуюць. І прынясі мне, калі ласка, дыванок і плед.

— На планавы агляд… Вам які дыванок? — удакладніла Наташа, стоячы на зэдліку і запісваючы даручэнні ў вялікі нататнік з ружачкамі на вокладцы. — Чырвоны, сіненькі, жоўценькі?

— Давай жоўценькі…

— Каб цябе чорт узяў, Аліна! — ускрыкнуў Мікіта. — Наташа, і мне жоўценькі дыванок і плед! Буду начаваць з ёй і гэтым індусам, а то яна ізноў зачыніцца ў кабінеце, і мы яе не вымем адтуль яшчэ тыдзень!

Ноч у цэнтры прайшла спакойна. Аліна спала без задніх ног; не спаў, праўда, Мікіта: яму ўвесь час мроілася, што нядобразычліўцы ў масках і з пісталетамі ўлазяць у вокны ў пошуках дыямента. На шчасце, бліжэй да раніцы стома перамагла — і хлопец адключыўся.

Раніцай Наташа пастукала ў дзверы, зазірнула ў кабінет і сказала:

— Прачынайцеся, калі ласка, вас чакае сняданак!

Аліна адкрыла левае вока і першым чынам паглядзела на канапу. Арджуна салодка свісцеў носам і не змахваў на паміраючага.

— Ачуняў. Гэта добра… Мікіта! — паклікала сябра Аліна.

Мікіта, які спаў у дальнім кутку кабінета, пад фікусам, нацягнуў плед сабе на вушы.

— Мікіта, уставай! Прасынайся, паднімайся! — сказала Аліна гучней.

Мікіта маўчаў. Не дужа яму хацелася паднімацца і кідацца грудзямі на амбразуру новага дня. Аліна ж, насупраць, падскочыла і скруціла дыванок у трубачку.

— Не прыкідвайся ўдавам, я ведаю, што ты мяне чуеш! У нас процьма спраў! — сказала яна, а потым звярнулася да сакратаркі: — Наташа, ты перакладчыка знайшла?

Наташа ўвайшла ў кабінет, паставіла паднос з кубкамі на стол і ціха сказала:

— Карацей кажучы, такія справы. У агенцтвах без папер адпускаць перакладчыка не жадаюць. Дамовы, узгадненні, аплата па безнаяўным разліку і ўсё такое… У лінгвістычным універсітэце запатрабавалі, каб нагрузка на індыйскага студэнта была не болей як восем гадзін у суткі, а начаваў ён у інтэрнаце. А калі ён нам уначы спатрэбіцца? Катастрофа!

— А ў медыцынскім не шукала? Там багата індусаў.

— Багата, але ж яны зусім не нашага профілю, Аліначка Мікалаеўна! Там першае, што спыталі: «Ці будзем мы ў вас прэпарыраваць цела?» А ваш як яго… Арджуна, ён як быццам яшчэ жывы, дык я падумала, што студэнтаў-медыкаў клікаць нам пакуль ранавата.

— Паклічце медыкаў! — прабубнеў Мікіта з-пад фікуса. — Я — мёртвы! Хай мяне прэпарыруюць! Восем гадзін раніцы, а вы тут квохчаце на поўны голас!

— Цябе мы не будзем прэпарыраваць, цябе мы замарозім для нашчадкаў, — сказала Аліна і зноў звярнулася да Наташы: — Ці будзе ў нас нехта, хто размаўляе на хіндзі?

Наташа кіўнула, выйшла з кабінета, але вярнулася не адна. Яна трымала пад руку невысокага смуглага хлопца ў доўгай фіялетавай туніцы. Хлопец радасна ўсміхаўся — проста выпраменьваў шчасце і пазітыў.

Ускудлачаная Аліна памахала яму рукой. Хлопец усміхнуўся яшчэ шырэй, склаў далоні каля падбародка і весела сказаў:

— Намастэ!

— Гэта Кумар, — прадставіла хлопца Наташа.

— Дзе ты яго… знайшла?

— Ва ўніверсітэце культуры.

— І што ён там робіць? — спыталася Аліна, усміхнулася і памахала рукой яшчэ раз. — Хіндзі, беларусі — бхай, бхай!

Кумар памахаў у адказ.

— Вывучае беларускі фальклор і грае на… э-э-э… — Наташа задумалася, але Кумар ёй дапамог. Ён выбег за дзверы, а вярнуўся з цымбаламі. Паставіўшы цымбалы пасярод кабінета, хлопец жахнуў малаточкамі па струнах. Загучала «Лявоніха».

— Ой, Льявоныха, Льявоныха мая! — бадзёра заспяваў хлопец, прытанцоўваючы на месцы.

Мікіта рэзка прачнуўся і вызірнуў з-пад пледа. Ён нават падпоўз бліжэй, каб лепш разглядзець гэткі цікавы, рэдкі экспанат.

Арджуна таксама прачнуўся, сеў на канапе і з вялікай зацікаўленасцю пачаў аглядаць кампанію незнаёмых людзей, якія слухалі сольны нумар у выкананні таленавітага студэнта.

Кумар скончыў граць.

— Вось што значыць — высокі ўзровень адукацыйнай установы! — сказала Аліна.

Прысутныя заапладзіравалі.

— Шукрыя! — сказаў Кумар, кланяючыся. — Дома я граль на сантур. Ён вельмі падобны да цімбаль. Так што кожны беларус — крыху індыец!

Аліна абвяла вачыма аўтэнтычнага носьбіта хіндзі і, нахіліўшыся да Наташы, ціха спыталася:

— Гэта лепшы з тых, што былі?

— Гэта адзіны, — адказала Наташа. — І той не хацеў ісці, мне давялося размаўляць з загадчыкам кафедры, каб Кумару гэтую працу залічылі ў якасці практыкі. Сказала: робім матэрыял па матывах індыйскага фальклору.

— Песня пра каханне! — абвясціў Кумар і зноў ударыў па струнах. Гэты раз песня была індыйская і, відаць, вельмі папулярная на яго Радзіме, бо як толькі хлопец заспяваў, Арджуна адразу ж пачаў яму дапамагаць.

— І яшчэ, Аліначка Мікалаеўна… — Наташа ўзяла Аліну пад локцік і вывела з кабінета. — Я не стала звяртацца ў амбасаду. Я падумала, што пакуль мы не ведаем, чаго ён забраўся ў ваш багажнік, лепш не ўзнімаць шум і паніку. Калі сам папросіць — тады і звернемся. Усе мы людзі, чаго яго «здаваць». Ён такі замораны, што не выглядае небяспечным... Як вы думаеце?

— Ай, ты маё золатка! — Аліна пацалавала Наташу ў лоб. — Усё правільна. Выпішы сабе прэмію. Высветлім у Арджуны, што з ім здарылася, і вызначымся, што рабіць далей.

З кабінета працягвалі даносіцца музыка і спевы. Песня была вельмі прыгожая, але такая тужлівая, што Аліна не вытрымала.

— Што ж гэта за каханне, ад якога нараджаюцца гэткія песні! У мяне зараз зубы разбаляцца!

— Можа, гэтая песня пра нешчаслівае каханне, — выказала думку Наташа. — Калі б я нешчаслівa закахалася або зламала абцас у сваіх туфліках за тысячу долараў, то, напэўна, напісала б нешта падобнае.

— Хадзі акуратненька. Усё! Трэба спыняць гэты канцэрт, — рашуча сказала Аліна. — Вось што, Наташа. Ты вазьмі ў нашага індыйскага цымбаліста распіску аб невыдаванні. І дай задатак за працу, каб перакладаў найлепш!

Яна зазірнула ў кабінет і сурова паглядзела на Кумара. Кумар склаў бровы «домікам», усміхнуўся, даспяваў куплет і скончыў граць.

— З усяе сілы каб перакладаў! — дадала Аліна.

Калі Наташа ўкаціла ў кабінет сервіровачны столік са сняданкам на пяць персон і ўсе расселіся вакол, Аліна калупнула відэльцам тварожную запяканку на сваім сподку ды строга спыталася ў Арджуны:

— Ты не тэрарыст?

— Ноу, ноу! — замахаў рукамі Арджуна. Наташа паклала яму на сподачак кавалак запяканкі і паліла яе абрыкосавым джэмам.

— Ён кажа — не, — пераклаў Кумар, працягнуўшы Наташы пустую талерачку.

— Я зразумела! — сказала Аліна. — Ты перакладзі яму, што калі ён варожы шпіён або злачынец, то я… эммм… вырву яму кіпці і падсмажу пяткі! Хай не думае хлусіць!

— Аліна, ну што ты такое гаворыш! — прашаптаў Мікіта.

— Я гэта бачыла ў адной кінастужцы, — прашаптала тая ў адказ. — Няхай баіцца! А ты што сядзіш з усмешачкай? Зрабі грозны выгляд!

Хлопец разгублена азірнуўся, потым схапіў са стала дыракол і гучна зароў:

— Хто будзе маніць — таму зраблю пірсінг!

Аднак па выразе твараў Кумара і Арджуны было відаць, што яны і так гатовы выкласці ўсё, што ведаюць, — нават ваенныя таямніцы, калі гэта спатрэбіцца, — але толькі пасля сняданку.

Наташа паклала Кумару ў талерку яшчэ кавалак запяканкі.

— Мне смятанкі, калі ласка, — сказаў Кумар і ўсміхнуўся Наташы. Тая сарамліва апусціла вочы і пакрылася румянцам.

— Паспытайце чаю! — сказала яна. — Індыйскі. Мне яго Кумар дапамог зварыць.

Аліна ўзяла кубак і прынюхалася. У носе заказытала ад паху спецый.

— Гэта сапраўды чай? — з недаверам спыталася яна.

— Гэта масала! — адказаў Кумар. — Наш традыцыйны напой. Бяром малако, калі яно закіпіць, апускаем у яго чай, перамолаты кардамон, імбір, гвалдзіку, чорны перац, фенхель, мускат, міндаль, шафран. Варым пяць хвілін. Атрымліваем асалоду! Добра для імунітэту, страўніка, паднімае настрой!

Аліна зрабіла глыточак масалы і пачакала пару хвілін, ці не здарыцца бяды. Нічога дрэннага не адбылося.

— Вельмі смачна, Кумар! А ў чым вы варылі?

— Кумар прынёс з сабой электрычную каструльку, — сказала Наташа і паклала сабе кавалачак запяканкі.

Нарэшце ўсе атрымалі сваю ежу і пачалі з апетытам снедаць.

— Сняданак без добрай размовы перастае быць добрым, — сказаў Кумар. — Няхай Арджуна раскажа нам сваю гісторыю.

Арджуна кіўнуў.

— Гэтая гісторыя пачалася даўным-даўно… — пачаў ён, і Кумар з радасцю пераклаў інтрыгуючы пачатак аповеду.

— Пачні з галоўнага! — параіла Аліна.

— Тады вы нічога не зразумееце! — адказаў Арджуна.

— Ну, добра, добра. Хай гаворыць, мне, напрыклад, вельмі цікава! — сказаў Мікіта.

Арджуна працягваў далей:

— Гэтая гісторыя пачалася даўным-даўно, калі не было яшчэ ні нашых бацькоў, ні дзядуль, ні прадзедаў, а на зямлі жылі зусім іншыя людзі — шчырыя, прыгожыя, якія ўмелі размаўляць з Сусветам і лятаць да самых далёкіх зор…

Аліна з Мікітам змоўклі і падперлі рукамі падбародкі.

І чым далей сябры слухалі, тым больш неверагодныя і прыгожыя малюнкі паўставалі перад імі. Гэта была дзіўная, поўная загадак і таямніц гісторыя, якую ім не даводзілася чуць ніколі раней.

*Працяг у наступным нумары.*

Кэтрын Мэнсфілд

# Зморанасць Розабэль

На рагу Оксфард-стрыт Розабэль купіла букет фіялак — і менавіта з-за гэтага яна не змагла выпіць досыць гарбаты, а булачкі і варанага яйка з кубачкам какавы ў Лайанз наўрад ці хопіць, каб наесціся пасля цяжкага працоўнага дня ў майстэрні жаночых капелюшоў. Розабэль ускочыла на прыступку аўтобуса, прыўзняўшы спадніцу адной рукой, а другой схапіўшыся за поручань. Яна падумала, што душу аддала б за смачную вячэру: смажаная качка з зялёным гарошкам і начынкай з каштанаў, пудынг пад соусам з брэндзі — нешта гарачае, смачнае і сытнае. Яна села насупраць дзяўчыны прыкладна свайго ўзросту: тая чытала таннае выданне «Ганна Ламбард» у мяккай вокладцы, старонкі якой, быццам слязьмі, былі запырсканы дажджом. Розабэль паглядзела ў акно. Вуліца была размыта, бы ў смузе, але святло, якое бегала па шкле, аздабляла шэрасць вуліц срэбрам і апаламі, і ювелірныя майстэрні праз шкло здаваліся казачнымі палацамі. Яе ногі страшна намоклі, і яна магла, не гледзячы, сказаць, што спод яе верхняй і ніжняй спадніц пакрыты чорным слізкім брудам.

Паветра ў аўтобусе поўнілася пахам цёплых чалавечых цел: ён, падавалася, сачыўся з кожнага пасажыра, і ў кожнага быў такі ж самы выраз твару, той жа нерухомы позірк, утароплены проста наперад. Колькі разоў яна чытала гэтыя аб’явы: «Мыла “Саполія” беражэ час, беражэ сілы», «Таматны соус Хайнц» і бязглуздая, прыкрая размова паміж урачом і суддзёй пра «Гарачкапаніжальны раствор солі ад ламоты». Розабэль зірнула на кніжку, якая відавочна захапіла дзяўчыну, бо тая бязгучна варушыла вуснамі, як і кожны раз аблізвала ўказальны і вялікі пальцы, каб перагарнуць старонку, — менавіта тое, што Розабэль не выносіла. Розабэль не магла разгледзець усе словы. Нешта пра цёплую ноч, поўную пачуццяў, гукі аркестра і дзяўчыну з прыгожымі беднымі плячыма. О, Божухна! Розабэль расшпіліла два верхнія гузікі паліто… ёй здавалася, што яна зараз задыхнецца. Праз напаўпрыкрытыя вейкі твары ўсіх людзей на сядзеннях насупраць зліліся ў адзін твар з пустым позіркам…

Аўтобус пад’ехаў да яе прыпынку. Розабэль крыху спатыкнулася, калі выходзіла, і хіснулася да дзяўчыны насупраць.

— Выбачайце, калі ласка, — вымавіла Розабэль, але дзяўчына нават не адарвалася ад кнігі. Розабэль заўважыла: на яе твары блукала ўсмешка.

Вуліца Уэстбарн Гроўв выглядала такой, якой Розабэль заўсёды ўяўляла Венецыю ўначы, — загадкавай і цёмнай, і нават двухколкі былі падобныя да гандол, што сноўдалі ў абодва бакі вуліцы, а іх цьмяныя ліхтарыкі — усяго толькі язычкі полымя, якія лізалі вільготныя камяні, — да чароўных рыб у Гранд-канале. Яна адчувала неверагодную радасць дайсці да Рычманд-роўд, але ад самага рога вуліцы да дома нумар 26 яна магла думаць толькі пра тыя чатыры лесвічныя пралёты. О, ну навошта яны патрэбныя, тыя чатыры пралёты! Гэта сапраўднае злачынства — вымушаць людзей жыць так высока. У кожным доме павінен быць пад’ёмнік, хаця б нешта простае і недарагое, ці замест яго электрычная лесвіца, як на станцыі Эрлс Корт. Але чатыры лесвічныя пралёты! Розабэль ледзь не заплакала, калі ўвайшла ў вестыбюль і ўбачыла першы пралёт і галаву чучала альбатроса на пляцоўцы, прывідную ў святле невялічкага газавага ражка. Аднак іх трэба было пераадолець. Караскацца па гэтых прыступках — гэта быццам узбірацца на ровары ўверх па стромкім узгорку, толькі без захаплюючага спуску з другога боку…

Урэшце — яе пакой! Яна зачыніла за сабой дзверы, запаліла газавы каганец, зняла капялюш і паліто, спадніцу і блузку, узяла з кручка за дзвярыма дамашні халат, апранула яго, расшнуравала

чаравікі. Калі падумаць, яе панчохі былі не настолькі вільготныя — можна і не пераапранаць. Розабэль падышла да ўмывальніка. Сёння ў збане зноў амаль не было вады — ледзьве хапіла, каб намачыць губку. Эмаль на ўмывальніку патрэскалася і пачала абвальвацца — сёння Розабэль ужо ў другі раз абадрала падбародак.

Было ўсяго сем гадзін вечара. Калі адхінуць фіранку і патушыць святло, будзе спакайней — і яна зможа адпачыць. Розабэль не хацелася чытаць. Таму яна апусцілася на калені каля акна і склала рукі на падаконніку… Толькі падумаць, усяго толькі танюткі ліст шкла аддзяляе яе ад велізарнага вільготнага свету!

Яна думала пра ўсё, што здарылася з ёй у гэты дзень. Немагчыма забыць тую непрыемную жанчыну ў непрамакальным плашчы, якая шукала шапку з брылём — «нешта ліловае, аздобленае ружовым з абодвух бакоў». І дзяўчыну, якая перамерала ўсе капелюшы ў краме, а потым сказала, што «зойдзе заўтра, каб канчаткова вырашыць». Розабэль не магла схаваць усмешку: апраўданне старое, як свет…

Але сярод наведвальнікаў быў і нехта іншы — дзяўчына з прыгожымі рудымі валасамі, бялюткай скурай і вачыма колеру зялёных стужак з залатой ніткай, якія яны атрымалі з Парыжа на мінулым тыдні. Розабэль змагла разгледзець яе двухмесны механічны экіпаж ля дзвярэй. З дзяўчынай зайшоў даволі малады мужчына, вельмі добра апрануты.

— А што менавіта мне патрэбна, Гары? — спытала ў яго дзяўчына, пакуль Розабэль вынімала шпількі з яе капелюша, развязвала вуаль і падавала ёй люстэрка.

— Табе патрэбны чорны капялюш, — адказаў ён, — чорны капялюш з пяром, якое б ішло ўздоўж усяго капелюша, потым спускалася па тваёй шыі і завязвалася б банцікам пад падбародкам, а канец яго можна было б засунуць за пояс — сапраўды доўгае пяро.

Дзяўчына з усмешкай павярнулася да Розабэль.

— Ці ёсць у вас такія?

Ім было вельмі цяжка дагадзіць. Гары прасіў немагчымага — і Розабэль была ўжо амаль у роспачы, але тут яна ўспомніла пра вялікую некранутую каробку наверсе.

— О, мадам, пачакайце хвілінку, — сказала яна. — Мне здаецца, я магу прапанаваць нешта, што вас задаволіць.

Яна, запыхаўшыся, узбегла наверх, разрэзала вяроўкі, раскідала абгортачную паперу і — так, вось ён, той самы капялюш. Даволі вялікі, мяккі, з доўгім закручаным пяром і чорнай аксамітавай ружай — нічога больш. Яны былі задаволеныя. Дзяўчына надзела яго, а потым аддала Розабэль.

— Давайце паглядзім, як ён выглядае на вас, — сур'ёзным тонам прапанавала яна, крыху нахмурыўшыся.

Розабэль падышла да люстэрка і надзела капялюш на свае цёмныя валасы, а потым павярнулася да іх.

— Ах, Гары, ну ці не цудоўны? — усклікнула дзяўчына. — Я проста мушу яго ўзяць!

Яна, усміхаючыся, зноў звярнулася да Розабэль:

— Ён так Вам пасуе!

Нечакана недарэчнае пачуццё злосці ахапіла Розабэль. Ёй захацелася шпурнуць гэтую мілую нетрывалую рэч дзяўчыне ў твар, і яна, паружавеўшы, схілілася над капелюшом.

— Ён вельмі вытанчана зроблены знутры, мадам, — сказала яна.

Дзяўчына выпырхнула з крамы, пакінуўшы Гары аплату і каробку з капелюшом.

— Трэба вярнуцца дадому і надзець яго на абед з табой, — данесліся да Розабэль яе словы.

Мужчына схіліўся над Розабэль, пакуль яна выпісвала рахунак; затым, калі адлічваў ёй грошы, ён спытаў:

— Цябе калі-небудзь малявалі?

— Не, — проста адказала Розабэль, неспадзявана ўлавіўшы лёгкую змену ў яго голасе, — адценне дзёрзкасці, вольнасці.

— А павінны былі! — прамовіў Гары. — У цябе чартоўскі прывабная мініяцюрная постаць!

Розабэль зусім не слухала яго. Які ж ён прыгожы! Яна не магла думаць ні пра каго іншага ўвесь дзень: яго твар зачараваў яе. Яна і цяпер магла яскрава ўявіць яго ладныя прамыя бровы, валасы, якія крыху віліся толькі ад самага лба, яго вусны з ганарыстай усмешкай. Яна зноў бачыла, як яго зграбныя рукі адлічвалі грошы… Розабэль раптам адкінула валасы з твару, яе лоб гарэў… каб толькі тыя зграбныя рукі на імгненне датыкнуліся… Як жа пашэнціла той дзяўчыне!

А што, калі б Розабэль была на яе месцы? Яна б паехала з ім дадому; канешне, яны кахалі б адно аднаго, і хаця былі б яшчэ не заручаны, доўга чакаць гэтай падзеі не давялося б. Яна б сказала яму: «Я толькі на хвілінку». Ён застаўся б чакаць яе ў экіпажы, пакуль яна паднімалася наверх са служанкай, якая несла каробку з капелюшом. Яны б увайшлі ў яе прасторную бела-ружовую спальню з ружамі ў простых срэбраных вазах. Яна б села перад люстрам, і невысокая служанка-француженка завязала б стужкі на капелюшы і знайшла б ёй прыгожую тонкую вуаль і іншую пару белых замшавых пальчатак — ад той пары, што яна насіла раніцай, адарваўся гузік. Яна надушыла свае футры, і пальчаткі, і насоўку, потым схапіла вялікую муфту і збегла ўніз. Дварэцкі адчыніў дзверы: Гары чакаў яе, яны разам ад'ехалі ад дома… Вось гэта жыццё, падумала Розабэль! На шляху да раскошнага рэстарана яны спыніліся ля кветкавай крамы Джэрарда, дзе Гары набыў для яе мілы букецік фіялак і ўклаў яго ў яе рукі.

— Ох, яны чароўныя! — сказала яна, прытуліўшы кветкі да твару.

— Так мусіць быць заўсёды, — прамовіў Гары, — ты — з фіялкамі ў руках.

(Розабэль адчула, што яе калені здранцвелі. Яна села на падлогу і прыхілілася галавой да сцяны.) Гэта быў незабыўны абед! Стол, усыпаны кветкамі, аркестр, схаваны за пальмамі, музыка, якая, бы віно, разагравала яе кроў. Суп, і вустрыцы, і галубы, і лёгкае пюрэ, і, канешне, шампанскае, а потым кава і цыгарэты. Абапёршыся на стол, яна пагульвала з келіхам і гаварыла нешта з абаяльнай весялосцю, што так любіць Гары. Потым дзённы спектакль, які захапіў бы іх дваіх, і нарэшце гарбата ў «Катэджы».

— Цукар? Малако? Вяршкі?

Гэтыя кароткія дамашнія пытанні навявалі адчуванне прыемнай блізкасці. А прыцемкам зноў дадому, і фіялкі, здавалася, насычалі ўсё паветра сваім салодкім пахам.

— Я зайду за табой а дзявятай, — паабяцаў ён на развітанне.

Полымя гарэла ў каміне яе будуара, шторы былі завешаны, на століку чакаў стос лістоў — запрашэнні ў оперу, на вячэры, балы, выхадныя ля ракі, аўтамабільны тур. Яна абыякава праглядзела іх, пакуль паднімалася наверх. У спальні таксама быў запалены камін, а на ложку ляжала яе багатая бліскучая сукенка — белы цюль на серабрыстым, серабрыстыя чаравікі, серабрысты шалік і маленькі серабрысты веер. Розабэль ведала, што была самай прыкметнай жанчынай на балі тым вечарам. Мужчыны падыходзілі да яе з кампліментамі, замежны прынц таксама пажадаў пазнаёміцца з гэтым англійскім цудам. Так, гэта была ноч, поўная пачуццяў, і гукі аркестра, і яе прыгожыя бледныя плечы…

Але яна так стамілася! Гары адвёз яе дадому і на хвілінку затрымаўся. Камін у гасцёўні патух, але ў будуары яе яшчэ чакала сонная служанка. Розабэль зняла плашч, адпусціла служанку і стала ля каміна, сцягваючы пальчаткі. Святло ад агню зіхацела ў яе валасах. Гары падышоў да яе і схапіў у абдымкі.

— Розабэль, Розабэль, Розабэль…

О, як спакойна ў гэтых руках, і яна так стамілася!

(Сапраўдная Розабэль, якая сядзела на падлозе ў цемры, засмяялася і прыціснула да гарачых вуснаў руку.)

Безумоўна, назаўтра яны паехалі ў парк, пра іх заручыны абвясцілі ў Прыдворным цыркуляры, і ўвесь сусвет ведаў, і ўвесь сусвет віншаваў яе…

Хутка яны ажаніліся ў саборы Святога Георга на плошчы Хановар і паехалі ў стары радавы маёнтак Гары на мядовы месяц. Сяляне віталі іх паклонамі і рэверансамі, калі яны праязджалі праз вёску. Ён сутаргава сціскаў яе далоні пад пледам. А ўвечары яна зноў апранула белую і серабрыстую сукенку. Яна вельмі стамілася пасля падарожжа і пайшла спаць… даволі рана…

Сапраўдная Розабэль паднялася з падлогі і павольна распранулася, павесіўшы адзенне на спінку крэсла. Яна накінула праз галаву сваю грубую паркалёвую начную кашулю і выняла з валасоў шпількі. Мяккія цёмныя валасы цёплымі хвалямі рассыпаліся па яе плячах. Яна задула свечку і навобмацак дайшла да ложка, скурчылася ў цемры, падцягнуўшы да самай шыі сваю коўдру і запэцканае пікейнае пакрывала…

І яна спала, і бачыла сны, і усміхалася ў сне, і адзін раз выцягнула руку, быццам намагалася намацаць нешта, чаго там не было, — усё яшчэ ў сне.

Ноч скончылася. Халодныя пальцы світання абхапілі яе выцягнутую руку, цьмяны пакой напоўніўся шэрым святлом. Розабэль уздрыгнула, перарывіста ўздыхнула і села. І, бо яна атрымала ў спадчыну той трагічны аптымізм, які часта і ёсць адзіная спадчына маладосці, яна ўсміхнулася усё яшчэ напалову ў сне, і яе вусны крыху нервова задрыжалі.

**(1908)**

*Пераклад з англійскай Кацярыны Балаш*
*Падрыхтоўка да друку Вольгі Марозавай*
Крыніца: http://www.katherinemansfieldsociety.org/assets/KM-Stories/THE-TIREDNESS-OF-ROSABELL1908.pdf

## Прыгарадная казка

Містар і місіс Б. утульна сядзелі за снеданнем у чырвоным сталовым пакоі сваёй «зацішнай маленькай калыскі за паўгадзіны шляху ад Сіці».

У каміне палала добрае вогнішча, бо сталовая была адначасова гасцёўняй; вялікія вокны, якія выходзілі ў халодны пусты сад, былі зачынены, і паветра поўнілася прыемным пахам смажаных яек з беконам, тостаў і кавы. Цяпер, калі нарміраванне прадуктаў нарэшце скасавалі, містар Б. лічыў асабліва істотным грунтоўна паесці перад надзвычай сур’ёзнымі дзённымі справамі. Яму было ўсё роўна, хто што думае: у дачыненні да снедання ён быў сапраўдным англічанінам — ранкам яму проста неабходна было паесці. Без снедання ён хутка проста зваліўся б, і калі нехта казаў яму, што на кантыненце могуць зрабіць палову яго ранішняй працы, паснедаўшы толькі булачкай і кубачкам кавы… то гэты чалавек проста не ведаў, пра што кажа.

Містар Б. быў мажным маладжавым мужчынам, які не змог, на няшчасце, кінуць працу і ўступіць ў армію. На працягу чатырох гадоў ён намагаўся знайсці кагосьці іншага на сваю пасаду, але безвынікова. Ён сядзеў на чале стала і чытаў газету «Дэйлі Мэйл». Місіс Б. была маладжавай маленькай і пухлай жанчынай, падобнай да галубкі. Яна сядзела насупраць мужа і паглядала то на свой адбітак у кафейным сервізе, то са строгасцю, але і з любоўю на захутанага ў сурвэтку маленькага Б., які масціўся ў крэсле паміж імі і тыкаў лыжкай у зваранае ўсмятку яйка.

На жаль! Маленькі Б. быў зусім не тым дзіцём, якога маюць права чакаць такія бацькі. Ён не быў ні тоўсценькім карапузікам, ні пампушкай, ні салодкім пухлянём. Ён быў маленькі для свайго ўзросту, з танюткімі, як макароніны, нагамі, маленечкімі ручкамі з пальчыкамі, падобнымі да кіпцюроў, мяккімі-мяккімі валасамі, на дотык быццам мышыная шэрсць, і вялікімі, шырока расплюшчанымі вачыма. Па нейкай незразумелай прычыне ўсё ў жыцці, здавалася, не падыходзіла маленькаму Б., было надта вялікім і надта страшным. Усё збівала яго з ног, нібы выбівала вецер з-пад яго слабых крылаў — і ён спужана затыхаўся. Містар і місіс Б. ніяк не маглі прадухіліць гэта, ім заставалася толькі падняць яго пасля таго, як бяда здарылася, і запусціць зноў. І місіс Б. любіла яго так, як любяць толькі слабых дзяцей, а калі містар Б. думаў, якім цудоўным хлопчыкам быў яго сын, думаў пра рашучасць гэтага маленькага чалавека, ён… ну, ён… далібог, ён…

— Чаму яйкі ўсе аднолькавыя? — загаварыў маленькі Б. — Чаму няма асобных маленькіх яек для дзяцей і вялікіх яек для дарослых?

— Шатландскія зайцы, — прамовіў містар Б. — Добрыя шатландскія зайцы за пяць шылінгаў і тры пенсы. Давай купім, дарагая?

— Было б няблага, для разнастайнасці, праўда? — адказала місіс Б. — Патушым.

І яны паглядзелі адно на аднаго праз стол, і паміж імі праплыў шатландскі заяц: з начынкай і ў тлустай падліўцы, а да яго — жэле з чырвоных парэчак ў белым гаршку.

— Можна было б на выходных, — працягвала місіс Б. — Але мяснік абяцаў мне файны кавалак паляндвіцы, і было б шкада…

Так, шкада, але ўсё ж… Божа, як жа цяжка было вырашыць. Зайца ў іх меню даўно не было, але з іншага боку, што можа быць лепшым за сапраўды файную паляндвіцу?

— Вараць яшчэ суп з зайца, — сказаў містар Б., пастукваючы пальцамі па стале. — Лепшы суп у свеце!

— Ого-о-о! — выгукнуў маленькі Б., ды так нечакана і рэзка, што бацькі ўздрыгнулі. — Паглядзіце! Цэлая чарада вараб'ёў зляцелася на наш лужок! — ён памахаў лыжкай. — Паглядзіце на іх! — усклікнуў ён. — Глядзіце!

І пакуль ён гаварыў, нават праз зачыненыя вокны яны пачулі з саду гучны прарэзлівы піск і шчэбет.

— Будзь добрым хлопчыкам, не круціся, калі ласка, — сказала яго маці, а бацька дадаў:

— Не адрывайся ад яйка, хлопча.

— Ды паглядзіце на іх, паглядзіце, як яны скачуць! — закрычаў хлопчык. — Яны ж ні на імгненне не спыняюцца! Думаеш, яны галодныя, тата?

«Чык-чырык-чырык», — шчабяталі вераб'і.

— Можа, лепш на наступным тыдні, — заўважыла місіс Б. — Спадзяюся, зайцы яшчэ застануцца.

— Так. Можа, і лепш, — сказаў містар Б.

Ён знайшоў у газеце яшчэ адну «смачную» аб'яву.

— Ты яшчэ не набывала тыя фінікі з абмежаванай партыі?

— Учора набыла два фунты, — адказала місіс Б.

— Ну, дык фінікавы пудынг таксама добрая рэч, — прамовіў містар Б. І яны паглядзелі адно на аднаго праз стол, і паміж імі праплыў цёмны круглы пудынг, пакрыты сметанковым соусам.

— Было б няблага, для разнастайнасці, праўда? — адказала місіс Б.

Знадворку, на шэрай змёрзлай траве смешныя прагныя вераб'і ўсё скакалі і лапаталі. Яны не спыняліся ні на імгненне. Яны крычалі і білі нязграбнымі крыламі. Маленькі Б., скончыўшы есці яйка, злез са стула і ўзяў хлеб з джэмам, каб з'есці яго ля акна.

— Ну, давайце дамо ім крыху крошак, — папрасіў ён. — Адчыні акно, тата, і кінь ім што-небудзь. Тата, калі ласка!

— Ой, не дакучай, дзіцё, — сказала місіс Б., а бацька дадаў:

— Нельга адчыняць вокны, хлопча. Яшчэ адкусяць табе галаву.

— Але ж яны галодныя, — ледзь не плачучы, закрычаў маленькі Б., і ціўканне вераб'ёў зрабілася падобным да звону маленькіх ножыкаў падчас вастрэння. «Чык-чырык-чырык!» — крычалі яны.

Маленькі Б. кінуў свой кавалак хлеба з джэмам у фарфоравы вазон на падаконніку. Ён шмыгнуў за тоўстыя шторы, каб лепей бачыць, а містар і місіс Б. вярнуліся да абвестак пра продаж тавараў без купонаў: з мая скасавалі харчовыя кнігі. Нялішняй была б цэлая галоўка сыра — для разнастайнасці — і кавалкі сыроў узніклі ў паветры паміж імі, як нябесныя целы.

Нечакана проста на вачах у маленькага Б. вераб'і на шэрай змёрзлай траве сталі расці, змяняцца, не пакідаючы лапатаць і шчабятаць. Яны пераўтварыліся ў хударлявых маленькіх хлопчыкаў у карычневых куртачках, яны танцавалі і бегалі па надворку, скакалі ўверх-уніз і пішчалі: «Хочам есці, хочам есці!»

Маленькі Б. трымаўся абедзвюма рукамі за штору.

— Тата, — прашаптаў ён. — Тата! Гэта не вераб'і. Гэта маленькія хлопчыкі. Паслухай, тата!

Але містар і місіс Б. не слухалі. Ён паспрабаваў яшчэ раз.

— Мама, — прашаптаў ён. — Паглядзі на маленькіх хлопчыкаў. Яны не вераб'і, мама!

Але ніхто не звярнуў увагі на яго дзівацтва.

— Усе гавораць пра голад, — усклікнуў містар Б. — Усё падман! Усё лухта!

Іх белыя твары быццам свяціліся, іх рукі нязграбна боўталіся ў вялікіх куртках, і маленькія хлопчыкі танцавалі.

«Хочам есці! Хочам есці!»

— Тата, — прамармытаў маленькі Б. — Паслухай, тата! Мама, паслухай, калі ласка!

— Сапраўды! — сказала місіс Б. — Якія шумныя птушкі! Ніколі такога не чула.

— Прынясі мне мае пантофлі, дружа, — прамовіў містар Б.

«Чык-чырык-чырык!» — шчабяталі вераб'і.

Куды ж дзелася гэта дзіця?

— Вярніся і дапі сваю смачную какаву, мілы, — паклікала місіс Б.

Містар Б. падняў цяжкі абрус і ціха паклікаў:

— Сюды, пёсік, — але маленькага сабачкі там не было.

— Ён за шторамі, — сказала місіс Б.

— Ён не выходзіў з пакоя, — сказаў містар Б.

Місіс, а пасля і містар Б. падышлі да акна. І яны выглянулі на падворак. Там, на шэрай змёрзлай траве з белым-белым тварыкам, з танюткімі рукамі, якія боўталіся і білі, як крылы, сярод іншых хлопчыкаў скакаў самы маленькі, самы кволы — маленькі Б. Містар і місіс Б. пачулі яго голас над усімі астатнімі: «Хачу есці! Хачу есці!»

Неяк яны адчынілі акно.

— Мы цябе накормім! Усіх вас накормім! Ідзіце хутчэй да нас! Хлопча! Маленькі наш!

Але было занадта позна. Маленькія хлопчыкі зноў сталіся вераб'ямі і паляцелі прэч. І хутка іх было ўжо не ўбачыць, не пачуць.

**(1917)**

*Пераклад з англійскай Кацярыны Балаш*

*Падрыхтоўка да друку Вольгі Марозавай*

Крыніца: http://www.katherinemansfieldsociety.org/assets/KM-Stories/A-SUBURBAN-FAIRY-TALE1919.pdf

## Першы баль

Наўрад ці Лэйла ўспомніла б, калі для яе пачаўся гэты баль. Магчыма, можна нават сказаць, што яе першым сапраўдным партнёрам быў наняты экіпаж, дзе яна сядзела разам с сёстрамі Шэрыдан і іх братам. Але ёй не было ніякай справы да іх. Яна сядзела ў кутку экіпажа, і падлакотнік, на якім ляжала яе рука, здаваўся ёй плячом невядомага юнака. Дзяўчыне мроілася, што яны разам кружацца ў вальсе міма ліхтарных слупоў, дамоў, загарадзяў і дрэў.

— Няўжо ты ніколі не была на балі, Лэйла? Дзіця маё, такога проста не можа быць! — усклікалі сёстры Шэрыдан.

— Наш бліжэйшы сусед жыў у пятнаццаці мілях ад нас, — ціха адказвала Лэйла, мякка адкрываючы і закрываючы свой веер.

Божа мой, так цяжка заставацца такой абыякавай, як іншыя! Лэйла імкнулася рабіць выгляд, быццам зусім не хочацца ўсміхацца, быццам яна не хвалюецца. Але дзяўчыну ўзрушала кожная дробязь: усё было такое новае і захапляльнае. Туберозы Мэг, бурштынавыя каралі Джозі, маленькая цёмная

галоўка Лаўры ў абрамленні белага футра, нібы першая веснавая кветка, якая прабілася скрозь снег. Лэйла ніколі не забудзе гэтую паездку. Яна нават крыху пашкадавала, што яе стрыечны брат Лоры выкідвае кавалачкі паперы, выцягнутыя ім з зашпілек новых пальчатак. Яна захавала б іх як памятны сувенір, як напамін. Лоры нахіліўся наперад і дакрануўся да калена Лаўры.

— Ну што, як заўсёды трэці і дзявяты? — спытаў ён.

Ах, як выдатна мець брата! Лэйла была так уражана, што калі б быў час і калі б гэта было можна, яна б расплакалася. Лэйла была адзіным дзіцём у сям'і, і ніколі ў яе жыцці не здаралася такога, каб да яе так звярталіся або хвалілі яе прычоску, як Мэг пахваліла прычоску Джозі.

Але, зразумела, часу не было: яны ўжо прыехалі. Перад імі і за імі стаяла чарада экіпажаў. Дарога была з абодвух бакоў яскрава падсвечана паходнямі, якія нібыта рухаліся. Здавалася, вясёлыя пары на тратуары плаваюць ў паветры, а ножкі Лэйлы ў атласных туфлях замест таго, каб проста ісці, перапырхваюць з месца на месца, нібы птушкі.

— Лейла, трымайся за мяне, а то згубішся, — папярэдзіла Лаўра.

— Хутчэй, даражэнькія, хутчэй, — сказаў Лоры.

Лэйла паклала два пальцы на ружовы аксамітны плашч Лаўры, і іх неяк пранесла міма вялікага залацістага ліхтара ўздоўж праходу і штурхнула спачатку ў калідор, а потым у дамскі пакойчык. Тут натоўп быў такі вялікі, што амаль не было месца, дзе распрануцца; стаяў аглушальны шум. І кожная імкнулася праціснуцца ўперад, каб трапіць да маленькага туалетнага століка і люстэрка ў процілеглым канцы пакоя. Дзве лавы з абодвух бакоў былі завалены вопраткай. Дзве пажылыя жанчыны ў белых фартухах бегалі туды-сюды, ледзь паспяваючы разносіць яе.

Тут свяціў дрыготкі газавы агеньчык. Ён не мог чакаць і ўжо танчыў. Калі дзверы зноў адчыніліся, з залі пачуўся выбух музыкі — і агеньчык скокнуў амаль да столі.

Цёмненькія і светленькія дзяўчаты папраўлялі валасы, зноў падвязвалі іх стужкамі, запраўлялі хусткі ў гарсэты, разгладжвалі мармуровыя белыя пальчаткі. І ўсе яны здаваліся Лэйле бездакорнымі, таму што яны ўсе смяяліся.

— Няўжо ні ў каго няма невідзімак? — прамовіў усхваляваны голас. — Такога проста не можа быць! Не магу знайсці ніводнай!

— Даражэнькая, папудры мне спіну, — пачулася ад кагосьці яшчэ.

— Дайце мне іголку і нітку! Я парвала фальбону!— крычаў трэці голас.

— Перадайце сюды, перадайце сюды! — сказаў хтосьці. Саламяны кошык з праграмкамі пераходзіў з адных рук у другія. Чароўныя маленькія ружова-серабрыстыя праграмкі з ружовымі алоўкамі і пухнатымі кутасікамі. Пальцы Лэйлы дрыжалі, калі яна ўзяла праграмку з кошыка. Яна хацела спытаць у каго-небудзь: «Ці можна мне ўзяць яшчэ адну?» Але ў яе хапіла часу толькі для таго, каб прачытаць: «Вальс 3. Удваіх, удваіх у каноэ. Полька 4. Няхай крылы ляцяць».Тут дзяўчына пачула ўсклік Мэг: «Ты гатова, Лэйла?» — і яны рушылі праз натоўп да вялікіх падвойных дзвярэй бальнай залі.

Танцы яшчэ не пачаліся, але аркестр ужо наладзіў інструменты, і здавалася, што калі б ён пачаў іграць, то яго б ніхто не пачуў з-за гоману. Лэйла, прыціскаючыся да Мэг, глядзела цераз плячо сваёй кампаньёнкі. Ёй здавалася, што нават размаўляюць нацягнутыя пад столлю дрыготкія каляровыя флагі. Яна крыху перастала саромецца і забылася, як, напаўапранутая, сядзела на ложку ў адным туфлі і маліла маці патэлефанаваць стрыечнаму брату і сказаць: яна не зможа паехаць на баль. І нуда, якую яна адчувала, седзячы на верандзе свайго дома і слухаючы, як маленькія савяты просяць есці пад святлом месяца, змянілася на радасць. Яна была такой салодкай, што ёй карцела з кімсьці ёй падзяліцца. Лэйла сціскала веер, і, гледзячы на бліскучую залатую падлогу, азаліі, ліхтары, сцэну з чырвоным дыванам і пазалочанымі крэсламі ў куце, падумала, стаіўшы дыханне: «Гэта рай, гэта проста рай!»

Дзяўчаты стаялі ўсе разам па адзін бок дзвярэй, мужчыны — па іншы бок, а сталыя дамы ў цёмных сукенках ішлі невялікімі асцярожнымі крокамі па гладкай падлозе да сцэны, бязглузда ўсміхаючыся.

— Гэта мая малодшая стрыечная сястра Лэйла, яна жыве за горадам. Не крыўдзіце яе. Знайдзіце ёй партнёраў, сёння яна пад маёй апекай, — гаварыла Мэг, падыходзячы то да адной дзяўчыны, то да другой.

Незнаёмыя дзяўчаты ўсміхаліся Лэйле то ласкава, то абыякава; незнаёмыя галасы адказвалі: «Вядома, мая дарагая». Але Лэйла адчувала, што яе не заўважаюць. Дзяўчаты глядзелі на мужчын. Чаму яны не падыходзяць першымі, чаго яны чакаюць? Яны стаялі ў залі, разгладжвалі пальчаткі, затым свае бліскучыя валасы і ўсміхаліся адна адной. Затым зусім нечакана, як быццам яны толькі што вырашылі: самы час танчыць, мужчыны выйшлі на бліскучы паркет. Дзяўчын ахапіла радаснае ўзбуджэнне.

Высокі прыгожы хлопец падляцеў да Мэг, схапіў яе праграмку і нешта ў ёй напісаў. Мэг перадала праграмку Лэйле, і тая прачытала: «Ці магу я мець асалоду?» Ён пакланіўся і ўсміхнуўся.

Потым з’явіўся цёмнавалосы мужчына з манаклем, далей падышоў стрыечны брат Лоры з сябрам і Лаўра з нізкім мужчынам з вяснушкамі.

Тут да Лэйлы падышоў даволі стары тоўсты чалавек з вялікай лысінай, які ўзяў яе праграмку і прамармытаў: «Дайце мне паглядзець, дайце мне паглядзець». І ён доўгі час параўноўваў сваю чорную ад імён праграмку з яе. Здавалася, гэта прыносіла яму столькі клопату, што Лэйле стала сорамна.

— Калі ласка, не турбуйцеся, — сказала яна з запалам.

Але замест адказу гэты таўстун нешта напісаў і зноў зірнуў на яе.

— Я не памятаю гэты маленькі светлы тварык, — мякка сказаў ён. — Ці сустракаўся ён мне раней?

У гэты момант аркестр пачаў іграць — і мужчына знік. Ён быў выкінуты хваляй музыкі, якая ляцела над бліскучай падлогай, разбіваючы групы на пары, раскідваючы іх, прымушаючы іх круціцца…

Танчыць Лэйла вучылася ў сваім пансіёне. Кожную суботу пасля абеду інтэрнатак запрашалі ў маленькую царкоўную залу з рыфлёнага жалеза, дзе міс Эклс (яна адмыслова прыязджала з Лондана) праводзіла заняткі для «выбраных». Але розніца паміж тым пыльным пакоем, дзе сцены былі абіты баваўнай з габеленамі, дзе на халодным піяніна грала бледная, маленькая, напалоханая жанчына з вялікімі вушамі і ў капелюшы без палёў і дзе міс Эклс торкала дзяўчын у ногі сваёй доўгай белай палкай, — розніца паміж тым пыльным пакоем і гэтай залай была такая велізарная, што Лэйла ведала: калі партнёр для яе не знойдзецца і ёй давядзецца проста слухаць цудоўную музыку і глядзець, як па залацістай падлозе плывуць іншыя, яна дакладна памрэ, ці страціць прытомнасць, ці ўзніме рукі і выляціць у тыя цёмныя вокны, праз якія былі відаць зоры.

— Мне здаецца, наша чарга, — сказаў нехта, пакланіўшыся і працягнуўшы ёй руку. Усё ж такі паміраць не прыйдзецца. Невядомы партнёр узяў яе за стан, і яна пачала кружыцца, як кветка ў паветры.

— Тут добра танцаваць, вы згодны? — ціха прашаптаў ёй млявы голас каля самага вуха.

— Цудоўна. І падлога такая бліскучая, — адказала Лэйла.

— Прабачце? — са здзіўленнем прамовіў ледзь чутны голас. Лэйла паўтарыла. Пасля маленькай паўзы з ёй згадзіліся і яе зноў закружылі.

Ён вельмі добра вёў у танцы. Лэйла адзначыла: ёсць вялікая розніца ў танцах з мужчынамі і з дзяўчатамі. Дзяўчаты ўвесь час сутыкаліся і наступалі на ногі адна адной, а дзяўчына, што танцавала за джэнтльмэна, заўсёды занадта моцна цябе сціскала.

Кветкі азалій зліліся ў ружова-белыя сцягі, якія праносіліся міма.

— Ці былі вы на тым тыдні ў Бэлаў? — зноў пачуўся голас. Ён прагучаў стомлена. Лэйла падумала, ці не варта ёй прапанаваць спыніцца.

— Не, гэта мой першы баль, — адказала яна.

Партнёр хмыкнуў, ловячы ротам паветра.

— Не можа быць, — не паверыў ён.

— Праўда, я першы раз на балі. — Лэйла амаль што не магла стрымаць пачуцці. Цяпер, калі яна некаму ўсё ж такі расказала гэта, яна адчула вялікую палёгку. — Разумееце, дагэтуль я ўсё жыццё жыла далёка ад горада...

У гэты момант музыка спынілася — і яны прыселі ў крэслы каля сцяны. Лэйла падсунула свае ножкі ў ружовых атласных туфлях пад крэсла і стала абмахвацца веерам, з асалодай назіраючы, як міма праходзяць іншыя пары і знікаюць за падвойнымі дзвярыма.

— Усё добра, Лэйла? — запыталася Джозі, ківаючы залатой галавой.

Тут прайшла Лаўра і ледзь заўважна ёй падміргнула. Лэйла нават падумала, што гэта не вельмі па-даросламу.

Яе партнёр гаварыў мала. Ён пакашляў, схаваў хустачку, паправіў камізэльку, зняў з рукава нейкую нітку. Але ўсё было няважна. Музыкі пачалі граць зноў, і каля Лэйлы невядома адкуль апынуўся новы партнёр.

— Падлога нядрэнная, — сказаў новы голас. Ці заўсёды размова пачынаецца з падлогі? І потым: — Ці былі вы ў Ніўзаў у аўторак?

І зноў Лэйла патлумачыла: ніколі не была на балі. Магчыма, было крыху дзіўна, што яе партнёры не звярталі ўвагі на яе словы. Але гэта ўсё было так захапляльна! Яе першы баль! Для яе ўсё толькі пачыналася. Ёй здавалася: яна ніколі да гэтага моманту не ведала, што такое ноч. Да гэтага часу ночы былі цёмныя, ціхія, вельмі часта прыгожыя, але нейкія сумныя. Урачыстыя. Аднак цяпер усё змянілася: ноч адкрыла ёй таксама і сваю асляпляльна яркую сутнасць.

— Ці не хочаце марозіва? — спытаў Лэйлу партнёр. І яны прайшлі праз двухстворкавыя дзверы па калідоры да сталовай. Шчокі гарэлі, Лэйле страшна хацелася піць. Як салодка выглядала марозіва на маленькіх шкляных талерачках і якая халодная была маленькая лыжачка! І калі яны вярнуліся ў залю, там зноў стаяў гэты тоўсты мужчына і чакаў яе каля дзвярэй. Дзяўчына зноў здзівілася, які ён стары. Чаму ён не з астатнімі бацькамі? У параўнанні з іншымі партнёрамі ён выглядаў неахайна: змятая камізэлька, на пальчатцы не хапала гузіка, паліто бруднае, быццам хтосьці пасыпаў яго кравецкай крэйдай.

— Хадзем, маленькая лэдзі, — сказаў таўстун. Ён ледзь дакрануўся, каб абняць яе, і яны рухаліся так далікатна, што здавалася, быццам яны на шпацыры, а не на балі. Але ён ні слова не сказаў пра падлогу: — Гэта ваш першы баль, ці не так? — прамармытаў ён.

— Як вы здагадаліся?

— Ах, вось што значыць быць старым!— сказаў таўстун. Ён прасапеў, калі правёў дзяўчыну міма нейкай нязграбнай пары. — Я бываю ў такіх месцах ужо на працягу трыццаці гадоў.

— Трыццаці гадоў? — усклікнула Лэйла. Гэта ж ён пачаў танцаваць за дванаццаць гадоў да яе нараджэння!

— Вам гэта цяжка сабе ўявіць, праўда? — змрочна сказаў таўстун. Лэйла паглядзела на яго лысую галаву, і ёй стала шкада гэтага старога.

— Я думаю, выдатна, што вы ўсё яшчэ наведваеце такія месцы, — ласкава сказала яна.

— Якая добрая маленькая лэдзі,— сказаў таўстун, прыціснуўшы яе крыху бліжэй і напяваючы мелодыю вальса. — Вядома, *вы* не зможаце так доўга пратрымацца. Зусім не. Пройдзе няшмат часу, як вы ўжо будзеце сядзець у сваёй прыгожай аксамітнай сукенцы на тым узвышэнні. І гэтыя мілыя ручкі стануць кароткімі і тоўстымі, а такт вы будзеце адбіваць ужо іншым веерам— чорным, з эбенавага дрэва. — Здалося, што таўстун здрыгануўся. — Вы будзеце ўсміхацца, як тыя старыя жанчыны, паказваючы на сваю дачку і расказваючы такім жа старым, як і вы, як нейкі нахабнік паспрабаваў пацалаваць яе на балі. А сэрца ваша будзе балець, бо ўжо ніхто не захоча цяпер пацалаваць вас. — Таўстун яшчэ мацней прыціснуў яе за стан, нібы сапраўды шкадаваў гэта беднае сэрца. — Вы будзеце казаць, што гэтыя паліраваныя падлогі непрыемныя і небяспечныя. Ці няпраўда, мадэмуазэль Хутканожка? — мякка сказаў таўстун.

Лэйла коратка засмяялася, але смяяцца ёй не хацелася. Ці магло тое, што ён гаварыў, быць праўдай? Жах, ёй здавалася, што так. Няўжо яе першы баль усё ж такі быў нічым іншым, як пачаткам апошняга? Музыка тут быццам змянілася, загучала вельмі сумна, нібы цяжкія ўздыхі. Як жа хутка ўсё змяняецца! Чаму шчасце не можа доўжыцца вечна? Нават вечнасць — гэта занадта кароткі час.

— Давайце спынімся, — цяжка дыхаючы, папрасіла яна. Таўстун правёў яе да дзвярэй.

— Не, — прамовіла яна. — Я не хачу выходзіць. І сядзець не хачу. Я проста тут пастаю, дзякуй вам.

Яна прыхінулася да сцяны, пастукваючы па падлозе ножкай і папраўляючы пальчаткі. Лэйла спрабавала ўсміхацца, але маленькая дзяўчынка ўнутры яе схавала твар у тканіне сукенкі і заплакала. Навошта гэты таўстун усё сапсаваў?

— Ведаеце што, маленькая лэдзі, — сказаў мужчына, — не трэба прымаць мае словы так сур’ёзна.

— Я і не збіралася! — адказала Лэйла, ускідваючы сваю маленькую цёмненькую галаву і прыкусваючы губу...

Пары зноў пачалі выходзіць. Дзверы адчыняліся і зачыняліся. Аркестр пачаў новую мелодыю. Але Лэйле больш не хацелася танцаваць. Яна хацела вярнуцца дадому або сядзець на верандзе і слухаць савят. Калі яна паглядзела праз цёмныя вокны на зоры, яны былі размазаныя, быццам з крыламі...

Але вось загучала мяккая, плаўная, чароўная мелодыя, і перад ёй схіліўся малады мужчына з кучаравымі валасамі. Каб быць ветлівай, ёй давядзецца танцаваць, пакуль яна не знойдзе Мэг. Яна вельмі скавана выйшла на падлогу. З вялікай пагардай паклала руку яму на рукаў. Але праз хвілінку, праз адзін круг па зале яе ножкі пачалі лётаць. Агеньчыкі, азаліі, сукенкі, ружовыя твары, аскамітавыя крэслы — усё злілося ў прыгожае няспыннае кола. А калі падчас наступнага танца яна сутыкнулася з таўстуном і той сказаў: «Прабачце», яна прамяніста ўсміхнулася яму. Яна яго нават не пазнала.

*Пераклад з англійскай Маргарыты Цішуцінай, Марыі Марозавай*
*Падрыхтоўка да друку Вольгі Марозавай*
Крыніца: http://www.katherinemansfieldsociety.org/assets/KM-Stories/HER-FIRST-BALL1921.pdf

# Урок спеваў

З адчаем — халодным, вострым адчаем, пахаваным глыбока ў сэрцы, нібы злы нож, — міс Мэдаўс у каптуры і сукенцы і з невялікай дырыжорскай палачкай ішла па халодных калідорах, што вялі ў музычную залу. Міма яе, спяшаючыся, прабягалі дзяўчынкі розных узростаў з ружовымі ад паветра тварамі. Яны шчабяталі з радаснай узрушанасцю, якая з’яўляецца ад бегу да школы прыемнай восеньскай раніцай. З гулкіх класаў даносіўся дробат галасоў. Празвінеў званок. Голас, падобны да птушынага, усклікнуў: «Мюрыел!», а потым з лесвіцы пачулася моцнае «стук-стук-стук». Нейкая дзяўчынка выпусціла званочкі на падлогу.

Настаўніца прыродазнаўства спыніла міс Мэдаўс.

— Добрай раніцы! — прывіталася яна манерна радасна і няспешна. — Холадна, праўда? Нібы зімой.

Міс Мэдаўс, трымаючыся за нож у сэрцы, паглядзела на настаўніцу прыродазнаўства з нянавісцю. Тая ўся была саладжавая і бледная, нібы мёд. Міс Мэдаўс нават не здзівілася б, калі б убачыла, што у капе яе бялявых валасоў заблыталася пчала.

— Сапраўды працінае, — хмурна адказала міс Мэдаўс.

Яе суразмоўніца лісліва ўсміхнулася.

— Вы змерзлі, — сказала яна. Яе блакітныя вочы шырока раскрыліся і насмешліва заблішчалі.

Ці заўважыла яна што-небудзь?

— Не, амаль што не, — адзначыла міс Мэдаўс і пайшла далей, адказаўшы грымасай на ўсмешку настаўніцы прыродазнаўства.

У музычнай залі сабраўся чацвёрты, пяты і шосты класы. Стаяў аглушальны шум. На сцэне побач з піяніна стаяла Мэры Бізлі — любімая вучаніца міс Мэдаўс, гатовая акампаніраваць. Яна круціла музычны табурэт і, убачыўшы міс Мэдаўс, стала гучна шыкаць на дзяўчат. Міс Мэдаўс, схаваўшы рукі ў рукавах і трымаючы дырыжорскую палачку пад пахай, пакрочыла па цэнтральным праходзе, паднялася па прыступках, рэзка павярнулася, схапіла латуневы пюпітр, паставіла яго перад сабою і моцна стукнула два разы сваёй палачкай — і ў залі запанавала маўчанне.

— Цішыня, калі ласка! Зараз жа! — І, ні на каго асабіста не гледзячы, яна прабегла поглядам па моры каляровых фланелевых блузак, па ружовых тварах і руках, якія хісталіся, па дзявочых бантах, падобных да дрыготкіх матылёў, і па разгорнутых музычных кнігах. Яна выдатна ведала, пра што яны думаюць: Мэдаўс раз'юшана. Ну, няхай думаюць, што хочуць! Яе павекі задрыжалі, яна з выклікам ўскінула галаву. Якое значэнне маюць думкі гэтых істот для той, што стаіць тут, сцякаючы крывёю, і чыё сэрца было працята, нібы дзідай, такім лістом:

«Я ўсё больш і больш упэўніваюся ў тым, што наш шлюб будзе памылкай. Справа не ў тым, што я не кахаю цябе. Я кахаю цябе так моцна, як толькі магу кахаць жанчыну, але, праўду кажучы, я прыйшоў да высновы, што сямейнае жыццё не для мяне, і ідэя пасталець не напаўняе мяне нічым, акрамя…» — і закрэсленае слова «агіда» было відаць з-пад слова «шкадаванне», напісанага зверху.

Базыль! Міс Мэдаўс з гонарам падышла да піяніна. І Мэры Бізлі, якая чакала гэтага моманту, нахілілася ўперад, і валасы ўпалі ёй на твар. Яна ледзь чутно вымавіла: «Добрай раніцы, міс Мэдаўс», — і нават не працягнула, а сунула настаўніцы прыгожую жоўтую хрызантэму.

Гэты кветкавы рытуал пачаўся паўтары чвэрці таму і ператварыўся ў такую ж неад'емную частку ўрока, як адкрыццё піяніна. Але сёння раніцай, што аказалася для Мэры вялікім жахам, замест таго, каб прыняць кветку, прымацаваць яе да пояса, нахіліцца над Мэры і сказаць: «Дзякуй, Мэры. Як гэта міла! Адкрыйце старонку трыццаць два», — настаўніца цалкам праігнаравала хрызантэму, не адказала на прывітанне дзяўчыны і прамовіла ледзяным тонам:

— Старонка чатырнаццаць, і, калі ласка, уважлівей з акцэнтаваннем.

Жудасны момант! Мэры пачырванела, у яе вачах з'явіліся слёзы, але міс Мэдаўс вярнулася на сцэну, і ў музычнай залі прагучаў яе голас:

— Старонка чатырнаццатая. Пачнём з «Плача» на чатырнаццатай старонцы. Словы вы павінны ўжо да гэтага часу ведаць, даражэнькія. Мы возьмем усе куплеты разам, а не паасобку, усе разам. І без экспрэсіі: спявайце проста, адбіваючы такт левай рукой.

Міс Мэдаўс узняла дырыжорскую палачку і двойчы пастукала па музычнай стойцы. Пад хвалю левых рук, якія збівалі паветра, Мэры пачала іграць, і зазвінелі маладыя журботныя галасы:

Ружы задавальнення вянуць хутка,
Саступае восень зімоваму смутку.
І музыкі толькі пачуеш подых,
Як знікне ён у іншых гуках прыроды.
Хутка, ах, занадта хутка!

Божа мой, што можа быць трагічней за той плач! Кожная нота была ўздыхам, галашэннем і стогнам жудаснага смутку. Міс Мэдаўс узняла рукі і пачала дырыжыраваць абедзвюма. «Я ўсё больш і больш упэўніваюся ў тым, што наш шлюб будзе памылкай». Узмах палачкай — і галасы крыкнулі: «Вянуць ху-утка-а». Што магло прымусіць яго напісаць такі ліст? Што магло падштурхнуць яго? Гэты ліст стаў для міс Мэдаўс поўнай нечаканасцю, бо ў папярэднім лісце ён распавядаў толькі пра чорную дубовую шафу, якую ён набыў для «іх» кніг, і пра вытанчаную невялікую вешалку на кранштэйне ў пярэднім пакоі з акуратнай разьбяной савой, якая трымала ў кіпцюрах тры шчоткі для капелюшоў. Як яна смяялася з гэтага! Падумаць толькі: чалавеку патрэбныя тры шчоткі! «…знікне ён у іншых гуках прыроды», — спявалі галасы.

— Яшчэ раз, — сказала міс Мэдаўс, — але на гэты раз па частках. І таксама без экспрэсіі.

«Хутка, ах, занадта хутка…». Як толькі да плыні хору дадаліся змрочныя кантральта, ужо амаль ніхто не мог заставацца спакойным. «Ружы задавальнення вянуць хутка»… Апошні раз, калі Базыль прыйшоў да яе, у яго пятліцы была ружа. Які ж прыгожы ён быў у ярка-сінім гарнітуры з гэтай цёмна-чырвонай ружай! І ён гэта таксама ведаў. Не мог не ведаць. Спачатку ён прыгладзіў валасы, а потым вусы. Яго зубы бліснулі, калі ён усміхнуўся.

«Жонка дырэктара ўсё запрашае мяне на вячэру. Нікуды мне ад гэтага. Мне тут ніводны вечар не даводзіцца правесці аднаму».

«А ты не можаш адмовіцца?»

«Не, мужчыне ў маім становішчы трэба бываць у свеце».

«Пачуеш подых», — лямантавалі галасы. Вецер гайдаў галінкі вярбы — за высокімі вузкімі вокнамі. Гэтыя тоненькія галінкі, якія ўжо страцілі палову свайго лісця, чапляліся і віравалі, нібы злоўленая рыба. «…Я мужчына, не здольны да сямейнага жыцця…» Галасы змоўклі, піяніна чакала.

— Даволі добра, — зазначыла міс Мэдаўс, але гэта было сказана такім дзіўным каменным голасам, што малодшыя дзяўчаты напалохаліся. — А цяпер, калі мы ведаем гэтую песню, мы павінны спець яе выразна. Так натхнёна, як вы толькі можаце. Думайце пра словы, даражэнькія. Выкарыстоўвайце сваю фантазію. «Ружы задавальнення вянуць хутка!» — усклікнула міс Мэдаўс. — Павінен атрымацца гучны, моцны плач. А затым, у другім радку, на словах «зімовы смутак» зрабіце гэты гук змрочным, як быццам дзьме халодны вецер. «Сму-утак», — яе голас выбухнуў так жудасна, што спіна Мэры Бізлі, якая сядзела на музычным табурэце, здрыганулася. — Трэці радок неабходна спяваць так, нібыта ён ідзе ўгару: «І музыкі толькі пачуеш подых»; абрываючы на першых словах апошняга радка «як знікне», вы павінны пачаць паміраць, згасаць… А словы «гуках прыроды» не больш, чым слабы шэпт… На апошнім радку вы можаце запаволіцца настолькі, наколькі вам падабаецца. Цяпер, калі ласка.

Яна зноў два разы стукнула і ўзняла рукі. «Ружы…».

«…І ідэя пасталець не напаўняе мяне нічым акрамя агіды…» Так ён і напісаў — «агіды». Па сутнасці, гэта азначала канец іх заручын. Канец! Іх заручын! І так шмат хто быў здзіўлены тым, што яна з кімсьці заручылася. Настаўніца прыродазнаўства спачатку і не паверыла. Але сама яна была больш здзіўлена, чым хто-небудзь іншы. Ёй трыццаць. Базылю дваццаць пяць. Цудам, проста цудам для яе сталі тыя яго словы, калі яны ішлі цёмным вечарам з царквы: «Ведаеце, неяк вы мне спадабаліся», — і узяўся за край яе гаржэткі са страусавымі пёрамі.

«Як знікне ён у іншых гуках прыроды. Хутка, ах, занадта хутка!»

— Яшчэ раз паўтор! Яшчэ! — сказала міс Мэдаўс. — Больш экспрэсіі, даражэнькія! Яшчэ раз!

«…ах, занадта хутка…» Старэйшыя дзяўчынкі былі чырвоныя, некаторыя з малодшых заплакалі. Вялікія кроплі дажджу барабанілі ў акно, і быў чуваць шэпт вярбы: «Справа не ў тым, што я не кахаю цябе».

«Але, мой дарагі, калі ты кахаеш мяне, — падумала міс Мэдаўс, — то мне ўсё роўна наколькі. Можаш кахаць мяне і зусім крышачку». Але яна ведала, што ён не кахае яе зусім. Ён нават не падумаў закрэсліць слова «агіда» так, каб яна не змагла прачытаць яго! «Неўзабаве восень саступае зімоваму смутку…» Ёй і школу давядзецца пакінуць. Яна не вытрымае больш бачыць настаўніцу прыродазнаўства і дзяўчынак, калі пра ўсё стане вядома. Ёй трэба будзе кудысьці знікнуць. «Знікне…» Галасы пачалі заціхаць, гаснуць, шаптаць… і нарэшце зніклі зусім…

Раптам адчыніліся дзверы, і па праходзе мітусліва прайшла маленькая дзяўчынка ў сінім. Апусціўшы галаву, закусіўшы вусны і круцячы срэбраны бранзалет на маленькім чырвоным запясці, яна падышла да прыступак і спынілася перад міс Мэдаўс.

— У чым справа, Моніка?

— Калі вам зручна, міс Мэдаўс, — сказала дзяўчынка, аддыхваючыся, — міс Уайат хоча бачыць вас у сваім кабінеце.

— Добра, — адказала міс Мэдаўс і павярнулася да дзяўчынак: — Я спадзяюся на ваша выхаванне, якое не дазволіць вам шумець, пакуль я не вярнуся.

Але тыя і не змаглі б, бо былі вельмі засмучаныя. Большасць дастала насавыя хустачкі.

Калідоры былі ціхія і халодныя, і крокі міс Мэдаўс аддаваліся ў іх рэхам. Дырэктарка сядзела за сталом. Спачатку яна не паднімала вачэй, а, як заўсёды, распутвала свае акуляры, што зачапіліся за карункі яе каўнерыка.

— Сядайце, міс Мэдаўс, — сказала яна вельмі ветліва. А потым выцягнула ружовы канверт са свайго блакнота з прамакальнай паперай: — Я адразу паслала за вамі, таму што вам прыйшла тэлеграма.

— Мне тэлеграма, міс Уайат?

Базыль! Ён скончыў жыццё самагубствам, вырашыла міс Мэдаўс. Яе рука пацягнулася да тэлеграмы, але міс Уайат аддала ліст не адразу.

— Я спадзяюся, што гэта нядрэнная навіна, — больш чым добразычліва сказала яна. І міс Мэдаўс разарвала канверт.

«Не звяртай ўвагі на ліст, дакладна звар'яцеў, сёння купіў вешалку для паліто і капелюшоў, Базыль», — прачытала яна. Яна не магла адарваць вачэй ад тэлеграмы.

— Спадзяюся, што нічога вельмі сур'ёзнага, — сказала міс Уайат, нахіліўшыся наперад.

— Не, дзякуй за турботы, міс Уайат, — пачырванела міс Мэдаўс. — У гэтай тэлеграме наогул няма нічога дрэннага. Гэта тэлеграма, — і тут яна вінавата ўсміхнулася, — ад майго жаніха, які сказаў… які сказаў… — Атрымалася паўза.

— Разумею, — сказала міс Уайат. І яшчэ адна паўза. — У вас засталося яшчэ пятнаццаць хвілін урока, так, міс Мэдаўс?

— Так, міс Уайат, — міс Мэдаўс устала і хутка пайшла да дзвярэй.

— Яшчэ адну хвілінку, міс Мэдаўс, — прагаварыла міс Уайат. — Я павінна сказаць вам, што не ўхваляю, калі мае настаўніцы атрымліваюць тэлеграмы ў час заняткаў, хіба што толькі гэта вельмі кепскія навіны, напрыклад, смерць, — патлумачыла міс Уайат, — або вельмі сур'ёзны няшчасны выпадак, або яшчэ штосьці такое. Разумееце, міс Мэдаўс, добрыя навіны заўсёды могуць пачакаць.

Акрыленая надзеяй, каханнем і радасцю міс Мэдаўс паімчала назад у музычную залу.

— Мэры, трыццаць другая старонка, — сказала яна, — старонка трыццаць два! — І, узяўшы ў рукі жоўтую хрызантэму, паднесла яе да вуснаў, каб схаваць усмешку. Потым міс Мэдаўс павярнулася да дзяўчат і стукнула дырыжорскай палачкай:

— Трыццаць другая старонка, даражэнькія. Трыццаць два!

Мы прыйдзем сёння з кветкамі,
Ды з фруктамі, ды стужкамі,
Каб святкаваць…

— Стоп! Стоп! — ускрыкнула міс Мэдаўс. — Дрэнна. Жахліва. — І яна ўсміхнулася дзяўчынкам. — Што з вамі ўсімі такое? Даражэнькія, думайце пра тое, пра што спяваеце. Выкарыстоўвайце фантазію. «З кветкамі, ды з фруктамі, ды стужкамі». І "святкаваць". — Міс Мэдаўс асеклася. — Даражэнькія, чаму вы такія панурыя? Гэтая песня павінна гучаць цёпла, радасна і заўзята. «Святкаваць». Яшчэ раз. Хуценька. Усе разам. Пачалі!

І на гэты раз голас міс Мэдаўс гучаў грамчэй за ўсе іншыя — поўна, глыбока і з экспрэсіяй.

*Пераклад з англійскай Маргарыты Цішуцінай, Марыі Марозавай*
*Падрыхтоўка да друку Вольгі Марозавай*
Крыніца: http://www.katherinemansfieldsociety.org/assets/KM-Stories/THE-SINGING-LESSON1920.pdf

Анжэла Багачэнка



**удзельніца фэстаў літаратуры і кіна/відэапаэзіі: ZEBRA (Германія), «Дні ўкраінскага кіно ў Іспаніі», Sadho (Індыя), Ó Bhéal (Ірландыя), International Film Poetry Fest (Грэцыя), Doctor Clip (Італія), Rabbit Heart (ЗША), Leberated words (Англія), CYCLOP, «Ватерлінія», «Молодость», ОМКФ, «Відкрита ніч», «Кинокімерія», «Гражданский проектор», «Книжный Арсенал», GogolFest (Украіна). Ілюстратар тамоў украінскага перакладу Станіслава Лема і «Чапаев и Пустота» Пелевіна. Удзельніца першай рэзідэнцыі «Станіславаўскі феномен» і альманаха «Принагідні гості». Рэжысёр шэрагу відэапраектаў «Україна читає Лема».**

## Азоўскія фотакарткі Палароідам

У пошуках новых метадаў забыцця,
У пошуках кніг на смаўжынае мове,
На узмор'е Азоўскага мора
Выходзіць у прасціне Джу.
У руках яна трымае шкляную форму —
Флакон непэнфу.
Ён — у форме крыві слімакоў,
Як і ўсё на гэтым баку берага.
Ён — колеру муранавага шкла,
Як і ўсё на гэтым баку берага.
Ён — пахне праплачанай амнэзіяй,
Як і ўсе на гэтым баку берага.
Я страляю ў сястру Палароідам —
Цэлю ў спіну на фоне азоўскай Ялты.
Я фатаграфую сястру дубальтоўкаю —
Цэлю ў сэрца на фоне азоўскай Ялты.
На імгненнай фотакартцы праяўляецца Джу,
Якая цэліць у мяне на фоне азоўскай Ялты.
Брат-самазванец ляжыць у полі,
расстраляны паламоіднымі слімакамі.
Джу кажа яму: «Ліан, болей не брашы мне», —
І разбівае форму з муранавых смоўжыкаў.
Напэўна, Ліан так ніколі і не дазнаўся,
Чаму Джу не выпіла зелле забыцця па-смаўжынаму.
У пошуках новых метадаў забыцця,
У пошуках кніг на смаўжынае мове
На ўзмор'і Азоўскага мора
Ляжалі ў абдымках несапраўдныя брат з сястрою,
У ракапуціне смаўжа з муранавага шкла
(тут мае быць сполах Палароіда).

## Пратуберанскія Мятлічкі

Фью-ю-юць!
У маё вакно залятаюць,
звіняць — тысячы Ісландскіх Мятлічак.
Фью-ю-юць!
Гэта мерка маёй узаемнасці з планетаю,
яе закаханасці ў сны дзяцей.
Я вылятаю зорна-абстрактнай каметаю
разам з маленькімі пратуберанцамі
за спіной з ранцамі, поўнымі канюшынавых думак.
«Пастой! Пастой!
Патрымай хатулёчак адвечных каштоўнасцей
на канцы ў сваёй руцэ.
Я пералічу ўсіх Пратуберанскіх Мятлічак,
раскладу ў шуфляды крыштальнай гары Эйяфьявульт —
гэта мой вечны культ. А табе вось ключ. Так. Так. Табе.
Перадай яго Йонсі ды Алексу
(тым, што сядзяць на зялёным аконцы
пад бразганне металафону,
Першынцы лону-ладу-лёду Зямлі).
Акурат у чацвер, 19 студзеня нейкага года,
Яны адпусцяць з ісландскай шуфляды
блакітна-зялёных пратуберанцаў.
Авэ-Анёлкаў. Авэ-Паўстанцаў,
Міфа-Міратворцаў, закаханых-у-Мір і Міра-Улюбёнцаў
Авэ, Анёлы! Авэ, Анёлы! Авэ, Анёлы!
Тры разы паўтараю,
Быццам малітву.
Акурат зараз у раскрытае акно ляцяць, блішчаць,
дзынкаюць дваццаць чатыры разы —
пратуберанцы, ісландцы, Авэ-Мятлічкі.

## Эфемеры

Падрыхтуйся.
Чуеш мяне?
Слухаць трэба ўважліва:
Часу мала.
Сёння такі дзень,
Ён нараджае Благавешчанне.
Запісвай усе дэталі, замалёўвай на запясцях
Блізкасць, апошнія хвіліны нашага быцця.
Зараз мы пралятаем сузор'е Вялікага Пса,
Дзе Дзева Марыя граецца, казыча,
Кідае галінкі
Мільёнам зорных шчанюкоў
З галактыкі М83.
А мы, эфемеры касмічнага сезона,
Прарываемся скрозь святло
І ў нас ё шчэ колькі секунд,
Каб развітацца.
Навобмацак запамінаем далоні,
Вяснушкі на шчоках,
Дотыкі насамі
І галоўнае —
Маё вейка пад левым вокам,
Якое ты прыбярэш,
Каб я цябе пазнала.
Падрыхтуйся
Пачуць
Мяне.

## Малітва Іка Акіна Ілама

— Марыя Тэку-у-ун! Марыя Тэку-у-ун!
Крык прадзіраецца праз гуатэняк,
Крык сярод клетак ствалоў—
Жоўтых кральчыных вухаў з лісця маісу.
— Марыя Тэкун! Марыя Тэкун!
Нібыта малітва між рэбраў.

— Хто гэтая пані з імём уцякачкі,
Чые косы — як гукі флейты з чароту?
Хто гэтая пані, якую кліча на вяршыні Тэкун
Кожны кінуты чалавек, збіральнік маісу?
— Марыя Тэку-у-ун! Марыя Тэку-у-ун!
Ніхто не адказвае ім.

На бераг Рыа-Дульсе выходзяць колькі чалавек.
Першы:
— Я — сляпы ад нараджэння сеньёр Гойо Ік.
Сёння зніклі мая жонка і сын.
Ці не падкажаце, о святыя вейкі дрэваў аматэ,
Дзе яе шукаць?

Другі:
— Я сеньёр Нічо Акіно — гарадскі лістаноша.
Сёння мяне шукае ўвесь горад.
Я знік з дзвюма торбамі пасланняў.
Цяпер я — цемра на чатырох лапах.
Цяпер пад маёй скураю нудзяцца душы паненак.
Душы жонак-уцякачак, куды мне ісці?

Трэці:
— Я — Гаспар Ілом, рукі мае — маіс.
Сіла мая — пялёсткі агню. Танец мой — хмары.
Пакланіся ўсяму, што спальваеш,
Спалі ўсё, чаму пакланяешся.
Бывай, мая любая Марыя, я іду ў агонь.

На бераг Дняпра выходзіць глухі дзяцюк:
— Марыя Тэку-у-ун! Марыя Тэку-у-ун!
Ад яго тхне міндалём, адварам гуарана.
У ягоных нагах сядзіць алень з людскім вокам:
— Я знаю, дзе Ваша Марыя, спадару Ік Акіна Ілам.
Нібыта гучыць малітва між маісу.

На беразе Інгулу, Рыа-Дульсэ й Дняпра стаіць капліца.
У капліцы стаіць статуя Дзевы Марыі.
Вочы Дзевы Марыі цёмна-залатыя,
З іх сцякае вадзіца мядовая, яны — быццам вочы аленя.
На каленях перад ёй стаіць дзяцюк і шэпча:
— Марыя Тэкун. Марыя Тэкун.
Быццам малітва.

## Хлопчык з цыкутавым сэрцам

Куды бяжыць хлопчык (нейкіх няпоўных трынаццаці гадкоў)
Галопам-алюрам, як тхор? Цугцванг грукае ў дзверы! Аблога, халера!
А ну, прыпыніся, бяляўка-істота!
З 1889 года табе ўжо даслалі ношы й вянкі,
122 віды «Dracula chimaera» цягнуць хімеры пад дзверы твае.

А хлопчык бяжыць, бяжыць... Бяжыць дурань!
І б’еца, балбоча ягоная пругкая ключыца-сініца,
букет з цыкуты, бэзавых люпінаў і жоўтазелля
у руках закрывае, а сэрца так сцяла, што нават не сэрца ўжо там,
А пункцірам абведзены ромб. Пад чорным мундзірам велюру кулісы-засценні
закрытыя ды, як шафа ў пакоі, цвікамі забітыя,
з конскім скелетам, іржаннем, мальбою: «Не трэба, не трэба!»

«A torinoi lo», або конь з Турыну, як сон у Трыера (з трэцяе эры),
на плошчы ў Італіі, побач з вакзалам, рукамі атулены
Фрыдрыха Ніцшэ — памірае. «Атрута», — кажуць у шпіталі.
«Забойства!»,— галёкае ён (яго забіраюць).
І быццам у дурцы, хаваюць у пакоі, а потым хаваюць у труне.

Куды бяжыць хлопчык з цыкутавым сэрцам галопам-алюрам, куды?
Хімеры складваюць 122 кветкі «Dracula chimaera» ў студню.
У студню сухую без кроплі вады.

## Ліла

Ліла выходзіць на сцэну ісландскага цырка з афішаю
«Цырк Вечнай Жаноцкасці». Водар шафрану лунае ў паветры.
Сярод гледачоў інтэрнэт-тролі й хімеры са школы.
Маршам шаноўныя мілыя госці пруць кветкі да клеткі
Імя Дурных Успамінаў. Ліла выходзіць з каўпаком на галаве.

Канферансье абвяшчае: «Упершыню на сцэне!
Дэбют у жыцці — твар адкрые Вечная Жаноцкасць!»
Але ж «Выстава выстаў», даўніны стогадовай,
Мае касяк і даволі жорсткі — Ліла не цяміць, што ёй рабіць
На сцэне з клеткай статусаў, пастоў і рэпостаў.

На целе няма караляў пярлінавых, нязграбна выпіраюць косці.
Але Ліла мае выйці ў дадзеным кіраўніцтвам вобразе.
Кантракт падпісаны на мільярд гадоў, усе квіткі распраданыя
Шчэ сто сем рокаў і адзін дзень таму. Дамовы трэба адпрацоўваць,
Асабліва доўгія. Вось правілы Вечнасці. Вось правілы Жаноцкасці.

Клетку Дурных Успамінаў сцеражэ шафранавы конь Рым Цін Ці.
Ліла пытае яго шэптам: «Цін, як мне ўцячы?». Ён маўчыць.
Згасае святло. Святло ўключаецца. Чуваць голас: «Цырк зачыняецца».
Ліла збегла верхам на Рым Цін Ці, а людзі дагэтуль кажуць,
Што Вечная Жаноцкасць пайшла па яе слядах на жоўтым кані.

## А ў вас дом далёка ад нас?

«Я жыву ў доме побач з возерам. Зараз 27 студзеня года трынаццатага.
Чаму ў подпісе ты ставіш адпраўку з чатырнаццатага года?
З якой планеты, эры, сферы, краіны, лісты твае?
У гэтым месцы намалюй сваю далонь, дом, планету. Патлумач жа мне».

«Мае кішэні перапоўнены лісцем вязаў,
якія растуць-гаманяць са мной штодзённай вясною.
Я ўкідваю іх у партал, нашу супольную паштовую скрыню,
абводжу далонь (як ты просіш), сыплю пыл жоўтых кветак,
загортваю яблык (як ты хочаш), малюю дом у свеце ззяння азёраў,
клею пер’е ластаўкі (як ты чакаеш), каб хутчэй даляцелі
мае Усясветныя лісты-лісце да твайго дома, які ў маёй хаце.
Дом у сярэдзіне дома, на маіх далонях, што ў тваіх далонях, —
спляценне двух карэнняў, якія аплятаюць нашу цытадэль побач з возерам».

«Праносяцца паўз хмарныя чоўны Хронасу,
Дваццаць сёмага чысла (усё роўна, якога года),
Я йду ў касцюме касманаўта ўгару, да свайго дома,
Які ўсярэдзіне дома з тваёй далоні. Ты глядзіш на мяне,
ледзь дыхаючы, усю дарогу дадому.
Усю дарогу дадому. Усю дарогу дадому».

Косма-скрыначка паштовая. Касманаўты (іх двое) і Час:
«А ў вас дом далёка ад нас?»

## Падарожжа ў акно

Я — старэйшы аэранаўт дамашняга паветраплаўца.
Але мая мама кажа, што гэта немагчыма: «Ты жывеш у казцы».
А я дзіўлюся на свой агрэгат, запраўляю яго парам,
народжаным жарам хмараў-зданяў.
Зацягваю матузкі мацней,
малюю львоў і абрысы крылаў,
вышываю дэталі залатых грываў.

Мой агрэгат-аэрастат — найрэальнейшая рэч, што я маю,
з нім нічога не страшна, са святла вынырваю і зноў ныраю.
Але сёння я ўпершыню выйду з пакою гавані:
«Мама, я першы мангальф'ер нашай хаты.
Я пачынаю вандроўку — зараз, цяпер, заўзята».
(напэўна, назаўжды, або на пэўны час,
на колькі дзён ці на паўгода).

Адчыняю акно, б'юся галавою ў цвет абрыкосу,
які лагодна казыча маё вушка, папраўляе капялюш.
І вось ён я.
З разгону, з шарльерам
цяпер адлятаю.
Лячу.

Мне б хацелася прызямліцца ў Новай Зеландыі, але не назаўжды,
мне б хацелася прызямліцца на гару Кара Бы, але зараз гэта немагчыма,
мне б хацелася прызямліцца побач з Паўдзённым Бугам, але я ўжо там быў,
мне б хацелася прызямліцца недзе ва ўсходніх землях — там, дзе твае сляды,
мне б хацелася прызямліцца у Балціморы, штат Мэрылэнд, але ненадоўга,
мне б хацелася прызямліцца там, дзе мяне не чакаюць,
мне б хацелася прызямліцца побач з тваім парадным,
і, можа, я б нават застаўся альбо ўзяў цябе з сабою,
калі б ты таго захацела.

## Інструкцыя да танца «Барвік»

Што б не сталася — пачынай танец ў дрэве.
Знайдзі дрэва, якое расце ўгару, уніз і па коле.
Такое дрэва можна сустрэць недзе ў ваколіцах Перу
Або на выспе Хорціца — выбірай, што табе бліжэй.
Трэба залезці ў сярэдзіну дрэва як мага глыбей.
Што б не сталася, паўтарай: гэты выбар толькі за мною.

У такім дрэве маюць сядзець:
Карэец-верлібрыст, які піша вершы пра танец «Барвік»,
Японец-аніматар, які малюе раскадроўкі танца «Барвік»,
Кітаец-рэжысёр, які здымае кіно пра танец «Барвік».
Іх нельга падвесці — вам трэба гарна станчыць.
У такое дрэва залазяць украінска-перуанскія дзеці.

Так, як жа правільна выглядае танец «Барвік»?
Гэта — як пляснуць тры разы ў далоні ў такт музыкі.
Гэта — як схапіць за рукі партнёра, які не жадае танчыць,
Зрабіць да яго па, нахіліцца і шэптам прамовіць:
«Я выйграў у латэрэю мільён гадоў вечнага жыцця.
Але за мною выслалі копаў. Вырашай, ты са мной да канца?»

«Барвік» — нібы паўтор слоў «Anjos» і «Choose»,
Гучанне лупераў у сярэдзіне дрэва, што расце ў Луўры.
Ніхто так і не змог зняць, намаляваць і запісаць «Барвік»,
Які танчаць у сэрцавіне ўкраінска-перуанскія дзеці.
Табе вырашаць, з кім цікаць мільён гадоў вечнага жыцця,
Але, што б не сталася, паўтарай: гэты выбар выключна за мною.

## Давай згубімся

*«...і коли вже довкола пахне війною*
*і вже розгораються перші битви*
*говори зі мною*
*говори зі мною*
*бо словом також можна любити»*
*(Юрко Іздрик)*

Пакуль пах петрыкору побач з маім домам расчыняецца,
Пакуль непрытомны  Пятроўскі раён палівае «град»,
Пакуль мы адно адным атуляемся,
Звяртаюся да цябе (уголас):
«Давай жа згубімся!
Давай згубімся!», —
Хваравіта, адчайна прашу цябе.

Памятаеш, вось наш будынак з крыві і попелу,
Памятаеш, вось шафка дубовая, трампяля ў ёй, піяніна Акорд,
Памятаеш, я ў шафцы хавала малы тэрыкон?
Ты не чуеш і кажаш: «Не магу рухацца,
пад завалам будынку мая душа.
Давай згубімся!
Давай жа згубімся!»,
Толькі цяпер разумею — час пакідаць месцы ўсходу.

Што ж, пакуль канец свету дзеецца,
Што ж, калі не застаецца болей выбару, рэчаў і часу,
Што ж, дагарае лямпа ў пакоі, ў валізе маё сэрца свеціцца,
Ды кімсьці створана выспа, якую клічуць:
«Давай згубімся».
«Давай згубімся», — кажу табе.
І мы спяшаемся разам знікнуць.

Бо, можа, там мы страцім памяць,
Бо, можа, там мы закахаемся на астачу,
Бо, можа, там мы закахаемся, заззяем, прытулімся.
Давай згубімся?
Давай згубімся!
Давай згубімся.

*Пераклад з украінскай Алеся Плоткі*

**Святлана Курганава**

# Гэтай ноччу ў тужлівым кастрычніку

Што пра яго можна сказаць? Вельмі шмат, улічваючы, што ён меў досыць насычанае жыццё. Гэта чалавек, які за 58 гадоў напісаў больш за 150 апавяданняў і 50 кніг, атрымаў чорны пояс па айкідо, выхаваў не адно дзіця, вывучаў мовы і яшчэ чаго толькі не рабіў. Ну і, вядома ж, атрымаў мноства прэмій у свеце фантастыкі.

Гэта пра Роджэра Жалязнага і яго «Ноч у тужлівым кастрычніку» — апошні твор, выдадзены пры жыцці пісьменніка, фінальны акорд яго творчасці, у якім чытач бачыць па-майстэрску закручаную інтрыгу. З іншага боку, гэта можа быць цацкай. Пацешнай, мілай, кранальнай, няцяжкай. І ў гэтай сваёй няцяжкасці геніяльнай.

Гэтая кніга цікавая тым, што яна напісана ад імя сабакі. І зусім сур'ёзна.

*Я — вартавы сабака. Мяне клічуць Нюх. Зараз я жыву са сваім гаспадаром Джэкам непадалёк ад Лондана. Я люблю начны Соха — яго цёмныя вуліцы, насычаныя пахамі туманы. У гэты час стаіць цішыня, і мы выходзім на доўгія прагулкі. Джэк — захавальнік закляцця і павінен большую частку сваёй працы рабіць ноччу, каб не адбылося горшае. Пакуль ён заняты, я стаю на варце. Калі з'яўляецца хто-небудзь, я выю.*

У аўтара (ці ў Нюха) тут вельмі прыемная манера гаварыць. Спачатку маўленне апавядальніка здаецца сечаным, але потым стваранецца ўражанне, што гэта менавіта тое, што трэба для гэтага сабакі — віктарыянскага джэнтльмена, якім з'яўляецца і яго гаспадар.

*Такія хвіліны рэдкія, такія хвіліны хуткаплынныя, але заўсёды ярка свецяць нам, калі здолееш іх злавіць, вымераць, захаваць, і потым, у цяжкія часы, вяртаешся да іх там, у светлых палацах памяці, на фоне языкоў полымя.*



*Прашу прабачэння. Кажуць, новы месяц выклікае рэфлексію. Час рабіць абход.*

Аўтар не кажа ў лоб нічога, у тым ліку і пра час, і пра месца дзеяння. Хранатоп можна адгадаць па раскіданых назвах і іншых даных. Зрэшты, не так важны той гістарычны перыяд, калі ідзе праца, таму што героі быццам існуюць па-за часам.

Звернемся да герояў. Гэта не самае смачнае, на мой густ, але чытач надае больш увагі вобразам герояў, чым іншым складнікам літаратурнага твора. Кожны з герояў рамана — рэальная гістарычная асоба ці герой знакамітага твора. Мы можам гадаць пакутліва: «Хто ж гэта?», а можам з першых жа старонак зразумець, пра каго ідзе гаворка. Аўтар кідае выклік: па якой дэталі ты здагадаешся? Калі вы здагадваецеся адразу, то і герой адразу набывае аб'ём, а яго матывы робяцца празрыстымі. Менавіта таму тут няма неабходнасці ў дэталёвай прамалёўцы людзей. Мы і так ведаем іх — з гісторыі і літаратуры. Але хто прамаляваны дэталёва — гэта іх напарнікі-жывёлы. Іх характарызуюць гаспадары, адносіны аднаго з другім і маленькія рысачкі, якія вымалёўвае аўтар.

*— Каб цябе! Мне трэба левае сцягно, а тут яго няма!*

*— Вы кажаце — левае сцягно? — пачуўся непадалёк каркаючы голас, які мог належаць старому Оўэну. — У мяне тут ёсць правае, яно мне без патрэбы. Ці няма ў вас печані? Мне неабходна пячонка.*

*— Прасцей не бывае! — пачуўся адказ. — Адзін момант. Вось! Мяняемся?*

*— Яна ваша! Трымайце!*

*Нешта пранеслася ў паветры і з трэскам пакацілася па схіле пагорка, затым рушыў следам хуткі тупат ног.*

*— Падыходзіць! Вось ваша пячонка!*

*Вышэй па схіле пачулася — шлёп! І прыглушанае:*

*— Славіў!*

Яшчэ адна займальныя рэч — гумар, заснаваны на гульні слоў. Нескладаныя інтэлектуальныя практыкаванні, якімі прыемна займацца. Так, не ўсе мы ведаем лацінскую мову, але тут заўсёды ёсць зноскі, каб атрымліваць асалоду ад усведамлення таго, што нам хапае ведаў — ведаў літаратур і гісторыі розных краін, каб разумець жарты ў гэтым тэксце. Тут жа займальна бачыць адсылкі да «Казкі Матухны Гускі» і міфалогію Лаўкрафта — у адным флаконе.

*— Et cum spiritu tuo[1], — адказаў я, уваходзячы ў адтуліну.*

*— Benedicte[2], — пачуў я здалёку адказ, зноў уплываючы ў прастору паміж двума светамі.*

*— Што азначала тая размова напрыканцы? — крыкнула мне Шэрая Мяцёлка.*

*— Ён зладзіў мне невялікую кантрольную па Вяргілію.*

У кнізе 32 часткі: пралог і па адной главе на кожны дзень кастрычніка. І 15 кастрычніка — зусім не сярэдзіна кнігі. Бліжэй да канца месяца апавяданне набірае тэмп, сюжэтныя абароты і аб'ём (у тым ліку тэксту). Кульмінацыя — 31 кастрычніка — дзень, дзеля якога мы, уласна кажучы, гэта ўсё і чытаем.

Мы чытаем і бачым, як перад намі раскрываецца таямніца, якую Жалязны па-майстэрску стварае. Мы з самага пачатку не разумеем, што адбываецца, збіраем па крупінках інфармацыю пра тое, што робяць героі і (галоўнае) навошта. Выхопліваем з тэксту ключавыя элементы, спалучаем, каб зразумець, у чым сутнасць Гульні, якую вядуць героі. Тут ёсць тонкая мяжа, на якой аўтар вытанчана балансуе: даць не больш, чым трэба для інтрыгі, і даць не менш, чым неабходна для разумення.

[1] І з духам тваім (лац.).
[2] Бласлаўляю (лац.).

Яшчэ адна займальныя рэч — гумар, заснаваны на гульні слоў. Нескладаныя інтэлектуальныя практыкаванні, якімі прыемна займацца. Так, не ўсе мы ведаем лацінскую мову, але тут заўсёды ёсць зноскі, каб атрымліваць асалоду ад усведамлення таго, што нам хапае ведаў

І толькі «28 кастрычніка» аўтар дае нам дакладнае тлумачэнне. Але да гэтага часу мы самі паступова сабралі карціну, здагадаліся (ці амаль), што адбываецца. Дамагчыся ад свайго чытача разумення, пры такой манеры адлюстравання, цяжка. Але Жалязнаму ўдалося дакладна разлічыць прапорцыю.

І што самае смачнае, на маё меркаванне, — гэта праца аўтара з тэмпам апавядання, праца з падачай чужых дыялогаў. Гэтыя размовы расцягваюцца і паскараюцца, у адным павольным ідзе пераказ іншага — больш жывога, усхваляванага, пасля чаго вы зноў вяртаецеся ў размераную гутарку. Жалязны філігранна працуе з тэмпам: тут адчуваецца ўпэўненая рука майстра, які ведае, як вас захапіць. Дзякуючы гэтаму кніга становіцца маленькім майстар-класам ад пісьменніка. Пасмяротным падарункам майстрам пяра, якія будуць жыць пасля яго.

«Ноч ў сумным кастрычніку» — пра тое, як любіць катоў, калі вы сабака, пра тое, дзе лепш не з'яўляцца пад поўняю перад Днём усіх Святых. І — для мяне — пра тое, як пісаць і як думаць.

*— Калі шлях адкрыецца, усё павінна змяніцца.*

*— Да лепшага?*

*— Можа быць. З іншага боку, калі шлях не адкрыецца, усё таксама можа змяніцца.*

*— Да лепшага?*

*— Будзь я праклятая, калі ведаю, Нюх. Хіба каму-небудзь ёсць справа да галоднай коткі, акрамя некалькіх сяброў?*

*— Магчыма, болей за гэта ніхто і не мае ў жыцці, якім бы раскошным яно ні было.*

# Рэаліі фантастыкі: Сяргей Слюсарэнка пра паглыбленне ў фантастычныя светы, Гары Гарысана на ўласнай кухні і «сонечных» беларусаў

**Заўсёды прыемна размаўляць з чалавекам, які шмат чытаў, шмат ездзіў і шмат ведае. А з чалавекам, які пачынае знаёмства з таго, што прапануе вам мадагаскарскіх тараканаў, якія жывуць у яго дома, яшчэ і цікава. Святлана Курганава сустрэлася з фантастам Сяргеем Слюсарэнкам, каб паразмаўляць пра літаратуру, таму што літаратура бывае розная, пра сяброў, якія таксама бываюць розныя, і — пра Мінск.**

## Пра пісьменніцтва

**— Вось вы — фізік па прафесіі. А як пачалі пісаць?**

— …я тады год працаваў у Амерыцы. Было сумна, самотна, сям'я знаходзілася на Радзіме. І я знайшоў у інтэрнэце ICQ старога свайго прыяцеля — харкаўскага барда Уладзіміра Васільева. І — напісаў. А гэта аказаўся маскоўскі пісьменнік-фантаст Васільеў. Так атрымалася, што мы з ім цяпер сябры — з таго часу.

Потым я пазнаёміўся з многімі іншымі пісьменнікамі. І сам напісаў апавяданне. Яго адразу ўзялі друкаваць. Якраз з'явіўся новы фантастычны часопіс ва Украіне — «Рэальнасць фантастыкі», там надрукавалі адно апавяданне, другое. А потым вырашыў напісаць штось большае па памеры. І так яно неяк пайшло.

Такім чынам, штуршком да напісання твораў былі зносіны з людзьмі, якія самі пішуць.

**— Як сумяшчаеце асноўную працу і літаратурную дзейнасць?**

— Абсалютна ніяк. Раней было шмат працяглых замежных паездак, і вечарамі не было чым заняцца. Апошнія гады ў Кіеве праца таксама не займала шмат месца ў жыцці. Тут цяжэй — новая праца, я ж зусім профіль змяніў. Сёння я дацэнт у агратэхнічнай установе адукацыі. Выкладаю праграмаванне, проста інфарматыку, аўтаматызацыю, агратэхнічныя сістэмы кіравання. Я гэтаму вучыўся не спецыяльна, але я фізік-эксперыментатар — нармальна ўсё гэта самастойна вывучыў. Але гэта не проста: усё новае, у тым ліку і выкладчыцкая дзейнасць. Вось адпачынак будзе — дапішу кніжку.



**Біяграфічная даведка**

*Сяргей Слюсарэнка нарадзіўся 16 мая 1955 года ў Мінску. Вучыўся на фізічным факультэце БДУ і ХНУ (Харкаўскі нацыянальны універсітэт), пасля заканчэння ў 1977 годзе працаваў на радыёфізічным факультэце ХНУ.*

*З 1981 года — супрацоўнік Інстытута фізікі Акадэміі навук у Кіеве. У 1990 годзе атрымаў ступень кандыдата фізіка-матэматычных навук. Аўтар шматлікіх публікацый і міжнародных патэнтаў у галіне аптычнай галаграфіі, лазернай фізікі, фізікі вадкіх крышталяў. Працаваў па запрашэнні ва універсітэтах Італіі, ЗША, Іспаніі, Францыі, Германіі, Польшчы. Цяпер выкладае ў Беларускім дзяржаўным аграрна-тэхнічным універсітэце.*



Анджэй Сапкоўскі (злева), Людміла Слюсарэнка, Гары Гарысан (справа).

**— Праца неяк уплывае на тое, што вы пішаце?**

— Праца — не, хутчэй уплывае спецыяльнасць. Я імкнуся не дапускаць парушэння законаў прыроды. Напрыклад, вось тое, што я цяпер адправіў Злотнікаву, — гэта чыстая навуковая фантастыка блізкага прыцэлу. Там сучасныя рэальныя фізічныя ідэі — парушэнне гравітацыі, напрыклад. Тое, што трэба для космаоперы.

Або ўзяць «Сінтэз»[1]. Канцэпцыя ўсяго серыяла навуковая. Тут разглядаецца тое, што называецца мульцiверсумам, — адначасовае існаванне паралельных светаў, магчымасць пераходу з аднаго ў другі — цяпер гэта папулярная тэма ў фізіцы. І гэта навуковая канцэпцыя, якая ў кніжках нідзе не адлюстроўваецца, але яе трымалі ў галаве, калі пісалі.

## Пра літпраекты

**— Калі зайшла гаворка пра міжаўтарскія праекты: давайце пагаворым, чаму вам гэта цікава. Як вы трапілі туды?**

— Калі «Сталкер» быў на ўздыме, гэта быў шанец для невядомага пісьменніка стаць папулярным. Натуральна, хацелася і зарабіць. І я свайму літагенту кажу: давай я напішу «Сталкера»[2]. У іх была чарга з аўтараў, але я ўсё роўна напісаў. Пасля аказалася, што адзін аўтар не даслаў сваю працу своечасова, і так удалося мой тэкст уставіць. І пайшло: «Давай яшчэ, давай яшчэ, давай яшчэ».

У той час літагент, калі зразумеў, што я згодны пісаць для «Сталкера», спытаў: «Ты чытаў «Хронікі капітана Блада»? Тут праект закручваецца: трэба

[1] «Сінтэз» — кніга Сяргея Слюсарэнкі, напісаная для праекта Сяргея Лук'яненкі «Памежжа».
[2] Міжаўтарскі праект, створаны па аднайменнай камп'ютарнай гульні, якая, у сваю чаргу, запазычыла некаторыя ідэі і назвы з рамана братоў Стругацкіх «Пікнік на абочыне». Удзельнічаюць як прафесійныя аўтары, так і непрафесійныя.



Роберт Шэклі.

дакладна такое ж, як «Хронікі Капітана Блада», толькі іншае і лепшае». Гэта серыя «Карсары»[3]. Але, на жаль, праект гэты памёр, і «Сябры бога» выйшлі нейкім смешным накладам.

Са «Сталкерам» было проста: вось табе мапа гульні, вось табе кнігі, напісаныя да гэтага, — давай рухайся. Галоўнае: ты павінен укладвацца ў сэт гульні і не пярэчыць таму, што было дагэтуль. А я зрабіў трошкі хітрэй. Можна сказаць, што я да Чарнобыля меў дачыненне. Сам я там не быў. Кіеўскім фізікам з пэўнага часу забаранілі працаваць у зоне. Вось і мяне ў дзень адпраўкі ў Чарнобыль проста знялі з аўтобуса. Але ведаў шмат людзей з Чарнобыля і зрабіў кніжку з прывязкай да гульні, але значна больш сур'ёзна прапрацаваў прывязку да рэальнага Чарнобыля.

Потым «Крэмль-2222»[4]. У праекце «Крамля» трэба было азнаёміцца са светам і пачытаць кнігі... І я не адолеў папярэднія. Я ў асноўным перапісваўся з Сілавым — куратарам і асноўным аўтарам. Але далей пісаць я не захацеў: мая канцэпцыя працягу не падыходзіла выдавецтву. Цяжка пісаць, таму што ўзровень сюжэтных патрабаванняў усё горшы, горшы і горшы. Там абы пішы. І часта мяне лаялі за тое, што я адхіляюся ад сэта. Я напісаў наступны сінопсіс так, як я хачу. «Не, так не падыходзіць, трэба больш строга да свету праекта». А мне — не падыходзіць таксама.

З «Сінтэзам»[5] усё было крыху па-іншаму. Серыял памёр. А яго задумалі як? Разам з Лук'яненкам абмяркоўвалі ўсе ідэі. Мы сустрэліся ў Італіі, тады ў яго нарадзілася ідэя мастацкага свету. Доўга абмяркоўвалі. А потым сталі пісаць, але выдавецтва змяніла погляды — змяніўся і парадак выхаду. Мая кніжка мусіла быць першай пасля рамана Лук'яненкі, але выйшла пятай. Ну, добра. Галоўнае, кніжка выйшла. Цяпер вось новую чакаю. І зноў серыял.

**— Які?**

— Ёсць такі аўтар — Раман Злотнікаў. У яго ёсць серыя кніг — «Вечны». І нарадзілася ідэя зрабіць праект. Аўтары пішуць не пра яго героя — Вечнага, нават тыя падзеі, якія ў яго кнігах, трэба чапаць толькі ледзь-ледзь, здалёк. Трэба ведаць, што існаваў свет «Вечнага», але на першым плане зараз павінны быць іншыя героі.

Для працы над праектам са Злотнікавым ішлі доўгія-доўгія перамовы: трэба было прачытаць усе яго кнігі. Адзін сінопсіс адправіў — не спадабалася, іншы сінопсіс даслаў — ён не адказаў. Калі я спытаў: «Ды адкажаш, не?» — ён сказаў: «Пішы! Калі не адказаў, значыць, падыходзіць». Вось такое абмеркаванне на ўзроўні сінопсісу.

**— Чым адрозніваецца праца над сваім арыгінальным светам і светам, які прапануе праект?**

— Паглыбленне — галоўнае. Ты паглыбляешся ў свет — і ён ужо становіцца тваім. Для мяне праца над напісаннем кнігі мала чым ад гэтага адрозніваецца. Пытанне яшчэ, як ставіцца. Вось я ведаю некаторых людзей, якія пісалі праекты, але ім

[3] Міжаўтарскі праект, у аснову якога пакладзена аднайменная гульня.
[4] Міжаўтарскі праект, ідэя якога належыць Дзмітрыю Сілаву, які дагэтуль пісаў для «S.T.A.L.K.E.R.».
[5] Раман з міжаўтарскага цыкла «Памежжа», канцэпцыяй якога кіруе Сяргей Лук'яненка.



Роберт Шэклі (злева) і Сяргей Слюсарэнка (справа) у Неапалі.

гэта было нецікава: ад іх патрабаваў выдавец, і яны пісалі адной левай, не задумваючыся, пра што пішуць. А я ўключаюся, і мне гэта ўжо самому цікава. Свет становіцца тваім.

## Пра (не)рэальных герояў

**— Ці маюць вашы персанажы прататыпаў?**

— Некаторыя з іх. Для «Сталкера» я стварыў сваю кампанію, узяўшы ў прататыпы рэальных людзей. Мне было лёгка пра іх пісаць. Цімур Рымжанаў — цалкам рэальны чалавек для мяне. І паводзіны ў яго такія. Байкалаў — гэта герой у некалькіх сталкерскіх рэчах — ён мой кум. У адной кнізе ў мяне ёсць герой Сямецкі. Ён лічыцца героем гульні, але Сямецкага я выпісаў так скрупулёзна, таму што я яго вельмі добра ведаю як рэальнага чалавека. І я зрабіў яму вельмі вялікі падарунак. Я апублікаваў яго вершы велічэзным тыражом для паэтаў цяперашняга часу: 60 ці 70 тысяч асобнікаў. Я проста ўставіў усе яго вершы ў эпіграфы да сваіх кніг.

Ёсць у мяне яшчэ адна гераіня, яе нават неяк выстаўлялі на конкурс «Лепшая жанчына са «Сталкера», — Клава Маісейчык. Насамрэч гэта Міла Маісейчык — мая аднакласніца.

**— Ці складана для аўтара-мужчыны ствараць персанажаў жаночага полу?**

— Я не скажу, што гэта складана. У мяне нават была ідэя кніжку ад жаночага імя напісаць. Я наогул не бачу розніцы паміж апісаннем мужчыны і жанчыны. Я, напэўна, спрашчаю, хоць імкнуся гэтага не рабіць. Ну, у мяне жанчыны больш за ўсё апісаны ў кнізе «Ноч чалавека», «Крок чалавека». Там, напэўна, сумленна атрымалася.

## Пра сяброў

**— У вас паўсюль у інфармацыі да кнігі «Тактыльныя адчуванні» сказана, што напісана яна з удзелам Роберта Шэклі[6].**

— Я сябраваў з ім. Мы пазнаёміліся ў Італіі. Я сядзеў у Неапалі па навуковых справах некалькі месяцаў. І тут мне тэлефануе знаёмы італьянец —

[6] Амерыканскі пісьменнік-фантаст, аўтар некалькіх сотняў фантастычных апавяданняў і некалькіх дзясяткаў навукова-фантастычных раманаў і аповесцей. Майстар кароткай формы. Пісаў навуковую фантастыку з мяккім гумарам.

Раберта Квалья[7]— і кажа: «Слухай, тут мой прыяцель, ён цяпер у Турыне. Можаш яму паказаць Неаполь?» Я цікаўлюся ў яго, які прыяцель, а ён кажа: «Роберт Шэклі. Ну, цяпер дам яму трубачку». У мяне тады язык адняло.

І яны прыехалі і жылі ў мяне два тыдні. Распавёў Шэклі, якую кнігу пішу. Яго развесяліла, што адзін эпізод вельмі падобны да выпадку, які з ім здарыўся. У мяне ёсць гісторыя пра прышэльцаў, што знаходзяцца на Зямлі таемна. І ён расказаў: быў адзін выпадак, калі ён выступаў. Да яго падышоў нейкі мужчына і вельмі падрабязна стаў казаць пра тое, што фантастыка — гэта не фантастыка, што ў нас прышэльцы на Зямлі. Яны вось там жывуць, там. І потым Шэклі спытаў: «А вы ведаеце, адкуль яны прыляцелі?» І атрымаў адказ: «Вядома, я ведаю. Гэта рэпцілоіды з пятага вымярэння».

І я гэты кавалак, з яго, натуральна, дазволу, ўставіў у свой тэкст. Ніякай гаворкі не ішло, што ён будзе сааўтарам. Усё так, па-сяброўску.

А потым я выдаўцу распавёў. Ён спалохаўся, адшукаў Шэклі, узяў у яго дазвол ўставіць яго ў сааўтары кнігі. Потым усё ж прыбралі.

**— Вы сказалі, што былі знаёмыя і з Гары Гарысанам[8]?**

— Так, і вельмі добра. Гэта такая гісторыя... У Кіеве быў канвент — Еўракон. Мяне папрасілі сустрэць Гарысана на вакзале. Сустрэць сустрэў, а потым трэба было яго накарміць. Я кажу яму: «Ці не жадаеце прыехаць да мяне — піцай вас пачастуем, мы доўга жылі ў Італіі і ўмеем яе гатаваць». Ён пытаецца: «А па-італьянску вы выпадкова не размаўляеце?» Так, кажу. І ён перайшоў на італьянскую.

Як аказалася, ён вялікі аматар замежных моў. Ён ведаў эсперанта, французскую, італьянскую, яшчэ нейкія мовы. Калі высветліў, што ў мяне ўсе ў сям'і гавораць па-італьянску, то і з'язджаць ад нас не захацеў. Сядзелі доўга, да самага вечара. Потым былі мерапрыемствы для гасцей, а ён сказаў: «Не хачу ніякія мерапрыемствы, паехалі да Сяргея. Я там буду сядзець».

Але ён прыехаў не адзін. З ім прыехалі яшчэ 62 чалавекі. У двухпакаёвую кватэру. І так два дні.

**— А ці не было з усім гэтым праблем? Столькі розных людзей у адным месцы!**

— Былі праблемы. Сядзеў Гарысан у кухні. Ён вельмі шмат расказваў пра сваё жыццё. Ён жа ваяваў — быў наводчыкам-бамбавіком. А потым прыехаў Квалья са сваім прыяцелем Янам Уотсанам. Гэта пісьменнік, аўтар сцэнарыя да фільма «Я робат». А ў яго з-за гэтага фільма адбыўся вялікі канфлікт з Гарысанам. Гарысан нейкага свайго пратэжэ прапанаваў, а Уотсан прабіўся сам. Увогуле, мы іх развялі па розных пакоях. Усё абышлося прыстойна, спакойна — не пабіліся.

## Пра сябе і пра Мінск

— Мая жонка кажа: я аб адным шкадую пасля пераезду ў Мінск — што мы гэта не зрабілі шмат гадоў таму. Ёй, якая нарадзілася і вырасла ва Украіне, тут камфортней. А мне ментальны тып беларусаў значна бліжэйшы, чым украінцаў.

**— А ў чым розніца?**

— Я трошкі алегарычна раскажу. Мы з жонкай ехалі ў аўтобусе, наперадзе сядзелі два хлопцы. А шкло запацелае было. Адзін намаляваў страшнага чалавека з барадой, зрабіў яму рукі-ногі, уставіў меч. Потым падумаў — траўку намаляваў. Потым падумаў — і сонейка. Гэта вельмі псіхалагічны момант.

Калі дзіця малюе сонейка — гэта сведчыць пра пазітыўнае стаўленне да жыцця. Тут людзі непараўнальна мякчэйшыя, і няма такой пастаяннай барацьбы за дамінаванне за кошт заглушэння навакольных.

Мне падабаецца жыць, працаваць і пісаць тут.

І я рады, што вярнуўся дадому праз сорак гадоў.

[7] Італьянскі пісьменнік-фантаст і журналіст.
[8] Амерыканскі пісьменнік-фантаст, мастак, рэдактар.

**Ад рэдакцыі**

Калі хто-небудзь са страчаных мінскіх сяброў прачытаў гэта інтэрв'ю і вырашыў узнавіць сувязь, то смела пішыце: slussarenko@yahoo.com. (Электронная пошта пакінута па просьбе героя інтэрвью.)

# Паміж прэміяй і фестывалем

*Кінапрэміі і кінафестывалі.* Хтосьці лічыць важным паглядзець фільмы, намінаваныя на прэміі, а хтосьці адсочвае тое, што пракатваюць на фестывалях. І ў поле зроку гэтых дзвюх катэгорый людзей трапляюць розныя рэчы. Давайце паспрабуем разабрацца, чаму.

Гэта дзве розныя паводле канцэпцыі з'явы — змешваць іх не варта. Кінапрэмія больш нагадвае сельскагаспадарчую выставу. «За гэты год мы столькі выгадавалі і вось хочам прадставіць вам толькі лепшае!» На такой выставе можна паглядзець на назвы фільмаў — як на гародніну. «З'есці» не дадуць.

Фестываль жа становіцца шматдзённым святам з мноствам паказаў і іншых калякінематаграфічных мерапрыемстваў. Сюды трапляюць не толькі апошнія фільмы рэжысёраў, але і старыя карціны. Новыя могуць перамяжоўвацца старымі, яны могуць ісці паралельна ў розных праграмах і гэтак далей у шматлікіх варыяцыях. І тут якраз мы можам *паглядзець* фільмы, назвы якіх заяўлены ў праграме.

*Што галоўнае?* На кінапрэміі ў цэнтр становіцца шоу, вонкавы глянец ды імёны пераможцаў. Змест фільма застаецца «за дужкамі» трансляцыі ўзнагароджвання. А на фестывалі на покуці знаходзяцца карціны, што ўвайшлі ў праграмы. Не іх назвы, не слава рэжысёрская, а іх змест.

*Якія людзі прысутнічаюць?* Прэміі — гэта (часцей за ўсё) мерапрыемства «для сваіх». Тут збольшага толькі людзі, датычныя да стварэння гэтых фільмаў. Тут няма чаго рабіць звычайным гледачам. Апошнім застаецца толькі глядзець трансляцыю і любавацца на прыгожыя касцюмы кіназорак.

Фестываль — месца, дзе збіраюцца самыя розныя людзі. Тут і прафесіяналы (рэжысёры, акцёры), і натоўпы гледачоў, што прыйшлі паглядзець кіно. І вы можаце апынуцца ў адной зале са стваральнікамі фільмаў, якія вы прыйшлі паглядзець. А самае важнае — зможаце потым задаць пытанні, што ў вас назбіраліся.

*Хто судзіць?* Хтосьці атрымлівае «Залаты глобус» або «Оскар». Хтосьці атрымлівае золата «Лістапада» або Пальмавую галіну на Канскім кінафестывалі.

Хто атрымае прэмію, вызначае велізарны натоўп людзей. Прэмія «Залаты глобус» ўручаецца кожны год у студзені па выніках галасавання прыкладна дзевяноста міжнародных журналістаў, якія жывуць у Галівудзе. За лепшую карціну на прэмію «Оскар» галасуюць усе члены кінаакадэміі, прыблізна каля пяці тысяч. І гэтак далей, але сутнасць адзіная: шмат людзей.

На фестывалях жа існуе экспертнае журы, у сярэднім з пяці чалавек. Сярод іх — старшыня. Ён падводзіць вынікі і мадэрыруе дыскусію, у працэсе якой выбіраюць пераможцу.

Вы можаце адсочваць першае або другое ці ўсё разам, каб шукаць перакрыжаванні спісаў. Чым вы зацікаўленыя — гэта ваша асабістая справа.

Галоўнае — не блытайце розныя з'явы.



# Ігар Сукманаў: «Кіно — гэта сфера дыспутаў і разважанняў»

**Пра каляфестывальнае жыццё і кінематограф з праграмным дырэктарам ігравога кіно Мінскага міжнароднага кінафестывалю «Лістапад» Ігарам Сукманавым размаўляла Святлана Курганава.**



**— Як ідзе адбор фільмаў, па якой схеме? Бо, як разумею, у праграму трапляе не ўсё.**

— Фестываль робіць упор на кінематаграфію краін былой камуністычнай прасторы. Гэтыя краіны нам калісьці былі вельмі блізкія ідэалагічна. А сёння кожная абрала свой шлях развіцця. Але разам з тым нас вельмі шмат аб'ядноўвае. Атрыманне незалежнасці — гэта ў нейкай ступені страта нявіннасці. І гэта адказнасць перад жыццём, перад светам, якая становіцца ўсё больш вострай. Змены ўплываюць не толькі на стан грамадства, але і на персанальныя гісторыі.

Адбор фільмаў шмат у чым працэс інтуітыўны. Гэта называецца «раскласці пасьянс». Нам часта кажуць: «Вы адбіраеце карціны так проста: Канскі кінафестываль, Берлінскі кінафэст — усё, што ляжыць на паверхні, тое і бярэцца». Але бярэцца ў пэўнай камбінацыі, таму што кожны фільм не існуе сам па сабе. Трэба не проста паказаць фільмы з Кыргыстана або Эстоніі. Важна паказаць менавіта тыя карціны, што будуць карэляваць з іншымі фільмамі. Або нейкім чынам адлюстроўваць рэчаіснасць, або рэфлексаваць на тэму той рэальнасці, у якой мы жывём.

**— Для фестывалю вы праглядаеце вельмі шмат фільмаў. Колькі ў дзень?**

— Па-рознаму — ад двух да пяці-шасці. Можна, вядома, бегчы галопам па Еўропах. Але я за пільны падыход.

**— Каб глядзець столькі фільмаў, на кіно трэба хварэць. Як вы захварэлі на кіно?**

— А я з гэтым нарадзіўся. Лічу гэта прызначэннем. Мо і надта самалюбіва гучыць, але гэта так. Колькі сябе памятаю, я вельмі люблю кіно. Для мяне экран і цёмная зала — магія, таінства, неадрыўнае ад мяне. У галаве заўсёды будуць кінапляцоўкі, куды я хадзіў у дзяцінстве.

**— Што можна чакаць ад фестывалю сёлета?**

— Фестываль будзе праходзіць пад слоганам «Ісціна, каханне і прыгажосць». Усе фільмы-удзельнікі фестывалю — пра гэта трыадзінства. Мы бяром філасофскае паняцце любові да жыцця. Таму гэта адзінства — ісціна, каханне, прыгажосць — для нас з'яўляецца першарадным.

Напрыклад, праграмным фільмам 2017 года стала карціна Сяргея Звягінцава «Нелюбоў» («Нелюбовь»). Што значыць адчужэнне людзей, што значыць іх збліжэнне? Нашы карціны таксама нейкім чынам будуць спрабаваць закрануць гэты бок рэальнасці. Прэм'ера карціны Звягінцава адбылася ў маі, а мы сваю канцэпцыю выпрацавалі яшчэ ў снежні. Гэта тэма сёння для многіх мастакоў найбольш актуальная.

**— Вы таксама складаеце праграму «Лістападзіка» — дзіцяча-юнацкага кіно. Можаце пракаменціраваць, як вы адбіраеце тэмы, на якія трэба гаварыць з дзецьмі і падлеткамі?**

— Летась мы свядома адышлі ад гэтых «Лістападзікаў», ад гэтых памяншальна-ласкальных стасункаў. Напрыклад, тэма падлеткавай цяжарнасці — актуальная. Як на гэта рэагаваць дарослым і дзецям, выдатна паказала карціна «Брамнік», на мой погляд, ідэальны псіхалагічны партрэт свету ў такой сітуацыі.

Развіццё дзіцяці адбываецца сямімільнымі крокамі. І густы, і інтарэсы дзевяцігадовага карэнным чынам адрозніваюцца ад густаў і інтарэсаў дванаццацігадовага, не кажучы ўжо пра чатырнаццацігадовага. З гэтага пункту гледжання скласці конкурсную праграму з дзевяці карцін, якія адлюстроўвалі б розныя перыяды дзіцячага жыцця, — амаль непасільная задача.

Мы закранаем тэмы сям'і, фарміравання асобы, выхавання. Гутарым пра тое, як пазбавіцца інфантылізму, залішняй ганарыстасці, завышанай самаацэнкі, або, наадварот, заніжанай. Увогуле, закранаем увесь комплекс падлеткавых праблем.

**— Пра што трэба гаварыць з дзецьмі ў кіно?**

— Забароненых тэм няма. Трэба гаварыць пра ўсё — і наўпрост. Сумленна рыхтаваць іх да вялікага жыцця. Паказваць кіно, якое не робіць з дзіцячага свету фабрыку цацак, не ператварае свет у «ералашныя» школьныя гісторыі, а сапраўды дапамагае падлеткам уступіць у дарослае жыццё. Праблема ў тым, што часцяком грамадства істотна перагінае палку ў такім паняцці, як апека. Гэта спроба ўзгадаваць маладое пакаленне, не траўміруючы яго. На жаль, дзеці вельмі часта сутыкаюцца з вялікай несправядлівасцю. А кіно — гэта сфера дыспутаў і разважанняў. Дык чаму дзіцячае кіно павінна адварочвацца ад сур'ёзных тэм?

Падлеткі, уступаючы ў жыццё без ведання яго правіл, без разумення, як рэагаваць на тыя ці іншыя падзеі, аказваюцца ў крызісным, стрэсавым становішчы. Гэта звязана з тым, што падлетак не ведае, як справіцца з рэальнасцю. І штораз самая малая жыццёвая праблема становіцца катастрофай.

Дзіцячае кіно павінна працягваць дзецям руку. Нярэдка і дарослыя не могуць з праблемамі разабрацца, але мастацтва — і кіно ў тым ліку — працягвае руку. Дзіцячае кіно больш дэмакратычнае, менш замарочанае, менш аўтарскае. І паказы адбываюцца не для таго, каб паставіць школам галачкі і сысці. А для таго, каб настаўнікі абмяркоўвалі кіно са сваімі вучнямі.

**— Ці можна сказаць, што дарослыя, якія выйшлі з глядзельнай залы, гатовы размаўляць з дзецьмі пра ўбачанае кіно?**

— Нейкая частка бацькоў — так. І я чуў водгукі, як гэта было нечакана і як гэта было карысна. А школа не зусім гатова абмяркоўваць праблемы з дзецьмі. Але ўсё патрабуе аналізу. Школьнае вывучэнне беларускай і рускай літаратуры — гэта таксама разгляд, а не проста расповед пра тое, што нехта пакахаў, а нехта здзейсніў злачынства.

**— Што вы можаце сказаць пра абмеркаванне карцін разам з аўтарамі гэтых карцін? Якое гэта мае значэнне?**

— Наогул, першараднае. Добрае кіно — гэта не проста прагляд, гэта ў першую чаргу стасункі. Публіка мае магчымасць абмеркаваць фільмы, што дапамагае памяняць стаўленне да карціны ці, наадварот, замацаваць меркаванне. Гэта адна з самых важных задач фестывалю. Для нас каштоўным з'яўляецца тое, што сам мастак можа пагутарыць з аўдыторыяй, даць ключы да сваіх ідэй.

**— Што вы скажаце пра плёначнае кіно?**

— Калі пару гадоў таму адбыўся павальны пераход на «лічбу» і дэмантаж ўсяго абсталявання для 35-міліметровага фармату, для мяне гэта выглядала блюзнерствам. Як канкістадоры вынішчалі старажытныя культуры, для нас сёння амаль непазнавальныя.

Справа ў тым, што ёсць сапраўднае і сінтэтычнае. Усе рухаецца ў сінтэтычным кірунку. Калі мы хочам зразумець, што такое сапраўднае, мы павінны звярнуцца да 35-міліметровага фармату. Я рады, што шэраг майстроў — такія, як Квенцін Таранціна, Акі Каўрысмякі, Пол Томас Андэрсан, ідуць супраць гэтай плыні і сцвярджаюць для сябе 35-міліметровы фармат.

Я вельмі ганаруся тым, што на кінафестывалі «Лістапад» мы маем магчымасць паказваць карціны менавіта на плёнцы.

Калі мы глядзім кіно ў першапачатковым варыянце, то маем магчымасць чуць шамаценне плёнкі. Мы можам адчуваць фактуру кіно. І ў тым яе каштоўнасць, калі плёнка да бясконцасці пракручваецца і на ёй з'яўляюцца драпіны. Гэта ўсё, як добрае віно. Чым даўжэй яно захоўваецца, тым лепшае яно, больш вытрыманае.

У гэтым годзе я меў шчасце быць на фестывалі ў Карлавых Варах, дзе была прадстаўлена рэтраспектыва японскага класіка Кэндзі Мідзагуці — дзесяць яго карцін. І восем з іх — на плёнцы 35 міліметраў. Немагчыма перадаць гэта захапленне. Ёсць неверагодная розніца паміж тым, як мы сёння глядзім кіно, і тым, якім яно паўстае на плёнцы, дыхае, трапеча. Калі ў нас будзе права выбару — плёнка ці «лічба», то мы будзем старацца выбіраць плёнку. Хоць, з другога боку, для нас як арганізатараў фармат «лічбы» становіцца значна больш зручным з пункту гледжання працы з ім. Усё становіцца больш хуткім, аператыўным, менш стрэсавым. І ўсё роўна — 35 міліметраў — яна незаменная.

**— Яшчэ пытанне адносна самога фестывалю. Індустрыяльная платформа: чаму вы вырашылі яе стварыць?**

— Ведаеце, напэўна, гадоў пяць-шэсць таму мэты фестывалю былі простыя: прывезці добрае кіно і паказаць яго беларускай публіцы. Але фестываль на гэтым не заканчваецца: глядач бачыць сваё, а прафесіяналы павінны знайсці сваё. Таму кожны сур'ёзны фестываль імкнецца ствараць і пашыраць індустрыяльную прастору. Аўтары маюць патрэбу ў падтрымцы, каб пра іх даведаліся, каб іх заўважылі. Фестываль — гэта, па сутнасці, працэс стварэння кіно ад стадыі, калі ідэя павінна знайсці зацікаўленую асобу, якая дапаможа з тэксту зрабіць кіно, і да стадыі, калі гэта кіно ўбачыць гледача, — апынецца ў пракаце, на фестывалі. На большасці фестываляў ёсць майстэрні: яны дазваляюць розным праектам ажыццяўляцца.

Добра вядома, што беларускае кіно знаходзіцца ў перманентным крызісе. Апошнія дзесяцігоддзі нічога не ствараецца. Гэта звязана з адсутнасцю школы, недахопам педагогаў, адукацыйных традыцый, якія маглі б выхаваць плеяду кінематаграфістаў.

Здабыўшы незалежнасць, мы атачаем сябе клінамі частаколу, бо нам здаецца, што ўсё адваяванае патрабуе захавання аўтэнтыкі. І таму да апошняга моманту наша стаўленне да ка-прадукцый (co-production) насіла вельмі насцярожаны характар. І збліжэнне з сусветным кінематографам пакуль яшчэ выклікае боязь, звязаную з элементарным няведаннем моў. А сённяшні свет кіно грунтуецца ў першую чаргу на англійскай. І калі мы хочам нешта паказаць, то павінны авалодаць гэтай моваю.

Праблемай з'яўляецца і атавізм савецкай сістэмы кіно, што выклікае ў многіх настальгію. «Беларусьфільм» — гэта сімвал сістэмы, якой ужо няма, але, з іншага боку, як быць з гэтай велізарнай тэрыторыяй, велізарным штатам людзей, што пакуль не навучыліся па-іншаму жыць, думаць, тварыць, працаваць па законах рынку.

Сучаснае кіно вучыць нас быць самастойнымі. І таму, што кіно — гэта вялікая акула. Мы ад яе, вядома, можам адгарадзіцца, але глыбіні акіяна мы тады ніколі не спасцігнем. А індустрыяльная платформа дазваляе на тыдзень адчыніць нараспашку ўсе вокны. Усе нашы госці, кінематаграфісты, якія сапраўды ствараюць сённяшнюю гісторыю кіно, маюць магчымасць дзяліцца вопытам з нашымі кінематаграфістамі. Яны могуць навучыць фестывальнай кан'юктуры, вытворчаму этыкету, азбуцы сучасных бізнес-адносін: што, хто, адкуль, куды.

Індустрыяльная платформа можа усяліць упэўненасць — бо часам, каб адстаяць свой праект, трэба змарнаваць гады на бясконцыя паездкі на іншыя індустрыяльныя платформы. «Лістапад» павінен быць тым звяном, якое дапамагае гэта рабіць. Мы вельмі актыўна за гэта змагаемся. Сучасны міжнародны фестываль — гэта не проста кіно. Гэта кіно і бізнес.

**— А ваша праца — што гэта для вас асабіста?**

— Задавальненне, радасць, асалода, напружанне, стрэс, ну і мэта. Мара. Імкненне рэалізаваць. І ўвасабленне — увасабленне мары.

# Ірына Дзям’янава: «Мастацтва — не пра тое, што добра і лёгка»



**Дакументальнае кіно часта застаецца па-за ўвагай гледача. Але гэта вялізны недагляд, асабліва калі вы збіраецеся завітаць на «Лістапад». Святлана Курганава пагутарыла з былым праграмным дырэктарам дакументальнага кіно Ірынай Дзям’янавай — і тая распавяла пра праграму «Лістапада» і кіно ўвогуле.**

**— Што вас прывяло ў дакументальнае кіно?**

— Кажуць, важна апынуцца ў патрэбны час у патрэбным месцы. Я філолаг па першай адукацыі. Спачатку працавала рэдактарам на тэлебачанні. Потым мяне паклікалі напісаць сцэнар для студыі «Летапіс» («Беларусьфільм»). Я напісала, і мне сказалі: «У вас гэта атрымліваецца, прыходзьце да нас працаваць». Я прыйшла працаваць на «Летапіс» рэдактарам, а потым скончыла факультэт кіназнаўства Усерасійскага дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі.

Не ведаю, чаму так здарылася. Наогул, мне здаецца, што гэта было маё шчасце. Вось так мне пашанцавала. Напэўна, гэтаму няма лагічнага тлумачэння. Так сталася.

**— Калі вы атрымлівалі гэтую працу, то не думалі пра тое, што звяжаце сваё далейшае жыццё з дакументальным кіно?**

— Я б не стала рабіць тое, што мне нецікава. Я не памятаю, пра што я тады думала. Напэўна, я не зазірала так далёка і не задавала сабе такіх пытанняў. Мне было проста вельмі цікава.

**— І цяпер вы адзін з дырэктараў «Лістапада» і збіраеце праграмы дакументальнага кіно.**

— Сёлета дырэктарам з’яўляецца Мікола Лаўранюк. А я гэтым разам каардынатар. І звычайна збіраю праграмы не адна: мне заўсёды дапамагаюць калегі. Працуе досыць вялікая каманда.

**— А як падбіраецца праграма? Заўсёды ж ёсць нейкая канцэпцыя.**

— Ёсць агульная канцэпцыя фестывалю: погляд на посткамуністычныя, постсацыялістычныя краіны. Гэта фармат асноўнага конкурсу.

Праграма часам фарміруецца тэматычна. Часам інакш: летась была даволі вялікая праграма, якую мы назвалі «Постдок». Мы хацелі паказаць фільмы, якія з’яўляюцца прыкладам нетрадыцыйнага развіцця мовы дакументальнага кіно. Дакументальнае кіно, гэта не сакрэт, апошнім часам вельмі моцна змяняецца: яно вельмі блізка падыходзіць да чалавека, пранікае ў інтымныя сферы яго жыцця. Гэта тэндэнцыя апошніх гадоў. Мы палічылі цікавым паказаць і такія фільмы.

**— У ігравым кіно існуе конкурс дэбютных фільмаў «Маладосць на маршы», а ў дакументальным кіно — конкурс нацыянальных кінашкол. Можаце расказаць пра яго падрабязней?**

— Тут самае галоўнае вось што: нам падалося значным паглядзець на тое, што робіцца ў нацыянальных кінашколах ва ўсім свеце. Часам нам падабаецца, як працуюць якіясьці школы або мы знаходзім школы з вельмі глыбокімі традыцыямі — і іх запрашаем. Як правіла, гэта пяць-шэсць школ. І яшчэ адно правіла: беларускія студэнты заўсёды абавязкова прымаюць удзел.

Таксама сёлета мы ў рамках конкурсу збіраем праграму дакументальных фільмаў, на якую хочам запрасіць старэйшых

школьнікаў. Размаўлялі на гэтую тэму з настаўнікамі тых, хто цікавіцца «Лістападзікам». Збіраем праграму з фільмаў пра падлеткаў, што жывуць ва ўсім свеце — часам шчасліва, часам вельмі цяжка, драматычна.

**— Студэнцкія работы — яны звычайна якія?**

— Мастак глядзіць на свет так, як не глядзіць на яго ніхто іншы. Гэта часам сустракаецца ў студэнцкіх работах, а часам не сустракаецца. Студэнты, напрыклад, едуць у вёску, каб паказаць, як жывуць старыя, як пусцеюць дамы. Зразумела, што часам матэрыял сам па сабе вельмі моцны. Але акрамя таго ёсць кіно прафесійнае, досыць цікавае як адлюстраванне важных сфер жыцця — культуры, палітыкі, соцыуму.

Пазнаёміць удзельнікаў, убачыць, як глядзяцца работы беларускіх студэнтаў і выпускнікоў на агульнасусветным фоне, — вельмі карысна для нацыянальнай кінашколы, калі лічыць, што яна ёсць.

**— Як гэта арганізавана на самім фестывалі, і чаму гэта істотная частка?**

— Мы ўсіх удзельнікаў выклікаем на тры дні, каб гэта быў вялікі майстар-клас: каб яны размаўлялі адно з адным, каб абмяркоўвалі, што ёсць абмеркаваць. Галоўнае, каб яны адно з адным пазнаёміліся, таму што ў кінашколе вельмі важна, якія кантакты ты набываеш за гады вучобы. Гэта потым можа вельмі дапамагчы ў рэалізацыі праектаў. Тым больш мы ўсе ведаем, што ўсё кіно робіцца ў ка-прадукцыі[1]. Конкурс нацыянальных кінашкол — толькі для студэнтаў і выпускнікоў. Работы людзей без дыплома ідуць у праграму нацыянальнага конкурсу. І такіх фільмаў значна больш, чым тых, якія стварылі людзі з дыпломам.

**— А ёсць жа не толькі конкурс, але і пазаконкурсныя праграмы — яшчэ адна важкая частка. Распавядзеце падрабязней?**

— Што датычыцца пазаконкурсных праграм, то ёсць традыцыйныя рубрыкі, да якіх мы кожны год збіраем фільмы. У дакументальным кіно гэта «Лепшае». Мы адбіраем фільмы-пераможцы, што маюць вельмі яркую фестывальную гісторыю. Мы кожны год даём пляцоўку іншым фестывалям дакументальнага кіно. Запрашаем іх дырэкцыі, яны расказваюць пра тое, як праходзяць іх фестывалі, што яны адбіраюць, што глядзяць.

Другая традыцыйная рубрыка з'явілася не вельмі даўно — «Музыка-док». Дакументальных фільмаў на музычную тэму апошнім часам здымаецца вельмі шмат — і пра рокераў, і пра поп-выканаўцаў, і вельмі моцныя фільмы пра класічных музыкаў. Ёсць цэлыя фестывалі музычнага дакументальнага кіно, і нам падалося, што будзе цікава такую рубрыку распачаць і на нашым фестывалі.

Яшчэ адна традыцыйная рубрыка — «Кіно пра кіно». Гэта адна з самых папулярных секцый — фільмы пра акцёраў, рэжысёраў, кінематаграфічных геніяў.

**— Калі меркаваць па той аўдыторыі, якая прыходзіць на «Лістапад», можна сказаць, што ў нас шмат людзей, якія хочуць з гэтым знаёміцца, хочуць пра гэта думаць?**

— Не, на жаль, так сказаць мы не можам, таму што ў залах бываюць вольныя месцы. Я разумею, што іншыя праграмы іншых конкурсаў адцягваюць на сябе ўвагу. Але хоць Мінск і вялікі горад, ды ўсё ж нашы залы не тысячныя. Так, лічыцца, што дакументальнае кіно лепей паказваць ў невялікіх залах на 100 месцаў. Але я думаю, што ў сталічным горадзе залы да 300 месцаў маглі б быць запоўненыя.

Разумееце, ніхто не нараджаецца аматарам оперы. Густ фарміруецца: каб палюбіць, трэба спачатку прывучыць сябе хадзіць у філармонію. Трэба зрабіць гэты першы, другі, трэці, дзясяты крок. Мастацтва, і ў тым ліку кіно, не пра тое, што добра і лёгка. Трэба для сябе зразумець, што без гэтых першых складаных крокаў не надыдзе перыяд, калі табе сапраўды спадабаецца і калі гэта стане неабходнай часткай жыцця. Гэта трэба памятаць, як тое, што Волга ўпадае ў Каспійскае мора. Як аксіёму.

**— За ўвесь час працы з «Лістападам» што б вы маглі назваць асабістым дасягненнем — для самога «Лістапада» або для вас асабіста?**

— Мае асабістыя дасягненні мелі месца так даўно, што ўжо не мае сэнсу іх згадваць. Маё асабістае дасягненне... Не магу сказаць, што яно маё: ты заўсёды працуеш у камандзе. Фестываль самастойна, удвух, утрох — не арганізуеш…

[1] Ка-прадукцыя — сумесная вытворчасць кінафільмаў; фільм, зняты сумесна дзвюма і больш кінастудыямі.

**Леанід Лаўрэш**

# Лідскія кінатэатры

У Расійскай імперыі першыя пастаянныя кінатэатры з'явіліся ў 1903—1904 гг. пад назвамі «сінематографы», «біаскопы» або «ілюзіёны». У 1903—1907 гг. тут дэманстраваліся толькі фільмы вытворчасці французскіх фірм. Часта ў адным сеансе паказвалі як гульнявыя, так і дакументальныя фільмы.

Разам з пастаяннымі кінатэатрамі існавалі і перасоўныя, якія пераязджалі з горада ў горад. Пра адзін з такіх кінатэатраў у Лідзе паведамляла прэса — у 1908 годзе «Кур'ер Літоўскі» змясціў зацемку гараджаніна, пра, магчыма, першую дэманстрацыю кінематографа ў нашым горадзе: *«Ліда. (Глядач). Тэатр «Фантазія» ёсць сапраўдны адбітак фантазій пана дырэктара кінематографа, якія зусім не стасуюцца з грамадскімі меркаваннямі. Вечарам 1 снежня у 21.30 я з кампаніяй знаёмых прыйшоў у гэтую «Фантазію», мы купілі квіткі, не таннейшыя, чым у Варшаве, і не паспелі мы прагледзець усе 10 карцін, як раптоўна стала цёмна, і мы пачулі нечы голас, што сеанс закончаны. Не дапамаглі нашы пратэсты і яшчэ некалькіх гледачоў, нехта сказаў: «Але ж гэта сапраўдная фантазія». Тыя карціны, якія мы паспелі пагледзець, былі зроблены так дрэнна і невыразна, што часам немагчыма было зразумець іх сэнс ..., часам выявы былі, як у тумане. Калі пан дырэктар кінематографа лічыць, што грамадскае меркаванне, як заўжды, не паспявае за прагрэсам, дык хай загадае не прадаваць білеты тым «tarde venientibus»* (лац. «тым, хто спазняецца». — *Л. Л.*)»[1].

На пачатку XX стагоддзя ў Лідзе жыў і вучыўся ў мясцовай яўрэйскай школе-хедары будучы выкладчык і адзін з заснавальнікаў кіназнаўчага факультэта сучаснага Усерасійскага дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі імя С. А. Герасімава Іосіф Далінскі. Менавіта ў Лідзе Далінскі першы раз убачыў тое, што потым стала яго прафесіяй: *«Ах, Ліда, Ліда, менавіта тут я стаў гарачым прыхільнікам новага мастацтва, якое, вядома, не магло не ўздзейнічаць на маё ўяўленне, на маю фантазію. Менавіта ў Лідзе пачалася мая кінематаграфічная жыццёвая адукацыя»*[2], — пісаў ён. Дзякуючы мемуарам былога жыхара Ліды мы трошкі ведаем пра пачаткі кіно ў нашым горадзе.

Першы лідскі кінатэатр «Ілюзіён» узнік у 1909 годзе. Ён месціўся ў двары дома па адрасе: Віленская, 58, які належаў Фларыяну Длускаму (сучасная Савецкая, 16). «Ілюзіён» Яблонскага быў перароблены са стайні, зала не мела ніводнага акна, і пасля сеансаў у ёй было цяжкае і вільготнае паветра, адчуваўся пах неперагарэлага спірту ад спіртовых лямп, з дапамогай якіх кінатэатр асвятляўся, апаратны пакой з тонкіх дошчачак быў дабудаваны да гмаха былой стайні[3].

Далінскі пісаў: *«Вельмі рана, не памятаю з якіх гадоў, я пачаў наведваць кінатэатр «Ілюзіён». У ім не было нават крэслаў, і, па меншай меры, у самых першых радах мы, хлапчукі, сядзелі на лаўках. Каштаваў нам білет вельмі танна, усяго 5 капеек. Але як іх дастаць? Я пачаў прасіць у таты, ён быў — я адчуваў — вельмі добры, на цукеркі даваў дзве- тры капейкі. Я нічога не купляў або на адну-дзве капейкі купляў цягучку і спецыяльна смактаў яе на вачах у таты, каб ён бачыў, як я марную яго грошы на прысмакі. Больш за тое, я дзяліў цягучку паміж сабой і братамі, цягучкі былі доўгія і салодкія. Астатнія грошы збіраў на «Ілюзіён». Калі збіралася 5 капеек, я днём ішоў у кінатэатр. «Ілюзіён» мне здаваўся даволі вялікім, з шырокім калідорам, вялікай і доўгай глядзельнай залай. Уваходзілі мы туды нясмела, як у сінагогу: жарт сказаць, цуд, белы экран, і на ім раптам жывыя людзі, розныя звяры, вуліцы, лес, возера і нават дзіўнае бяскрайняе мора, тады мне абсалютна невядомае»*[4].

Помніць Іосіф Далінскі і змест фільмаў пачатку мінулага стагоддзя: *«У змесце фільмаў усё ж разбіраўся. Памятаю: бацька і сын з сабакам ідуць на паляванне. У іх стрэльбы. Але ў лесе сын адстае ад бацькі, хоча самастойна пастраляць зайца, нават ваўка, і птушак. Паляўнічыя з сабакам паглыбляюцца ў лес. Сустракаюцца птушкі, заяц, воўк — паляўнічыя і сабака шукаюць іх, але сын хоча самастойна (я яму спачуваю) пастра-*

[1] Kuryer Litewski. — № 282. — 7 (20) grudnia, 1908.
[2] Долинский, И. Память. Небольшие рассказы о прошлом. / И. Долинский. — Москва, 2000. — 288 с. — С. 33.
[3] Лідскі летапісец. — 2017. — № 1 (77). — С. 55.
[4] Долинский, И. Память. Небольшие рассказы о прошлом. / И. Долинский. — Москва, 2000. — 288 с. — С. 33.

Кінатэатр «Эдысан» у Лідзе адкрыў у снежні 1910 года Міхаіл Мікалаевіч Манастырскі. Да гэтага часу ён ужо тры гады валодаў кінатэатрам у Сувалках. Да 1914 года Міхаіл Манастырскі меў яшчэ кінатэатр у Вільні

*ляць. Ён апынаецца ўжо насупраць бацькі, але бацька яго не бачыць, і сын не бачыць бацьку. Нечакана гучыць стрэл: сын страляе ў бок бацькі, але ні ў каго не трапляе. Бацька … ужо забіў некалькі птушак ... апошні стрэл (ён думае, у зайца) цэліць і забівае насмерць сына. Страшнае ўражанне стварыла падзенне сына і момант, калі бацька паварочваецца і бачыць, што забіў яго. Гэта вельмі страшна для маленькіх гледачоў, якія ўжо разумеюць смерць: гібель чалавека ўспрымаецца, як трагедыя. У мяне тады памёр дзед — бацька майго бацькі. Якая трагедыя ў маленькага гледача! Колькі перажыванняў! І нават ёсць патрэбная мараль: слухайся бацьку, а то здарыцца нешта сумнае, нават жудаснае. Запомніў і назву гэтай карціны — "Трагічнае паляванне"»*[5]. Фільма з такой назвай у каталогу фільмаў той эпохі няма, але вядома, што ў тыя часы адзін і той жа фільм нярэдка выпускаўся пад рознымі назвамі.

«Трагічнае паляванне» моцна ўсхвалявала юных гледачоў: *«Мы, яшчэ маленькія хлапчукі, хаваліся пад лаўкамі ці за цёмнымі фіранкамі вокнаў і дзвярэй; заставаліся, каб пaглядзець другі і трэці раз: а можа, у гэты раз бацька прамахнецца? Часам удавалася: мы вылазілі з таемных месцаў, калі зала пачынала запаўняцца новай публікай»*[6].

Паказвалі і камедыі: *«Памятаю і камічнае: бясконцыя пагоні, кіданні нейкіх прадметаў і нават цеста адно ў аднаго, нават у твар … памятаю, што былі надпісы, якія мы ледзь паспявалі прачытаць, але гэта было не так важна. Змест мы ведалі часам загадзя ад іншых хлапчукоў або разумелі яго з першага кадра. Гэта была велізарная асалода, нейкае асаблівае, загадкавае бачанне... Гэты кінатэатр, як я потым даведаўся, працаваў на газе… Потым у двары мы гулялі ў нямыя карціны: мы бегалі адно ад аднаго або штурхаліся, і заўсёды чамусьці ўсё заканчвалася пагоняй... Гэта было самае ранняе дзяцінства»*[7].

Кінатэатр «Эдысан» у Лідзе адкрыў у снежні 1910 года Міхаіл Мікалаевіч Манастырскі. Да гэтага часу ён ужо тры гады валодаў кінатэатрам у Сувалках[8]. Да 1914 года Міхаіл Манастырскі меў яшчэ кінатэатр у Вільні[9].

У кастрычніку 1910 года Міхаіл Манастырскі падаў на імя віленскага губернатара прашэнне аб адкрыцці кінатэатра ў Лідзе па вуліцы Віленскай, у мураваным аднапавярховым доме братоў Саламона Ільіча і Майсея Ільіча Вінаградавых. Нарэшце кінатэатр «Эдысан» і быў адкрыты ў доме, які месціўся ў двары галоўнай двухпавярховай камяніцы Вінаградавых па адрасе: Віленская, 21.

У снежні 1910 года пасля вырашэння розных бюракратычных і тэхнічных праблем сустрэў першых наведвальнікаў кінатэатр «Эдысан» (на 118 месцаў). Кінатэатр уяўляў сабой аднапавярховы цагляны будынак, меў пярэдні пакой (4,3 х 2,1 м), глядзельную залу (11,8 х 6,3 м), два фае (9,5 х 6.3 м), будку для праектара, у якой падлога і столь былі абабіты азбестам і жалезнымі лістамі. Глядзельная зала і фае мелі вышыню чатыры метры, драўляную столь, абабітыя знутры

---

[5] Там жа. С. 34.
[6] Там жа.
[7] Там жа.
[8] Лідскі летапісец. — 2017. — № 1 (77). — С. 55.
[9] Трэба сказаць некалькі слоў пра пачынальнікаў кінематаграфічнай справы Манастырскіх. Брат Міхаіла Манастырскага — Сяргей — з 1914 года пачаў займацца кіношнай справай ў Гародні і ў 1915 годзе адкрыў там кінатэатр «Эдэн». Першы з вядомых Манастырскіх — бацька братоў Мікалай Манастырскі — з'яўляўся намеснікам гарадзенскага губернскага пракурора і выконваў свае абавязкі ў Наваградку. Праславіўся тым, што здолеў высачыць і выкрыць банду нейкага Вайнштэйна, якая рабавала мясцовых абшарнікаў, купцоў і гандляроў. За гэтую справу ва ўзросце 36 гадоў атрымаў чын стацкага дарадцы і праз год памёр ад апалексічнага ўдару. Два сыны — Мікалай і Сяргей — засталіся сіратамі. Сяргея ўзяў да сябе ў Пецярбург сваяк, адстаўны генерал. Пасля заканчэння пецярбургскай Аляксееўскай ваеннай вучэльні Сяргей Мікалаевіч праходзіў службу ў розных гарнізонах, апошнім з якіх быў Ковенскі. Штабс-капітан Манастырскі звольніўся і атрымаў добрую выходную дапамогу, якую выкарыстаў для кінематаграфічнай справы. Да таго часу малодшы брат Сяргея Мікалаевіча Міхаіл, дасягнуўшы чыну надворнага дарадцы, таксама выйшаў у адстаўку, пасяліўся ў Сувалках і абзавёўся тут уласным кінатэатрам. Яго кінатэатр у Сувалках быў добра абсталяваны, а сам Манастырскі карыстаўся павагай улад і насельніцтва. — Гл: Саяпин, В., Касатая, Т. Гродно: театр, кино, цирк. / В. Саяпин, Т. Касатая. — Гродна, 2011. — С. 27—28.; Ивановский, В. Штабс-капитан Монастырский и его кинематограф. / В. Ивановский. // Перспектива. — 30 октября, 2003.

дошкамі бэлькі. Меліся два выхады, дзверы адчыняліся вонкі. Месцы для публікі былі агароджаны адкіднымі драўлянымі балюстрадамі вышынёй каля 0,9 м. Праходы для публікі каля будкі з праектарам — шырынёй 1,5 м кожны. Сценкі ўсіх памяшканняў атынкаваныя. Памяшканні абаграваліся трыма круглымі бляшанымі пячамі. Паветра вентылявалася праз адтуліну дыяметрам 35 см. Дах будынка крыты дахоўкай. Памяшканне для дынама-машыны ад глядзельнай залы аддзяляла цагляная сцяна ў паўтары цагліны. Для асвятлення памяшканняў і сілкавання токам рэфлектара ў асобным памяшканні знаходзілася дынама-машына пастаяннага току на 50 ампер пры 110 вольт, якая прыводзілася ў дзеянне праз пасавую перадачу газавым рухавіком на 7 к.с. «Отто-Дэйц». Электрычны дрот быў пракладзены на парцалянавых роліках. Памяшканні асвятляла 21 танталавая шаснаццацісвечкавая лямпа напальвання, таксама меліся дзве лямпы ў 200 свечак і 98 дзвюхсвечкавых лямп на 10 вольт кожная[10], якія складаліся ў слова «Эдысан» над уваходам.



Справа дом па Віленскай, 58.
У яго двары месціўся першы лідскі кінатэатр «Ілюзіён».

Прафесар Далінскі пісаў пра гэты кінатэатр: *«Але вось я ўжо больш сталы. З'явіўся новы кінатэатр на галоўнай вуліцы... Ля ўвахода буйна электрычнымі лямпачкамі назва — «Эдысан». Такая цікавая назва здзіўляе, дзівіць нават... Туды ўваход каштаваў 10 ці нават 15 капеек. Бацька ўжо рэгулярна дае мне 5 капеек. Я іх збіраю і бягу, задыхаючыся, у кінатэатр. Сюды часам хаджу бясплатна разам са сваім таварышам, бацька якога — адзін з гаспадароў «Эдысана». Тут крэслы і нават ложы. У фае развешаны афішы, стаяць крэслы, маецца нават буфет. Фае спецыяльна для чакання: сеанс вялікі — гадзіну і больш. Мы ўваходзім у глядзельную залу ўжо не па-хлапечы, а як падлеткі. Мы абодва высокія, нас нават можна прыняць за юнакоў»*[11].

Кінематограф паступова пераўтвараўся ў новы від мастацтва — змяняўся рэпертуар кінатэатраў: *«Карціны тут (у «Эдысане») «сур'ёзныя»: дзве драмы, дзве камедыі, а напачатку абавязкова пейзажныя. У іх нейкія незнаёмыя рэкі, горы, вадаспады, моры бязмежныя, у іх вялікія хвалі, хвалі... Асабліва дзівяць вадаспады: з вельмі вялікай вышыні, з вялікім шумам (то перадае музыка тапёра) падае велізарная, шырокая, імклівая бруя вады... Кінематограф захапляе, здзіўляе, кліча да сябе; у ім можна нечакана ўбачыць тое, што ніколі не зможаш убачыць: усё далёкае, дзіўнае. Мастацкія любоўныя драмы ўзбуджаюць, выклікаюць нейкія незразумелыя пачуцці. Пацалункі, абдымкі дарослых, якія не бачыш у жыцці, вельмі халодныя, але разам з тым яны тояць у сабе нешта прыцягальнае. Потым мы, хлопцы, гуляем (бегаем, ходзім), як у фільмах. Асаблівае ўражанне пакінула карціна «Зігамар». Гэта ўжо не адна карціна, а серыя фільмаў, колькі — не памятаю. Але вельмі добра памятаю, што нашы гульні ў «разбойнікаў» пасля «Зігамара» напоўніліся больш канкрэтным зместам. Я нават у душы музыцыраваў, як у кіно»*[12].

---

[10] Лідскі летапісец. — 2017. — № 1 (77). — С. 55.
[11] Долинский, И. Память. Небольшие рассказы о прошлом. / И. Долинский. — Москва, 2000. — 288 с. — С. 34—35.
[12] Там жа. — С. 35.

А 6 чэрвеня 1913 года ў «Эдысане» Лідскі аддзел добраахвотнага таварыства па барацьбе з сухотамі ладзіў «бясплатны сеанс з навуковымі мэтамі»

«Зігамар» (1911) — гэта адзін з фільмаў знакамітай французскай крымінальнай серыі паводле рамана Лявона Сазі, рэжысёр — Віктар Жасэ. Фільм апавядаў пра супрацьстаянне дэтэктыва Палена Бракэ і банды крымінальнікаў «Дзета». «Зігамар» быў вельмі папулярны ў розных краінах Еўропы, у тым ліку і ў Расіі. Цікава, што на адной са старых паштовак з выявамі горада Ліды на плошчы насупраць кінатэатра «Эдысан» якраз відаць афішу «Зігамара».

Думаю, трэба трошкі расказаць і пра арганізацыю справы па расклейванні розных афіш у горадзе. У 1904 годзе віленскі губернатар граф Пален выдаў пастанову, згодна з якой расклейванне розных аб'яў і афіш у Лідзе дапускалася толькі на адмысловых прыстасаваннях (відавочна, шчытах), устаноўленых гарадскімі ўладамі (домаўладальнікам на сваіх хатах дазвалялася вывешваць аб'явы толькі аб здачы жылля ў наём). Пастанова ўваходзіла ў сілу з моманту ўстаноўкі такіх прыстасаванняў[13]. 29 красавіка 1909 года лідскі сход упаўнаважаных перадаў Абраму Душману права расклейвання аб'яў і афіш за плату 21 руб. 30 кап. у год[14]. Бізнес быў вельмі прыбытковы, і ў 1914 годзе гэта права на тры гады перадалі ўладальніку друкарні Падземскаму, але ўжо за 260 руб. і 50 кап. у год[15]. Гэта сведчыць аб папулярнасці кінематографа і гастрольных тэатраў у нашым горадзе.

Манастырскі перад Першай сусветнай вайной прадаў «Эдысан» Яблонскаму і Сікорскаму — і кінатэатр перасяліўся на месца каля перакрыжавання вуліц Віленскай і Каменскай (сучасныя Ленінская і Савецкая), у старую двухпавярховую камяніцу XIX стагоддзя, праз адзін дом ад Фарнага касцёла. У гэтым жа доме знаходзілася кавярня Маліноўскага (у 1930-я — крама дамскай галантарэі). Уваход у кінатэатр быў з двара.

У новым «Эдысане» праводзіліся розныя гарадскія мерапрыемствы. У студзені 1913 года прэса паведаміла, што *«надоечы ў "Эдысане" адбыўся сеанс на карысць мясцовага дамскага дабрачыннага таварыства. Сімпатычныя мэты гэтага таварыства прыцягнулі ў тэатр такую публіку, якая рэдка бывае на дабрачынных вечарах. Вечар адбыўся. Увесь даход, 150 рублёў, цалкам паступіў у касу таварыства»*[16]. У тым жа нумары газеты Лідскае дамскае дабрачыннае таварыства выказала ўдзячнасць *«уладальнікам тэатра «Эдысан» спсп. Яблонскаму і Сікорскаму, якія бясплатна прапанавалі залу «Эдысана», асвятленне, музыку і ахвяравалі 25 руб., асабліва сп. Яблонскаму за яго ўдзел у арганізацыі вечара. А таксама сп. Вінаградаву за бясплатныя карціны і публіцы за спагадлівасць і ўвагу»*[17]. З тэксту бачна, што нават пасля пераезду кінатэатра на новае месца браты Вінаградавы займаліся пракатам кінастужак.

А 6 чэрвеня 1913 года ў «Эдысане» Лідскі аддзел добраахвотнага таварыства па барацьбе з сухотамі ладзіў *«бясплатны сеанс з навуковымі мэтамі»*[18].

У той час у будынку братоў Вінаградавых, дзе раней быў кінатэатр «Эдысан», у двары дома № 21 па Віленскай вуліцы, адкрылася вытворчасць па гатаванні мёду.

Дзесьці перад Першай сусветнай вайной ці падчас яе кінатэатр «Ілюзіён» быў перайменаваны ў «Нірвану». Можна сказаць, што кінатэатры «Эдысан» і «Нірвана» зачыняліся толькі тады, калі вайна прыходзіла на вуліцы горада, бо маюцца звесткі, што 31 снежня 1918 года рэўком правёў гарадскі мітынг менавіта ў будынку кінатэатра «Нірвана»[19].

---

[13] Виленские губернские ведомости. — № 45. — 9 июня, 1904.
[14] Виленские губернские ведомости. — № 56. — 18 июля, 1912.
[15] Виленские губернские ведомости. — № 55. — 12 июля, 1914.
[16] Лидское Слово. — № 9. — 11 января, 1913.
[17] Там жа.
[18] Лидское Слово. — № 28. — 31 мая, 1913.
[19] Федоров, И. О. Город Лида в годы установления советской власти (1919—1920) / И. О. Федоров. // Ліда і Лідчына: да 685-годдзя з дня заснавання горада : матэрыялы рэспуб. навук.-практ. канф., Ліда, 3 кастр. 2008 г. — Ліда, 2008. — С. 131.

Галоўным месцам культурнага адпачынку гараджан у 1920—30-я гг. былі менавіта кінатэатры. Польскі пісьменнік Ежы Путрамент, які жыў у Лідзе, успамінаў пра кінатэатры горада ў сярэдзіне 1920-х: «*У цэнтры горада два касцёлы і два кінатэатры. Насупраць меншага, які называўся "Эдысан", — цукерня з назвай "Амерыка"*»[20].

Уладальнікам і дырэктарам кінатэатра «Эдысан» у той час быў Натан Левін, яго супольнікамі — М. Алькеніцкі і А. Мяснік. Гэта быў кінатэатр з балконам і буфетам[21].

Усе 1920-я гады кінатэатр «Нірвана» не толькі дэманстраваў фільмы, але і быў месцам збораў лідскай грамадскасці і пляцоўкай, дзе выступалі гастрольныя тэатральныя трупы, напрыклад, знакаміты тэатр «Рэдута»[22]. 20 лістапада 1928 года гэты тэатр паказваў у Лідзе спектакль «Цар Павел І»[23] паводле п'есы Меражкоўскага, а ў верасні 1929 года камедыю «Прыяцелі». Спектакль адбыўся «*ў перапоўненай зале, чаго Ліда ўжо даўно не бачыла*»[24]. 14 і 15 студзеня 1930 года ў Лідзе гастраліравала Варшаўская опера. На сцэне кінатэатра «Нірвана» былі паказаны два яе спектаклі — «Галька» і «Кармэн»[25].




Злева, на плоце гарадскога сквера, рэклама кінафільма «Зігамар». Далей дом па Віленскай, 19, за ім дом 21 братоў Вінаградавых, у двары якога месціўся кінатэатр «Эдысан».

«Нірвана» з'яўляўся і цэнтрам яўрэйскага культурнага жыцця. У 1931 годзе «*25 кастрычніка адбыўся першы выступ яўрэйскага драматычнага гуртка ў кінатэатры «Нірвана», рэжысёр тэатра — Бузган*»[26]. У канцы 1931 года «*інжынер Любес з Палесціны ў кінатэатры «Нірвана» распавёў яўрэям Ліды пра жыццё ў Палесціне. Сабралася каля 200 чалавек*»[27].

Тэхніка кіно хутка развівалася, і ў 1932 годзе сярод уладальнікаў кінатэатраў у Лідзе пачаліся «гонкі» — хто першы адкрые ў Лідзе гукавое кіно. Першым імкнуўся стаць уладальнік кінатэатра «Нірвана»: «*Нарэшце ў Лідзе будзе кіно з гукам. Уладальнік кінатэатра "Нірвана" Яблонскі сказаў, што праз некалькі дзён пачне паказваць у сябе кіно з гукам. Першым гукавым фільмам будзе сусветна вядомы баявік "Парада кахання"... Гэта будзе сенсацыяй у Лідзе*»[28].

Аднак першым гукавым кінатэатрам у горадзе стаў «Эдысан»: «*У пятніцу з гукам пачаў працаваць кінатэатр "Эдысан", уладальнік Левін. Першы гукавы фільм — "X 27". "Нірвана" з гукам пачне працаваць праз некалькі дзён*»[29].

---

[20] Путрамант, Е. Паўвеку. Пераклад з польскай Станіслава Судніка / Е. Путрамант. // Лідскі Летапісец — 2011. — №1(53). — С. 61.
[21] Ciechanowicz, Lech. Mierzwa, Ryszard. Niezapomniana ulica Suwalska lat trzydziestych XX wieku / L. Ciechanowicz, R. Mierzwa. // Ziemia Lidzka. — №4 (56). — 2003.
[22] Рэдута (Reduta) — эксперыментальны тэатр-лабараторыя, існаваў у 1919—1939 гг. У 1925 г. тэатр з Варшавы пераехаў у Вільню, размяшчаўся ў тэатры на Пагулянцы, у 1931 г. вярнуўся ў Варшаву.
[23] Kurjer Wilenski. — №266 (1313). — 20 listopada, 1928.
[24] Kurjer Wilenski. — №221 (1566). — 27 września, 1929.
[25] Życie Nowogródzkie. — №10 (724). — 12 stycznia, 1930.
[26] Kurier Nowogródzki. — №35. — 28 października, 1931.
[27] Kurier Nowogródzki. — №79. — 19 grudnia, 1931.
[28] Kurier Nowogródzki. — №37 (123). — 16 lutego, 1932.
[29] Kurier Nowogródzki. — №50 (135). — 1 marca, 1932.

У красавіку 1931 года падчас кінасеанса ў «Нірване» ад праекцыйнай лямпы загарэлася кінастужка. Узнікла паніка, але кінамеханік Мозель Віцільд хутка загасіў узгаранне[30].

13 ліпеня 1932 года ў цэнтры горада адбыўся моцны пажар. *«Горад у моры агню»,* — паведамляла прэса. Пажар пачаўся з дома на Сувальскай, 54. Спачатку агонь ахапіў дах, потым перакінуўся на кінатэатр «Нірвана». З-за моцнага ветру полымя хутка ахапіла суседнія дамы — і загарэўся цэнтр горада. Гарэла «Нірвана», крамы і цэлы шэраг жылых дамоў у кірунку ракі Лідзеі. Пажар тушылі добраахвотныя пажарныя дружыны, пажарныя службы абодвух лідскіх палкоў і чыгункі, прыехалі нават пажарныя машыны з Гродна. Недалёка ад месца пажару натоўпы пагарэльцаў, якія страцілі ўсю маёмасць, стварылі сапраўдны бівак. Да 20.00 агульнымі намаганнямі пажар лакалізавалі. Галоўнай цяжкасцю быў недахоп вады, якую даводзілася падвозіць з Лідзеі, бо толькі гродзенскія пажарныя мелі адмысловы шланг даўжынёй у 300 м і наўпрост пампавалі ваду з ракі. Агонь гарэў да вечара наступнага дня. У час пажару загінуў жаўнер пятага лётнага палка Ян Валюкевіч, былі цяжка параненыя добраахвотныя пажарныя Кацэнеленбоген, Баярскі, Лебедзь і Вацлаў Мілан з Гродна.

Згарэлі дамы №№ 54, 56, 58, 60 па вуліцы Сувальскай (належалі Фларыяну Длускаму, Бералю Дваржэцкаму, Фруме і Гіршу Таўшынскім) і шмат дамоў у бок ракі Лідзеі, згарэлі кінатэатр «Нірвана» і шмат крам і складоў: гарэлачны склад Міхала Баркоўскага, крама капелюшоў Ядвігі Яўген, півярня Макса Левіна, півярня Антона Ляховіча, галантарэйная крама Якаба Брэма, склады «Сельскагаспадарчага сіндыката», рымарня Чайкоўскага, склады мануфактуры Якуба Вінера, крама шкла Абрама Флякса, крама швейных машын «Зінгер», памяшканне «Таварыства польскіх купцоў»[31].

Страты ад пажару ў цэнтры горада склалі 712 000 злотых. Найвялікшыя страты панёс Длускі, уладальнік дамоў №№ 56 і 58, — каля 500 000 злотых, пры тым што гэтыя дамы былі застрахаваны толькі на 145 000 злотых. Кінатэатр «Нірвана» меў страты ў 15 000 доляраў, Якаб Вінер — 40 000 злотых, Юзаф Гальперын — 35 000 злотых, уладальнік «Нірваны» Яблонскі асабіста — 18 000 злотых[32]. Тое, што страты «Нірваны», у адрозненне ад іншых, пазначаны ў доларах, можа казаць пра кошт апаратуры і рэканструкцыі будынка пасля пераходу кінатэатра на гукавы фармат.

23 і 24 ліпеня 1932 года горад святкаваў саракагадовы юбілей заснавання добраахвотнай пажарнай аховы. У межах ваяводскіх спаборніцтваў пажарных каманд, якія праходзілі ў гэты час у горадзе, адбыліся паказальныя выступы добраахвотных пажарных, узнагароджанне лепшых пажарнікаў, паказ ў кінатэатры «Эдысан» фільма «Рыцары Агню».[33]

Напрыканцы 1932 года: *«Уладальнік «Нірваны», якая, як вядома, згарэла 13 ліпеня, сп. Яблонскі, хутка адкрые новае кіно па вуліцы Сувальскай ў доме Віленчыка (у былых варштатах Дзяржаўнай рамеснай школы). Кінатэатр будзе мець гукавую апаратуру, тэатральную сцэну і іншае сучаснае абсталяванне»*[34]. Так у горадзе з'явіўся трэці кінатэатр — «Маленькае» (Сувальская, 74), але бізнес у новым будынку не пайшоў, і ўжо на пачатку 1937 года «Маленькае» быў зачынены. Скарбовая ўправа налажыла секвестр на яго мэблю[35].

Праз нейкі час на месцы кінатэатра «Нірвана» быў збудаваны больш сучасны кінатэатр «Эра» (уладальнік Тамашэвіч). «Эра» мела найбольшую глядзельную залу ў Лідзе[36].

У другой палове 1930-х у рэпертуары пераважалі камедыі, але былі і сур'ёзныя карціны. Паказу фільма звычайна папярэднічаў паказ (часопіс) ПТА (Польскага тэлеграфнага агенцтва). А вячэрнім сеансам нярэдка папярэднічала рэвю (кінаагляд). У «Эдысане» паказвалі *«лепшыя фільмы нашага часу з моцным гукам»* — праграмы мяняліся прыблізна штотыдзень. Напрыклад, 12 сакавіка — 8 красавіка 1939 года на экране

[30] Słowo. — №76 (2584). — 2 kwietnia, 1931.
[31] Słowo. — №180 (2987). — 28 lipca, 1932.
[32] Kurier Nowogródzki. — №172 (258). — 20 lipca, 1932.
[33] Słowo. — №177 (2984). — 25 lipca, 1932.
[34] Słowo. — №305 (3112). — 2 grudnia, 1932.
[35] Kurjer Wilenski. — № 86 (4048). — 30 marca, 1937.
[36] Ciechanowicz, Lech. Mierzwa, Ryszard. Niezapomniana ulica Suwalska lat trzydziestych XX wieku / L. Ciechanowicz, R. Mierzwa. // Ziemia Lidzka. — 2003. — № 4 (56).

гэтага кінатэатра дэманстраваліся фільмы «Тыран», «Вязніца без аратаў», «Каханне ў джунглях», «Таямніца Чырвонага мора»[37].

Будучы прафесар і хабілітаваны доктар, а ў 1930-я лідская гімназістка Ірэна Стасевіч успамінала, як разам са сваім сябрам Уладзіславам Нарушэвічам яны часта вандравалі па лідскіх кінатэатрах: пачыналі з «Эдысана», потым пераходзілі ў «Эру». Пасля прагляду кінафільма ў «Эры» вандроўка заканчвалася ў *«камерным кінатэатры, які зваўся «Маленькае», дадам, што прыходзілася глядзець і «нямыя» фільмы пад акампанемент фартэпіяна»*[38].

Сам жа Уладзіслаў Нарушэвіч расказаў у сваіх мемуарах сапраўдную анекдатычную гісторыю, якая тым не менш сведчыць пра моц кінамастацтва. Нейкі селянін з жонкай пасля ўдалага гандлёвага дня пайшлі ў кінатэатр «Эдысан». Месцы занялі на балконе ў бакавым крыле, блізка да экрана. Ішоў крымінальны фільм. У кульмінацыйны момант забівалі багатую, маладую і прыгожую жанчыну. Жанчына была занята чытаннем і не бачыла бандыта, які набліжаўся да яе. Калі ён ужо быў блізка каля ахвяры, жонка схапіла мужа за руку і пачала голасна крычаць: *«Кінь у бандыта ботам, бо заб'е!»* Селянін выканаў загад: зняўшы бот, кінуў яго ў экран. Экран парваўся — у кінатэатры пачалася паніка[39]. Прэса паведамляла і пра дробныя здарэнні: улетку 1937 года ненавязаны конь з возам, пакінуты жыхаром вёскі Мастоўшчына Станіславам Снацкім пасвіцца на вуліцы Сувальскай, выбіў шыбу ў кінатэатры «Эдысан»[40].

Жыхар горада Ян Станіслаўскі лічыў, што лепшым кінатэатрам горада быў менавіта «Эдысан»: *«Уладальнік гэтага кінатэатра меў плямы на твары з-за ўзгарання кінастужкі... Знутры кінатэатр меў прыгожы выгляд. У фае крэслы абабіты чырвоным аксамітам. Квіткары хадзілі ўбраныя ў чырвоныя з жоўтымі лацканамі ліўрэі, штаны з жоўтымі лампасамі і ў чырвоных высокіх шапках»*[41].




Рэклама фільма ў кінатэатры «Нірвана», 1930-я гг.

Школьная моладзь мела праблемы з вячэрнімі сеансамі, бо настаўнікі не дазвалялі ёй паказвацца на вуліцы без дарослых пасля 20 гадзін, тым больш хадзіць у кіно на вячэрнія сеансы. Толькі некаторыя смяльчакі рызыкавалі напароцца на дзяжурнага настаўніка. Таму, каб патрапіць на вячэрні сеанс, некаторыя зухі апраналіся, як дарослыя[42].

Месцы ў кінатэатрах не нумараваліся — купіўшы білет, пры жаданні можна было застацца ў глядзельнай зале на некалькі сеансаў. У кінатэатрах, акрамя паказу кінафільмаў, арганізоўваліся тэатральныя пастаноўкі вандроўных труп, ладзіліся танцавальныя вечары, дабрачынныя мерапрыемствы, балі-маскарады і г. д., у якіх магло прымаць удзел да 500 чалавек.

[37] Цехановіч, Лех. Незабыўная вуліца Сувальская 30-х гадоў XX стагоддзя / Л. Цехановіч. // Лідскі Летапісец. — 2005. — № 4 (32). — С. 31.
[38] Stasiewicz-Jasiukowa, Irena. Jest lidzka książka / I. Stasiewicz-Jasiukowa. // Ziemia Lidzka. — 2001. — №2 (45).
[39] Naruszewicz, W. Wspomnienia lidzianina. / W. Naruszewicz. —Warszawa, 2001. — S. 58.
[40] Kurjer Wilenski. — № 213 (4176). — 5 sierpnia, 1937.
[41] Архіў аўтара.
[42] Ярмонт, Е. В тени замка Гедемина. / Е. Ярмонт. — Лида, 1995. — С. 81.

20 жніўня 1936 года ў кінатэатры «Эра» выступала знакамітая трупа Віленскага гарадскога тэатра. Гралася лёгкая эратычная камедыя ў трох актах «Каханне ўжо не ў модзе»

Міжваенныя кінатэатры былі сапраўднымі цэнтрамі не толькі культурнага, але і грамадска-палітычнага жыцця. Уладальнікі кінатэатраў абавязаны былі прадастаўляць глядзельныя залы па зніжанай цане ці бясплатна для сходаў разнастайных грамадскіх палітычных арганізацый, таварыстваў, партый і г.д.; напрыклад, у 1936 годзе падчас знакамітай лідскай забастоўкі кінатэатр «Эра» выкарыстоўваўся для сходаў і мітынгаў рабочага актыву[43], а штрэйкбрэхераў, каб арганізаваць свой прафсаюз, сабралі на мітынг у кінатэатр «Маленькае»; пісьменнік Путрамант пісаў, што з'явілася каля 30 чалавек. 2 мая 1937 года ў кінатэатры «Эдысан» у межах тыдня асветы працоўных чыталі лекцыю пра шубраўцаў[44] і інтэлектуальныя рухі ў Вільні першай паловы XIX стагоддзя.[45]

У 1930-я, як і ў 1920-я гады ў кінатэатрах горада праходзілі гастролі тэатральных труп. Напрыклад, 20 жніўня 1936 года ў кінатэатры «Эра» выступала знакамітая трупа Віленскага гарадскога тэатра. Гралася лёгкая эратычная камедыя ў трох актах «Каханне ўжо не ў модзе»[46]. На пачатку 1937 года «Кур'ер Віленскі» пісаў: «...*у Лідзе працуюць тры кінатэатры: два меншыя і адзін пад назвай "Эра" з вялікай залай на 750 месцаў. Калі ў Ліду завітвае выязны віленскі тэатр ці ансамбль "Рэдута" з новым рэпертуарам — зала кінатэатра бывае нават перапоўнена публікай. Санітарныя нормы патрабуюць, каб у такіх месцах былі публічныя туалеты, а ў гэтым кінатэатры туалеты ад пачатку яго эксплуатацыі заўжды "на рамонце". Такія адносіны кіраўніка кінатэатра "Эра" Тамашэвіча да санітарных норм не могуць не здзіўляць грамадскасць. Трэба, каб ён адказаў нарэшце, калі закончыцца гэты вечны рамонт туалетаў*»[47].

Праз некалькі нумароў дырэкцыя кінатэатра адказала рэдакцыі: «*Рамонт туалетаў даўно закончаны, але з-за маразоў размёрзліся водаправодныя трубы, і туалеты былі зачынены. Аднак падчас гастроляў тэатральных труп туалеты былі чынныя. Зараз туалеты таксама працуюць*»[48]. У тым жа нумары друкуецца аб'ява аб гастролях з 1 сакавіка 1937 года Віленскага тэатра пад кіраўніцтвам вядомай артысткі і заснавальніцы тэатра Ніны Младзеёўскай-Шчуркевіч: «*У кінатэатры "Эра" ў 16 гадзін будзе паказана камедыя Стэфана Кедрынскага "Замужняя панна", у 20.30 — п'еса Самерсэта Маэма "Святы прамень"*»[49].

У красавіку 1937 года лідскі стараста Міклашэўскі падчас прыватнага прагляду фільма ў кінатэатры «Эдысан» асабіста пераканаўся, што тут паказвалі не ўзгоднены са староствам і не дазволены для моладзі фільм, а моладзь якраз і складала большасць гледачоў на гэтым сеансе. Стараста прыцягнуў гаспадара кінатэатра да адміністрацыйнай адказнасці, і ў выніку той быў аштрафаваны на 30 злотых[50].

У тую ж вясну, у красавіку, выязны віленскі тэатр дэманстраваў у «Эры» камедыю Якуба Дэвала «Стэфак» і камедыю Стэфана Кянджынскага «Стары кавалер»[51]. А ў маі варшаўскія артысты ў кінатэатры «Эра» паказалі тэатральную камедыю «Цётка Караля»; у ролі цёткі — знакаміты кінаартыст таго часу Яўген Бадо[52]. Пра выступлен-

[43] Загідулін, А. М. Ліда і Лідчына ў складзе ІІ Рэчы Паспалітай (1921—1939 гг.). / А. М. Загідулін. // Ліда і Лідчына: да 685-годдзя з дня заснавання горада : матэрыялы рэспуб. навук.-практ. канф., Ліда, 3 кастр. 2008 г. — Ліда, 2008. — С. 135.
[44] Шубраўцы — сябры літаратурна-грамадскага таварыства ліберальна-асветніцкага кірунку, якое існавала ў Вільні ў 1817—1822 гг.
[45] Kurjer Wilenski. — № 119 (4081). — 2 maja, 1937.
[46] Słowo. — № 223 (4429). — 15 sierpnia, 1936.
[47] Kurjer Wilenski. — № 54 (4016). — 24 lutego, 1938.
[48] Kurjer Wilenski. — № 58 (4020). — 28 lutego, 1937.
[49] Там жа.
[50] Kurjer Wilenski. — № 104 (4066). — 17 kwietnia, 1937.
[51] Там жа.
[52] Kurjer Wilenski. — № 132 (4450). — 15 maja, 1938.




Газетная рэклама фільма «Братэрства людзей» у кіно «Маленькае».

не знанага Яўгена Бадо[53] пісаў адзін з гледачоў былы лідзянін Уладзіслаў Нарушэвіч: «*Запомніў яго аднак не ў гэтай тытульнай для яго ролі, а падчас шпацыру па Сувальскай у таварыстве асістэнтаў. Паводзіў сябе вельмі свабодна, бесклапотна і са сваім прыроджаным шармам абдорваў мінакоў артыстычнай ўсмешкай*»[54].

У жніўні 1938 года ў кінатэатры «Эра» выступала тады ўжо славутая Іда Камінская[55] са сваёй камандай (квіткі прадаваліся ў цукерні «Амерыканка»)[56].

Наогул, практычна кожны тыдзень у кінатэатры «Эра» акрамя паказу кіно адбываліся культурныя імпрэзы ці грамадскія мерапрыемствы.

Летам 1939 года ў кінатэатры «Эра» змяніўся дырэктар: замест К. Тамашэвіча пачаў працаваць Ежы Длускі, які для гэтага адмыслова пераехаў жыць у Ліду.

Кіно ў горадзе было такое папулярнае, што на пачатку 1939 года ў гарадской управе «*падчас штэмпелявання было скрадзена 48 білетаў у «Эру». Аднак кантралёр кінатэатра Рулько падчас праверкі білетаў вызначыла тры крадзеныя. Дырэктар Длускі заявіў у паліцыю*»[57].

Увогуле кінапракат быў добра развіты, што адлюстроўваюць наступныя лічбы: за другі квартал 1939 года ў Наваградскім ваяводстве, часткай якога была Ліда, прайшло ў пракаце 216 фільмаў польскай вытворчасці і 251 замежны фільм (у першым квартале таго ж года — 209 польскіх і 249 замежных)[58].

22—23 чэрвеня 1941 года пасля бомбавых удараў і пажараў культурна-гістарычны цэнтр горада перастаў існаваць; засталіся касцёлы, замак, але паміж двума касцёламі (Фарным і Піяраў) не захавалася ніводная пабудова. Вось як апісвае раніцу 24 чэрвеня Е. Ярмонт у сваіх мемуарах:

---

[53] Сапраўднае імя і прозвішча — Багдан Эжэн Жуно (па-польску Eugeniusz Bodo; 1899—1943) — польскі кінаакцёр, эстрадны артыст, рэжысёр, сцэнарыст, танцор, спявак, канферансье і прадзюсар.

З 1917 г. пачаў выступаць у якасці спевака і танцора на сцэне Познанскага, а з 1919 г. — Варшаўскага рэвю ў вядомых сталічных кабарэ.

У 1925 г. дэбютаваў у кіно, зняўшыся ў фільме «Rywale», і з гэтага моманту пачаў заваёўваць у гледачоў велізарную папулярнасць. Усяго Бадо выканаў ролі больш чым у 30 фільмах. Выступаў на экране ў ролі герояў-палюбоўнікаў, здымаўся ў трагічных, камедыйных і музычных фільмах. Стаў зоркай польскага кіно міжваеннага перыяду. Валодаючы добрым голасам, часта спяваў у фільмах — і яго песні адразу ж станавіліся шлягерамі. У 1932 г. ён атрымаў тытул неафіцыйнага караля польскіх акцёраў, а ў 1936 г. — караля стылю.

Незадоўга да пачатку Другой сусветнай вайны пачаў пісаць кінасцэнарыі і рэжысіраваць фільмы, у якіх ён граў галоўныя ролі.

Увесну 1939 г. адкрыў у Варшаве прэстыжнае «Кафэ Бадо». Падчас нападу немцаў на Польшчу і абароны Варшавы арганізоўваў канцэрты для салдат і грамадзянскага насельніцтва сталіцы. У час нямецкай акупацыі, калі тэатры і кінакампаніі Варшавы былі зачынены, яго кафэ працягвала працаваць, у асноўным з мэтай матэрыяльнай падтрымкі іншых вядомых польскіх артыстаў.

Неўзабаве пераехаў у Львоў. Свабодна валодаючы рускай мовай, уладкаваўся канферансье і пачаў выступаць у тэатральным калектыве «Тэа-джаз» Генрыка Варса, рабіў грамзапісы сваіх песень на рускай мове (запісы захаваліся).

Гастраліраваў па СССР. Пасля вяртання з адной з паездак па Саюзе вырашыў эміграваць у ЗША і падрыхтаваў неабходныя для гэтага дакументы. У чэрвені 1941 г. быў арыштаваны НКУС. Утрымліваўся некаторы час у перасыльных турмах Уфы і Масквы. Наконт яго вызвалення безвынікова завіхаліся польскія эміграцыйныя ўлады. Пасля Масквы быў адпраўлены ў лагер у Котласе, дзе, паводле архіўных звестак, памёр ад знясілення і голаду 7 лістапада 1943 года.

У 1938 г. Я. Бадо быў узнагароджаны Залатым Крыжам Заслугі з мячамі.

2 кастрычніка 2011 года ў Котласе на мемарыяльных могілках «Макарыха» быў адкрыты помнік Я. Бадо.

[54] Naruszewicz, W. Wspomnienia lidzianina. / W. Naruszewicz. — Warszawa, 2001. — S. 59.

[55] Іда Камінская (Ida Kaminska, 1899—1980) — польская актрыса. Нарадзілася ў Адэсе 18 верасня 1899 г. у сям'і акцёраў яўрэйскага тэатра (на мове ідыш). Яе маці Эстэр-Рухл Камінская была знакамітай актрысай, бацька — Аврум-Іцхак Камінскі — тэатральным акцёрам, рэжысёрам і прадзюсерам. Іда была сястрой музыканта Юзафа Камінскага і стрыечнай сястрой акцёра Дэні Кея. Тэатральную кар'еру пачала ў 1904 годзе ва ўзросце пяці гадоў. На кінаэкранах дэбютавала ў 1912 г. у польскім фільме, дзе таксама здымалася яе маці і сястра. За ўсю сваю кінакар'еру з'явілася толькі ў 11 фільмах, і толькі адзін з іх зрабіў яе вядомай. У 1965 г. Камінская знялася ў чэхаславацкім фільме «Крама на плошчы», роля ў якім прынесла ёй ў 1966 г. намінацыю на прэмію «Оскар» у якасці лепшай актрысы.

Іда Камінская была ўганаравана шэрагам нацыянальных польскіх узнагарод, у ліку якіх ордэн Адраджэння Польшчы 4 ступені, ордэн «Сцяг Працы» 1 ступені, ордэн «Сцяг Працы» 2 ступені, медаль «10-годдзе Народнай Польшчы» і медаль «1000-годдзе Польшчы».

Апошні раз у кіно яна з'явілася ў 1970 г., пасля чаго працягвала тэатральную кар'еру, шмат гастралюючы па свеце. Іда Камінская памерла ў Нью-Ёрку 21 мая 1980 г. ад сардэчна-сасудзістай хваробы.

[56] Kurjer Wilenski. — № 217 (4534). — 9 sierpnia, 1939.

[57] Kurjer Wilenski. — № 28 (4704). — 28 stycznia, 1939.

[58] Ziemia Lidzka. — №8. — 1939.




Кінатэатр у доме па Савецкай, 16 (1950-я гады).

*«...Знікла бібліятэка, куды я часта заглядвала, і гатэль, дзе я ні разу не была, быццам растварылася ў паветры маленькая кніжная крама пані Шкоп разам са школьнымі падручнікамі. ...Зніклі кінатэатры з непранумераванымі месцамі, дзе можна было праглядзець некалькі сеансаў запар. ... гэты свет знік... па абодва бакі вул. Сувальскай... узвышаліся высокія завалы з абпаленай цэглы і жалеза»*[59].

Будынак кінатэатра «Эра» згарэў і не быў адноўлены. Дом, у двары якога ён знаходзіўся, згарэў таксама, але падчас вайны у яго сценах месцілася кухня, што карміла яўрэяў лідскага гета, калі яны пад канвоем выконвалі работы па разборцы згарэўшага цэнтра горада. Таму гмах не быў разабраны і быў адноўлены толькі пасля вайны. Гэта сучасны дом № 16 па вуліцы Савецкай, у якім пасля невялікага рамонту адразу пасля 1945 года пачаў працаваць гарадскі кінатэатр. Лідзянка Ларыса Канчэўская ўспамінае: *«У маім дзяцінстве тут быў кінатэатр з глядзельнай залай на другім паверсе. Пасля сеанса гледачы спускаліся з боку двара па арматурнай, стромкай, амаль пажарнай лесвіцы. Памятаю, я, першакласніца, там упершыню была з татам. Мы глядзелі фільм «Адмірал Ушакоў». Было вельмі нязручна ў цеснай зале з нізкай століллю, дзе стаялі масіўныя квадратныя калоны, якія вельмі перашкаджалі глядзець фільм. І падлога там была без узвышша, хлапчукі сядзелі на спінках крэслаў — проста бяда! Я палову фільма не бачыла, а толькі чула, нават плакала ад незадаволенай цікаўнасці»*[60].

Гісторыя першага лідскага кінатэатра цягнулася да канца 1950-х гадоў.

---

[59] Ярмонт, Е. В тени замка Гедемина. / Е. Ярмонт. — Лида, 1995. — С. 115.
[60] Канчэўская, Л. Маленькая аповесць пра любоў. / Л. Канчэўская. // Ад Лідскіх муроў. — 2015. — № 8. — С. 262.

Мікалай Анісавец

# Лоеўскі прарыў 6 ліпеня 1651 года

Падчас Люблінскага сойма 1569 года ў падмурак «дзяржавы абодвух народаў» — Рэчы Паспалітай — высілкамі тагачаснай польскай дыпламатыі была закладзена, што называецца, «міна запаволенага дзеяння». Украіна прывілеем караля і вялікага князя Жыгімонта Аўгуста была адарвана ад Вялікага Княства Літоўскага (далей ВКЛ або Княства) і ўключана без аніякіх атрыбутаў яе дзяржаўнасці ў склад Кароны Польскай. Гэтая «міна» не магла не рвануць у гістарычнай перспектыве — і яна рванула ўжо ў сярэдзіне XVII стагоддзя вялікай вызваленчай вайной украінскага народа 1648—1658 гг., вядомай як «Казаччына» або «Хмяльніччына». Маланкі гэтай вайны моцна ўдарылі не толькі па Кароне Польскай, але напаткалі і ВКЛ, дзе ўспыхнулі ў форме антыфеадальнай антыкаталіцкай казацка-сялянскай вайны, якая палала на прасторах Княства на працягу 1648—1651 гг. У эпіцэнтр барацьбы варагуючых бакоў з прычыны свайго геаграфічнага становішча і гістарычных абставін двойчы трапіла беларускае мястэчка Лоеў — тагачасны цэнтр Лоеўскага староства (зараз райцэнтр Гомельскай вобласці на самай паўднёва-усходняй мяжы з Украінай).

31 ліпеня 1649 года адбылася вядомая Лоеўская бітва — самая вялікая ў гэтай вайне. Войска ВКЛ пад кіраўніцтвам польнага гетмана Януша Радзівіла нанесла цяжкае паражэнне казацка-сялянскаму войску на чале з наказным гетманам Міхаілам Крычэўскім. Гэтая пераможная бітва завяршыла першы этап вайны і дазволіла абараніць межы ВКЛ, а таксама прымусіла Багдана Хмяльніцкага (1595—1657) і ўкраінскую казацкую старшыну перайсці на абарончыя пазіцыі на сваім паўночным памежжы з ВКЛ, што засведчыла правал іх спроб узняць вялікае сялянскае антышляхецкае і антыпольскае паўстанне ў ВКЛ і прыяднаць яго паўднёвую частку да Украіны.

6 ліпеня 1651 года Лоеўскім прарывам Януш Радзівіл распачаў заключны этап казацка-сялянскай вайны на Беларусі, падчас якога войска ВКЛ прыняло ўдзел у падаўленні паўстання ўкраінскіх казакаў і ўвайшло ў «сэрца Украіны» — Кіеў. Абставіны і ход Лоеўскай бітвы 6 ліпеня 1651 года ў беларускай гістарыяграфіі асветлены недастаткова, да того ж ёсць пэўныя спрэчныя моманты і недакладнасці ў адлюстраванні гэтых падзей у замежнай гістарыяграфіі, таму існуе неабходнасць разгледзець іх больш грунтоўна.

## Крэда Януша Радзівіла

Стратэг Лоеўскага прарыву Януш Радзівіл (1612—1655) — постаць у гісторыі Беларусі надзвычай яркая, але адначасова неадназначная і трагічная. «Двухаблічным Янушам» назваў яго даследчык біяграфій знакамітасцей ВКЛ Вітаўт Чаропка. Для непрыяцеляў Януш меў аблічча бязлітаснага, жорсткага і рашучага палкаводца і палітыка, для шляхетных жыхароў Княства — самаадданага абаронцы Айчыны.

Бацька Януша Крыштаф Радзівіл — першы ў гісторыі польны гетман ВКЛ — з дзіцячых гадоў акунуў сына ў атмасферу прыдворнага жыцця пры каралі і вялікім князе Жыгімонце III Вазе, дзе той хутка стаў добрым сябрам яго сыноў Уладзіслава і Яна Казіміра. Януш атрымаў добрую па тым часе адукацыю: спачатку вучыўся ў кальвінісцкай гімназіі ў Слуцку, затым у Лейпцыгскім, Альдорфскім і Лейдэнскім універсітэтах. Як валанцёр ён удзельнічаў у войску Генрыха Аранскага ў штурме Мастрыхта, дзе набыў вайсковы досвед. Хутка гэты досвед спатрэбіўся Янушу падчас вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—1634 гадоў, у якой ён разам з бацькам удзельнічаў у баях за Смаленск. Пасля ўзыходжання Уладзіслава IV Вазы на трон караля і вялікага князя Рэчы Паспалітай у 1633 годзе Януш атрымаў пасаду падкаморага — дарадцы гаспадара, адказнага за лад у каралеўскіх пакоях. Як падкаморы ён працяглы час знаходзіўся пры гаспадарскім двары, суправаджаў ўладара ў паездках па Польшчы і Літве. У якасці пасла выконваў даручэнні караля і вялікага князя і вёў паспяховыя перамовы з галандскімі генеральнымі станамі, намесніцай іспанскага караля ў Галандыі інфантай Ізабэлай, англійскім каралём Карлам I Сцюартам.

З часам прыдворнае жыццё надакучыла Янушу: яму карцела мець сваю канкрэтную справу, каб не быць на пасылках у манарха, няхай сабе і сябра. У 1646 годзе Януш Радзівіл быў пры-



Даніла Нарбут.
«Сцяпан Падабайла —
наказны гетман Левабярэжжа».

значаны польным гетманам ВКЛ, а ў 1947 годзе стаў генеральным старастам Жамойці. Патрыёт, ён шукаў шляхі ўмацавання дзяржаўнасці і аднаўлення поўнай незалежнасці Княства. Яшчэ ў 1635-м Януш Радзівіл выразна абазначыў сваё палітычнае крэда адносна саюзнікаў Літвы — палякаў. На адным з прыёмаў караля і вялікага князя Уладзіслава ў Вільні, калі распачалася сварка ліцвінаў з каороннымі панамі па прычыне ўціску ліцвінаў апошнімі, Януш прыгразіў: «Прыйдзе той час, калі паны-палякі да дзвярэй не патрапяць, праз вокны іх будзем выкідваць»[1]. Тады Уладзіслаў дараваў свайму ўлюбёнцу гэтую выхадку, а вось польскія паны на яе не забыліся, увесь час памяталі і ставіліся да яго падазрона.

На пачатку казацка-сялянскай вайны Януш Радзівіл узначаліў войска ВКЛ і восенню 1648 года выступіў супраць паўстанцаў. Ён разбіў казацкія загоны і беларускіх сялян і мяшчан, якія іх падтрымлівалі, і вызваліў ад паўстанцаў поўдзень Беларусі. Тады, пасля пераможнай бітвы 31 ліпеня 1649 года, Лоеўская брама — пераправа праз Дняпро — была адчынена для паходу войска польнага гетмана на Кіеў. Але ён не рушыў ва Украіну, як гэтага настойліва патрабаваў новы кароль і вялікі князь Ян ІІ Казімір, а павярнуўся назад з войскам у Рэчыцу. Каралю ў пісьме патлумачыў, што яго войска панесла вялікія страты, яму не ставала прадуктаў харчавання, грошай, зброі, амаль зусім не засталося пораху. Але ўзнікае пытанне: ці толькі гэтымі прычынамі тлумачыцца адмова Радзівіла ад працягу паходу? Відаць, папоўніцца людзьмі, прадуктамі харчавання і вайсковымі запасамі не складала вялікай праблемы. Трэба думаць, слушнымі тут з'яўляюцца высновы на гэты конт Вітаўта Чаропкі: «Пэўна, Радзівіл не жадаў падтрымаць польскае войска, якое пад Збаражам акружылі казакі. Ратаваць Карону крывёй ліцвінаў — навошта? Не дараваў Януш даўняй крыўды палякам. І вось цяпер пакінуў іх без дапамогі. Мабыць, гэта галоўная прычына, чаму ліцвінскае войска не напала на Украіну»[2]. Ва ўсякім разе, такая лінія паводзін польнага гетмана цалкам адпавядала яго заяўленаму палітычнаму крэда. Тады ён мог сабе гэта дазволіць.

Становішча Януша ў Княстве было трывалым як ніколі. Польскі кароль Ян Казімір — сябар, у ВКЛ яго цалкам падтрымліваў канцлер ВКЛ, дзядзька Януша па барадзе, Альбрыхт Радзівіл, вялікі гетман, дзядзька па кудзелі, Януш Кішка, канюшы ВКЛ, стрыечны брат Багуслаў Радзівіл. Паны-рада Княства таксама былі на яго баку і прасілі Яна Казіміра пра змяненне свайго загада. Кароль пайшоў на ўступкі.

## Паслы гетмана Хмяльніцкага

Збораўскае пагадненне, заключанае ў жніўні 1649 года паміж польскім каралём Янам Казімірам і ўкраінскімі казакамі ў асобе гетмана Багдана Хмяльніцкага, засведчыла стварэнне «гетманата» — казацкай аўтаноміі ў межах Браслаўскага, Кіеўскага і Чарнігаўскага ваяводстваў, але не вырашыла ўсіх супярэчнасцей, існуючых паміж варагуючымі бакамі. Гэтым пагадненнем быў незадаволены найперш гетман Хмяльніцкі і казацкая старшына, бо яны разлічвалі стварыць сваю незалежную казацкую дзяржаву і разглядалі пагадненне як часовую перадышку ў вайне. Вымушаныя ўступкі караля казакам не спадабаліся польскім панам, што хацелі гаспадарыць, як звычайна, ва ўсёй Украіне. І казакі, і палякі рыхтаваліся да працягу вайны. Кароль Ян Казімір і каронныя гетманы ў сваіх пісьмах да Януша Радзівіла патрабавалі больш рашучых дзеянняў войска ВКЛ у падтрымку Польшчы, і Княства

[1] Pamietniki Albruchta Snanislawa X Radziwilla. — T. 1. — Poznan, 1838. — С. 327.
[2] Чаропка, В. Уладары вялікага Княства. / В. Чаропка. — Мн.,1996. — 638 с. — С. 482.

таксама рыхтавалася да вайны. Паны-рада абвясцілі паспалітае рушанне, і пад харугвы польнага гетмана прыйшлі 13 700 чалавек[3]. Назапашваліся неабходныя для паходу зброя і боепрыпасы, вайсковы рыштунак, прадукты харчавання і фураж.

У студзені 1651 года сойм Рэчы Паспалітай большасцю галасоў абвясціў казакам вайну — і яна распачалася даволі ўдала для палякаў. Ужо ў лютым польскае войска гетмана польнага кароннага Мартына Каліноўскага разбіла на Браслаўшчыне буйны аддзел палкоўніка Данілы Нячая. У адказ Хмяльніцкі разам з крымскім войскам хана Іслама III Гірэя выправіўся ў наступ на Польшчу.

Гетман Хмяльніцкі добра ведаў моц радзівілаўскага войска і разумеў: вынікі яго вайны з палякамі будуць залежаць ад удзелу ў ёй Княства. Чый бок яно падтрымае, за тым будзе і канчатковая перамога. Напачатку ён разлічваў утрымаць ліцвінскае войска ў межах Княства выключна вайсковай сілай. Пераправы ад Лоева да Бабіч па Дняпры і Прыпяці трымалі казацкія аддзелы і іх саюзнікі — крымскія татары агульнай колькасцю каля 50 тысяч чалавек. Кіеўскі накірунак абараняў палкоўнік Антон Ждановіч (са сваім Кіеўскім палком стаяў паблізу Чарнобыля), і аддзелы Філона Гаркушы (знаходзіліся каля Оўруча), чарнігаўскі накірунак — загоны Сцяпана Падабайла (пад Лоевам). Агульнае камандаванне было ўскладзена Хмяльніцкім на наказнога гетмана Левабярэжжа — чарнігаўскага палкоўніка Мартына Нябабу, аддзелы якога размяшчаліся ў міжрэччы Сожа і Дняпра[4].

Мартын Нябаба (пачатак XVII ст. — 6 ліпеня 1651 г.) паходзіў з мяшчан горада Каростышава на Жытоміршчыне. З маладых гадоў ён жыў у Запарожжы. У маі 1648 года ўзначаліў паўстанне супраць польскай улады ў Чарнігаўскім ваяводстве, стаў там арганізатарам і першым палкоўнікам Барзнянскага палка. М. Нябаба быў адным з тых атаманаў, якіх Б. Хмяльніцкі накіраваў у Беларусь, каб узняць тут паўстанне. Вядома, што ў маі 1648 года перад загонам М. Нябабы адкрылі гарадскую браму мяшчане Лоева, у красавіку 1649 года — Гомеля. У верасні 1648 года ён быў удзельнікам пераможнай бітвы з каронным войскам пад Піляўцамі, а ў жніўні 1649 года на чале свайго палка браў удзел у Збораўскай бітве. З пачатку 1649 года з'яўляўся палкоўнікам чарнігаўскім, наказным гетманам левабярэжных палкоў Украіны[5].

Скарыстаўшыся падтрымкай Маскоўскай дзяржавы, Хмяльніцкі заслаў 4 тысячы казакаў і 500 татараў пад кіраўніцтвам наказнога палкоўніка Івана Шохава з усходу праз Бранскі ўезд у Княства. Адтуль нападу не чакалі — казакі без бою ўзялі Раслаўль і стварылі пагрозу Смаленску і Магілёву. Гетман разлічваў скіраваць і іншыя казацкія аддзелы праз расійскую мяжу ў Падняпроў'е і Полаччыну, каб тыя разам з сялянамі ўзнялі там паўстанні. Такім чынам Хмяльніцкі шукаў нагоды справакаваць канфлікт Княства з Масковіяй, каб наогул пазбавіць Радзівіла магчымасці перайсці ў наступ на казакаў. Нярвовая, напружаная атмасфера на кардонах часта прыводзіла да ўзброеных сутычак на памежжах. Так 19 мая 1651 года казацкая сотня была разбіта пад Ярылавічамі, а ўжо 25 мая ліцвінскі загон зазнаў паразу паблізу Сожа. М. Нябаба 6 чэрвеня выправіў аддзел наказнога палкоўніка Пятра Забелы, каля 8 000 казакаў, для захопу Гомеля. Мяшчане хацелі здаць горад, але гэтага не дазволіла ліцвінская залога, якую ўзначальваў дасведчаны капітан Мантгомеры. Неаднойчы казакі штурмавалі гарадскія ўмацаванні, але не мелі поспеху. Даведаўшыся, што Гомель аблажаны ўкраінскімі казакамі, ліцвінскі гетман накіраваў туды на падмогу загон Францкевіча (1500 коннікаў), які адразу і вырашыў зыход бітвы: казакі ў спешцы адступілі ў чарнігаўскім накірунку.

Трывожныя паведамленні турбавалі польнага гетмана, але ён не стаў драбіць свае сілы. Паслаў толькі аддзел Вэйса ў 300 коннікаў і 600 пехацінцаў на дапамогу Крычаву, які ўзялі ў аблогу паўстанцы.

[3] Kotlubaj, E. Życie Janusza Radziwilla. / E. Kotlubaj. — Wilno, Witebsk, 1859. — S. 167.

[4] Гурбик, А. Український Гетьманат та Велике князівство Литовське у військово-політичному протистоянні 1651 р.: Друга Лоєвська битва. / А. Гурбик. // Ukraina Lithuanica: студії з історії Великого князівства Литовського. — Т. III. — Київ: Інститут історії України НАН України, 2015. — С. 140.

[5] Вялікае Княства Літоўскае: энцыклапедыя: у 2 (3) т. — Т. 2. — Мн, 2006. — 638 с. — С. 366.



Абрахам ван Вестэрфельд. «Прыём Янушам Радзівілам паслоў Багдана Хмяльніцкага» (1651).

Нечакана 13 чэрвеня ў вайсковы табар Радзівіла каля Рэчыцы прыехала пасольства ад Хмяльніцкага. У яго складзе былі давераныя паслы ўкраінскага гетмана Перадрымірскі і Кланеўскі, што прывезлі яго асабістае пісьмо да польнага гетмана. Узначальваў пасольства наказны палкоўнік Сцяпан Падабайла (пачатак XVII ст. — кастрычнік 1654 г.): ён стаў на чале гэтай місіі, напэўна, таму, што быў у добрых стасунках з князем у часы абароны Смаленска (1632—1634) ад расійскіх войскаў. Паходзіў ён з сялян вёскі Насіўка на Чарнігаўшчыне. З 30-х гадоў XVII стагоддзя служыў С. Падабайла ў драгунскай харугве Адама Кісяля. У Смаленскай вайне паміж Рэччу Паспалітай і Маскоўскай дзяржавай ён вызначыўся як храбры воін. Служыў сотнікам у замку Кодак (сёння г. Днепр на Украіне), на пачатку паўстання перайшоў на бок Багдана Хмяльніцкага. З вясны 1649 года С. Падабайла згадваецца ў гістарычных крыніцах як наказны чарнігаўскі палкоўнік, полк якога ўтрымліваў Лоеўскія пераправы. У красакавіку 1649 года яго полк захапіў Лоеў, а 31 ліпеня 1949 года ўдзельнічаў у Лоеўскай бітве. 7 ліпеня 1651 года Падабайла стаў чарнігаўскім палкоўнікам, а 1652 годзе — наказным гетманам Лебабярэжжа. Ён загінуў падчас штурму замка Стары Быхаў у кастрычніку 1654 года і быў пахаваны каля Святаільінскай царквы Троіца-Ільінскага кляштара ў Чарнігаве, фундатарам якога ён з'яўляўся[6].

Паслы прывезлі ад украінскага гетмана прапанову, якой ліцвіны ад яго ўжо не чакалі, — выступіць разам супраць Польшчы. Польны гетман быў здзіўлены і разгневаны зваротам, у якім сцвярджалася: «…у казакаў ніколі не было ніякіх сварак з Вялікім Княствам Літоўскім, ніякіх прычын да варожых дзей; крыўдамі палякаў

[6] Мицик, Ю. Стефан Подобайло (Пободайло) / Ю. Мицик // Albaruthenika. Студії з історії Білорусі.— Київ, 2009. — С. 200—209.

даведзены казакі да барацьбы за свабоду, а ўсім іншым яны прапануюць дружбу…»[7]. Гневацца Янушу на украінскага гетмана былі ўсе падставы. Чаму той прапанаваў выступіць супраць палякаў не вясной 1648 года, калі распачынаў сваю вызваленчую вайну на Украіне, а толькі праз тры гады? Чаму шукаў хаўрусу за межамі Рэчы Паспалітай з Крымскім ханствам і Турэччынай, хаця з часоў вялікіх Вітаўта і Казіміра украінцы разам з ліцвінамі змагаліся з ардынцамі і іншымі ворагамі? Чаму ігнараваў інтарэсы Вялікага Княства Літоўскага, шкодзіў яму? Чаму дасылаў сваіх агітатараў і казацкія загоны, каб узбунтаваць беларускіх сялян і мяшчан, заліў крывёй ліцвінскай шляхты ўвесь поўдзень Княства? Перапалоханая шляхта цяпер баіцца казакаў, «як чорт ладану». І як павярнуць яе на барацьбу разам з казакамі супраць палякаў?

Польны гетман хацеў выгнаць паслоў прэч з табара. Але стрымаў сябе, бо прапанова ўкраінскага гетмана палягала ў рэчышчы яго палітычнага крэда. Шукаў зачэпкі, каб з выгадай для Княства скарыстацца гэтай нагодай. Таму і аказаў паслам пашану: сказаў, што пытанне вельмі складанае, бо шмат крыўд прычынілі казакі ліцвінам, і патрэбны час, каб параіцца з панамі-радай Княства наконт іх адносін да казацкай прапановы.

Два тыдні паслы цярпліва чакалі канчатковага адказу Радзівіла. Як і разлічваў польны гетман, паны-рада катэгарычна выказаліся супраць вайсковага саюзу з казакамі: не падтрымалі казацкую прапанову і санавітыя родзічы — князі Януш Кішка, Альбрыхт і Багуслаў Радзівілы. Надта ж шмат інтарэсаў ліцвінскай эліты было завязана на Варшаве — яна не хацела секчы іх, што называецца, «па жывому». Палякі таксама ўжо навучыліся ваяваць з казакамі і татарамі. Да Радзівіла даходзілі звесткі, што каля валынскага сяла Берасцечка палякі спынілі наступ войск Хмяльніцкага і Іслам Гірэя і прымусілі іх стаць у зацяжную абарону з далейшымі непрадказальнымі вынікамі.

27 чэрвеня Радзівіл паведаміў канчатковае рашэнне ліцвінскага боку на прапанову Хмяльніцкага, заявіўшы паслам, што Літва з Польшчай складаюць Рэч Паспалітую і нельга ваяваць з адной з іх, не маючы справы з іншай[8]. У гістарыяграфіі пануе меркаванне: прапановы Хмяльніцкага ліцвінскаму боку датычыліся выключна нейтралітэту Княства ў вайне, але сэнс адказу польнага гетмана, зафіксаваны тагачаснымі хранікёрамі, і доўгае знаходжанне паслоў у табары Радзівіла яскрава сведчаць аб прапанове ўкраінскага гетмана менавіта вайсковага саюза казакаў і ліцвінаў супраць Польшчы. Адмаўляючы казакам у саюзе, польны гетман, каб іх заспакоіць, абяцаў не парушаць межы Украіны, калі казакі выведуць свае загоны з Княства. На вачах паслоў ён накіраваў аддзел у 2 500 коннікаў на чале са стражнікам Рыгорам Мірскім пад Раслаўль для абароны Смаленска, але «двухаблічны Януш» падмануў казакаў[9]. На той момант ён ужо прыняў рашэнне адпомсціць украінскаму гетману і казацкай старшыне за палітычную неабачлівасць і эгаізм у дачыненні да Літвы, за страхі і кроў ліцвінскай шляхты. Радзівіл ужо вырашыў ажыццявіць прарыў казацкай памежнай абароны і рушыць на Украіну і выбраў стратэгічны напрамак свайго наступу. Ён не абраў мазырскі шлях праз Бабічы і Прыпяць на Кіеў, хаця гэты накірунак непасрэдна для яго войска быў самы кароткі і найбольш бяспечны. Гетман разумеў, што калі скіруе войска на Мазыр, то аголіць свой левы фланг і адкрые казацкім войскам дарогу ў глыб ВКЛ. Дакладна ведаючы сітуацыю, Радзвіл прыняў рашэнне наступаць на Украіну лоеўскім накірункам праз Дняпро. Меркаваў, што тады, рухаючыся праз Лоеў, ён не толькі зможа абараніць ВКЛ ад казацкіх набегаў з паўднёвага ўсходу, але пры спрыяльных абставінах будзе мець шанец разграміць казакаў у бітвах.

Адзін з момантаў перамоў Януша Радзівіла з казацкімі пасламі занатаваў на сваім малюнку галандскі мастак Абрахам ван Вестэрфельд, які быў у 1650—1653 гг. на службе ў князя і стварыў шэраг унікальных малюнкаў, звязаных з казацка-сялянскай вайной[10].

---

[7] Смирнов, Я. И. Князь Януш Радивилл и его киевский поход. Труды XIII археологического съезда в Екатеринославе, 1905 г. / Я. И. Смирнов.— Екатеринослав, 1908. — С. 262—263.
[8] Там жа. — С. 263.
[9] Kotlubaj, E. Życie Janusza Radziwill. / E. Kotlubaj. — Wilno, Witebsk, 1859. — S. 168.
[10] Ван Вестерфельд. [Электронны рэсурс] / Рэжым доступу: https://ru.wikipedia.org/.../Ван_Вестерфельд. — Дата доступу: 02.10.2016.



Абрахам ван Вестэрфельд. «Выгнанне казакаў з сутока Дняпра і Сожа 6 ліпеня 1651 года».

У левым кутку малюнка ў памяшканні, умоўна раскрытым для гледача, адлюстраваны ў кафтане і шапцы сам Януш Радзівіл. Насупраць яго стаяць тры паслы ў кафтанах і з шаблямі на баку. Паслы трымаюць шапкі ў руках. Перамовы вядуцца ў атачэнні світы польнага гетмана. За памяшканнем у правым кутку малюнка можна ўбачыць частку замка з драўлянымі сценамі і невысокімі вежамі, які размяшчаецца на высокім прыдняпроўскім узвышшы. Пакой, дзе вядуцца перамовы, прымыкае да акольнага горада, умацаванага палам, — закапаным у зямлю частаколам, фрагмент якога адлюстраваны ў малюнку на суседнім ад замка ўзвышшы. Малюнак Вестэрфэльда сёння дапамагае вызначыць, дзе вяліся перамовы Радзівіла з казацкімі пасламі. Відавочна, што адлюстраваныя на малюнку гарадскія ўмацаванні не адпавядаюць Рэчыцы, якая мела акрамя замка яшчэ дзве моцныя лініі абароны[11].

Вітаўт Чаропка сцвярджае: «Януш Радзівіл сустрэўся з пасламі Хмяльніцкага пад Лоевам»[12]. Ёсць падставы меркаваць, што менавіта ў Холмечы, дзе ў тыя часы меўся замак і гарадскія ўмацаванні, польны гетман утрымліваў казацкіх паслоў два тыдні пад вартай і тут вёў з імі перамовы. Тагачаснае мястэчка Холмеч, а цяпер аднайменная вёска, размяшчаецца на ўзвышшах правабярэжжа Дняпра на адлегласці 29 км ад Рэчыцы ў накірунку Лоева, адлегласць да якога складае 25 км.

## Бітва каля лоеўскіх пераправаў

Павярнуўшы ў казацкі табар Нябабы, паслы паведамілі: Радзівіл падзяліў сваё войска, частку якога скіраваў пад Смаленск, і не плануе паход на Украіну. Паводле сведчанняў тагачасных хранікёраў і мемуарыстаў, казакі ад радасці, што ўдалося схіліць князя да нейтралітэту, загулялі. Ахоўваць пераправы праз Дняпро каля Лоева засталіся Чарнігаўскі і Нежынскі казацкія палкі ў складзе 3 000 чалавек, ды і тыя, як сведчыць «Летапіс Самавідца», «зоставали беспечие, большей бавячися пьянством, а нежели осторожностию»[13]. Такімі абставінамі польны гетман ВКЛ не мог не скарыстацца.

29 чэрвеня Януш Радзівіл выправіўся з Рэчыцы са сваім войскам у 12 800 чалавек і рушыў уздоўж Дняпра да Лоева. (Украінскі навукоўца А. Гурбік, спасылаючыся на архіўныя дакументы бібліятэкі музея князёў Чартарыйскіх у Кракаве, сцвярджае, што выправа польнага гетмана з Рэчыцы адбылася 1 ліпеня[14].) За войскам рухаўся абоз з гарматамі і вайсковым рыштункам. Па Дняпры пяхота за байдакамі сплаўляла гуляй-гарадкі, драўляныя шчыты, за якімі можна было схавацца ад непрыяцельскага агню падчас уласнай абароны і штурму ўкраінскіх гарадоў. Праз два дні войска наблізілася да Лоева і, таемна размясціўшыся на поўначы ад мястэчка, пачало падрыхтоўку да пераправы праз Дняпро на левы бераг. Да гэтага часу аддзел Мірскага, выпраўлены з Рэчыцы гетманам быццам на Смаленск, каля Гоме-

[11] Вялікае Княства Літоўскае: энцыклапедыя: у 2 (3) т. — Т. 2. — Мн, 2006. — 638 с. — С. 534.
[12] Чаропка, В. Уладары вялікага Княства. / В. Чаропка. — Мн., 1996. — С. 487.
[13] Летапис Самавидца по новооткрытым спискам, изданным Киевской временной комиссией для разбора древних актов. / Под ред. А. Левицкого. — Киев, 1878. — С. 26.
[14] Гурбик, А. Український Гетьманат та Велике князівство Литовське у військово-політичному протистоянні 1651 р.: Друга Лоєвська битва. / А. Гурбик. // Ukraina Lithuanica: студії з історії Великого князівства Литовського. — Київ: Інститут історії України НАН України, 2015. — Т. III. — С. 145.

ля патаемна пераправіўся праз Сож і праз пяць дзён выйшаў у тыл казацкага табара ў сутоках Сожа і Дняпра насупраць Лоева. На досвітку, а пятай гадзіне, 6 ліпеня 1651 года цяжкая кавалерыя Мірскага атакавала казацкі табар. Захопленыя знянацку казакі адчайна абараняліся каля паўтары гадзіны. Амаль усе яны загінулі. Толькі некалькі чалавек вырваліся з атачэння і ўцяклі ў чарнігаўскім накірунку.

Ліцвінскае войска дзейнічала ўзгоднена. А. Гурбік сцвярджае, што аддзел стражніка Мірскага пайшоў у наступ на казацкі табар пасля трох стрэлаў пушкароў Радзівіла на правым беразе Дняпра каля Лоева[15]. Калі закіпела бітва ў сутоках Дняпра і Сожа, радзівілаўскае войска адразу рушыла да дняпроўскіх пераправаў, якія знаходзіліся на адлегласці ў паўтара кіламетра ніжэй Лоева. Не складала вялікіх праблем ліцвінскай кавалерыі ўплаў пераправіцца тут праз шырокую водмель на Дняпры, здаўна празваную ў народзе «Татарскі брод». Праз яе са старажытных часоў заўжды пераправляліся людзі і грузы. Глыбокая частка рэчышча Дняпра знаходзілася тут толькі каля левага берага і складала ў летнія часы не больш чым 15—20 метраў. Паводле падання вядома, што ў познім Сярэднявеччы крымскія татары хутка пераадольвалі ў гэтым месцы Дняпро, стоячы на спінах двух сваіх коней, нават не намачыўшы ўласныя боты ў вадзе.

Адразу за Дняпром кавалерыя Радзівіла разбіла «залогу», якую ўтрымлівала каля 300 казакаў[16]. Пяхота і абоз перапраўляліся праз Дняпро на байдаках і паромах з дапамогай шастоў, што выкарыстоўваліся тут здаўна. З правага боку на левы байдакі і паромы сплывалі па цячэнні даволі хутка, а вось у адваротным накірунку — вельмі павольна, бо даводзілася рухацца супраць цячэння. Увесь гэты час кавалерыя на левым беразе вымушана была чакаць і ахоўваць пераправы, бо Радзівіл не ведаў, дзе знаходзяцца асноўныя сілы казакаў і асцерагаўся іх раптоўнай атакі. Толькі а дзясятай гадзіне, пасля завяршэння пераправы, радзівілаўскае войска, конніца, а за ёю пяхота рушылі паміж вялікіх цяжкапраходных балот Замглай і Парысце ў чарнігаўскім накірунку. Шукаў гетман працягу бітвы і быў гатовы да яе.

Бітва каля лоеўскіх пераправаў не засталася па-за ўвагай Абрахама ван Вестэрфельда. На сваім малюнку ён адлюстраваў казацкі табар на беразе Сожа каля яго сутокаў з Дняпром, атаку харугваў Мірскага на табар з усходу і мітусню захопленых знянацку абаронцаў, рух асноўных сіл радзівілаўскага войска да пераправы ўплаў і па сушы. Цікава, што каля ўмоўна пазначаных лоеўскіх гарадскіх умацаванняў ён намаляваў прыпарамак — драўляную пабудову на беразе, да якой звычайна прыставаў паром, — да яго і скіроўвалася радзівілаўскае войска.

## Бітва пад Рэпкамі

Веставыя прынеслі М. Нябабу паведамленне аб неспрыяльных падзеях на Лоеўскіх пераправах: «Ліцвінча прыйшла на тое месца, дзе была наша залога, але нямнога літвы»[17]. Месца, дзе атрымаў гэтыя звесткі наказны казацкі гетман, сёння з'яўляецца ў гістарыяграфіі дыскусійным. Вядомыя вучоныя М. Грушэўскі (Украіна) і Г. Віснер (Польшча) сцвярджалі, што Нябаба атрымаў такую вестку ў Чарнігаве[18]. А вось сучасны ўкраінскі даследчык гэтых падзей А. Гурбік лічыць, што Нябаба прыняў паведамленне ў сваім табары каля сяла Рэпкі[19]. (Зараз г. п. Рэпкі — райцэнтр у Чарнігаўскай вобласці Украіны — размяшчаецца на адлегласці 39 км ад Чарнігава, 24 км ад лоеўскіх перапраў.) Але ў такім разе паўстае некалькі пытанняў, на якія ў аўтара гэтай версіі няма адказаў. Чаму М. Нябаба, які меў шанец атакаваць радзівілаўскае войска непасрэдна на лоеўскіх пераправах, не скарыстаўся зручнай для свайго войска пазіцыяй і не зрабіў спробы збіць ліцвінаў з перапраў? Чаму ён цягнуў з атакай да палудня? Чаму працяг бітвы ва ўкраінскай

[15] Там жа. — С. 146.
[16] Там жа. — С. 148.
[17] Starozytności historyczne polskie. — Т. 1. — Kraków, 1840. — S. 317.
[18] Грушевський, М.С. Історія України-Руси. / М. С. Грушевський. — Т. IX. Ч. 1. — Киев, 1996. — С. 322; Wisner, H. Dzjalalnosc wojskowa Janusza Radziwilla, 1648—1655. / H. Wisner. // Rocnik Bialostocki. — Warsawa, 1976. — S. 86.
[19] Гурбик А. Український Гетьманат та Велике князівство Литовське у військово-політичному протистоянні 1651 р.: Друга Лоєвська битва. / А. Гурбик. // Ukraina Lithuanica: студії з історії Великого князівства Литовського. — Т. III. — Київ: Інститут історії України НАН України, 2015. — С. 147.



Чарнігаўскі палкоўнік Мартын Нябаба.
Малюнак з пражскага каралеўскага архіва.

гістарыяграфіі згадваецца выключна ў кантэксце непрыкметнага на той час сяла Рэпкі, каля якога сутыкнуліся войскі на маршы?

Насамрэч М. Нябаба адразу кінуўся выпраўляць становішча, збіраючы па дарозе ўсю казацкую кавалерыю з чарнігаўскага накірунка. Вядома, што «ў полудень» казацкае войска М. Нябабы ў 15 тысяч коннікаў сходу з марша без аніякага папярэдняга віжавання абрынулася каля Рэпак на аддзел стражніка Мірскага (авангард радзівілаўскага войска). Відавочна, казацкі палкаводзец спадзяваўся толькі на раптоўнасць нападу, адвагу і мужнасць сваіх воінаў. Але гэтага было мала падчас змагання з дасведчаным і лепш узброеным супернікам. Вось які ўспамін пра гэтую падзею пакінуў украінскі летапісец: «…старщий козацкий Небаба, полковник черниговский, порвавшись неисправне, скончил противко тому войску справному, которое зараз тое войско литовское зломило»[20]. Пад напорам пераўзыходзячых сіл коннікі Мірскага сталі адступаць на поўнач, завабліваючы за сабой ворага. Радзівіл напоўніцу скарыстаўся моментам і ўдарыў сваімі коннымі, а потым і пешымі харугвамі ў фланг казакам, расколваючы іх войска на дзве часткі і пазбаўляючы адзінага кіраўніцтва. Завязалася лютая сеча, якая доўжылася да вечара і ў якой цяжкая кавалерыя ліцвінаў зноў паказала сваю перавагу ў змаганні ў адкрытым полі з лёгкай казацкай кавалерыяй. Толькі на зыходзе дня рэшта казацкага войска разам з палкоўнікам Падабайлам, наказнымі палкоўнікамі Ліцвіненкам, Сухіням і Шумейкам здолелі выратавацца і адступілі да Чарнігава. Большасць казацкай старшыны і не менш чым 4 тысячы казакаў былі забіты, многія паранены. У баю загінуў і сам М. Нябаба, які змагаўся ў шэрагах свайго войска як просты казак. Пад ім спачатку забілі каня — ён пабег, але яго дагналі два жаўнеры. Паранены ў правую руку М. Нябаба з шабляй у левай руцэ адчайна абараняўся, пакуль засечаны не ўпаў на зямлю. На забітым палкоўніку быў зялёны аксамітны кафтан, каштоўныя даспехі, паверх якіх была накінута ласіная скура з залатымі ґузікамі і шнурком, шабля ў каштоўнай аправе, упрыгожаны каштоўнымі камянямі пярсцёнак і залаты крыж. Яго забойца — ліцвінскі жаўнер — узяў сабе каftан з 7000 злотых золатам, якія яму Радзівіл падараваў як узнагароду[21].

Некалькі гадоў таму чэшскія архівісты знайшлі і адлічбавалі ў матэрыялах каралеўскага архіва (Kralovska kanonie premonstratu na Strachove) выкананы ў колеры партрэт Мартына Нябабы, напісаны невядомым мастаком. Подпіс пад малюнкам дакладна сведчыць, што гэта адлюстраваны «казацкі генерал-лейтэнант Нябаба, які загінуў пад Лоевам». На партрэце М. Нябаба намаляваны ва ўзросце недзе больш за 40 гадоў з сівой барадой і вусамі, «оселедцем» на галаве, двумя ранамі ад шаблі над левым вухам, плямкай крыві на шыі, у кафтане (згадаем, што ў час бітвы на Нябабе быў зялёны аксамітны кафтан). Мастак, верагодна, зрабіў пасмяротны партрэт, але «ажывіў» яго. Некаторыя ўкраінскія гісторыкі, у прыватнасці Ю. Міцык, схіляюцца да думкі, што партрэт намаляваў Абрахам ван Вестэрфельд, бо малюнак выкананы ў манеры гэтага мастака[22].

[20] Летапис Самавидца по новооткрытым спискам, изданным Киевской временной комиссией для разбора древних актов. / Под ред. А. Левицкого. — Киев, 1878. — С. 26.
[21] Грушевський, М. С. Історія України-Руси. / М. С. Грушевський. — Т. ІХ., Ч. 1.— Киев, 1996. — С. 322.
[22] Мицик, Ю., Березенко, Б. Унікальний портрет полковника Мартина Небаби. / Ю. Мицик, Б. Березенко. // Сіверянський літопис. 2013. — № 4—6. — С. 3—4.

Падчас бітвы пад Рэпкамі шмат казакаў патрапіла ў палон, у тым ліку пляменнік Нябабы, палкавыя сотнікі, чарнігаўскі палкавы пісар. Пераможцам дасталася каля 20 казацкіх сцягоў. У рукі Радзівіла патрапіў таксама казацкі абоз, які адстаў і рухаўся следам за кавалерыяй пад абаронай 200 пешых казакаў з самапаламі, што таксама ўзялі ў палон. Палонныя распавялі: іх у палку было 20 000, але наказны гетман 3000 паслаў пад Крычаў, а 2000 — за правіянтам, сам меў 15 000»[23]. Страты панесла і ліцвінскае войска, але былі яны значна меншыя, чым казацкія.

Ва ўкраінскай гістарыяграфіі здаўна выкарыстоўваюцца дзве назвы Лоеўскай бітвы 6 ліпеня 1651 года — «Другая Лоеўская бітва» і «Бітва пад Рэпкамі»[24]. У назвах адлюстравалася геаграфія бітвы: распачалася яна каля лоеўскіх пераправаў, а завяршылася каля нічым непрыкметнага тады ўкраінскага сяла Рэпкі. Вядома, што месца апошняга змагання не было лакалізавана дакладна на мясцовасці, бо варагуючыя бакі сутыкнуліся тут у баі на маршы і матэрыяльных парэшткаў ад гэтай падзеі не засталося. Толькі гістарычная памяць народа ўтрымала ў назве і данесла праз стагоддзі да нас звестку пра месца завяршальнага этапа Лоеўскай бітвы — «бітва пад Рэпкамі».

Нам невядома, ці маляваў батальныя сцэны Абрахам ван Вестэрфельд па сюжэтах бітвы пад Рэпкамі, але мы дакладна ведаем, што ў гонар перамогі ў Лоеўскай бітве 6 ліпеня 1651 года ён намаляваў і пакінуў нам выяву Лоева.

На малюнку Лоеў адлюстраваны з паўднёвага боку. Па перыметры мястэчка было ўмацавана абарончай сцяной — палам, што складаў першы перад замкам рубеж абароны. З поўдня Лоеў меў уязную вежу-браму. Праз пэўныя прамежкі абарончай сцяны размяшчаліся невысокія вартавыя вежы. На суседняй ад замка гары, якую лаяўчане здаўна называюць Гілевай гарой, пазначана Свята-Троіцкая царква. На Лоевай гары паказаны замак з невысокімі драўлянымі сценамі і вежамі. У цэнтры яго адлюстравана вялікая пабудова — напэўна, адміністрацыйны будынак староства. Каля падножжа Лоевай гары, на набярэжнай Дняпра, знаходзіцца ўмацаваны земляным валам ад нападаў з боку ракі трохбастыённы шанец, абсталяваны гарматамі, які ўтрымлівала залога.

Месцазнаходжанне Лоева і замка на малюнку галандскага мастака цалкам адпавядае яго зараз існуючай тапаграфічнай структуры. Аднак нядаўна ва ўкраінскім рэгіянальным навуковым гістарычным часопісе «Сіверянський літопис» з'явіўся напісаны трыма аўтарамі артыкул «Неведомий малюнок Любеча 1651 р.», у якім, з прэтэнзіяй на сенсацыйнасць, зроблена спроба абгрунтаваць версію, што на малюнку А. ван Вестэрфельда «Loiow oppidum» адлюстраваны Любеч, а не Лоеў[25]. Такія высновы выглядаюць дзіўнымі ўжо таму, што яны рабіліся на падставе не арыгінала малюнка галандскага мастака, а яго копіі, якая знаходзіцца ў Музеі войска польскага ў Варшаве. Не стрымала імпэт аўтараў артыкула і намаляваная А. ван Вестэрфельдам у правым куце малюнка тумба-стэнд з вывай захопленых у казакаў харугваў і надпісам на латыні «Łoiow oppidum». Можна меркаваць, што мастак прадбачыў у будучым магчымыя спробы інсінуацый наконт перамог яго патрона — Я. Радзівіла — і месца, дзе яны былі дасягнуты, і непасрэдна на малюнку пакінуў асабісты знак, які б абараняў ад праяў фантазій на гэты конт. Тумба-стэнд на малюнку — гэта не проста скрыня са сцяжкамі і выпадковым надпісам, гэта знак мастака і сімвал вялікіх перамог ліцвінскага польнага гетмана пад Лоевам. А якую перамогу атрымаў Я. Радзвіл пад сценамі Любеча? Аніякай. Перамогі ў Лоеўскіх бітвах былі атрыманы на адлегласці амаль 40 км ад Любеча. У Любеч войска ВКЛ увайшло не адразу пасля Лоеўскай бітвы 6 ліпеня 1651 года, а праз некалькі дзён і без бою, таму што пры яго набліжэнні наказны палкоўнік Антон Марк з казакамі па просьбе жыхароў пакінулі Любеч[26]. На малюнку горад добра праглядаецца па перыметры. У ім адлюстра-

[23] Starozytności historyczne polskie. — T. 1. — Kraków, 1840. — S. 318.
[24] Кондратьєв, Ігор. Любецьке староство (XVI – середина XVII ст.). / І. Кондратьєв. — Чернігів, 2014. — С. 254.; Мицик, Ю. Лоїв у роки Національно-визвольної війни українського народу 1648—1658 рр. / Ю. Мицик. // Albaruthenika. — Студії з історії Білорусі. — Київ, 2009. — С. 149.
[25] Бондар, О. и др. Невідомий малюнок Любеча 1651 р. / О. Бондар і інш. // Сіверянський літопис. — 2015. — № 4. — С. 44—56.
[26] Wisner, H. Dzjalalnosc wojskowa Janusza Radziwilla, 1648—1655. / H. Wisner. // Rocnik Bialostocki. — Warsawa, 1976. — S. 86.




Абрахам ван Вестэрфельд. «Loiow oppidum».

вана адна царква, таму што ў Лоеве насамрэч у сярэдзіне XVII стагоддзя існавала толькі Свята-Троіцкая царква[27]. У гэты ж час у Любечы інвентары налічваюць дзве царквы, прычым парэшткі адной з іх былі выяўлены вядомым расійскім археолагам Б. Рыбаковым непасрэдна на замчышчы Любечскага замка[28]. Але і гэтыя абставіны чамусьці не патрапілі пад увагу аўтараў артыкула. У аснову сваёй версіі яны паклалі памылковае ўяўленне аб тым , што Лоеў быў спалены казакамі падчас вайсковых баталій 1649 года, і, маўляў, па гэтай прычыне ў Абрахама ван Вестэрфельда не было рэальнай магчымасці намаляваць Лоеў у 1651 годзе без сведчанняў яго спальвання. І сапраўды, у польскіх і расійскіх хроніках і мемуарах даволі часта сустракаюцца звесткі аб тым, што казакі рабавалі, палілі і забівалі. Але рабілі яны гэта выключна ў дачыненні да шляхты, касцёла, а таксама арандатараў і ліхвяроў-яўрэяў, якіх лічылі саўдзельнікамі эксплуатацыі. Казакі, у складзе якіх было шмат выхадцаў з Беларусі, ішлі не захопліваць, а вызваляць беларускіх сялян і мяшчан ад Польшчы і шляхецкай няволі, а тыя ахвотна прымалі казакаў у гэтай якасці, адчынялі брамы сваіх гарадоў і мястэчак, дапамагалі; многія з іх, у тым ліку і дробныя шляхцічы, «казачыліся» і паўставалі пад казацкія сцягі. У абставінах тагачаснай даволі шчыльнай драўлянай забудовы і саламяных дахаў у гарадах і мястэчках нават падпальванне замка магло прывесці да выгарання пасада, дзе жыло насельніцтва, скрозь лаяльнае да казакаў. Апошнія павінны былі ўлічваць гэтыя акалічнасці, каб не згубіць падтрымку мясцовага насельніцтва.

У беларускай гістарыяграфіі наогул не існуе дакладных сведчанняў таго, што падчас казацка-сялянскай вайны 1648—1651 гадоў казакі спальвалі беларускія паселішчы. У сувязі з гэтым ёсць падставы сцвярджаць: у гэтую вайну казакі не спальвалі Лоеў. Не паліў яго і Радзівіл, бо лаяўчане не аказвалі супраціўлення войску польнага гетмана. З гэтай прычыны можна меркаваць, што на малюнку «Łoiow oppidum» Лоеў адлюстраваны мастаком з натуры або па памяці, без яскрава бачных слядоў яго разбурэнняў. Гэтыя высновы пацвярджаюць і звесткі, знойдзеныя ў польскіх архівах украінскім навукоўцам Ю. Міцыкам аб тым, што з 20 верасня па 8 кастрычніка 1651 года Лоеў быў у аблозе казацкіх войскаў С. Падабайлы, але, дзякуючы абарончым збудаванням і мужнасці ліцвінскай залогі на чале з ротмістрам Аляксандрам Ябланоўскім, паспяхова вытрымаў аблогу[29].

7 ліпеня 1651 года пахавальная каманда ліцвінскага войска пахавала усіх забітых. Аддаючы пашану вядомаму казацкаму палкаводцу, Радзівіл распарадзіўся пахаваць Нябабу асобна, па казацкай традыцыі, у высокай магіле. Верагодна, пахаванне адбылося на старых могілках Рэпак, таму што загінуўшыя ў Лоеўскай бітве 31 ліпеня 1649 года былі пахаваны на старых праваслаўных могілках Лоева. Затым войска польнага гет-

[27] Вялікае Княства Літоўскае: энцыклапедыя: у 2 (3) т. — Т. 2. Мн, 2006. — 638 с. — С. 215.
[28] Мицик, Ю. Малознана люстрація українських земель 1628—1634 рр. / Ю. Мицик. // Киевская сторина. — 2010. — № 1. — С. 121—124; Рыбаков, Б. А. Замок. Археология СССР с древнейших времён до средневековья: Древняя Русь. Город, замок, село. / Б. А. Рыбаков. — М., 1985. — С. 95—96.
[29] Мицик, Ю. Лоів у роки Національно-визвольної війни українського народу 1648—1658 рр. / Ю. Мицик. // Albaruthenika. Студії з історії Білорусі. — Київ, 2009. — С. 149.

мана рушыла далей у чарнігаўскім накірунку і 9 ліпеня стала каля сцен Чарнігава. Радзівіл не стаў штурмаваць горад, у якім знаходзілася каля 40 000 абаронцаў, каб не губляць час і людзей. Яго войска павярнула на Любеч, а праз некалькі дзён зноў пераправілася на правы бераг Дняпра і каля Чарнобыля нанесла паражэнне аддзелам палкоўнікаў Антона Ждановіча і Філона Гаркушы, прымусіўшы іх у спешцы адступіць у кіеўскім накірунку, што зняла пагрозу флангавага ўдару па ліцвінскім войску з захаду. Шлях на Кіеў Радзівілу быў адкрыты. 4 жніўня 1651 года войска гетмана польнага ВКЛ Януша Радзівіла ўвайшло ў пакінуты паўстанцамі Кіеў.

Паход войскаў ВКЛ на Украіну рэзка змяніў суадносіны сіл у сцэне вайны ўкраінскіх казакаў з Польскай Каронай на карысць апошніх. Казакі страцілі ініцыятыву ў гэтай вайне і вымушаны былі заключыць неспрыяльны для сябе Белацаркоўскі мір 28 верасня 1651 года. У рэшце рэшт, каб захаваць парасткі дзяржаўнасці Украіны, гетман Хмяльніцкі і казацкая старшына пайшлі 18 студзеня 1654 года на саюз з Расійскай дзяржавай, вядомы ў гісторыі як Пераяслаўская рада.

## Два мядзведзі

Пройдзе чатыры гады пасля Лоеўскай бітвы 6 ліпеня 1651 года, і ВКЛ апынецца на мяжы страты сваёй дзяржаўнасці. Большая частка яе тэрыторыі разам з Вільняй патрапіць на пачатку вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—1667 гадоў пад расійскую акупацыю. У гэты ж час Польшча будзе весці цяжкую і няўдалую для яе Паўночную вайну (1655—1660) са Швецыяй. У гэ-




тай драматычнай сітуацыі Януш Радзівіл (вялікі гетман ВКЛ з 1654 года) у рамках свайго жыццёвага крэда зробіць адчайную стаўку на моцную тады ў ваенных адносінах Швецыю, каб з яе дапамогай вызваліць ВКЛ ад расійскіх войск і захаваць дзяржаўнасць Княства.

20—23 кастрычніка 1655 года ў радавым маёнтку Радзівілаў Кейданы (зараз г. Кедайняй Літоўскай Рэспублікі) з яго ініцыятывы ліцвінскі бок адмовіцца ад Люблінскай уніі з Польшчай і падпіша ваенна-палітычны саюз са Швецыяй, вядомы ў гісторыі як Кейданская унія. Але шведскі кароль не будзе спяшацца з дапамогай свайму новаму саюзніку — і той застанецца сам-насам з Расіяй. У гэтых абставінах большая частка вайсковай шляхты разам з польным гетманам Вінцэнтам Гансеўскім уздымуць рокаш у войску ВКЛ, створаць канфедэрацыю прыхільнікаў уніі з Польшчай у Вярбілаве і адмовяцца падтрымліваць свайго палкаводца[30]. Яны абвінавацяць вялікага гетмана ў памкненні ўсталяваць манархічнаую ўладу Радзівілаў у Княстве. Тады, застаўшыся з невялікай часткай вернага яму войска, Я. Радзівіл са шведскім войскам накіруюцца ў Падляшша, дзе яны зоймуць г. Тыкоцін. Там ён раптоўна памёр у апошні дзень снежня 1655 года. Існуе версія, што Януш Радзівіл быў атручаны: перад пахаваннем было заўважана, што яго цела пабралася чорнымі плямамі[31].

Смерць 43-гадовага палкаводца была жудаснай. Страціўшы прытомнасць, ён моцна стагнаў і роў, быццам у прадсмяротных відзежах бачыў сябе і Багдана Хмяльніцкага ў адной бярлозе ў вобразах мядзведзяў. Яны ў шаленстве рвалі і грызлі адно аднаго замест таго, каб паразумецца, дачакацца цёплага веснавога сонейка і разам выйсці на вольную прастору.

[30] Вялікае Княства Літоўскае: энцыклапедыя: у 2 (3) т. — Т. 2. — Мн, 2006. — 638 с. — С. 83, 501.
[31] Там жа. — С. 501.

**Святлана Воцінава**

## Як у лепшых дамах Парыжа

**Дом № 40 па вуліцы Карла Маркса ў Мінску — гэта не зусім тое самае, што дом № 17 па rue de Beaujolais у Парыжы: насупраць апошняга размешчаны Луўр, насупраць першага — манумент з танкам. У астатнім розніца невялікая. Прынамсі, агульнае знойдзецца значна лягчэй, чым можна пра гэта падумаць.**

Як памятаем, на rue de Beaujolais, 17, у размешчаны там рэстаран Le Grand Vefour, дзеля сваёй любімай стравы — грудзінкі маладога баранчыка, гарніраванай белай фасоляй, часта заходзіў пісьменнік Віктор Гюго. Зрэшты, як і многія іншыя зоркі літаратуры, жывапісу, музыкі і тэатра.

На Карла Маркса, 40 — у тагачасна-тамтэйшую рэдакцыю літаратурна-мастацкага часопіса «Маладосць» — заходзілі Пімен Панчанка і Янка Брыль, Генадзь Бураўкін і Васіль Зуёнак, Васіль Быкаў і Уладзімір Караткевіч, Рыгор Барадулін і Мікола Аўрамчык, мастакі Георгій Паплаўскі і Пятро Драчоў, кампазітар Лучанок і касманаўт Клімук — хто з новымі творамі, хто ў госці, а хто на штодзённую працу.

«Маладосць» у гэтым будынку займала чатыры пакоі. «У першым сядзелі галоўны з намеснікам, у другім — рэдактары аддзелаў паэзіі і прозы, у трэцім — адказны сакратар і аддзел культуры, у чацвёртым — самым шумным! — машыністка Ларыса Пятроўна Кунько з нязменнай цыгарэцінай у роце, аддзел публіцыстыкі, тэхрэд, карэктар і мастак, — успамінае Леанід Дайнека, адказны сакратар часопіса 1972—1988 гадоў. Між іншым, вось так пачнеш чытаць успаміны пра «Маладосць» — Дайнекі, Далідовіча, Бутэвіча, Камейшы ды іншых з тых, каму ёсць што ўспомніць вартае, — і пераканаешся яшчэ і ў тым, што і паміж часопісамі, беларускім і якім-небудзь французскім, калі яны абодва легендарныя, — розніца таксама ўмоўная. Ва ўсякім разе, не большая, чым паміж белай мачанкай і соусам бешамель.





Валерыя Ждановіч, якой яна была, калі пазнаёмілася з месцам, дзе працаваў яе тата.

←
Валянцін Ждановіч перад будынкам на К. Маркса, 40.

Святлана Воцінава. Як у лепшых дамах Парыжа

«Ага, ледзь не забыўся, — працягвае Дайнека, — у саменькім падвале меўся яшчэ пакойчык, дзе ў кампаніі апаратуры засядаў Валянцін Ждановіч — разумны хлопец і апантаны фатограф».

Зразумела, што ўсе «маладосцеўскія» зоркі — літаратуры і жывапісу, музыкі, тэатра і нават космасу — засталіся на здымках Валянціна Ждановіча. А яго працоўнае месца ў цокальным паверсе названага дома было акурат там, дзе цяпер знаходзіцца рэстаран «Кухмістр», у якім за рубель можна пакаштаваць страву пад назвай «Халяўкі» (гэта папросту накроены жытні хлеб з кружком салёнага гурочка і шматком сала «з прораззю» — смаката!), а за дваццаць — з'есці «Слуцкі кручонік» (загорнутае ў блінец філе птушкі з грыбамі); можна, згаладаўшыся, добра наесціся «Гарачай патэльняй» (бульба з сялянскай каўбаскай і грудзінка з зялёнай цыбулькай) або злёгку перакусіць румянай смажанкай пад «вечкам» з цеста «Таямніца старога войта» (начыненай ялавічынай, грыбамі і бульбай з морквай). Іншымі словамі кажучы, паспрабуй яшчэ вызначыць, дзе твая душа атрымае больш — у Le Grand Vefour на rue de Beaujolais, 17 у Парыжы ці ў «Кухмістры» на Маркса, 40 у Мінску: і тут і там прапануецца тое, што спалучае смак не толькі з эстэтыкай, але і з гісторыяй, ды толькі ў другога гісторыя наша.



Побач захоўваліся негатывы, сушыліся на вяроўках стужкі, а за імі размяшчаўся другі пакой, дзе можна было адпачыць.

## Idee fix

— Побач з фоталабараторыяй размяшчаўся буфет, і ўвесь ЦК хадзіў туды есці. Так што пераемнасць тут захаваная, — гаворыць Валерыя Валянцінаўна, дачка фатографа Ждановіча, спускаючыся со мною ў цемру пад лесвіцай — у цокальны ўзровень таго самага будынка на Маркса, 40. Цяпер яго аддалі БРСМ, а раней у ім размяшчаўся (разам з рэдакцыямі моладзевых выданняў) ЦК камсамола. То бок, пераемнасць падвойная. Але нас больш цікавіць падвал і «Кухмістр».

Валянцін Ждановіч тады паліў люльку.



Па ўспамінах Вольгі Дзітлавай, дачкі самага першага фатографа «Маладосці», запрошанага на гэтую пасаду самім Машэравым, вокны лабараторыі выходзілі «на вядомы манумент з танкам». «У раннім дзяцінстве, — піша Вольга Аляксандраўна для кнігі «Скрозь «Маладосць», выпушчанай да 60-годдзя выдання, — я вельмі любіла наведвацца да таты на працу. Летам мама проста падсаджвала мяне праз акно з вуліцы».

Сям'я Ждановічаў, не маючы ніякай кладоўкі ў сваёй кватэры, захоўвала тут, у фоталабараторыі, палатку, спальнікі і ўсё астатняе, патрэбнае для падарожжаў, і калі трэба было загрузіць гэта ўсё ў машыну, то іх «Запарожац» заязджаў у двор. Працэс загрузкі маленькая Валерыя назірала кожны раз праз акно. Гэта акно яна і хацела цяпер знайсці. Але яно, відаць, належыць кухні «Кухмістра».

Мы спусціліся ў цемру пад лесвіцай, каб знайсці сляды мінулага і ўбачыць, як і дзе яны накладаюцца на сучаснасць. І хоць нічога гэта не дало, хоць нам зрабілі заўвагу за швэнданне дзе не трэба, хоць трапіць у «Кухмістр» — да несумненнага спадкаемца легендарнай фоталабараторыі «Маладосці» — можна цяпер толькі з вуліцы праз асобны ўваход, хоць няма тут ніякіх ранейшых яе слядоў (а замест рэактываў пахне піражкамі і дранікамі), але вандроўка ў мінулае нам забяспечана — дзякуючы нават толькі намеру яе здзейсніць. І аповеду Валерыі Ждановіч.

## Portas aeternitatis

— Каб трапіць у памяшканне да бацькі, трэба было спусціцца пад лесвіцу. Можна лёгка ўявіць пачуцці дзіцяці, якому кажуць: «Пойдзем у бомбасховішча». Якая я тады была, чатырохгадовая, відаць на фотаздымку. Мы ішлі сходамі ўніз, было цемнавата, адчуваўся своеасаблівы пах, які, скажу шчыра, даваўся ў знакі, бо тата тады паліў люльку, а былі ж яшчэ і цыгарэты «Беламор», і ўсё гэта з хімрэактывамі і паперай давала непаўторнае спалучэнне.

Дзверы былі рыпучыя, а падлога патрабавала асцярожнай хады, бо хоць і была яна паверсе заслана ДСП, але ў адным месцы пад ім хавалася прагнілая яміна, і тата папярэджваў: тут ступаць не трэба — можна праваліцца.

Мне ўсё тут падабалася. Тата меў два пакоі. Першы — цесны, лабараторны, у ім стаялі адна за адной тры ванны — для праяўкі, прамыўкі і замацавання фотаздымкаў. У другім баку ад увахода размяшчаўся стол з фотапавелічальнікамі. Іх было два: адзін большы — для шырокафарматных здымкаў, другі меншы — для партрэтных, дробных. Былі яшчэ і антрэсолі: на іх стаялі хімрэактывы ў здаравенных бутлях з намаляванымі чэрапам і касцямі. Тата мне растлумачыў: «Атрута». Побач

захоўваліся негатывы, сушыліся на вяроўцы стужкі, а за імі размяшчаўся другі пакой, дзе можна было адпачыць, паслухаць радыё, пагутарыць. Тата часта затрымліваўся ў лабараторыі да ночы, таму што такога шчасця, якое фатографы маюць сёння, валодаючы «лічбай», тады не было, і праца патрабавала шмат часу. Тата, захоплены эксперыментамі, якія ён праводзіў з рознымі фільтрамі, каляровай паперай і цікавымі тэхнікамі, мог заставацца тут да раніцы. Быў час, калі мы не мелі свайго жытла, і гэта таксама паўплывала на тое, што фоталабараторыя стала для яго другім домам. Ён купіў сюды старую канапу, якую ўжо збіраліся везці на летнік. Канапа была гарбатая — я на ёй сядзець не магла, а ён там яшчэ спаў.

У фоталабараторыі заўсёды віравала жыццё. Таму, што немагчыма было трапіць у «Маладосць», мінуўшы гэтую браму неўміручасці, дзе цябе павінны былі назаўсёды адлюстраваць у партрэце, — і часам гэта быў першы прафесійны партрэт, які суправаджаў першую публікацыю аўтара. Можна сказаць, што бацька, як Святы Пётр, адчыняў сваім ключом вароты ў літаратуру.

Стаяла тут і драўляная бочачка з кранікам — сувенір, прывезены з паездкі па Закарпацці. Яна прызначалася для віна, але стаяла навідавоку для ўсіх, хто сюды прыходзіў, — каб кожны мог пакінуць аўтограф. Аднойчы ў яе захацелі наліць віна — і аказалася, што на такую ролю яна непрыдатная: цячэ з усіх бакоў.

На той час у бацькі было вельмі зайздроснае становішча: мала што лабараторыя на два пакоі, дык яшчэ Генадзь Бураўкін «выбіў» яму праз ЦК камсамола адзін з дваццаці камплектаў тэхнікі Nikon. Гэтыя дваццаць кілаграмаў апаратуры каштавалі тады 20 000 долараў, і бацька смяяўся, што ў сваім «Запарожцы» возіць «Мерседэс». Яму дасталася механічная камера, а некаторым яго калегам — электронныя. Ну, электроніка праслужыла нядоўга, а механікі хапіла на ўсю татаву кар'еру ў «Маладосці». Аднойчы на слізкай дарозе, вяртаючыся з Палесся, «Запарожац» перакуліўся, і куфры з фотаапаратурай павыпадалі проста на дарогу — бацька ішоў і збіраў іх часткамі. Канечне, засталіся шчарбінкі, але майстар Валодзя Маеўскі вярнуў «японца» да жыцця, і той працягваў служыць верай і праўдай.



Васіль Зуёнак і Уладзімір Кавалёнак.

Сюды да бацькі часта заходзілі мастакі Яўген Кулік і Пятро Драчоў. Апошні, як памятаю, заходзіў наўпрост з суседняга пакоя: рэдакцыя часопіса «Бярозка» размяшчалася тут жа, у гэтым доме.

Чырвоны ліхтар, таймер, чорныя шторы. Святло выключалася, ішла праяўка плёнкі. А потым у чырвоным святле можна было паглядзець, як з'яўляецца на паперы твар. Здымак трапляў у ванну з замацавальнікам, потым доўга мыўся ў вадзе і пасля перакладаўся на класічную люстраную пукатую электрафотасушылку. А напрыканцы мне давалі гільятынай адсекчы краі.

Тое, што цяпер даверана фоташопу, тады рабілася ўручную. Я, памятаю, была ў захапленні ад пэндзлікаў мастакоў. У Драчова я іх бачыла штук пяцьдзясят. Былі сярод іх такія тоненькія, як адна валасіначка, дзецям іх ніхто не даваў, бо толькі ў Саюзе мастакоў можна было іх набыць. Канечне, праца са здымкамі была тады філігранная.

Ігар Лучанок і Генадзь Бураўкін.








Дзіўна, што, калі тата памёр і я прынесла яго здымак у фотаатэлье, каб замовіць партрэт накшталт такіх, якія рабіў ён, — лішняе святло адсякаючы рукамі перад негатывам і ствараючы такім чынам авал, мне сказалі, што гэта вельмі дарага і патрэбна спецыяльная тэхніка. Мы тады спяшаліся, і, як шавец без ботаў, тата застаўся без партрэта, які сам зрабіў бы за пяць хвілін. У той час — 1992 год — пачыналася тэхнічная рэвалюцыя, і там, куды мы прыйшлі, з'явіўся ўжо фоташоп. Бацька ж кадрыраваў здымкі рукамі, вычароўваў імі размыты фон. Ён, увогуле, сачыў за прагрэсам. Як чалавек, прывязаны да тэхнікі, ён усё, што мог, асвойваў. Дома ў нас была пішучая машынка, перааробленая на беларускі шрыфт. Ён не належаў да тых, каму асадкай пісаць зручней, бо натхненне, маўляў, хутчэй прыходзіць. Ён упарта кляпаў свае артыкулы аднай рукой, але на машынцы. Бо і почырк у яго быў жудасны — рэдакцыйныя машыністкі адмаўляліся набіраць яго тэксты.

## More majorum

Мы сядзім за столікам у «Кухмістры». Валерыя Ждановіч засяроджваецца на чарговым здымку, выцягнутым са стоса бацькавых работ, якія яна захапіла з сабой у вялікай колькасці.

— Партрэт Яўтушэнкі. Таксама бацька здымаў. Была з Яўтушэнкам цэлая стужка... А гэта прыезд у рэдакцыю Пятра Клімука, першага беларускага касманаўта. Падзея была значная, пазней тата ездзіў да яго ў Зорны Гарадок, нават выйграў прэмію за лепшы фотаздымак на конкурсе фота года... А на гэтым фота Васіль Зуёнак размаўляе з Уладзімірам Кавалёнкам. Ён таксама прыходзіў у рэдакцыю, але гэта была ўжо іншая гісторыя, настрой не той... І "Маладосць" перажывала ўжо спад... Тут акцёры Купалаўскага...

У гэтых сценах акцёры Купалаўскага як бывалі тады, так і цяпер бываюць. Толькі нагода ўжо іншая: адпачыць ва ўтульным інтэр'еры пад добрую музыку і пакаштаваць смачныя стравы з мілымі беларускаму вуху назвамі — салат «Паланэз», гарбузянку, цярцюху...

Шыльда рэстарана беларускай і літвінскай кухні з'явілася тут у ліпені 2011 года. Назву «Кухмістр» прыдумаў Алесь Белы, культуролаг і гісторык, знаўца спрадвечных кулінарных традыцый з бачаннем таго, як іх можна прымусіць працаваць на наша культурнае сёння і заўтра. Вядомы як пісьменнік-публіцыст, аўтар і ўкладальнік «Нашай стравы» і іншых «смачных старонак» — у «Кухмістры» ён брэнд-менеджар. Вось вам ілюстрацыя новага беларуса — не памяркоўнага ціхмянца, жыццё якога падпарадка-

вана агульнай плыні пад сцяжкамі «а мо так трэба?» і «я, як усе», не бунтара-завадатара-падбухторшчыка, якому абы насуперак і ўсё не так, не скандаліста за нейкае нешта, што ён яшчэ ці здолее сфармуляваць, а грунтоўнага, паслядоўнага беларуса — з меркаваннем і перакананнем, багатага на ўласныя ідэі і цягавітага ў іх рэалізацыі, беларуса без стогнаў і лозунгаў, беларуса слова і справы. Такіх наш час пакрысе нараджае.

— Для нас і танк на пастаменце насупраць як сімвал вызвалення Мінска, і тое, што ў доме побач жыў кампазітар Ісаак Любан, які напісаў «Бывайце здаровы, жывіце багата», і Купалаўскі тэатр з яго рэпертуарам і акцёрамі — усё падставы для гонару, — гаворыць Алесь. — Мы абжываем гэта месца не толькі на сваю карысць, але і на карысць горада і краіны. Імідж іх, такім чынам, ствараюць і рэстаратары. Гэта, канечне, патрабуе грашовых і эмацыйных выдаткаў. Але мы шчаслівыя тым, што практыкуем сумленнае стаўленне да сваёй спадчыны. І не толькі гастранамічнай.

Ужо больш за год у сусветным рэстаранным рэйтынгу Trip Advisor «Кухмістр» займае пазіцыю № 1 сярод амаль 550 мінскіх рэстаранаў і кавярняў. Некалі ў гэтых сценах працавалі лепшыя фотамайстры — спачатку Аляксандр Дзітлаў, пасля Валянцін Ждановіч, а цяпер тут ствараецца лепшае з таго, што, прызнайма чэсна, нельга лічыць адно толькі ежай для цела. Кулінарыя заўсёды была нечым сакральным — нашмат больш, чым будзённым, і нечым узвышаным — больш, чым зямным. Смачная страва наталяе не толькі голад, ці, дакладней, не толькі той голад, ад якога няўтульна страўніку, але і той, ад якога пакутуюць пачуцці і думкі. Пры складанні меню рэстарана «Кухмістр» адбываўся, як кажа Алесь Белы, кампраміс паміж заглыбленнем у аўтэнтычную гісторыю, працягам традыцый савецкага часу і маркетынгавым прагматызмам.

— Назвы страў у нас або глыбока традыцыйныя, або, так скажам, з прэтэнзіяй на гістарызм. Падыходзячы да справы як акуратны гісторык, я настойваў на тым, каб суп з ячневымі крупамі быў у нас крупнікам, а суп-крэм з гарбуза — гарбузянкай. Але ёсць у нашым меню назвы какетлівыя, хоць і трошкі з нацяжкай — накшталт дэсерту «Сакрэт Марысенькі». Марысенька, жонка Яна Сабескага, любіла апельсіны, а ў яе ліставаннях з мужам апельсін выступае як эратычная метафара. У рэцэпце нашага флагманскага дэсерту «Сакрэт Марысенькі» прысутнічае печаная груша, шарыкі марозіва, палачкі са слоенага цеста і апельсінавы джэм. Ёсць страва з кураціны



пад журавінавым соусам, пра якую я трохі падумаў і назваў яе гарэзліва — «Зажураны Пятрусь». Вакол журбы і журавінаў, пеўня і Петруся. Нешта ў нас абавязкова перагукаецца са шляхецкім XIX стагоддзем, і маё тут жаданне — каб гэтага было яшчэ больш. Але трэба ўсё ж азірацца на публіку — наколькі яна гатова прымаць такі кампраміс паміж эстэтычным і гістарычным.

Чалавеку, які прыехаў у Мінск, нічога не ведаючы пра Беларусь, варта толькі трапіць на абед у «Кухмістр» — і праз меню ён атрымае сціслыя, але ёмістыя гістарычныя звесткі пра гісторыю і сімвалізм нашых страў.

— Зразумела, што ёсць тут рызыка стаць занадта назойлівымі, у эпоху кліпавага мыслення пачаць раздражняць людзей. Беларусаў у нас бывае, можа, трохі менш, чым іншаземцаў ці беларусаў, што прыйшлі з іншаземцамі. Нашы людзі пакуль што не так сур'ёзна ставяцца да айчыннай гастранамічнай культуры. Да італьянскай ці японскай яны ставяцца больш прыхільна, а наш такі ўдумлівы падыход, як ні дзіўна, некаторых суайчыннікаў раздражняе. Лепшыя адзнакі нам ставяць англамоўныя наведвальнікі, трошкі горш ацэньваюць рускія, а найгоршыя атрымліваем ад беларусаў. Такія рэаліі.

Гэта адсылка да тых беларусаў, якім абы насуперак і ўсё не так, да беларусаў, якія прывыклі стагнаць і скардзіцца без прычыны, з якіх не гісторыя ствараецца, а складаюцца анекдоты. Што да «Кухмістра», то ідэалогія тут упэўненая і добра ўкаранёная. Хоць Алесь Белы і кажа, што карані ў такой сімвалічнай прасторы хочацца пусціць яшчэ глыбей.

Да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання

праект

# «ВАРШТАТ»

**Стагоддзе:** XX

**Акалічнасці:** сакрэтная пастанова «Аб павышэнні адказнасці кіраўнікоў органаў друку, радыё, тэлебачання, кінематаграфіі, устаноў культуры і мастацтва за ідэйна-палітычны ўзровень друкаваных матэрыялаў і рэпертуару»

**З'явы:** загадка веку «Сказ пра Лысую Гару»

**У выпуску:**

- Аляксандр Гужалоўскі. Парнас пад цэнзурным кантролем у «эпоху застоя» (пачатак)
- Мікола Чарняўскі. Быў час, быў век, была загадка



**цяы хфтфцяюшюпб ю янфцфахе л рўяны**

**Аляксандр Гужалоўскі**

# Парнас пад цэнзурным кантролем у «эпоху застоя»

Кастрычніцкі пленум ЦК КПСС 1964 года, суд над пісьменнікамі А. Сіняўскім і Ю. Даніэлем, наданне Галоўліту статусу Упраўлення Савета Міністраў СССР вызначылі пераход да перыяду застою ў савецкай літаратуры. Змена палітычнага курса была канчаткова замацавана 7 студзеня 1969 года, калі сакратарыят ЦК КПСС прыняў сакрэтную пастанову «Аб павышэнні адказнасці кіраўнікоў органаў друку, радыё, тэлебачання, кінематаграфіі, устаноў культуры і мастацтва за ідэйна-палітычны ўзровень друкаваных матэрыялаў і рэпертуару». Сутнасць яе была ў тым, каб частку адказнасці за ідэалагічны змест СМІ і мастацкай прадукцыі перакласці непасрэдна на кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў і рэдакцыйных калектываў. Тлумачыўся гэты захад умовамі «сацыялістычнай дэмакратыі», у якіх цэнзурныя органы павінны былі займацца абаронай толькі дзяржаўных і ваенных тайн. Усталяваны сакрэтнай пастановай парадак ствараў цяжкую маральную атмасферу ў творчых калектывах. Іх кіраўнікі былі вымушаны выбіраць паміж уласнай пасадай і сумленнем. Галоўліт са свайго боку таксама ўзмацніў палітычнае цэнзураванне тэксту, забараняючы згадваць не толькі імёны і паняцці, але і цэлыя гістарычныя з'явы, напрыклад, культ асобы.

У 1969 годзе заява пра адсутнасць свабоды думак і творчасці, пра пераўтварэнне літаратуры ў казённага прапагандыста партыйных догмаў каштавала пасады дацэнту кафедры рускай класічнай літаратуры БДУ І. С. Шпакоўскаму. Быў выключаны з КПСС і звольнены з працы за адкрытыя пратэсты супраць цэнзуры і акупацыі Чэхаславакіі загадчык аддзела нарысаў і публіцыстыкі часопіса «Нёман» Ф. А. Яфімаў. 20 снежня 1969 года старшыня КДБ СССР Ю. У. Андропаў інфармаваў ЦК КПСС пра палітычна нездаровыя настроі беларускіх пісьменнікаў А. Карпюка і В. Быкава.

Вось як апісвае духоўны клімат у краіне на пачатку перыяду застою В. Быкаў: «Падобна, у краіне махнулі кіраўнічай рукой на эканоміку, прамысловасьць, на далейшы ўздым сельскай гаспадаркі і ўзяліся за любімы канёк — уздымаць ідэалёгію. З поваду ідэалёгіі праводзіліся пленумы ўсіх узроўняў, творчых саюзаў; рэдакцыі і выдавецтвы ўмацоўвалі выпускнікамі ВПШ ды АГН. Неверагодных памераў дасягнулі Галоўлiты, сьпісы забароненых тэмаў і зьвестак набылі таўшчыню тэлефонных даведнікаў. У рэдакцыях і выдавецтвах галоўным чалавекам стаў цэнзар, які прыдзірліва мацаў кожны радок і пры парушэньні дакладваў наверх, каб апэратыўна зрабіць аргвывады. Прапагандовым апаратам было вынайдзена ёмістае і ўнівэрсальнае азначэньне: ідэалягічныя дывэрсіі. Для іх выяўленьня пры кожным парткаме працавалі ідэалягічныя камісіі, якія таксама выносілі свае вэрдыкты».

Быкаў добра ведаў, што такое ідэалогія «развітога сацыялізму» з уласнага вопыту. У гэты час атрымала працяг цэнзурная гісторыя яго аповесці «Мёртвым не баліць». У. М. Сеўрук, адказны за цэнзуру намеснік загадчыка ідэалагічнага аддзела ЦК КПСС, пільна сачыў за тым, каб пра апальны твор нідзе не было нават згадак. Па яго загадзе з ужо

### Пра незразумелыя літаркі на вокладцы праекта «Варштат»

*З нумара ў нумар, ад студзеня да снежня 2017-га на вокладцы сур'ёзнага праекта, прысвечанага значнай даце, размяшчаецца абракадабра?!*

*Ніякая не абракадабра, а… арбадакарба. Баараракадрба. Аьматацаьма. F,hfrflf,hf. Бвсблбебвсб. Што мы выкарысталі для зашыфроўкі такога простага слова «абракадабра» — тарабарскую грамату, мудрую літарэю, шыфр пад назвай ROT1, іншыя перастановачныя ключы?*

*На вокладцы нашага праекта размяшчаецца не абракадабра, а зашыфраваная частка выказвання. Займець цэлы зашыфраваны выраз магчыма толькі пры чытанні ўсіх нумароў «Маладосці» за год. Сабраўшы часткі ў парадку, які супадае з нумарацыяй часопіса, знайшоўшы ключ і расшыфраваўшы выказванне, можна атрымаць ад «Маладосці» шыкоўны прыз!*

*Месца выдачы прызоў — рэдакцыя «Маладосці». Тэрмін выдачы: 25— 31 снежня 2017 года.*

гатовага тыражу кнігі выбраных твораў В. Быкава «Дожить до рассвета» (Москва, 1979) адбіраліся старонкі з пасляслоў'я В. Аскоцкага, дзе гаварылася пра «Мёртвым не баліць». Аўтара кнігі «Василь Быков: Очерк творчества» (Москва, 1979) Л. Лазарава ён таксама прымусіў зняць усе спасылкі на гэтую аповесць. Падчас падрыхтоўкі ў 1984—1985 гг. у «Молодой гвардии» быкаўскага чатырохтомніка «Атака с ходу», «Мёртвым не баліць» таксама ўключана не была. Нарэшце рукамі супрацоўнікаў маскоўскага і мінскага Галоўлітаў У.М. Сеўрук спрабаваў выкінуць твор з беларускага чатырохтомнага збору твораў пісьменніка. Але намаганнямі дырэктара выдавецтва «Мастацкая літаратура» М. Ф. Дубянецкага «Мёртвым не баліць», хаця і ў знявечаным выглядзе, але ўсё ж была ўключана ў 1982 годзе ў апошні том.

Галоўліт БССР выказаў свае заўвагі рэдакцыі і запярэчыў публікаванню ў 1968 годзе ў часопісе «Полымя» без грунтоўнай перапрацоўкі аповесці В. Быкава «Круглянскі мост». Цэнзараў насцярожыў лёс героя аповесці — 18-гадовага байца аднаго з партызанскіх атрадаў, сына паліцая Сцёпкі, які па волі камісара ідзе на верную смерць. У наступным годзе галоўны рэдактар часопіса «Полымя» П. Н. Кавалёў усё ж адважыўся на публікацыю твора — пасля пэўных яго «аўтарскіх дапрацовак», а таксама атрымаўшы падтрымку былога партызана, сакратара ЦК КПБ па ідэалогіі С. А. Пілатовіча. Дапамагла таксама станоўчая рэцэнзія на аповесць, дадзеная галоўным рэдактарам газеты «Літаратура і мастацтва» былым палітработнікам Л. Я. Прокшам. Але пасля выхаду «Круглянскага маста» ў тым жа годзе на рускай мове ў часопісе «Новый мир» на В. Быкава абрынуўся шквал крытыкі з боку былых чэкістаў і партызанскіх генералаў.

Навучаны гэтым горкім вопытам П.Н. Кавалёў, атрымаўшы ў 1970 годзе негатыўны водгук цэнзара на аповесць «Сотнікаў», наадрэз адмовіўся яе публікаваць. Рашэнне рэдактара не змяніла нават з'яўленне яе рускага перакладу ў «Новом мире» [Нёман. — 1970. — № 5]. Беларускіх літаратуразнаўцаў у цывільным надта раздражняў адыход аўтара ад тагачаснай чорна-белай канцэпцыі вайны. І толькі пасля таго, як прызначаны рэдактарам рукапісу Б. Сачанка зрабіў Сотнікава камуністам, пытанні зняліся і ў П. Н. Кавалёва, і ў Галоўліта, і ў ЦК КПБ.

Наконт аповесці В. Быкава «Воўчая зграя», звярстанай у сёмым нумары часопіса «Маладосць» (1974), Галоўлітам БССР рабіліся заўвагі ў сувязі з тым, што ў ёй «няслушна» трактаваліся прычыны здрадніцтва: «…здрадніцтва апраўдвалася жаданнем людзей выратавацца ад смерці, выжыць любой цаной, неабходнасцю выканання загаду нямецкіх уладаў, гэта значыць, здрадніцтва сыходзіла не з характару чалавека, а з непазбежнасці абставінаў, якія склаліся, вызначалася нібыта наканаванасцю лёсам». Цэнзары звярнулі таксама ўвагу і на тыя месцы аповесці, дзе праводзілася думка аб неапраўданых расстрэлах партызан іх камандзірамі, якія кіраваліся пры гэтым не дакладна праверанымі фактамі і ўпэўненасцю ў поўнай вінаватасці чалавека, а толькі тым, што такі падыход да вырашэння лёсу байца «не дасць ніякіх сюрпрызаў». Уносіліся змены ў тыя старонкі, дзе карныя экспедыцыі супраць беларускага мірнага насельніцтва былі паказаны як акцыі, што праводзіліся выключна паліцаямі з мясцовага насельніцтва без немцаў і нават без іх загаду. На думку цэнзуры, «…атрымлівалася, быццам бы вайна на тэрыторыі Беларусі ў гады нямецка-фашысцкай акупацыі ішла паміж сваімі, а немцы да гэтага не мелі ніякага дачынення».

Падчас кантролю 11-га і 12-га нумароў часопіса «Маладосць» (1975) цэнзары звярнулі ўвагу яго рэдактара на негатыўную трактоўку вобраза генерала ў аповесці В. Быкава «Яго батальён». Гэты прадстаўнік вышэйшага камандавання не лічыўся з абставінамі і паслаў на верную пагібель цэлы батальён. «Міжволі паўстаюць пытанні, — пісаў цэнзар, — хто вінаваты ў пагібелі цэлага батальёна, навошта быў дадзены загад штурмаваць вышыню без усялякай папярэдняй падрыхтоўкі? І адказ можа быць толькі адзін: вінавата вышэйшае камандаванне, вінаваты генералы. Гэта яны, галавацяпы, перашкаджаюць ваяваць з розумам, ваяваць пісьменна, ваяваць так, каб і перамогу атрымаць, і людзей па магчымасці захаваць». З гэтай заўвагай рэдакцыя часопіса пагадзілася — і ў аповесць былі ўнесены адпаведныя праўкі.

Аповесць В. Быкава «Знак бяды» была ўпершыню надрукавана ў часопісе «Полымя» [Полымя. — 1982. — № 8]. Потым ужо з часопіса «Дружба народов» Галоўлітам СССР яна здымалася двойчы.

Магчымасць яе рускамоўнага перакладу ў Маскве абмяркоўвалася на самым высокім узроўні — у Палітбюро ЦК КПСС. Былы прэс-аташэ М. С. Гарбачова А.С. Грачоў у сваіх успамінах пісаў, што ў Палітбюро разгарнулася дыскусія паміж старшынёй КДБ СССР В.М. Чэбрыкавым, які патрабаваў забараніць аповесць як «падкоп пад калектывізацыю», і М.С. Гарбачовым, які лічыў яе «знакам вясны, абнаўлення, дэмакратызацыі». Аповесць дазволілі друкаваць у часопісе «Дружба народаў», але папярэдне цэнзура з яе прыбрала найбольш вострыя месцы. А калі аповесць падрыхтавалі да выдання асобнай кнігай, то па патрабаванні сакратара ЦК КПСС Я. К. Лігачова з яе былі зноў выкінуты сцэны раскулачвання і высылкі. Па словах аўтара, «цэнзары выдатна адчувалі, дзе быў “знак бяды”, і дужа імкнуліся, каб таго не сьцяміў чытач». Галоўліт нават патрабаваў зняць з супервокладкі кнігі выяву забітай птушкі як надта змрочны сімвал.

Адным з першых надыход «халадоў» таксама адчуў на сабе сябра В. Быкава — А. Карпюк. Ён упарта бараніў сваю чалавечую годнасць, права вольна выказваць свае думкі. Пачатак закручвання ў БССР ідэалагічных гаек супаў з перадрукам у 1965 годзе ў беларускай эмігранцкай газеце «Бацькаўшчына» надрукаванай у часопісе «Маладосць» [Маладосць. — 1965. — № 2] яго аўтабіяграфіі пад назвай «Мая Джамалунгма». З гэтай нагоды для размовы ў ЦК КПБ выклікалі галоўнага рэдактара «Маладосці» П. Панчанку і адказнага сакратара СП БССР М. Ткачова. А 24 верасня 1965 года ЦК ЛКСМБ прыняў спецыяльную пастанову «Пра памылку часопіса “Маладосць”, які надрукаваў аўтабіяграфію А. Карпюка», дзе літаратурны твор назвалі «ідэйна шкодным і па-мастацку непаўнавартасным». Тым не менш А. Карпюк не захацеў адмаўляцца ад гэтага твора, натхнёнага ліберальнымі ідэямі часоў «адлігі». У выніку яго звольнілі з працы і ўключылі ва ўсе магчымыя чорныя спісы.

Адыход ад рэальнай карціны жыцця і скажонае адлюстраванне савецкага Палесся Галоўліт знайшоў у эсэ Ул. Караткевіча «Званы ў прадоннях азёр». Нягледзячы на шэраг заўваг адносна асобных месцаў гэтага твора, зробленых пры чытанні папярэднім кантролем, нарысы былі надрукаваны ў 12-м нумары часопіса «Маладосць» за 1969 год без перапрацоўкі і выпраўленняў. Начальнік Галоўліта адразу ж сігналізаваў у ЦК: «Хаця паводле жанру гэты твор (эсэ) з'яўляецца навукова-гістарычным публіцыстычным нарысам, лічым, што аўтар аднабакова падышоў да паказу сённяшняга Палесся, сканцэнтраваў увагу чытача на другасных з'явах, а не на галоўных. Захапленне аўтара даўнінай і помнікамі, яго занепакоенасць іх захаванасцю былі б цалкам зразумелыя, калі б Ул. Караткевіч усё гэта паказаў не ў адрыве ад апавядання аб новым сучасным абліччы гарадоў Палесся, аб тым, якія пераўтварэнні адбыліся за гады Савецкай улады ў гэтай некалі забытай ускраіне Расіі. Падчас чытання нарыса ж ствараецца ўяўленне, што не людзі, іх справы і духоўны рост, а помнікі даўніны складаюць галоўны твар, галоўны гонар гэтага краю».

Падобныя ж прэтэнзіі («ідэалізацыя жыцця і побыту вёскі») з'явіліся ў цэнзара Б. А. Сіланцьева, які ў 1977 годзе чытаў гранкі кнігі Ул. Караткевіча «Зямля пад белымі крыламі». Аргумент яго быў такі: «У гады вайны я быў у многіх беларускіх вёсках (хадзілі з маці па міласці) і бачыў усю іх галечу…».

З надыходам застойнага часу зрабілася немагчымым выкананне аўтарскай задумы трэцяга рамана І. Мележа з цыкла «Палеская хроніка». Калі першыя два выйшлі ў 1962 і 1966 гадах без асаблівых цэнзурных канфліктаў, то праца над раманам «Завеі, снежань» расцягнулася на дзесяцігоддзе. Тлумачылася гэта шчырым імкненнем і ў той жа час немагчымасцю паказу рэальных фактаў гвалтоўнага раскулачвання, якія аўтар сам бачыў у дзяцінстве. У выніку раман з'явіўся ў друку з асабістага дазволу сакратара ЦК КПБ А. Т. Кузьміна ўжо пасля смерці аўтара ў моцна прыгладжаным самацэнзурай і цэнзурай выглядзе.

У 1965 годзе Галоўліт зняў па палітычных меркаваннях з чацвёртага нумара часопіса «Маладосць» апавяданне маладога аўтара Б. Сачанкі «Сабакі». Цэнзар сфармуляваў сэнс забароненага апавядання наступным чынам: «Немцы і партызаны былі мясцоваму насельніцтву аднолькава чужыя». Праз дзесяць гадоў Галоўліт прапанаваў выдавецтву «Мастацкая літаратура» ўдакладніць ідэйную аўтарскую пазіцыю ў ацэнцы дзеянняў героя ўжо ў рамане «Чужое неба». У цэнтры твора — лёсы двух беларускіх сялян, якія апынуліся на акупаванай тэрыторыі ў гады апошняй вай-

ны. Адзін пайшоў у партызаны — і яго сям'ю расстралялі, другі падпарадкаваўся абставінам, якія склаліся, — і захаваў жыццё сваякоў. «Хто з іх абраў слушны шлях? На баку каго сімпатыі аўтара?» — запытваў цэнзар у рэдактара. Пагадзіўшыся з важнасцю гэтых пытанняў і зрабіўшы некаторыя нязначныя праўкі, выдавецтва тым не менш здолела надрукаваць раман без удакладнення аўтарскай пазіцыі.

Няпростыя адносіны з цэнзурай былі ў беларускага паэта і перакладчыка В. Тараса. Адно з яго першых апавяданняў «Апошняя карова» было выкінута папярэдняй цэнзурай з гранак часопіса «Нёман» [Нёман. — 1966. — № 1]. У ім аўтар згадваў тое, што бачыў у дзяцінстве ў партызанскім атрадзе, байцы якога, каб пазбегнуць голаду, забралі ў безабароннай сялянкі апошнюю карову. Праз тры гады гэта апавяданне надрукаваў часопіс «Юность», пасля чаго яно атрымала міжнародную вядомасць.

З вялікімі цяжкасцямі падчас праходжання праз цэнзуру ўласных, наватарскіх паводле зместу і метаду, мастацкіх твораў сутыкаўся А. Адамовіч. Ужо ў 1969 годзе загадчык аддзела культуры ЦК КПБ С. В. Марцэлеў дакараў А. Адамовіча за надрукаваны ў 3-м і 4-м нумарах часопіса «Полымя» крытычны артыкул, дзе ён паспрабаваў агульнасцю ідэйна-мастацкай праблематыкі аб'яднаць такіх непадобных адно да аднаго пісьменнікаў, як Ф. Дастаеўскі і К. Чорны, і ад іх працягнуць лінію да сучаснай філасофіі экзістэнцыялізму. У сярэдзіне 1970-х гг. партыйнае кіраўніцтва Ленінграда катэгарычна адмовілася друкаваць рукапіс яго «Блакаднай кнігі» (сумесна з Д. Граніным). Маскоўская ж цэнзура накіравала рэдакцыі «Нового мира», якая прыняла тэкст да публікацыі, ажно 65 заўваг. У рукапісе дакументальнай аповесці А. Адамовіча «Карацелі» ўжо беларускія цэнзары звярнулі ўвагу на месца, дзе праводзілася, на іх думку, нічым неапраўданая аналогія жорсткасці нацыстаў з унутранымі падзеямі ў камуністычных Кітаі і Камбоджы 1970-х гадоў.[1]

Складаныя адносіны з цэнзурай ад пачатку творчага шляху склаліся ў С. Алексіевіч, якая развівала дакументальна-мастацкі метад. Набор яе першай кнігі «Я уехал из деревни» (маналогі людзей, якія з'ехалі з родных мясцін) быў рассыпаны па загадзе ідэалагічнага кіраўніцтва рэспублікі. У 1983 годзе беларускія ідэолагі зноў абвінавацілі яе — на гэты раз ужо ў пацыфізме, натуралізме, развянчанні гераічнага вобразу савецкай жанчыны ў толькі закончаным рукапісе кнігі «У войны не женское лицо». Публікацыя яго была прыпынена. У наступным годзе такі ж лёс напаткаў рукапіс «Последние свидетели». Абедзве кнігі ўбачылі свет з цэнзарскімі і рэдактарскімі купюрамі ў 1985 годзе, а ў аўтарскай версіі — ужо ў 2000-я гады.

> 24 верасня 1965 года ЦК ЛКСМБ прыняў спецыяльную пастанову «Пра памылку часопіса "Маладосць", які надрукаваў аўтабіяграфію А. Карпюка»

Значныя складанасці з праходжаннем праз Галоўліт БССР знакамітай кнігі «Память о легендах» былі ў К. Тарасава. У выніку вытручвання тых месцаў, што не ўкладаліся ў марксісцкую канцэпцыю гісторыі Беларусі, аўтарскі рукапіс скараціўся амаль на цэлы друкаваны аркуш. Зніклі месцы, дзе пісалася пра пагаршэнне становішча жыхароў Беларусі пасля далучэння да Расійскай імперыі, пра ўніяцтва як нацыянальную царкву беларусаў, пра В. Дуніна-Марцінкевіча і Я. Коласа, якія пісалі свае творы ў мінскай турме, пра адукацыйную дзейнасць езуітаў і інш. І нават у падобным скалечаным выглядзе выхад кнігі К. Тарасава выклікаў спецыяльны загад Дзяржкамдруку БССР «Аб памылках у літаратуры па краязнаўстве, надрукаванай выдавецтвам "Полымя"».

У падрыхтаванай у 1978 годзе выдавецтвам «Мастацкая літаратура» кнізе класіка беларускай дзіцячай літаратуры В. Віткі «Дзеці і мы» правіліся замалёўкі-развагі аўтара «Вольны час — куды яго дзець?» і «Давайце падумаем…». У першай з іх, меркаваў цэнзар, малявалася карыкатурная карціна агульнага культурнага ўзроўню сучаснага гарадскога насельніцтва, схільнага толькі

[1] У 1981 г. аповесць «Караці», першапачаткова задуманая як «Сны двух тыранаў», выйшла ў Мінску без главы «Дублёр», прысвечанай Сталіну. Яе аўтар здолеў надрукаваць толькі ў 1988 г. у адзінаццатым нумары часопіса «Дружба народов».

да пустога баўлення часу, футбольных жарсцяў і хаджэнняў па «гумам» і «цумам». У другой сродкам масавай інфармацыі быў прыпісаны негатыўны ўплыў на разумовае, эстэтычнае і маральнае выхаванне чалавека.

У сваім рамане «Жыццё — не тут» М. Кундэра пісаў, што дыктатары, аўтарытарныя рэжымы любяць паэзію і паэтаў, таму што, у адрозненне ад празаікаў, яны не тлумачаць сусвет, а ствараюць яго вобразы. Развіваючы гэтую думку класіка, дададзім: вершаваная прадукцыя савецкіх літаратараў таксама прыцягвала асаблівую ўвагу ідэолагаў і цэнзараў. Тлумачылася гэта перш за ўсё тым, што паэзія лепш за прозу была прыстасавана да міфалагізацыі мінулага і дэманстрацыі тагачасных «дасягненняў сацыялізму».

У 1968 годзе з паэмы Р. Барадуліна «Блакада», якая атрымала шырокі розгалас, Галоўліт БССР выкрэсліў наступныя радкі:

Не грэюць паддзеўкі паношаныя,
Сагрэюць курорты паўночныя.
З асцярогаю партызан колішні
Пазірае на малінавыя аколышкі.

Яго сатырычную паэму «Смаргонская акадэмія» не пускалі нікуды каля дзесяці гадоў. Не друкавалі таксама і верш «Мая мова».

З анталогіі беларускай паэзіі «Край паэтаў», прадстаўленай на кантроль у Міністэрства знешніх спраў БССР і прымеркаванай да выдання ў ЮНЕСКА ў 1974 годзе, былі зняты вершы П. Панчанкі «Родная мова» і «Раўнапраў'е дрэў». У першым вершы аўтар выказваў непакой пра тое, што ў будучым беларуская мова можа знікнуць, што яна «аджывае век свой ціхі» і што гэтую з'яву можа паскорыць чыйсьці загад. На думку цэнзара, «для такой высновы ў нашай савецкай рэчаіснасці няма аніякіх падстаў. Змяшчэнне ж гэтага верша ў падобным выданні дало б зачэпку розным буржуазным нацыяналістам весці размовы пра прыгнёт беларускага народа як нацыі». Другі верш, на густ паліткантралёраў, таксама вызначаўся глыбокім песімізмам. З анталогіі знялі таксама верш П. Макаля «Скарга цвіка», у якім алегарычна паказвалася бяспраўнае становішча простага савецкага чалавека.

Быкаў добра ведаў, што такое ідэалогія «развітога сацыялізму» з уласнага вопыту. У гэты час атрымала працяг цэнзурная гісторыя яго аповесці «Мёртвым не баліць».

У тым жа годзе цэнзура спыніла зборнік вершаў К. Цвіркі «Каласы», падрыхтаваны выдавецтвам «Мастацкая літаратура». Вока паліткантролю зачапіў верш «Сонцаход», у якім «…аўтар скажона малюе службова-грамадскія адносіны паміж кіраўнікамі і падначаленымі. З пункту гледжання аўтара, лёсамі людзей распараджаюцца "Самы, Замы, Завы" — распараджаюцца па ўласнаму капрызу. Патрабуюць ад падначаленых "са сваёй вышыні, каб выконвалі кожнае іх жаданне, каб маўкліва выслухвалі іх любую хлусню, каб забывалі сябе і поўзалі перад імі, як чэрві". У падначаленага ж чалавека застаецца толькі адно права: падаць заяву аб звальненні з працы па ўласным жаданні». Другі верш зборніка, забракаваны Галоўлітам, не падыходзіў ужо з-за адной сваёй назвы — «Мы гінем».

Са зборніка П. Панчанкі «Крык сойкі», прадстаўленага на цэнзурны кантроль у наступным годзе таксама выдавецтвам «Мастацкая літаратура», былі зняты чатыры вершы — «То ў надзеях, то ў скрусе», «Змоўкнуў жураўліны скрып калысак», «Я гаварыў занадта гучна», «Мала вар'яцтва ў нашай паэзіі». У іх, па словах цэнзара, «…аплаквалася патрыярхальнае мінулае беларускага народа, у змрочных танах паказваўся жыццёвы шлях савецкага чалавека. У першым вершы чалавек "нібы конь той па крузе" ўсё ідзе, няма для яго аніякага прасвету і дарэмныя ўсе чалавечыя памкненні. У другім вершы не было заўважана ўсё новае і прагрэсіўнае, што прыйшло ў беларускую вёску разам з паляпшэннем дабрабыту людзей, на што накіраваныя намаганні партыі. Замкнутымі, раз'яднанымі, бездухоўнымі аказваюцца савецкія людзі ў трэцім вершы. Прычына гэтага — у саміх жыццёвых умовах: «Яны ні ў чым не вінаваты, / Яны такія, як усе, / Іх слаўных, грэшных, дзіўнаватых / Жыццё шалёнае нясе». У чацвёртым вершы сцвярджалася, быццам

савецкія паэты пазбаўлены свабоды творчасці. Усё загадзя разлічана і змадэлявана. Таму і паэзія дрэнная. «А хто цяпер на ражон палезе? / За Маякоўскім ісці, кажуць, позна. / Хто цяпер выскачыць з рэбраў уласных / І паспрачацца адважыцца з Богам?» Назва зборніка «Крык сойкі» ўспрымаецца як крык паэта ад неўладкаванасці нашага жыцця».

Чатыры вершы — «Лічаць абраннікі лёсу», «Мы — галіны», «Хто апошні», «Штодзень у мяне ўсяляюць» былі выкінуты са зборніка П. Макаля «Дотык да зямлі». Іх сэнс цэнзар зразумеў наступным чынам: «У іх у скажоным выглядзе паказваюцца адносіны паміж савецкімі людзьмі, кіраўнікамі і падначаленымі. Інваліды Вялікай Айчыннай вайны прадстаўлены людзьмі выключна чэрствымі, эгаістычнымі, што ведаюць, як абысці іншых. Выказваецца пратэст супраць усіх форм прапаганды і выхавання, якія існуюць у савецкім грамадстве».

Талент А. Разанава, які вымагаў экзістэнцыйных пошукаў, метафізічных роздумаў, яго заглыбленасць у сябе былі незразумелыя, недасягальныя для цэнзуры, а значыць, удвая небяспечныя. Рэспубліканскае ідэалагічнае кіраўніцтва гвалтоўна спыніла літаратурную дыскусію 1972 года, у фокусе якой былі яго творы. Сітуацыю абвастраў кожны новы зборнік А. Разанава. Нарэшце, пасля няўдалай спробы выдаць зборнік «Спадчына» са змешчанай там п'есай «Тутэйшыя» Я. Купалы будучаму лаўрэату Дзяржаўнай прэміі прыйшлося сысці з рэдакцыі «Мастацкая літаратура». Трэба адзначыць, што ў падмурку супрацьстаяння паміж А. Разанавым і цэнзурай палягалі хучэй ужо агульнакультурныя, а не палітыка-ідэалагічныя адрозненні.

Відаць, тыя ж глыбінныя матывы рухалі цэнзарамі, калі яны ў 1984 годзе забаранілі выданне паэтычнага зборніка А. Глобуса.

Асаблівую ўвагу цэнзуры прыцягвалі літаратурна-мастацкія часопісы, якія за гады адлігі сталі не толькі «кузняй майстэрства» маладых (а гэта значыць, патэнцыяльна небяспечных) творцаў, але таксама цэнтрамі прыцягнення грамадскай думкі. Галоўліт БССР кожны раз інфармаваў аддзелы прапаганды і агітацыі, а таксама культуры ЦК КПБ альбо непасрэдна сакратара ЦК КПБ па ідэалогіі пра ідэйна-палітычныя недахопы асобных твораў, што друкаваліся ў беларускіх «тоўстых» часопісах. Шкодныя творы або затрымліваліся і вярталіся на дапрацоўку, або здымаліся зусім. Па выніках цэнзуравання мастацкіх часопісаў іх рэдактараў рэгулярна выклікалі на выхаваўчыя размовы ў ЦК КПБ.

Са спасылкай на сакрэтную пастанову сакратарыята ЦК КПСС «Аб павышэнні адказнасці…» 25 жніўня 1970 года начальнік Галоўліта БССР А. А. Маркевіч дакладваў сакратару ЦК КПБ С. А. Пілатовічу аб ідэйна-палітычных хібах у матэрыялах, прынятых да друку ў рэспубліканскія літаратурныя часопісы. Да найбольш важных і прынцыповых недахопаў, на думку галоўнага цэнзара, адносіліся: 1) скажонае асвятленне некаторых з'яў савецкай рэчаіснасці; 2) скажэнне праўды аб партызанскай барацьбе на тэрыторыі Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны і прыніжэнне герояў гэтай барацьбы; 3) прадузятае, аднабаковае асвятленне асобных з'яў і жыцця калгаснай вёскі.

А. А. Маркевіч далей канкрэтызаваў: «У нумарах 9 і 10 часопіса "Нёман" за 1969 год рыхтаваўся да друку раман Э. Скобелева "Шаги за твоей спиной". Пасля яго прачытання папярэдні кантроль па ўзгадненні з агітпрапам ЦК КПБ вярнуў яго рэдакцыі на дапрацоўку. Сама ідэя рамана — савецкія людзі нібыта адмежаваны адно ад аднаго нейкай непранікальнай сцяной, абыякавыя адно да аднаго, жывуць у залежнасці ад выпадковых абставін, не маючы агульных мэт, — з'яўлялася памылковай… Раман быў населены вобразамі нейкіх ненармальных, душэўна хворых людзей, з'яўленне якіх у жыцці тлумачыцца абыякавасцю навакольнага асяроддзя. Значнае месца ў рамане было адведзена савецкай моладзі. І яе прадстаўнікі (за невялікім выключэннем) не бачаць яснай мэты ў жыцці, плывуць па цячэнні, збольшага бавяць час у забавах, па-за працоўнай сферай, паддаючыся спакусам лёгкага жыцця. З націскам на ценевыя бакі ў рамане былі пададзены і вобразы камуністаў. Толькі пасля карэннай перапрацоўкі з улікам выказаных заўваг раман быў апублікаваны ў 11-м і 12-м нумарах часопіса "Нёман"».

Скажэнне маральнага аблічча савецкага маладога чалавека змяшчалася таксама ў апавяданнях на маральную тэму А. Савелічава «Идут поезда» (альбо «Счастливый») і «Трататушки», прымер-

Талент А. Разанава, які вымагаў экзістэнцыйных пошукаў, метафізічных роздумаў, яго заглыбленасць у сябе былі незразумелыя, недасягальныя для цэнзуры, а значыць, удвая небяспечныя

каваных да друку ў № 9 за 1968 год і ў № 11 за 1969 год часопіса «Нёман». Галоўны герой апавядання «Идут поезда» — чалавек з засмучанай псіхікай. І, натуральна, ён не ў стане рэальна ўспрымаць навакольную рэчаіснасць. Ён хворы. Па сцвярджэнні ж аўтара атрымлівался, што толькі чалавек, адхілены ад навакольнай рэчаіснасці, з хворым уяўленнем па-сапраўднаму шчаслівы. Усе астатнія персанажы апавядання — людзі і фізічна, і разумова нармальныя, але яны, гаворыць аўтар, беспрынцыповыя і маральна разбэшчаныя. Апавяданне «Тратататушки» — пра камасамольскую будоўлю. У ім і гераіня апавядання, і кіраўніцтва, і перадавікі будоўлі паказаны як маральныя нябожчыкі. Нічога светлага, навокал — пошласць, бруд, п'янства, распуста. Брыгада адлюстравана як калектыў, аб'яднаны толькі «пляшкай». Кіраўнік будоўлі — чалавек, стомлены ад усяго і заклапочаны толькі тым, каб хутчэй адтуль сысці. І ўвогуле праца нікому не прыносіць радасці. Пасля заўваг абодва апавяданні рэдакцыя зняла з падрыхтаваных да друку нумароў.

Зняла рэдакцыя завярстаны ў другі нумар часопіса «Нёман» за 1969 год нарыс А. Шумава «Ветэраны». На наш погляд, у ім змяшчалася няслушная трактоўка сутнасці мерапрыемстваў партыі і ўрада, накіраваных на паляпшэнне побыту інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны. З разваг аўтара, разваг герояў нарыса здавалася, што савецкі ўрад толькі на словах праяўляе клопат пра інвалідаў Айчыннай вайны, а пра ўвасабленне ў жыццё прынятых законаў і пастаноў не клапоціцца. З гэтай прычыны законы на месцах не выконваюцца. Мясцовыя ж органы савецкай улады ўсяляк імкнуцца ушчаміць правы інвалідаў, а часам проста здзекуюцца над імі.

Асаблівую ўвагу цэнзуры прыцягвалі літаратурна-мастацкія часопісы, якія за гады адлігі сталі не толькі «кузняй майстэрства» маладых (а гэта значыць, патэнцыяльна небяспечных) творцаў, але таксама цэнтрамі прыцягнення грамадскай думкі

Скажэнне палітыкі нашай партыі паводле нацыянальнага пытання мела месца ў артыкуле В. А. Круталевіча «Без народнай апоры», падрыхтаваным для другога нумара часопіса «Полымя» за 1967 год — пра дзейнасць беларускіх нацыяналістаў адразу ж пасля перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. У артыкуле змяшчаліся не зусім дакладныя, а часам вельмі заблытаныя палажэнні аўтара аб вырашэнні партыяй нацыянальнага пытання ў Беларусі. Няслушна тлумачылася і ацэньвалася практычная дзейнасць партыйнай арганізацыі рэспублікі і яе асобных кіраўнікоў у галіне ажыццяўлення нацыянальнай палітыкі ў першыя гады савецкай улады. Артыкул з нашай дакладной запіскай па гэтым пытанні быў дасланы для заключэння дырэктару Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ тав. Ігнаценку. Ён паведаміў наступнае: артыкул сыры, недапрацаваны, змяшчае памылковыя палажэнні — яго трэба зняць на дапрацоўку. Пасля ўзгаднення з аддзелам агітацыі і прапаганды ЦК КПБ артыкул вярнулі рэдакцыі…

Шэраг заўваг быў зроблены рэдакцыі часопіса «Маладосць» адносна рамана І. Навуменкі «Вецер у соснах», з улікам якіх ён быў надрукаваны ў 4-м і 5-м нумарах за 1967 год. У прадстаўленым варыянце, насуперак гістарычнай праўдзе пра ўсенародны размах партызанскага руху на Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, падзеі былі паказаны такім чынам, што складалася мерказанне: на барацьбу з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ўзняліся не масы, а толькі адзінкі. Ды і самі партызаны прыніжаліся: запушчаныя, брудныя, няголеныя, вашывыя. А там, дзе размова ішла пра здраднікаў, — у рамане «чыталася», што ў мінулым гэта людзі, як правіла, альбо камуністы, альбо савецкія актывісты…

Скажонае адлюстраванне асобных з'яў у жыцці сучаснай калгаснай вёскі перыяду калектывізацыі змяшчалася ў апавяданнях У. Дамашэвіча «Ля

старых курганоў» [«Маладосць». —1967.— № 7], А. Кулакоўскага «На нём была телогрейка» [Нёман. — 1968. — № 10], М. Капыловіча «Бечёвка на чемодане» [Нёман. — 1969. — № 12], у аповесці А. Васілевіч «Доля знойдзе цябе» [Полымя. — 1967. — № 1]. Усе гэтыя апавяданні пасля выказаных заўваг рэдакцыі знялі, а ў аповесць А. Васілевіч уносіліся змены.

Скажонае адлюстраванне асобных з'яў у жыцці сучаснай калгаснай вёскі перыяду калектывізацыі змяшчалася ў апавяданні У. Дамашэвіча «Ля старых курганоў»

У апавяданні У. Дамашэвіча «Ля старых курганоў» жыццё калгасніка заходняй вобласці ў савецкі перыяд паказана змрочным, бязрадасным, а праца — безвыходна цяжкай, нізка аплочваемай і мала чым адрознай ад працы селяніна ў буржуазна-прыгонніцкай Польшчы. Факт жа перасялення з хутароў у апавяданні быў пададзены такім чынам, што на калгаснікаў гэта перасяленне нібыта клалася невыносным цяжарам, што вялікая фінансавая пазыка будзе вісець над імі многія гады, бо дапамога з боку калгаса перасяленцам зусім нязначная, ды і не ўсім роўная. «А ўсё ж яшчэ бог няроўна дзеліць!» — падводзіць вынік герой апавядання разам з аўтарам.

У апавяданні А. Кулакоўскага «На нём была телогрейка» апісваецца самаахвярны ўчынак старога калгасніка, які дзеля выратавання калгаснага статка ўступае ў барацьбу з агнём. Сцэна ўручэння яму прэміі ў памеры трох рублёў выглядае як здзек над сумленным чалавекам. З нагнятаннем змрочных карцін намаляваны ў гэтай сцэне і ўсе кіраўнікі калгаснай гаспадаркі.

Аповесць А. Васілевіч «Доля знойдзе цябе» была надрукавана пасля ўнясення шэрагу правак у першым нумары часопіса «Полымя» за 1967 год. У аповесці згадваўся перыяд калектывізацыі ў Беларусі, прычым падкрэслівалася, што сяляне ішлі ў калгасы пад пагрозай раскулачвання… Аднак аўтарскай ацэнкі гэтых з'яў як памылковых у творы няма. Праз тры гады рэдакцыя часопіса «Нёман» прадставіла гэтую аповесць у перакладзе на рускую мову для публікацыі ў № 3 за 1970 год. Аднак пры чытанні высветлілася, што ў прадстаўленым варыянце заўвагі не ўлічаны.

Апавяданне В. Хамчук «Суседзі», звярстанае у другім нумары часопіса «Маладосць» за 1974 год, выйшла без эпізоду пра тое, як у гады вайны паліцай расстрэльвае свайго суседа селяніна, на якога ён жа з зайдрасці да яго былога жыцця данёс нямецкім уладам. Немцы ж, прысутныя падчас расстрэлу, выглядалі падманутымі людзьмі, што выконвалі чужую волю, і то неахвотна, пад прымусам. Цэнзар тлумачыў сваё рашэнне так: «Апавяданне гэта без правак магло быць выкарыстана буржуазнымі ідэолагамі Захаду як ілюстрацыя іх паклёпніцкіх выдумак пра тое, што на тэрыторыі часова акупаванай Беларусі была грамадзянская вайна і гінула вялікая колькасць людзей, у чым вінавата было мясцовае насельніцтва». У рамане Б. Паўленкі «И нет дороги назад», звярстаным рэдакцыяй часопіса «Нёман» [Нёман. —1975. —№ 1], цэнзура звярнула ўвагу на тыя месцы, дзе аўтар апісваў жорсткасці, якія суправаджалі калектывізацыю, рэпрэсіўныя меры, што ўжываліся пры ўмацаванні вытворчай дысцыпліны на заводах, дзе давалася эмацыйная ацэнка першых дзён вайны, кшталту: «Да Дня Перамогі дажыў бы не адзін мільён тых, хто застаўся на палях вайны з-за памылак генералаў».

1 сакавіка 1977 года А. А. Маркевіч дакладваў ужо новаму сакратару ЦК КПБ па ідэалогіі А. Т. Кузьміну аб працы Галоўліта з мастацкімі часопісамі:

«Раман І. Чыгрынава "Апраўданне крыві" [Маладосць. — 1976. —№ 10, 11] па прапановах Галоўліта некалькі разоў правіўся ў тых месцах, дзе прыводзіліся двухсэнсоўныя выказванні герояў рамана адносна перадваеннай сітуацыі ў нашай краіне, якая малявалася толькі ў чорных фарбах. Уносіліся неабходныя выпраўленні ў тыя старонкі рамана, дзе недобразычліва згадваліся акты інтэрнацыянальнай салідарнасці (наша дзяржава, маўляў, аказвае дапамогу іншым краінам на шкоду інтарэсам свайго народа і г. д.). Раман правіўся таксама ў тых месцах, дзе аўтар упарта вяртаўся да фактаў асобых, лаяльных адносін нямецкіх улад да ваеннапалонных украінскай нацыянальнасці, якія нібыта меліся.

Не дазволена да публікацыі ў часопісе «Нёман» [Нёман. — 1976. — № 12] была і «Аповесць

пра Джэні і Джоне» Л. Вакулоўскай[2]. Аповесць напісана ў зласлівым тоне. На прыкладзе аднаго з раёнаў Украіны ў ёй ганіўся стыль і метады кіраўніцтва сельскай гаспадаркай, падтасоўваліся негатыўныя факты з жыцця сучаснай вёскі.

У вёрстках адрыўкаў «З новай кнігі» Я. Брыля, падрыхтаванай да друку рэдакцыямі часопісаў «Беларусь», «Нёман» і выдавецтвам «Мастацкая літаратура» па нашай прапанове тройчы правіўся тэкст, у якім настойліва праводзілася думка аб тым, што цяпер “шмат сапраўдных герояў-партызан адсунута ў цень, а то і прыбрана з дарогі”».

Шмат увагі мастацкім часопісам надавалі цэнзары Галоўліта і ў наступныя гады. У справаздачы А. А. Маркевіча ў ЦК КПБ ад 26 снежня 1978 года чытаем:

«У запісках Я. Брыля “Да творчай аўтабіяграфіі”, звярстаных у часопісе «Нёман» [Нёман. — 1978. — № 2] правіўся тэкст з апісаннем сустрэчы аўтара ў 1957 г. з польскім пісьменнікам Л. Кручкоўскім на Нарачы: «На развітанне стары расчуліўся: “Ад вас як з дому еду ў нашу варшаўскую муць… Мы, старыя камуністы, адчуваем сябе там нібыта ў падполлі”». З запісак прыбралі таксама сказ: «Нягледзячы на нашу бадзёрую статыстыку, у асяроддзі жыхароў Поўначы — нанайцаў — жыве спадчына мінулага — вялікі працэнт сухотаў, пабытовыя пранцы». У яго ж кнізе «Трохі пра вечнае: артыкулы, лірычныя нататкі, эсэ» у адной з нататак прыводзілася цытата з дакументальнай аповесці М. П. Еругіна «Пра тых, кто выстаяў»: «…о калі б гэтыя немцы і рускія сустрэліся ў іншым месцы, былі б, верагодна, добрыя знаёмыя, сябры. Але лёс кінуў іх у такое зачумленае месца, дзе чалавек перастае быць самім сабой. І яны забілі адзін аднаго не пазнаёміўшыся, не даведаўшыся, хто яны». Цытата была прыбрана як праява пацыфізму.

Падчас кантролю вёрсткі часопіса «Нёман» [Нёман. —1978. — № 4] была затрымана аповесць Г. Папова «В гостях хорошо, а дома лучше», у якой шляхам супастаўлення жыцця на прыдуманай планеце і ў нашай краіне савецкая рэчаіснасць была паказана ў самым непрыглядным святле: тут і бюракратызм, і варварскія адносіны да акаляючага асяроддзя, і хабарніцтва, тут хтосьці будуе камунізм, а хтосьці сабе лецішча, тут больш турбуюцца аб касмічных справах, чым аб зямных. Аповесць была вернута на перапрацоўку.

Была звернута ўвага кіраўніцтва часопіса «Маладосць» на некалькі скажонае адлюстраванне пасляваеннай рэчаіснасці ў аповесці І. Навуменкі «Інтэрнат на Нямізе» [Маладосць. — 1978. — № 10]. У прыватнасці — на тое месца, дзе распавядаецца пра наўмыснае замоўчванне прычын адступлення нашых войск да Волгі, аб паліцаях і ўласаўцах, аб надзвычайным усхваленні Вярхоўнага Галоўнакамандуючага.

Падчас публікацыі часопісам «Нёман» [Нёман. — 1977. — № 3, 4] «Переписки двух поэтов» — А. Твардоўскага і М. Ісакоўскага былі зняты некалькі лістоў, змест якіх зводзіўся да дробных жыццёвых сварак, незадаволенасці з прычыны неўладкаванасці побыту, адсутнасці грошай, крытыкі з боку цэнтральных газет і інш.

Не была дазволена да друку ў часопісе «Маладосць» [Маладосць. — 1977. — № 8] аповесць В. Гігевіча «Занадта мала было адчаю», у якой дадзена скажоная карціна сучаснага савецкага грамадства: мары юнацтва аб жыцці, якое можна было б пражыць з карысцю для грамадства, разбіваюцца аб нашу непрыглядную рэчаіснасць. Савецкі лад жыцця ператварае людзей у абывацеляў, мяшчан. Выйсця з гэтага становішча героі аповесці не бачаць.

У зборніку П. Панчанкі «Вячэрні цягнік» быў зняты верш «Хмары плаваюць над намі», дзе свет сучасных людзей паказаны як адчужаны і раз’яднаны. Раней гэты верш здымаўся з часопіса «Полымя» [Полымя. — 1977. — № 1]».

*Заканчэнне — у № 11 праекта «Варштат».*

[2] Вакулоўская Лідзія Аляксандраўна (1926—1991) — празаік, сцэнарыст, нарадзілася ў г. Шчорс Чарнігаўскай вобл., сябра СП СССР з 1963 г., у беларускай пісьменніцкай арганізацыі з 1965 г., пасля перавода мужа на працу ў Мінск. Друкавалася ў часопісе «Нёман», на кінастудыі «Беларусфільм» выйшаў фільм «Саша-Сашачка» паводле яе сцэнарыя. На кватэры Вакулоўскай рэгулярна збіралася вольнадумная інтэлігенцыя Мінска. З 1967 г. пераследавалася КДБ, трапляла пад цэнзурныя абмежаванні, была распачата «справа Вакулоўскай». Пісьменніцу абвінавацілі ў спробах перадаць на Захад свае творы, распаўсюджванні забароненай літаратуры, антысавецкай прапагандзе. У 1988 г. напісала кнігу пра сталінскія рэпрэсіі «Вольфрам — металл твёрдый».

## Мікола Чарняўскі

# Быў час, быў век, была загадка

## Замест прадмовы

Кожны твор мае сваіх чытачоў. Адзін — больш, другі — менш. А некаторыя, здараецца, — толькі чытача ў адзіночным ліку. І часцей гэта — сам аўтар. І не тады, калі твор знаходзіцца яшчэ ў стадыі рукапіснага, але і потым, калі яму пашанцуе выйсці ў свет. І, мабыць, «заслуга» ў гэтым самога аўтара: ці паспяшаўся, ці талентам ды майстэрствам не дацягнуў.

Паэме «Сказ пра Лысую гару» пашанцавала: яе нават у самым пачатковым, рукапісна-машынапісным выглядзе, прачыталі сотні людзей (і не толькі ў Беларусі!), бо спачатку на правах «ананімнай» хадзіла ад чытача да чытача, перапісанай ад рукі —сапраўды рукапіснай. І такім творам заставалася цягам сямнаццаці гадоў, аж пакуль у 1988 годзе, у час перабудовачнай галоснасці, не выйшла асобнай кніжкай у «Бібліятэцы "Вожыка"». Была як бы «амніставана» і набыла сваю легальнасць, статус раўнапраўнага друкаванага твора. Праўда, не цалкам ананімнага, бо на той час яго аўтарам з'яўляўся нейкі міфічны Францішак Вядзьмак-Лысагорскі.

Што абумовіла сенсацыйную папулярнасць гэтай паэмы яшчэ ў «падпольным» рукапісным варыянце? Сакрэт просты. Яго ніхто не хаваў. Як не хавалі свайго захаплення і здзіўлення некаторыя крытыкі і літаратуразнаўцы «акадэмічнага рангу»: «Гэта была сенсацыя. Па тых часах, як з'явілася паэма, гэта быў цуд. На фоне тагачаснай паэзіі, пераважна афіцыйна надзьмутай, самаарыентаванай на падцэнзурнае існаванне і таму ў многіх выпадках не зусім шчырай нават у самым лепшым высакародным пафасе, паэма ўносіла ў літаратуру свежы струмень».

І не дзіўна, што само сабой паўстала пытанне: хто ж аўтар гэтага «цуду», хто палічыў за лепшае не высоўвацца вельмі, а схавацца пад прозвішчам Вядзьмака-Лысагорскага, узяць такі псеўданім? Не можа быць, каб паэма з'явілася нібы «па шчупаковым загадзе», была напісана нейкім невядомым аўтарам, а не паэтам такой высокай моўнай культуры, філасофскай заглыбленасці і надзвычай вобразнага паэтычнага радка?

Стаць першаадкрывальнікам аўтарства «сенсацыйнага цуду» і ў спадзяванні самім стаць творцамі сваёй сенсацыі першаю публічна адважылася рэдакцыя часопіса «Крыніца». Яна разаслала шмат каму з пісьменнікаў і даследчыкаў мастацкага слова лісты, у якіх прапаноўвала выказаць сваю здагадку: хто мог стаць аўтарам «Сказа пра Лысую гару»? Атрымаў такі ліст і я. І не здолеў адмахнуцца, палічыць такую спробу рэдакцыі папулісцкай, нават марнатраўнай. Аказалася, не аднаму мне захацелася тады выказаць сваё меркаванне, зрабіць свой унёсак у рэалізацыю той задумы.

Атрыманыя рэдакцыяй водгукі былі змешчаны ў першым нумары часопіса «Крыніца» за 1995 год. Іх набралася —аж дваццаць пяць! З крытычным разглядам і рознымі здагадкамі пра аўтара паэмы. Адкрываўся ж той незвычайны нумар публікацыяй яе дапоўненага варыянта, які зноў жа быў упершыню выдадзены ў «Бібліятэцы "Вожыка"». Нечуваным для беларускай паэзіі накладам: сто тысяч асобнікаў!

Аўтары крынічнага «круглага стала» не хавалі свайго захаплення, ставілі «Сказ…» у шэраг лепшых твораў нашай і нават сусветнай літаратуры. Думаю, і мой «голас» быў у гэтым «хоры» не лішнім, па-свойму сугучным і аргументаваным…

***

Відаць, не знойдзеш у нашай літаратуры твора, які б у апошнія два-тры дзесяцігоддзі так, як гэты, змог завалодаць думкамі і душамі людзей, дагэтуль не пакінуў хваляваць таямнічасцю, мастацкай заглыбленасцю. І праўдай, надзённасцю. Хіба не прадбачыў тады, на пачатку 70-х, Францішак Вядзьмак-Лысагорскі той дачны бум, які ўспыхнуў у нашы дні? Чысцюткая праўда. Можа, толькі крышку «старамоднымі» могуць здацца разважанні наконт таго, што «…панчоха — зусім не кепскі ідэал». Сёння, дзякуючы інфляцыі, ніхто ўжо не збірае грошы ў панчоху, а імкнецца ў асабнячок-катэджык укласці, бо панчоху могуць мышы згрызці, а на камяніцу зубоў не набярэшся.

Дык вось, ёсць у нас такі твор, якому наканавана стаць суддзёй нашых духоўных, маральных


3. БУДАЎНІЦТВА

І грады ёсць, і прыбіральні,
І ўжо на градах узышло,
Але у позні час і ў ранні
Спакою творцам не было.

Ну, скажам, вырасце радыска.
А дзе гарантый плот і дрот,
Што сам з'ясі? Сусед жа блізка:
Залезе ў творчы агарод.

Ці ж прывыкаць да плагіяту
Хапугам розным уначы?
Ну, а калі не зробіш хату,
Дык як жа грады сцерагчы?

Сабаку й тому трэба будка,
Каб ён не мок і не калеў.
І вось на ўчастку кожным хутка
Закрасаваў часовы хлеў.

Але ў часовым — надта мулка.
Вунь, колісь быў Часовы ўрад —
І той застаўся без прытулка,
Як далі выспятка пад зад.

24

і... амаральных учынкаў. А прачуў я ўпершыню пра яго дзесьці напярэдадні VI з'езда пісьменнікаў Беларусі, вясною 1971 года. Памятаю, у рэдакцыях раптам загаманілі: «Сказ пра Лысую гару, сказ пра Лысую гару». А што гэта такое — не ведаў. Бо чыталі паэму часцей за ўсё цішком, без лішніх вачэй і вушэй. Кажуць, хтосьці разаслаў яе ў рэдакцыі, а парачку экзэмпляраў і ў само ЦК падкінуў. Яшчэ чуў, што нібыта Максім Танк, які на той час быў першым сакратаром праўлення СП Беларусі, заўважыў, пасміхаючыся: «Мне можна на з'ездзе справаздачнага даклада не рабіць, Вядзьмак-Лысагорскі пра ўсё за мяне сказаў». Як бы там ні было, а чарговы з'езд праходзіў пад уражаннямі з'яўлення гэтага твора: «Як хто спецыяльна да з'езда напісаў».

Я асабіста займеў «Сказ пра Лысую гару» пазней. Паэма хадзіла па руках, але каб ахвотна хто даў яе каму перапісаць ці перадрукаваць, такога не было, мне здаецца. Баяліся, каб не згінула ці не трапіла ў «патрэбныя» рукі, дзе маглі б запытацца: «Адкуль у цябе, хто даў?» Пабойваліся ўсё ж яе перад высокім домам ды КДБ, пабойваліся за праўду, за вастрыню праблем, узнятых у ёй. Асабліва — моўнай. А праўды ніхто з «тузоў» чуць не хацеў, і казаць — таксама.

Калі не здраджвае памяць, экзэмпляр паэмы, такі нягеглы, надрукаваны без беларускіх «і» і «ў», мне прынесла ў рэдакцыю «Бярозкі», дзе я тады працаваў, Таццяна Гарэлікава. З цвёрдай умовай, што не збэйсаю, вярну. Застаўся я ў рэдакцыі ў той дзень, сеў за машынку і двума пальцамі адстукаў яе. У трох экзэмплярах. Адзін з іх паслаў на вёску свайму сябру паэту Валодзю Бабкову, а другі ахвяраваў той жа Тані — за добрую ласку. Дый выглядаў ён болей прыстойна, чым яе «арыгінал». Ад мяне паэма трапіла ў рукі Міхася Зарэмбы — перабралася ў рэдакцыю «Піянера Беларусі». Потым пайшла далей. І сапраўды я ледзь не страціў яе. Цяпер у маім архіве захоўваецца той экзэмпляр, але даволі зашмальцаваны, зацёрты. Дзякуй «Вожыку»: ён адважыўся выпусціць «Сказ пра Лысую гару» асобнай кніжкай. І, на маю думку, добра зарабіў на гэтым — яшчэ вышэй узняўся яго прэстыж, ці рэйтынг, як кажуць цяпер. Першы тыраж кніжкі разляцеўся імгненна, у той жа самы дзень. Памятаю, я абшастаў увесь Мінск, і толькі ў адным з прывакзальных кіёскаў да сваёй вялікай радасці нарваўся на яе. Узяў адразу дзясятка паўтара. І сабе, і знаёмым падарыць. Бо займець «Лысую гару» жадалі нават сябры з Украіны. Памятаю, узяў я кніжкі ў кіёску, а за мною стаяў маладжавы дзяцюк. Паглядзеў на мяне і здзіўлена-зацікаўлена кіўнуў на стос у маіх руках: «Што гэта за кніжка? Пра што яна?»

«Як пісьменнікі дачы будуюць»,— не схітраваў я. Ведаў, гэта прыдасць цікавасці — ён абавязкова купіць кніжку. І тады яна, магчыма, трапіць далёка за межы сталіцы. Так яно і сталася: той дзяцюк забраў астатнія з паўдзясятка кніжак і пашыбаваў да вакзала. Гэта было пазней, а тады, на пачатку яе з'яўлення...

Ёю зачытваліся ўсе, цытаваліся строфы, цэлыя старонкі, бо, лічы, кожны радок у ёй — афарызм, крылаты выраз. З часам я і сам мог расказаць яе пры нагодзе амаль усю па памяці. Усім падабаўся гумар, сатырычная з'едлівасць, а галоўнае — вастрыня, праўдзівасць, трапная характарыстыка персанажаў. Можа, хто з лысагорцаў і крыўдаваў, ды многія, мне здаецца, шкадавалі, што не змаглі трапіць у паэму, што іх не заўважылі, абышлі. Хто калі іх спамяне, а так яны былі б героямі славутага твора, якому, мусіць, жыць ды жыць!

Некалькі разоў чуў, як наша незабыўная Жэня Янішчыц з усмешкаю, якая была толькі ў яе, паўтарала радкі, што тычыліся яе асобы. Памятаеце?

Але назло іх крыку «знішчыць!»
З глыбінь народнага жыцця
Увысь ірвалася Янішчыц —
Палесся мілае дзіця.

Адчувалася, што ёй асабліва падабаўся апошні радок. Яго яна вымаўляла з нейкай асаблівай замілаванасцю і цеплынёй.

З часам Вядзьмак-Лысагорскі быццам стаў народным заступнікам, абаронцам справядлівасці. Праўда, не заўсёды гэта рабілася цывілізаваным (як цяпер любяць прамаўляць) чынам, бо да яго славы, да яго імя прымазваліся людзі, нячыстыя сумленнем, ці, дакладней кажучы, — ананімшчыкі. Памятаю, зазірнуў неяк у прыёмную СП, які яшчэ знаходзіўся ў доме, «...дзе, не стаўшы пад вянец, калісьці сам гаўляйтэр Кубэ аддаў бясслаўны свой канец», і да якога потым дабраўся «стваральны» дух ЦК партыі. З кабінета выйшаў Максім Танк, і Таццяна Кузьмінічна раптам падала яму паперыну: «Яўген Іванавіч, што адказаць на гэта пісьмо з Масквы?» Той спыніўся, прабег ліст, спытаў у сваю чаргу: «А хто гэта такі Вядзьмак-Лысагорскі?» Таццяна Кузьмінічна паспяшалася на выручку: «Ды гэта ж той, што "Лысую гару" напісаў».

«А-а-а, — не ўстрымаўся, каб не зарагатаць, Максім Танк. Больш, мусіць, ад таго, што нечакана гара з плячэй звалілася. — Напішыце, што ў нас такога пісьменніка няма, шго гэта — ананімка». Аказваецца, хтосьці напісаў у Саюз пісьменнікаў СССР скаргу на наша бюро прапаганды мастацкай літаратуры. А яе, скаргу гэтую, як тады вялося (пэўна, і цяпер яшчэ вядзецца), вярнулі туды, адкуль і прыйшла: разбірайцеся, рэагуйце самі.

Дзе б мне не давялося выступаць, і райкомаўцы, і настаўнікі, і студэнты часта падступаліся з такім пытаннем: «А хто напісаў "Сказ пра Лысую гару"»? Першым, відаць, хацелася пачуць такую навіну і хутчэй давесці па інстанцыі да вышэйшых і гэтым яшчэ раз даказаць сваю пільнасць і адданасць, астатнім жа было цікава, мабыць, з чыста філалагічнага інтарэсу. У іх свядомасці «Сказ пра Лысую гару» асацыіраваўся са славутымі «Энеідай навыварат» і «Тарасам на Парнасе», над чыёй таямніцай білася не адно пакаленне даследчыкаў-літаратуразнаўцаў, каб высветліць іх аўтарства. Здаецца, не так даўно пошукі далі плён.

Памятаю, спачатку аўтарства «Лысай гары» прыпісвалі Анатолю Вялюгіну. Ды, напэўна, гэтыя здагадкі развеяліся пасля адной размовы Анатоля Сцяпанавіча з першым сакратаром ЦК КПБ П. М. Машэравым. Як землякі-віцябляне яны былі ў блізкіх адносінах. Дык вось, Анатоль Вялюгін аднаго разу нібыта сказаў Машэраву: «Пятро Міронавіч, не верце чуткам, "Сказ пра Лысую гару" не я напісаў». Той жа адказаў спачувальна: «А шкада, Анатоль Сцяпанавіч, што не вы аўтар такога твора».

Мне ж асабіста думалася, што «Лысую гару» (будзем казаць так) напісаў Анатоль Астрэйка. Вялюгін — вялікі майстар мастацкага слова, але не гумарыст і не сатырык. Другі ж, можна сказаць, — наадварот: ён аўтар не менш знакамітай паэмы «Прыгоды дзеда Міхеда». Тым болей, шго сам Анатоль Астрэйка не хаваў часам сваёй прыналежнасці да аўтарства «Лысай гары». Аднойчы завітаў ён на радыё, у літаратурную рэдакцыю. Папрасіўшы пазычыць грошай у Валянціна Мысліўца, ці то жартам, ці то ўсур'ёз прыгразіў: «Не дасі — і пра цябе дапішу ў "Лысай гары"»... Мне ж чамусьці думалася, што гэты твор, хутчэй за ўсё, — калектыўны: Астрэйку маглі дапамагчы Рыгор Няхай і Антон Бялевіч, яго сябры-таварышы. Да таго ж яны мелі там, на Лысай гары, дачы, усё самі добра бачылі, назіралі. А не пабачыўшы на свае вочы ўсяго — наўрад ці перадасі тамтэйшую будоўлю гэтак дакладна, ва ўсіх дэталях. Праўда, былі сумненні ў інтэлектуальных здоль-


— 2 —

Тварыць маштабна, моцна, ярка
Табе што сілы не стае.
Ты — як базарная гандлярка,
Што ўкроп пучкамі прадае!..

стала мне вядома,
Што пэцкаль-абармот
(Янкоўскі сказаў: „пустадомак!“)
Пусціў вас падробкі ў ход.

насцях аўтара «Лысай гары», бо менавіта гэтымі якасцямі, апроч усяго, вызначаецца паэма.

Успаміналася таксама імя Петруся Макаля. У яго аўтарства я таксама чамусьці мала верыў і веру.

Мая думка змянілася цалкам са з'яўленнем у друку рамана Ніла Гілевіча «Родныя дзеці». Калі я прачытаў яго сатырычна-гумарыстычныя раз-дзелы з гэтага знакамітага твора, чамусьці цвёрда паверыў: «Ён, і толькі ён аўтар "Сказа пра Лысую гару"». Ведаючы яго па шматлікіх гумарыстычных зборніках, я і раней падумваў пра Ніла Гілевіча, а з выхадам «Родных дзяцей» — здаецца, пераканаўся канчаткова. Чаму? Ды паглядзіце самі, супастаўце іх: той ж сарказм, досціп, інтэлектуальны абсяг, майстэрства, нават рыфмы, улюбёныя слоўцы, накшталт «плюндра»...

Вясною адзін з кіраўнікоў нашага СП Уладзімір Паўлаў дакляраваў, што, магчыма, на XI з'ездзе стане вядомым імя аўтара «Сказа пра Лысую гару». Усе чакалі разгадкі таямніцы. Але сенсацыі не адбылося. Пра што ён і сказаў з трыбуны з'езда. Відаць, аўтар сам не пажадаў рассакрэчвацца. Значыцца, ён існуе, жыве сярод нас, мае канкрэтнае імя, а не славуты псеўданім.

Хоць, мяркуючы па ўсім, Францішак Вядзьмак-Лысагорскі — чалавек сціплы, не ахвочы да вядомасці і славы, ды ўсё ж, на мой розум, прыемна займець лаўры і пры жыцці.

А можа, і добра зрабіў, што не прызнаўся: стала б менш на адну таямніцу. Без іх жа, таямніц, асабліва ў літаратуры, і жыць менш цікава. Ці не праўда?

## Замест эпілога

Сенсацыі, на якую, магчыма, разлічвала рэдакцыя часопіса «Крыніца», у поўнай ступені ўсё ж не адбылося. Сапраўдная сенсацыя чакала ўсіх значна пазней, калі ў газеце «Народная воля» ад 30 жніўня 2003 года быў надрукаваны артыкул народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча «Як быў напісаны "Сказ пра Лысую гару"». І ў ім нечакана для шмат каго з чытачоў і прыхільнікаў сваёй творчасці Ніл Сымонавіч рассакрэціўся, прызнаўся публічна, што аўтарам «Сказа…» з'яўляецца не хто іншы, а ЁН! Тады ж паэт падрабязна расказаў, як узнікла задума твора, як у хаўрусе з паэтам Міколам Аўрамчыкам гэтая задума, падмацаваная жывымі назіраннямі і трапнымі падказкамі таварыша па пяру, пачынала пераўвасабляцца ў радкі і страфы, як, ужо гатовая, з канспіратыўнай асцярожнасцю «выходзіла ў людзі»: Мікола Якаўлевіч, каб спецслужбы не ўзялі след па адбітках пальцаў, «і аддрукоўваў тэкст, і закладаў у канверты, і адносіў на пошту — у тонкіх медыцынскіх пальчатках».

Загадка, што тры дзесяцігоддзі вярэдзіла ўнікліваець ды цікаўнасць даследчыкаў і чытачоў, перастала быць таямніцай, загадкай веку. Адных гэта яўна расчаравала: «Ці варта было?» Іншыя трымаліся супрацьлеглай думкі: «Лаўры і хвалу за выдатны твор аўтар павінен атрымаць пры жыцці, а не потым…» І ў гэтых меркаваннях, пагодзімся, у кожнага была свая доля праўды. У мяне —таксама…

Аднаго дня, адчыніўшы скрынку, я нечакана ўбачыў у ёй даволі важкі канверт, падпісаны рукою… Ніла Гілевіча. Заінтрыгавана раскрыўшы яго, нямала здзівіўся: з якой гэта ласкі Ніл Сымонавіч раптам прэзентаваў мне толькі што выпушчаны выдавецкай суполкай «Белфранс» асобнік паэмы «Сказ пра Лысую гару»? З густам аздобленая мноствам факсімільных адбіткаў арыгіналаў, якія пераканаўча пацвярджалі карпатлівую працу паэта над старонкамі твора, кніжка ўжо выйшла пад аўтарствам Ніла Гілевіча. Яго імя стаяла на ёй. А чаму мне неспадзявана пашанцавала, я зразумеў з аўтографа, надпісанага ім: «Паважанаму Мікалаю Мікалаевічу Чарняўскаму —аднаму з нямногіх паэтаў, хто прачытаў "Родных дзяцей" (разам з народам) і таму не сумняваўся… З усёй зычлівасцю — Ніл Гілевіч. 9.2.04».

Удзячны за такі падарунак, я патэлефанаваў Нілу Сымонавічу, каб сказаць яму «дзякуй».

— Мне хацелася адразу пасля публікацыі ў «Крыніцы» самому патэлефанаваць вам, каб выказаць тое, што хачу сказаць цяпер, ды мая незабыўная Ніна Іванаўна, усцешыўшыся вашай праніклівасцю, адгаварыла, параіла не рабіць гэтага, пачакаць. Я рады, што вы не памыліліся ў сваёй здагадцы, былі, бадай, адзіным, хто выказаўся найбольш абгрунтавана і канкрэтна, без кроплі сумневу і, як самі бачыце, мелі рацыю, — выслухаўшы мяне, сказаў Ніл Сымонавіч.

Праз сем гадоў мне выпадзе шчаслівая нагода сустрэцца з паэтам у яго кватэры. Запрасіўшы сесці, прыкметна накульгваючы, паскардзіўся: «Ужо мала бываю на вуліцы. Цяжка хадзіць. А ў кватэры дапамагае парадкавацца сястра. Ды з харчоў, што папрашу, прыносіць. Сам толькі са сваім архівам працую».

Шмат што прыгадалася за тыя дзве гадзіны, якія прабыў я там. І гады студэнцтва ўспомніліся, калі яму перад пачаткам лекцыі разы два ці тры дзіцячыя вершы паказваў, а ён, прачытаўшы, цікавіўся: «А вы самі іх напісалі?», і праблемы, звязаныя з мовай, з выданнем кніг, з тым ганарарным жабрацтвам, у якім апынуліся пісьменнікі.

У тыя хвіліны мне здавалася, што я сяджу не ў кватэры, дзе пануе нязвыклая цішыня, а ў студэнцкай аўдыторыі БДУ, і Ніл Сымонавіч чытае лекцыю не па народнай вусна-паэтычнай творчасці, а па сусветнай літаратуры, адкрываючы мне, ужо добра-такі сталаму і крышку дасведчанаму ў гэтым чалавеку, свае, толькі яму вядомыя таямніцы і гісторыі, якія існуюць у літаратурным свеце, свой арыгінальны погляд на літаратурную творчасць і яе працэсы. Мне было надзвычай цікава слухаць яго развагі пра класічную і сучасную паэзію. Заходнюю, нашу, беларускую, і рускую. Слухаючы яго, я сапраўды паверыў, што Аляксандр Пушкін — вялікі рускі паэт, а Міхаіл Лермантаў — геніяльны рускі паэт. І хто засумняваецца ў адваротным? Вядома ж, не абышлося без гаворкі і пра Лысую гару.

У той прыход да паэта я падарыў яму сваю новую кнігу вершаў для дзяцей «Сонечны кошык», а ён мне —пяты том са Збору твораў, які склалі «літаратурныя містыфікацыі» —ранейшыя і пазнейшыя сатырычна-гумарыстычныя паэмы, з добра вядомымі ўжо «Сказам пра Лысую гару» і «Ачмурэннем». Рыхтуючы гэты том да выдання, Ніл Гілевіч уключыў туды частку артыкулаў з часопіса «Крыніца». У тым ліку і мой. Праўда, не поўнасцю, а ў скарочаным варыянце.

Пішучы аўтограф, Ніл Сымонавіч зноў не прамінуў нагадаць мне пра мой ранейшы досвед наконт яго паэмы: «Дарагому Мікалаю Мікалаевічу Чарняўскаму, які ў змешчаным тут артыкуле засведчыў боскі дар пачуцця мовы і стылю (а "стыль —гэта чалавек") і ўпэўнена назваў імя аўтара "Сказа…" Радуюся за Вас, бо было і ёсць дагэтуль зашмат "глухіх". Са шчырай сяброўскай павагай, Ніл Гілевіч. 2010, красавік».

Гэта была апошняя сустрэча з жывым класікам нашай роднай літаратуры. А падумаўшы —не! Самая апошняя адбылася зноў жа ў гэткі ж вясновы месяц, але ўжо 1 красавіка 2016 года, калі ўся Беларусь развіталася з ім, і пасля адпявання народнага паэта ў храме святых Пятра і Паўла на вуліцы Нямізе правяла яго на вечны спачын у цішыню і засень Кальварыйскіх могілак, да яго незабыўнай спадарожніцы жыцця Ніны Іванаўны.

Што ж датычыцца значнасці і адметнасці паэмы «Сказ пра Лысую гару», створаную вялікім талентам паэта Ніла Гілевіча, то можна пагадзіцца з высновай яшчэ аднаго слыннага паэта Васіля Зуёнка: «"Сказ пра Лысую гару" застанецца вясёлым і сур'ёзным мастацкім дакументам свайго часу».

### Айцец Аляксандр Богдан

## «Сведкі Іеговы». Як да іх ставіцца?

Каб ведаць, як ставіцца да «Сведкаў Іеговы», прапаную спачатку разабрацца, хто яны такія.

Звычайна прадстаўнікі гэтай арганізацыі ходзяць па вуліцах ці хатах і настойліва прапануюць вывучаць Біблію. Насамрэч яны імкнуцца навязаць сваё разуменне Бібліі, а не падштурхнуць да яе вывучэння. Вось калі б я, напрыклад, у сваім нататніку пакінуў такі запіс: «1001»? Амаль кожны, хто потым возьме ў рукі мой нататнік, убачыўшы гэтыя лічбы, вырашыць, што напісана «тысяча адзін». І толькі адзінкі, на ўсялякі выпадак, магчыма, дапусцяць думку, што я мог выкарыстоўваць не дзесяцічную сістэму лічбаў, якой карыстаюцца ўсе, а бінарную, якой карыстаюцца праграмісты. На самай справе ў сваім нататніку я запісаў лічбу 9 — у бінарнай сістэме. Якой сістэмай лічбаў я карыстаўся, ведае мой сын, унук, праўнук і г. д. Усе мае нашчадкі ведаюць гэтую асаблівасць і чытаюць правільна. А цяпер уявіце, што мой нататнік трапіў у рукі чужога чалавека, які нават мо і не ведае, што існуе бінарная сістэма…

Мяркую, вы здагадваецеся, што з гэтага можа атрымацца.

Так і з Бібліяй (Свяшчэнным Пісаннем). Для правільнага разумення трэба браць у разлік тое, што заўсёды існавала Свяшчэннае Паданне, якое ўключае ў сябе Свяшчэннае Пісанне. То бок, Свяшчэннае Паданне і Свяшчэннае Пісанне не аўтаномныя адно ад аднаго, а Пісанне знаходзіцца ўнутры Падання. За сваю двухтысячагадовую гісторыю царква назбірала шмат розных пісьмовых работ, вусных традыцый, абрадаў і іншага. Свяшчэннае Паданне — гэта тое, што праверана часам.

«Сведкі Іеговы» ў дачыненні да Свяшчэннага Падання паводзяць сябе так, як усе сектанты: проста цалкам яго адпрэчваюць, папярэдне дастаўшы з яго Біблію. Аднойчы я размаўляў з адной «Сведкай Іеговы». Яна мне сказала:

— Я прызнаю толькі Біблію і ніякія дапіскі.

— А што вы разумееце пад дапіскамі? — спытаў я.

— Усё, напісанае пасля Бібліі.



Тут я выняў з сумкі іх часопіс «Вартавая вежа», паказаў ёй і сказаў:

— Атрымліваецца, што гэта «дапіскі».

Адказваць ёй не было чаго. Не чакала яна, што часопіс, які яны актыўна ледзь не кожнаму ў рукі ўсоўваюць, акажацца проста «дапіскай».

Дык вось што атрымліваецца. «Сведкі Іеговы», як і розныя сектанты, адрынуўшы царкоўнае Свяшчэннае Паданне, ствараюць сваё ілжэпаданне («дапіскі»). Калі зайсці ў любую бібліятэку, што належыць сектантам ці «Сведкам Іеговы», можна ўбачыць там шмат рознай літаратуры, а не толькі адны Бібліі. Абапіраючыся на ўласныя «дапіскі», «Сведкі Іеговы» разумеюць біблейскія тэксты вельмі своеасабліва.

Адкуль бярэцца назва «Сведкі Іеговы»? Адэпты гэтай арганізацыі вельмі любяць ледзь не хваліцца, быццам яны ведаюць імя Бога.

Мы, хрысціяне, разумеем, што ў Бога, у якога мы верым, няма імя ўласнага, а ёсць толькі імёны агульныя, што могуць указваць на нейкія пэўныя боскія ўласцівасці. Як казаў свяціцель Грыгорый Багаслоў, «Бог знаходзіцца па той бок ад любога імя».

А слова «Іегова» ўзята з Бібліі. У кнізе «Исход» у трэцяй главе апісваецца, як Бог з'явіўся Маісею ў выглядзе незгаральнага куста. Гасподзь загадаў Маісею ісці ў Егіпет і вывесці адтуль з рабства яўрэяў. Маісей спытаў, што адказаць суайчыннікам, калі ў яго спытаюць імя Бога. Далей працытую біблейскі тэкст: «Бог сказаў Маісею…» (Исх. 3, 14). Я наўмысна стаўлю шматкроп'е, бо не ведаю, што Бог сказаў прароку: я не прысутнічаў пры гэтым і таму не чуў. У тэксце Бібліі на гэтым месцы — не шматкроп'е і не прабел. Толькі нагадваю: свяшчэннае Пісанне стваралася вельмі даўно і на старажытнаяўрэйскай мове. Пры пісьме ў той час выкарыстоўваліся толькі зычныя.

У тым месцы, дзе Бог называе сваё імя, у тэксце арыгінала стаяць чатыры яўрэйскія зычныя. Прывяду іх аналагі з лацінскага алфавіта: YHWH. Прачытаць гэтыя чатыры літары (тэтраграматон) можна двума спосабамі: 1) Іегова; 2) Яхве.

Напрыклад, у рускай мове ёсць слова КОЗЕЛ. Яго можна прачытаць як назву жывёлы, а можна, як прозвішча. У пашпарце не ставіцца націск і кропкі над Ё. Уявіце сабе замежніка, які ўмее чытаць па-руску, але не зусім знаёмы з рускай культурай. І вось ён, напрыклад, на мытні звяртаецца да ўладальніка пашпарта: «Спадар Казёл». Мы ж без націскаў і кропак, калі ведаем, што гэта прозвішча, то прачытаем: «Ко́зел». Як правільна чытаць яўрэйскі тэтраграматон, ведалі яўрэі і перадавалі гэта веданне ад продкаў нашчадкам, аднак традыцыя была страчана. У рускім сінадальным перакладзе замест гэтых чатырох літар мы чытаем: «Я ёсць Сутнасць» (Исх. 3, 14). Гэтым выразам Бог не назваў сваё ўласнае імя, а ўказаў на адну са сваіх уласцівасцей — Ён ёсць сама Сутнасць.

«Сведкі Іеговы» не з'яўляюцца хрысціянамі, хоць яны не хочуць з гэтым пагадзіцца. Хрысціяне — тыя, хто верыць, што Бог не проста адзін, а Ён адзін ёсць Тройца. Усе ведаюць імёны асоб Святой Тройцы: Бог Айцец, Бог Сын і Бог Дух Святы. Мы не ў трох багоў верым, а ў Адзінага Бога, у якога тры Асобы. Тут як з трохвугольнікам — тры вуглы, а фігура адна.

Другая асоба Святой Тройцы, Бог Сын, увасобіўся, учалавечыўся, не перастаючы быць Богам, і гэта Ісус Хрыстос. Хрысціяне — тыя, хто верыць, што Ісус Хрыстос — Бог. Адмаўляць боскасць Ісуса Хрыста — гэта ўсё роўна, што сцерці ў трохвугольніку адзін вугал. Тады атрымаецца зусім іншая геаметрычная фігура. «Сведкі Іеговы» не вераць, што Ісус Хрыстос Бог і не прызнаюць, што Бог ёсць Тройца. Сваё нявер'е тлумачаць тым, што слова «Тройца» нідзе ў Бібліі не сустракаецца.

Слова «Тройца» — не біблейскага паходжання. Яго першы раз ужыў Феафіл Антыахійскі ў II стагоддзі. Аднак вера ў траічнага Бога існавала ад самага пачатку. Зараз я жыву ў краіне з назвай Рэспубліка Беларусь, але якія толькі назвы не мела мая дзяржава: і БНР, і БССР, і Беларусь, а раней мы былі і ў ВКЛ, і ў Рэчы Паспалітай, і ў Расійскай Імперыі. «Сведкі Іеговы» часта заяўляюць, што калі б гэта было важна (слова «Тройца»), гэта абавязкова было б ужыта ў Бібліі. Тут ім можна адказаць наступнае. У Бібліі нідзе няма слова «прэзідэнт», а заснавальнік «Сведкаў Іеговы» называўся менавіта прэзідэнтам таварыства «Вартавая вежа». У «Сведкаў Іеговы» ў размове выкарыстоўваецца слова «піянеры», якога таксама няма ў Бібліі. Піянерамі ў іх называюцца якраз тыя, хто ходзіць па хатах і вуліцах. Пасля сваіх паходаў яны павінны пісаць справаздачы, пра што ў Бібліі таксама нічога не сказана. Яшчэ згадалася слова «кангрэсы» з іх лексікону, якое таксама не біблейскага паходжання.

Чаму ж яны так шмат ходзяць па хатах і вуліцах? Самі адэпты думаюць, што паўтараюць за апосталамі, якія разышліся па свеце з пропаведзямі. Толькі чамусьці не задумваюцца «Сведкі Іеговы», што і як прапаведавалі апосталы. У пасланнях апостала Паўла чытаем: «Мы прапаведуем Хрыста распятага — іудзеям спакуса, элінам вар'яцтва» (1 Кор. 1, 22). Вучні Хрыста не заходзілі ў кожную хату з Бібліяй і не тыцкалі пальцам у пэўную цытату. Пропаведзь апосталаў уяўляла сабой перадачу жывога вопыту веры ў Хрыста як Бога, які за нас пацярпеў,

памёр і ўваскрос. Толькі потым, праз нейкі час, апосталы пачалі пісаць Евангеллі і іншыя кнігі Новага Запавету.

Цяпер вельмі цяжка назваць год, калі было напісана першае Евангелле. Сярод вучоных, зацікаўленых гэтым пытаннем, існуюць розныя меркаванні, але ўсе даследчыкі сыходзяцца ў тым, што першыя кнігі Новага Запавету былі напісаны не адразу пасля ўзнясення Хрыста ў Нябёсы. Быў нейкі прамежак часу, калі пісьмовыя Евангеллі не існавалі зусім. Нельга не ўлічваць і тое, што ў апостальскія часы не было друкарскага варштата. Першыя Евангеллі не выдаваліся мільённымі накладамі, а перапісваліся ад рукі. Многія хрысціянскія абшчыны марылі мець у сябе хаця б адзін экзэмпляр Свяшчэннага Пісання. У той час ніхто не мог уявіць, што можна хадзіць па вуліцы з Бібліяй у руцэ. Атрымліваецца, што хрысціянства пачало распаўсюджвацца раней, чым Біблія. Хоць Свяшчэннае Пісанне мелі не ўсе хрысціяне, але жыла вера ў Хрыста як у Бога, існавала Паданне, унутры якога зарадзілася Свяшчэннае Пісанне. Заснавальнік хрысціянства Ісус Хрыстос не пакінуў нам ніякіх кніг. Свяшчэннае Пісанне Новага Запавету пісалі вучні Хрыста, але апосталы не вучылі, што трэба ўсё абвергнуць і пакінуць толькі пісьмовыя работы. Ісус Хрыстос заснаваў нам царкву як захавальніцу ісціны і Падання. Менавіта дзякуючы царкоўнаму Паданню мы маем магчымасць правільна разумець сэнс Свяшчэннага Пісання. Калі ж гэта ўсё не ўлічваць, то можна стаць не толькі завербаваным «Сведкам Іеговы», але і нейкую сваю секту стварыць, што некаторыя і робяць.

Дык як жа ставіцца да «Сведкаў Іеговы»? Іх можна пашкадаваць і трэба за іх памаліцца. Яны ж вельмі шчыра вераць у свае памылкі. Затое ў іх можна павучыцца стараннасці ў вывучэнні Свяшчэннага Пісання. Толькі мы, праяўляючы мо яшчэ больш стараннасці ў вывучэнні Бібліі, павінны карыстацца правільнымі падручнікамі ў гэтай справе. ■

Вітаю, мая дарагая сяброўка, мая другіня!

Даруй, галубка, што даўно табе не пісала. Але пісаць пра штодзённую руціну — толькі час марнаваць. А каб напісаць пра тое, што сапраўды хвалюе, трэба самой спачатку неяк у гэтым разабрацца.

Я старалася зразумець, чаму бяда заўсёды застае нас знянацку. Няўжо лёс такі вераломны? Напэўна, гэта не так. Хіба Бог не пасылае нам падказкі і перасцярогі? Чаму мы іх не заўважаем? Чаму прапускаем сігналы і знакі, якія дае нам жыццё? Чаму асобныя пазлы падзей занадта позна складваюцца ў нашай свядомасці ў агульную карціну?

Нядаўна я была ў Жыровічах. Стаяла ў чарзе на споведзь, і пачуццё безвыходнасці перапаўняла мяне. Я дакарала сябе за ўсё. Гэта я недагледзела, не папярэдзіла, не заўважыла, не пачула, не зразумела, недзе не настаяла, нечага галоўнага не данесла. Госпадзі, даруй мне! Мінулае не вярнуць, нічога не паправіць. Але як цяпер з гэтым жыць? Госпадзі, падкажы!

Абрыўкі думак круціліся ў галаве, абганяючы, выпіхваючы адна адну, вылятаючы і вяртаючыся.

Падышла мая чарга, і ўсё, што назбіралася, набалела, навярэдзіла душу, я расказала на споведзі. Выплюхнула бязладна, слёзна і замаўчала.

— Асуджалі? — ціха спытаў малады іерэй.

— Што? — я не адразу зразумела, пра што ён. Я ж не пра гэта гаварыла, не пра гэта перажывала.

— Вы каго-небудзь у жыцці сваім асуджалі? — перапытаў бацюшка.

— Так, канечне, было, — разгублена адказала я. У галаве стала ціха і пуста. Быццам лопнуў надзьмуты шарык.

— А вы ведаеце, што той, хто асуджае, на Судзе сам будзе асуджаны?

— Так, ведаю.

— Каецеся?

— Так, — я аблегчана схіліла галаву пад епітрахіль...

Ранкам мы былі на літургіі ў жаночым скіце ў Русакове. Я стаяла ля дзвярэй, але ў нейкі момант мяне, як магнітам, пацягнула да абразоў, быццам нехта ўзяў за каўнер, падвёў і носам тыцнуў: «Глядзі!»

«Прападобная Анастасія Кіеўская», — прачытала я. «Анастасія — уваскрэсенне», — мільгнула ў галаве. Ігуменця з абраза трымала ў адной руцэ макет храма, у другой — сувой, на якім было напісана: «Смутак ёсць запаветная міласць Божая». Запаветная — таемная, скрытая ад чалавечага разумення міласць. Слава Табе, Госпадзі!

Калі дома я прачытала жыцие гэтай падзвіжніцы, мне зрабілася сорамна за сваю слабасць і расхлябанасць. Людзі такія цяжкасці і смуткі пераадольвалі, што нам і не снілася! І ўсё вынеслі з Божай дапамогай. Госпадзі, дзякую Табе за павучанне!

А тады пасля літургіі я падышла павітацца з матушкай.

— Чаму даўно не прыязджалі? Як справы? — схіманахіня паглядзела ў вочы.

— Кепска, — чэсна сказала я. — Але ўсе жывыя, дзякуй Богу за ўсё!

— Ты на сябе ўсё не бяры.

Матушка, ні пра што не пытаючы, адказала на маё пытанне. Я замерла, а яна працягвала:

— Ты сама ратуйся. Сама выратуешся, тады і бліжніх свіх выратуеш. Як прападобны Серафім гаварыў?

— Сцяжай дух мірны, і тысячы вакол цябе выратуюцца, — завучана прагаварыла я.

— Сама ратуйся! — строга паўтарыла матушка і пайшла, абапіраючыся на кій.

«А як ратавацца? — думала я. — Хто падкажа?»

Уяўляеш, да чаго дайшла? Быццам у манастыры мне інструкцыю па выратаванні ці дарожную карту на нябёсы павінны былі ўручыць!

У маршрутцы, вяртаючыся дадому, я ўспомніла пражытыя ў скіце некалькі дзён: малітоўныя правілы, службы, паслушэнствы. І тут да мяне нарэшце дайшло, што адказ на пытанне пра тое, як ратавацца, быў дадзены яшчэ ў Жыровічах на споведзі. Першае слова, якое прамовіў бацюшка, выслухаўшы мяне, было: «Асуджала?» Ён спытаў яшчэ: «Каешся?» Калі каешся, то больш не асуджай! Пачні з гэтага справу свайго выратавання. Гасподзь сказаў у Нагорнай пропаведзі: «Не судзіце, і не будзеце судзімыя».

Тады я зразумела, у чым корань нашых бед. Чаму мы слухаем і не чуем, глядзім і не бачым. Бо не хочам бачыць і чуць. Нам утульна, спакойна і камфортна, калі мы не чуем Бога. Таму мы заклікаем: «Госпадзі, паслухай мяне!» І гаворым, гаворым, і чуем толькі свой голас. Мы эгаісты, сябелюбцы. Калі б мы паводле евангельскай запаведзі любілі Бога і бліжняга, мы б прасілі: «Госпадзі, гавары! Я цябе слухаю!».

І пачуўшы, імкнуліся б выканаць тое, што Гасподзь нам сказаў.

А для сябе я вырашыла, што пачну з першага задання, якое Гасподзь перадаў мне праз святара, і цяпер сачу за сваімі думкамі і словамі: стараюся не асуджаць і нават не абмяркоўваць, не крытыкаваць, не параўноўваць, не ацэньваць, а больш маўчаць.

І ведаеш, мая дарагая, наколькі лягчэй жыць мне стала!

Нездарма прападобны старац Амвросій Опцінскі гаварыў: «Ведай сябе і хопіць з цябе». Дай Бог і нам пазнаць сябе!

Памаліся за мяне, верная мая другіня! Мір дому твайму! Беражы цябе Бог!

*Старац Паісій Святагорац гаварыў: «Добрыя намеры трэба ўзрошчваць. Трэба сачыць за сабой, кантраляваць сябе, калі вораг прыносіць табе кепскія, злыя намеры, трэба старацца праганяць іх і замяняць іх на добрыя. Дзейнічаючы такім чынам, ты ўзрошчваеш сваю ўнутраную прыхільнасць і робіш яго добрым...*

*Неабходныя час і бесперапынная барацьба для таго, каб душа ўвянчалася пераможным вянцом... Чалавек і сам не павінен мысліць хітра. Трэба заўсёды імкнуцца ўключаць у працу добры намер, не спакушацца з лёгкасцю чужымі недахопамі, але глядзець на праступкі іншых з ласкай і любоўю. Калі добрыя намеры множацца, душа чалавека ачышчаецца, ён паводзіць сябе з пашанай і прымірэннем. Жыццё такога чалавека становіцца Раем. У процілеглым выпадку чалавек на ўсё глядзіць з падазрэннем, і жыццё яго ператвараецца ў пякельную муку. Ён сам робіць сваё жыццё пеклам».*

**Марыя Страх**

# На Шабат у Гародню

Субота. А дзясятай раніцы. Нягледзячы на выходны, вуліцы поўняцца людзьмі. Групы ўзбударажаных турыстаў так і сутыкаюцца з не менш узбударажанымі мясцовымі. Усе спяшаюцца. Адны — хутчэй скончыць справы і нарэшце атрымаць адпачынак. Другім так не церпіцца пазнаёміцца з абяцанымі дзівосамі старога горада.

Але хутка з'яўляюцца тыя, чый заміраны выгляд кажа сам за сябе: не трэба навізны, не трэба спраў. Толькі сёння, менавіта сёння. Тут, у самым цэнтры Гародні, сярод старажытнай велічы і сучаснай мітусні, існуе зусім іншае жыццё.

— Шабат шалом, дарагі!

— Шабат шалом умеварах!

І блаславёная Субота прыходзіць. Прыходзіць ціха, амаль непрыкметна. Па-сяброўску ўсміхаецца незнаёмым, горача паціскае руку сябрам і, акуратна паправіўшы белую кашулю, уваходзіць у дом Бога.

## Задумы Гучы і агню

Першую сінагогу ў Гародні пабудавалі яшчэ ў XIV стагоддзі, адразу пасля прыходу яўрэяў на землі ВКЛ. Але да гродзенскіх іудзеяў прыйшла страшная бяда: пажар знішчыў драўляную бажніцу. Як вядома, глыбокае няшчасце гараджан хутка змянілася нечаканай радасцю. Знакаміты і вельмі ўплывовы рабін XVI стагоддзя Мардэхай Яфэ задумаў амаль немагчымае: на папялішчы мусіла з'явіцца каменная сінагога. Для таго часу цяжкасць вялікая. Але жаданне вярнуць страчанае было яшчэ большым. І праца пачалася.

Для ажыццяўлення ўзнёслай ідэі Яфэ запрасіў італьянскага архітэктара і скульптара Санці Гучы. Заходняя слава майстра не падманула. Гучы стварыў тое, чаго вочы гродзенцаў яшчэ ніколі не бачылі. Вялікую харальную залу — самае сэрца сінагогі — ад падлогі да столі майстра зрабіў беласнежнай. Яўрэйская традыцыя забараняе рабіць выявы Бога: «Як можна маляваць Усявышняга, калі Яго ніхто ніколі не бачыў?» Але скульптар не пакінуў людзей без прыгажосці. На святых сценах з'явілася адмысловая лепка, дзе ў кожным вобразе схаваны глыбокі сэнс. Напрыклад, лісце і лаза вінаграду — сімвал жывучасці яўрэйскага народа. Па-прарочы атрымалася, ці не так? Цікавая гісторыя звязана і з пладамі граната. Калісьці іудзейскія мудрацы падлічылі, што гранат змяшчае шэсцьсот трынаццаць зярнят — такая ж колькасць іудзейскіх запаветаў. Вернікі і сёння ўдзячныя Гучы за такі ўважлівы падыход да справы. Аднак сваю самую прыгожую алегорыю майстра аддаў Біме — месцу для зачытвання свяшчэннай Торы. Ад цэнтральнага ўзвышша сыходзяць чатыры гіганцкія слупы, якія, здаецца, трымаюць на сабе ўвесь будынак. Так, безумоўна, такая канструкцыя мае практычную вартасць. Але галоўнае значэнне ўсё ж у іншым. Падчас працы над сінагогай Гучы ўбачыў яўрэйскае вяселле. Мастака ўразіў велічны шацёр, які распасціраўся над маладымі і трымаўся якраз-такі на чатырох слупах. Таму, калі ўважліва паглядзець, можна ўбачыць падабенства Бімы і шлюбнага шатра — сімвала вечнага адзінства Бога і чалавека.

Так прайшло пяць гадоў руплівай працы. Час надышоў. Гародня ўбачыла ўсю вытанчанасць позняга барока. Сённяшні аматар мастацтва абурыцца: фасады будынка не маюць нічога агульнага з барочным стылем. І гэта праўда. Пажары яшчэ двойчы нападалі на гродзенскую святыню. У сінагозе сумна ўсміхаюцца: «Традыцыя такая». На шчасце, з цягам часу рэлігійная суполка расла. Было каму аднавіць шматпакутныя сцэны, няхай ужо і ў мадэрнісцкім стылі.

Яўрэі яшчэ проста не ведалі, што самае страшнае чакае іх наперадзе.

## «Judenrein»

Як пісалася вышэй, час моцна павялічваў суполку. На пачатку XX стагоддзя колькасць гродзенскіх яўрэяў набліжалася да трыццаці тысяч — гэта прыкладана палова насельніцтва горада. Здавалася, дабрабыт ніколі не пакіне дружныя яўрэйскія кварталы. Але накавана было іншае. Чэрвень 1941-га у момант перавярнуў жыццё Гародні. Нечаканасць захопу збянтэжыла людзей. Горад быў акупіраваны на другі дзень вайны.



Пачаліся ганенні. Сінагога, дзе калісьці панаваў спакой малітвы і шум свят, пераўтварылася ў суровы накапляльнік яўрэйскага гора. Менавіта сюды перад выездам на знішчэнне зганяліся іудзеі з усёй гродзенскай акругі. Беласнежныя скляпенні — апошняе, што бачылі зняволеныя на Радзіме.

Фашысты з нечалавечай хуткасцю дасягалі нечалавечых мэт. Ужо ў сакавіку 1943-га Гародня была адзначана як «judenrein» — «свабодная ад яўрэяў». Амаль трыццацітысячная сям'я назаўсёды знікла за кратамі Трэблінкі і Асвенцыма.

## Каталіцкая міласэрнасць

Вайна — бязлітасны аўтар. Не злічыць напісаных ёю трагедый і статыстык. Аднак нават у самай страшнай гісторыі знойдзецца радок для дабрыні.

Аднойчы Курт Візэ — камендант гродзенскага гета — пачуў, што хтосьці са зняволеных хавае ў сябе дарагі дыван. Жадаючы авалодаць рэччу, Візэ паставіў умову: калі праз два дні дывана ў яго не будзе, пятнаццаць самых паважаных іудзеяў будуць забіты. Параіўшыся, яўрэі выявілі, што такая каштоўнасць ёсць толькі ў каталіцкага святара. Тады вернікі сабралі ўсе грошы, якія толькі ў іх былі, і пайшлі ў касцёл прасіць аб дапамозе.

Ксёндз з вялікім шкадаваннем выслухаў яўрэяў. Ён безагаворачна аддаў дыван, не ўзяўшы з іудзеяў ні капейкі. Пятнаццаць чалавек засталіся жыць. Вядома, усе зняволеныя хутка загінулі ў лагерах. Але ўдзячнасць за высакародны ўчынак жыве ў народзе і сёння.

## Яны верацъ

Субота. А шаснаццатай. Тут, у самым цэнтры Гародні, сярод старажытнай велічы і сучаснай мітусні, існуе зусім іншае жыццё. Калісьці яно было пераможана смерцю. Перамога была гучная, урачыстая — амаль вечная. Тады не чакалі бясконцага кахання — чакалі пахавання. Дзеці закатаваных бацькоў не гулялі — яны ўцякалі ад катаў. Старыя не баяліся паміраць — і так даўно не жылі. Сёння інакш: сталыя расказваюць улюбёную гісторыю пра вяселле гродзенца ў Ізраілі, а з чародкай маленькіх веселуноў, як бы ні адмаўляўся, напэўна, прыйдзецца прабегчы навыперадкі.

Гісторык і старшыня гродзенскай іудзейскай суполкі Барыс Максавіч Квяткоўскі расказаў, як адбываўся пераход ад смерці да жыцця:

Вайна знішчыла суполку. Ва ўсім свеце засталіся толькі 180 гродзенскіх яўрэяў — тыя адзінкі, што былі выратаваны Праведнікамі свету. Пасля перамогі савецкай уладзе спатрэбіліся новыя кадры. Шмат было прыслана з усходніх частак краіны. Сярод іх таксама былі яўрэі. Нас назбіраліся дзве тысячы. Як казала мама, гэта былі зусім іншыя яўрэі. Усіх носьбітаў традыцый і мовы забілі. І мы, каб дакрануцца да згубленай гісторыі, стварылі Аб'яднанне культуры. Спачатку было добра. Мы арандавалі класы



ўніверсітэта, палацаў культуры, ладзілі сустрэчы і нават праводзілі тэлефонныя масты з Ізраілем. Але потым захацелі свой цэнтр. І мы вырашылі вярнуць будынак сінагогі, у якім знаходзіліся мастацкія майстэрні. Згодна з законам, каб атрымаць жаданае, мы павінны былі мець рэлігійную суполку. А хто ў савецкі час прызнае сваю рэлігійнасць? Для стварэння суполкі неабходныя былі дзесяць чалавек. Назбіралася сорак.

— Вы верыце?

— Мы верым!

Нарэшце ў 1991-м мы атрымалі сінагогу. Тое, што мы там убачылі, я называю чамаданам без ручкі. Страшна было глядзець. Увесь дах прабіты снарадамі. Можа, восем машын бітай цэглы, асколкаў, гліны вывезлі. Будынак моцна працякаў — пяцьдзясят гадоў не ацяпляўся. Рабіна было не знайсці — запрасілі з-за мяжы. Павольна, але пачалі аднаўляць.

Потым мяне абралі старшынёй. Часам амаль плакаў ад крыўды, злосці і безвыходнасці становішча. Як мог, ствараў аўтарытэт суполкі. Суполка дала свету шмат. Стваральнік інтэрнэту — з Гародні. Два ізраільскія прэзідэнты — таксама з Гародні. А пра нашу культуру, асаблівасці, назапашаную мудрасць і зробленыя глупствы амаль ніхто не ведае. З гэтым жа трэба знаёміцца. Чым больш чалавек ведае пра іншыя народы, тым больш ён пражывае. І таму я прысвяціў сябе гэтаму. Мая любімая праца — з людзьмі, напрыклад, экскурсіі. Адначасова, хоць шмат не ведаю і пакутую, стараюся аднаўляць сінагогу. Кожная кропля — у далоні. Як бы там ні было, мы шэсцьсот гадоў разам. А яшчэ гэта помнік Халакосту. Гэта павінна жыць.

Будзе, абавязкова будзе жыць. І прычына — не ў моцы народаў, не ў працягласці тэрыторый і нават не ў правільнасці веравучэнняў. А ў тым, што кожны на зямлі мае права прапаведаваць тое, у што верыць, і верыць у тое, што прапаведуе.

*Фота Уладзіміра Цвіркі.*



**«Нашы Руіны»**
**Аўтарскі праект Уладзіміра Цвіркі**

Віцебская вобласць, Аршанскі раён, вёска Смаляны.
Касцёл Дзевы Марыі, 1752 год.

У кожным нумары часопісаў «Маладосць» і «Бярозка». Поўны камплект выяў будзе мець той, хто чытае абодва выданні.

МІНСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ЛІНГВІСТЫЧНЫ ЎНІВЕРСІТЭТ



УА «Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт» УНП 100028902

# МДЛУ — НАДЗЕЙНЫ СТАРТ, БЛІСКУЧАЯ КАР'ЕРА!

+375 17 294 76 63 info@mslu.by www.mslu.by